*

*11.05.2015.* Мастак Дзмітрый Сарока падарыў мне свой каталог карцін. Мы з ім землякі. Ён нарадзіўся ў вёсцы Крапіўнікі, што ў паўкіламетра (праз рачулку Яршоўку) ад Лягез, дзе я гадаваўся да школы ў бабулі Ганны. Мастацтвазнаўца Таццяна Лявонцьева ва ўступным слове да выдання піша: «Сароку адначасова можна назваць і рэалістам, і імпрэсіяністам. Яго пейзажам уласцівыя светлы настрой, паэтычнасць і адмысловы рамантызм мастакоў старой школы, штосьці непераходзячае і вечна запатрабаванае, што будзе цікава людзям у розныя эпохі і часы. І яшчэ адно трэба падкрэсліць, самае галоўнае, на мой погляд, ва ўсіх яго працах — глыбокая нацыянальная прыналежнасць да роднай зямлі, да роднай Беларусі». 9 траўня Дзмітрый, наведваючы магілкі родных, заехаўся ў Крапіўнікі. Якраз дома была мая стрыечная сястра Аня. Пазнаёміўся. Паўспаміналі з ёй тыя Крапіўнікі, калі ў вёсцы было шматлюдна, і Яршоўка светла цякла і цякла за небакрай, куды заходзіць сонца…

*

*11.05.2015.* Нядаўна выйшла ў свет кніга Алеся Адамовіча «Война под крышами». Рыхтуем да друку «Сыновья уходят в бой». Наталля Аляксандраўна сёння прынесла фотаздымкі і шэсць тэкстаў песень Уладзіміра Высоцкага, што былі спецыяльна створаны да фільмаў па раманах. Я напісаў пісьмо сыну Высоцкага Мікіту з просьбай, каб ён дазволіў надрукаваць тэксты песень…

*

*12.05.2015.* Холадна. Пасля дажджу лістота на дрэве, як зялёны лёд…

*

*13.05.2015.* У бібліятэцы Акадэміі навук удзельнічаў у прэзентацыі Збору твораў Івана Шамякіна ў 23-х тамах. Здавалася б, пра што тут гаварыць, калі ўжо справа зроблена. Ды не! Прагаварылі амаль тры гадзіны. Найбольш запомніўся Міхась Мушынскі, які ў сваім выступленні закрануў праблему тэкстолагаў, якіх не хапае. Малыя заробкі, таму моладзь, якая прыходзіць пасля ўніверсітэта, адпрацаваўшы прымусовы тэрмін, уцякае. Было б шмат тэкстолагаў, дык сёння можна было б пачаць працу над зборам твораў Янкі Брыля, Аркадзя Куляшова і іншых класікаў беларускай літаратуры. А так маем тое, што маем…

*

*13.05.2015.* На праспекце Незалежнасці сустрэў мастака Валерыя Шкарубу. Потым разам ехалі ў аўтобусе. Гаварылі пра мастакоўскае і літаратарскае жыццё-быццё. На маё пытанне: «Хто цяпер купляе карціны?» — мастак адказаў: «Кітайцы!» Ад Валерыя даведаўся, што ўчора ў Віцебску патануў, пераплываючы Дзвіну, сын народнага мастака Беларусі Аляксандра Кішчанкі мастак-манументаліст Саша Кішчанка. Не даплыў метраў дзесяць да берага. Ён любіў плаваць…

*

*14.05.2015.* У бібліятэцы імя Янкі Купалы прэзентаваў кнігу «Заўтра была адліга». Вяла імпрэзу маладая супрацоўніца Музея гісторыі беларускай літаратуры. Дзякуючы абвестцы ў фэйсбуку сабралася даволі шмат людзей. Чалавек семдзесят. Па плане адразу пасля невялікай музычнай часткі павінна была Людміла Рублеўская са мной гаварыць пра мае творы. А тут і музыка

адыграла, і супрацоўнікі музея і бібліятэкі па пару слоў сказалі, а Людмілы няма. Спазнілася на хвілін дваццаць. З-за працоўнага тлуму ёй чамусьці падалося, што трэба ехаць у Музей Янкі Купалы, і яна туды паехала. Павінна было з'явіцца яшчэ чалавек дваццаць студэнтаў, але яны вырашылі, што прэзентацыя будзе адбывацца ў Нацыянальнай бібліятэцы. Праз гэтыя недарэчнасці ўзгадалася даўняя прэзентацыя кнігі Алеся Пісьмянкова «Мы з братам» у кнігарні «Светач». Вёў імпрэзу Навум Гальпяровіч. Гаварыў цэлую гадзіну без Алеся, бо ён не прыехаў. Часта называў кнігу «Мы з братам». Адзін дапытлівы слухач пацікавіўся: «А дзе ж брат?» — «Хутка прыедзе!» — адказаў Навум. Пісьмянкоў жа з'явіўся толькі тады, калі людзі пачалі разыходзіцца. І той дапытлівы слухач з усмешкай заўважыў: «Вось і брат прыехаў!» Алесь спазніўся, бо якраз у гэты дзень гадзіннікі былі пераведзены на гадзіну наперад. Алесь не перавёў…

Калі закончылася прэзентацыя маёй «адлігі», да мяне падышоў Аляксей Шэін і падарыў мне і Людміле сваю кнігу «Сем камянёў», а мы яму падарылі свае выданні...

*

*15.05.2015.* На праспекце Пераможцаў сустрэў знаёмага Васіля, які працуе ў тэатры-студыі кінаакцёра. На маё пытанне: «Як справы?» — ён адказаў: «Калі мне вельмі дрэнна, то я ў бальніцы. Калі мне вельмі добра, то я ў мянтоўцы…»

*

*15.05.2015.* Прыходзіў Вітаўт Чаропка. Прынёс рукапіс кнігі выбраных твораў «Храм без Бога». Падарыў мне сваю карціну. Без рамкі. «Набудзеш сам! Якую захочаш!» — сказаў Вітаўт. Разабраўшыся з рукапісам, прайшліся па горадзе да вуліцы Танкавай, дзе ў адной з крам прадаюцца фарбы. У Вітаўта шмат задум і фарбы ў яго хутка змалёўваюцца. Ідучы, скардзіліся адзін аднаму, што амаль загінула школа рэдагавання твораў і што цяпер няма дзе пісьменнікам пасядзець, каб выпіць кавы ці чаго мацнейшага…

*

*16.05.2015.* Холадна. Квецень, як снег…

*

*16.05.2015.* З Людмілай выйшлі з дому ў гадзіну і вярнуліся задаволеныя жыццём у дзевяць…

Напачатку былі ў Школе маладога літаратара. Таленавітая моладзь расце. Праўда, хлопцаў малавата…

Сёння «Ноч музеяў». Пачалі вандроўку з Музея Петруся Броўкі. Я ў ім быў упершыню. Ганна Севярынец вяла імпрэзу. Вядомыя пісьменнікі чыталі любімыя вершы любімых паэтаў. На століку ляжаў важкі том Тараса Шаўчэнкі, які (мая фантазія) выконваў ролю стрэльбы, што павінна была ў канцы імпрэзы выстраліць (стаць падарункам аднаму з выступоўцаў). І я «стрэлу» баяўся, бо ў Людмілы з сабой ужо была цяжкая торба. Шаўчэнка трапіў (супрацоўніца музея выцягнула са шкатулкі прозвішча) у Альгерда Бахарэвіча. Думаю, гэта знак — ён і будзе чарговым пераможцам літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца…

У кнігарні сустрэлі Алега Дзьячкова, які прывёз з Магілёва лекараў у тэатр Янкі Купалы на прагляд спектакля, да якога была яшчэ цэлая гадзіна.

Алег пайшоў разам з намі да Музея Янкі Купалы. Дарогай Людміла і Алег размаўлялі пра розныя гістарычныя мясціны ў Мінску. Я моўчкі слухаў. У Купалаўскім музеі «ноч» павінна была пачацца ў сем гадзін, таму мы пайшлі ў Музей Максіма Багдановіча. Там трапілі на выступы этнакалектываў. Пад столлю музея, нібы застылыя ў палёце, былі Мушка-зелянушка і Камарык-насаты тварык, як анёлкі…

Вярнуўшыся да Музея Янкі Купалы, трапілі ў людскую раку, якая працякала праз сам музей, а потым разлівалася каля сцэны перад уваходам у будынак Песняра. У музеі ўсе праходзілі праз другі паверх, дзе каля кожнага экспаната стаялі экскурсаводы і распавядалі пра Купалу. Я ўпершыню ўбачыў дзверы з нумарам 414 гатэля «Масква», за якімі жыў Купала. Тут жа прыступкі, па якіх ішоў паэт, і парэнчы лесвічнага пралёту, праз які ён паляцеў у вечнасць. Паглядзелі на «прывід» Купалы і паслухалі верш у яго выкананні, які захаваўся. Уражвае. Еўропа! Не! Беларусь еўрапейская!..

Вярнуліся дамоў, як з той Беларусі, пра якую марылі нашы класікі…

*

*16.05.2015.* Недаходзячы метраў сто да Музея Петруся Броўкі, з Людай натрапілі на здымкі нейкага фільма. Навокал было сонечна. Кіношнікі здымалі праліўны дождж з ветрам і хлапца з дзяўчынай пад вялікім чорным парасонам. Гледзячы на будучы эпізод фільма, узгадаліся радкі: «Сонца свеціць, дождж ідзе. Хлапец дзеўку ў лес вядзе. Дзеўка кажа: «Не хачу!» Хлапец кажа: «Заплачу!»…

*

*17.05.2015.* Калі заўважаю, што нехта з маіх шматлікіх фэйсбучных сяброў, якіх у большасці я асабіста не ведаю, раптам адваліўся, заадно ў думках паўтараю: «Спадзяюся, што чалавек не памёр…»

*

*17.05.2015.* Чалавек, які часта без патрэбы паўтарае, як заклён, слова «кашмар», урэшце сам робіцца кашмарам…

*

*17.05.2015.* Нашы людзі ў бібліятэку, каб там выступіць, на таксі не ездзяць…

*

*17.05.2015.* Бяры рукапіс, ідзі дамоў…

*

*17.05.2015.* Рама без карціны пад кустамі, як вялізны абаранак, што драўляным і квадратным стаў…

**Чаропка і калгас**

*18.05.2015.* Прыходзіў Вітаўт Чаропка. Прынёс анатацыю для будучай кнігі. Паўспаміналі былыя часы, былую эпоху. Апошні раз Вітаўт удзельнічаў у літаратурнай вечарыне 25 красавіка 1996 года ў Музеі Максіма Багдановіча. На мае словы «Трэба ў людзі выходзіць!» Вітаўт адказаў: «А калі працаваць?»

І ўсё ж я запрасіў Чаропку ў бібліятэку імя Цёткі на вечарыну «У-Зорныя сем'і», якая пройдзе 19 траўня. «Хто там будзе?» — пацікавіўся сябра. «Ірына і Максім Клімковічы, Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі, я з Людмілай Рублеўскай, Ганна і Стыў Крамеры», — адказаў я. «Хто такія Крамеры?» — «Музыка з жонкай спявачкай…» — «Сымон-музыка з жонкай!» — «Амаль што…» — «У мяне ўжо каля 70 карцін», — прызнаўся Чаропка. «Давай выставу зробім у бібліятэцы. А потым вечарынку ў калгасе!» — прапанаваў я. «У калгасе? Не! У калгасе не хачу!» — замахаў рукамі мой суразмоўца. «Калі я кажу пра вечарынку ў калгасе — гэта азначае, што пасля імпрэзы будзе добры фуршэт…» — патлумачыў я. Вітаўт заўсміхаўся і сказаў, што падумае над маёй прапановай, а потым распавёў, што свой «Храм без Бога» апошні раз ён чытаў у 1992 годзе. Пасля гэтага доўгі час баяўся перачытваць. Можа, слаба ўсё. Асмеліўся нядаўна. Прачытаў старонак пятнаццаць. Нічога. Можна чытаць і сёння, і дабавіў: «Цяпер сур'ёзную прозу пісаць па 500—600 старонак — гэта самагубства…»

*

*19.05.2015.* Ездзіў у Маладзечына. Выйшаў спецыяльна на прыпынку электрычкі «Фестывальная», дзе мяне сустрэў Міхась Казлоўскі, каб, ідучы ў бібліятэку №6, зайсці на могілкі да Міколы Ермаловіча. Мінула пятнаццаць гадоў, як з намі няма Міколы Іванавіча. Час ляціць. Каля магільнай агароджы клён, які, здавалася, учора быў танюсенькім, стаў камлістым і кроністым. Пастаялі, паўспаміналі, пасумавалі і пайшлі ў бібліятэку, дзе нас ужо чакалі дзеці са школы №1 імя Янкі Купалы. Дзявяты клас. Землякі. Слухалі аповеды з майго «Пугачоўскага цырульніка» і вершы з кнігі «Заўтра была адліга». Задавалі пытанні. Жартавалі. Смяяліся. Харошыя растуць дзеці, і хочацца верыць, што і яны будуць ведаць, што напісаў і дзе пахаваны Мікола Ермаловіч…

*

*19.05.2015.* З Людмілай Рублеўскай, Ірынай і Максімам Клімковічамі ўдзельнічаў у спектаклі нон-фікшн паэтычнага тэатра «Арт. С.» «У-Зорныя сем'і», які прайшоў у бібліятэцы імя Цёткі. Сцэнарыстамі і рэжысёрамі былі Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі. Шмат цікавага даведаўся з гісторыі кахання Ірыны і Максіма. Асабліва ўразіла тое, што Максімава бабуля была супраць яго шлюбу з Ірынай. Старая мела іншыя планы. Пасля вяселля яна дваццаць гадоў (аж да сваёй смерці) не размаўляла з унукам і ягонай жонкай, жывучы з імі ў адной кватэры. Калі спектакль скончыўся, мы за гарбатай яшчэ доўга распавядалі гісторыі са свайго жыцця…

*

*20.05.2015.* Жыву амаль у цэнтры Мінска. За акном у двары чайкі ўсё крычаць і крычаць. І я часам думаю, што мой дом стаіць на беразе Балтыйскага мора…

**Практыка**

*20.05.2015.* Верасень 1976 года. Я з аднакурснікамі Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума на практыцы ў Клецкім раёне. Жылі мы каля лесу пад наглядам дзвюх выкладчыц у вялікім, як казарма, цагляным аднапавярховым будынку. Кожную раніцу нас развозілі па аб'ектах, а вечарам вярталі.

Я клаў асфальт у вёсцы Садовая, якая да саветаў мела назоў Блядзічы. З мясцовымі жыхарамі мы амаль не кантактавалі, і здавалася, што практыка закончыцца без прыгод. За два дні да вяртання ў Мінск мы вырашылі зладзіць сабе свята. Распыталіся ў людзей, дзе можна набыць добрай самагонкі. Вечарам, калі вярнуліся з будоўляў, пайшлі на хутар у кіламетрах пяці ад нашага жытла. Дзяўчат пакінулі дома рыхтаваць закуску. Нас, падшыванцаў, было чалавек пятнаццаць. На хутар прыйшлі, калі ўжо сцямнела. Набылі пару слоікаў самагонкі. Радасныя, вяртаемся да шашы. І раптам нам у вочы засвяцілі фары грузавой машыны. Тут жа перад намі з цемнаты паўсталі нейкія хлопцы. Чалавек дваццаць. Розных узростаў. Ад пятнаццаці да гадоў дваццаці пяці. У кожнага ў руках зброя — матацыклетныя ланцугі, манціроўкі, ламы, салдацкія дзягі. З шумлівага натоўпу да нас выйшаў высокі шыракаплечы дзяцюк, узброены кастэтам, і заявіў: «Мы нікога не будзем чапаць! Толькі аддайце нам самагонку і жыдкоў! І можаце быць вольнымі!» Пачуўшы гэта, мы збіліся ў невялікую сцяну, за якой схавалі Гальперына, Гурэвіча і Гранзберга. Пакуль мы аддавалі самагонку, хлопцы паўзком уцяклі ў лес. Забраўшы напой, дзяцюк запытаўся: «А дзе жыдкі?» — «Няма! Мы ўсе беларусы!..» — адказаў стараста нашай студэнцкай групы. «А мы зараз праверым!» — і да нас з ліхтарыкам падышоў невысокі хлопец гадоў сямнаццаці і, становячыся на дыбачкі, пачаў кожнаму свяціць у вочы і пытацца, дыхаючы ў твар перагарам: «Ты жыд ці не?» Разборкі цягнуліся недзе з паўгадзіны. Не знайшоўшы сярод нас жыдоў, дзяцюк з кастэтам сказаў: «Мы сёння добрыя! Можаце ісці дамоў!» І мы пайшлі, а следам, пазалазіўшы ў кузаў машыны, паехалі мясцовыя. Хутка, выпіўшы самагонку, яны пачалі гарлаць: «Аддайце жыдоў!» Убачыўшы непадалёку ад шашы лес, наш стараста даў каманду: «Хлопцы! На пяту!!!» І мы пабеглі. Следам за намі па прыдарожных каўдобінах паімчала машына, з кузава якой чуліся гіканне і свіст. Не помню, як я забег у лес, і колькі па ім бег, але, калі спыніўся, то навокал нікога не было і толькі чулася (мне здавалася, што на ўвесь свет) грукатанне майго сэрца. Праз гадзіны тры блукання па лесе я прыйшоў да нашага жытла. Яно было асвечана фарамі машыны, каля якой стаялі ўзброеныя мясцовыя і крычалі, патрабуючы выпіўкі і дзяўчат. Падкраўшыся да акна, якое глядзела на лес, я пастукаў у шыбу. Мне адчынілі, і я трапіў да аднакурснікаў. Некаторыя паспелі дабрацца дамоў раней і ўжо змаглі ўзброіцца, чым хто мог. Хацелі выклікаць міліцыю, не атрымалася, бо бандзюкі перарэзалі тэлефонныя драты. Перамовы з імі вялі нашы выкладчыцы, стоячы на ганку, пад нашай аховай. Супрацьстаянне цягнулася да гадзін сямі раніцы. І толькі, калі нас мясцовыя пакінулі ў спакоі і ўзышло сонца, дамоў вярнуліся Гальперын, Гурэвіч і Гранзберг…

*

*21.05.2015.* Праліўся дождж, і апусцела неба, як божае вядро…

*

*21.05.2015.* Быў час, калі я разоў дзесяць на год ездзіў у Маладзечна, дзе далей з Міхасём Казлоўскім вандраваў па нашай Віленшчыне. Выступалі ў бібліятэках і школах. Потым нярэдка на апошняй электрычцы я вяртаўся ў Мінск. Праязджаючы станцыі Аляхновічы і Дубравы, часта (чамусьці асабліва зімой) хацеў сысці на пусты перон і пайсці праз ноч у родныя Пугачы. Дзесяць кіламетраў — не за свет. Але не сыходзіў, бо адразу ўспамінаў, які адзін п’яны аднавясковец ноччу не дайшоў дамоў з суседняй вёскі. Сеў пад дрэвам адпачыць, заснуў і змерз. Некалькі дзён таму, вяртаючыся з Маладзечна, у дарозе надумаў верш:

Электрычкі вагоны пустыя
Адзіноту праз цемень вязуць
І палохаюць цені начныя,
Што абапал чыгункі жывуць.
Я сыду на прыпынку няспешна,
На якім не чакаюць мяне
І ад гэтага сумна і смешна
Будзе мне ў гэтай ранняй вясне,
Дзе няма ні снягоў, ні лістоты,
А вятры, халады і дажджы.
На прыпынку слупы ад самоты,
Як зламаныя ў зімку крыжы,
Да якіх мы прыходзілі светла,
Электрычку чакалі, як лета,
Каб ніколі сюды не вяртацца…

Так. Хацелася не вяртацца ў вёску, але гэта было даўным-даўно. Мне тады было пятнаццаць гадоў…

*

*21.05.2015.* Калі няма сонца ў небе, яго нібыта зусім няма…

*

*21.05.2015.* З Мазыра прыязджала жанчына. На пенсіі. Прывезла ў дзвюх торбах раман. Напісаны ад рукі. Пачытаў некалькі старонак. Запытаўся: «Даўно пішаце?» — «Са школы! Нідзе не друкавалася. Гадоў трыццаць таму хадзіла ў «Нёман» з вершамі. Параілі больш не пісаць. А я ўсё ж пісала», — адказала жанчына і, гледзячы самотна на мяне, пацікавілася: «А дзе тут у Мінску макулатуру прымаюць?»

*

*22.05.2015.* Пакуль пад дрэвам чакаў, калі суцішыцца дождж, навярцеліся ў галаве радкі:

Я схаваўся пад дрэвам, як воўк, ад дажджу.
На маланкі, нібыта на смерць, я гляджу.
Гром грыміць, быццам падаюць з неба крыжы,
Па якіх уздымаліся ў хмары дажджы…

*

*22.05.2015.* На кожнага Сабаку ёсць свой Граждан…

*

*22.05.2015.* Іду праз дождж. Вада халодная, як мёртвая...

*

*23.05.2015.* У якасці літкансультанта ўдзельнічаў у IX абласным злёце маладых паэтаў Міншчыны «Слова Купалы да творчасці кліча». Пад такім жа назовам выйшаў зборнік вершаў, дзе змешчаны творы 47 аўтараў. Сярод іх — людзі розных прафесій, студэнты і школьнікі.

У купалаўскія Акопы выехалі ад Мінскай абласной бібліятэкі. Я сядзеў побач з Міколам Чарняўскім, а Галіна Каржанеўская з Таццянай Сівец. Па дарозе абмяркоўвалі творы маладых, дзяліліся ўражаннямі. Пад’язджаючы да Лагойска, Чарняўскі ўзгадаў радок Ніла Гілевіча: «Гарыць, гарыць мая Лагойшчына…» і тут жа да яго дабавіў, што заўсёды казаў, чуючы гэтыя словы Гілевіча, Рыгор Барадулін: «…і ўся паэзія гарыць».

«Дзе канчаецца асфальт?» — запытаўся ў мяне Мікола Чарняўскі. Я падумаў і адказаў, што не ведаю. «Асфальт канчаецца там, дзе пачынаецца твой Валожынскі раён! Праўда, гэта было гадоў пяцьдзясят таму. У Валожынскім раёне ўсе дарогі былі брукаваныя…» — сказаў Мікола Мікалаевіч. Сапраўды, у нас амаль усе дарогі былі брукаваныя. Я памятаю, як з Лягез у Ракаў ездзілі па брукаванцы. Ды і сёння ў дзядзькі Віці ў Лягезах каля хаты ў двары ляжыць брук…

У Харужанцах, дзе знаходзіцца філіял Музея Янкі Купалы «Акопы», прайшло свята паэзіі. Са сцэны разам з намі, літкансультантамі-настаўнікамі, высупалі маладыя паэты. Было сонечна і святочна. На злёце паэтаў Міншчыны я ўдзельнічаў шосты раз. Гледзячы на сцэну, узгадваў тых, хто тут раней выступаў і ўжо ніколі не выступіць. Адны адышлі ў лепшы свет, другія ўжо з кватэр не выходзяць, трэціх сюды не запросяць. Сумна. І ўсё ж не так сумна, як часам падаецца, бо новыя паэты нараджаюцца, растуць і пішуць беларускія вершы пра Беларусь…

*

*24.05.2015.* Сёння Людміла Рублеўская была экскурсаводам па Кальварыйскіх могілках. Правесці экскурсію папрасіў старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Дзьячкоў, які прывёз у Мінск поўны аўтобус людзей. Дзве гадзіны мы хадзілі па могілках. Час ад часу я дапаўняў Людміліны аповеды пра знакамітых дзеячаў культуры і іх родных, якія спачываюць на Кальварыі. Потым разам з магілёўцамі мы наведалі Прылукі, дзе стаіць палац Чапскіх. З 1872 года Прылукі былі ўладаннем вядомага калекцыянера і нумізмата Эмерыка Чапскага, а з 1897 года — ягонага сына Юрыя (Ежы). Цяпер у палацы месціцца інстытут аховы раслін. У палацы Чапскіх быў зняты першы ў БССР мастацкі фільм «Лясная быль». Гэта чорна-белае нямое кіно выйшла на экраны 26 снежня 1926 года. Агледзеўшы палац, мы паехалі ў вёску Воўкавічы, дзе ў 1904 годзе быў збудаваны касцёл Сэрца Езуса і Найсвяцейшай Панны Марыі. Асноўную частку сумы на будаўніцтва ахвяраваў граф Е. Чапскі. У 1950-я гады касцёл быў зруйнаваны. Непадалёк ад месца, дзе быў касцёл, узвышаецца вялікі чорны мармуровы крыж. Гэта магіла жонкі фундатара касцёла Юзэфы Караліны Чапскай. Помнік быў зроблены ў Варшаве, а потым прывезены на могілкі. Далей экскурсія працягнулася без нас. У Станькаве і Койданаве мы з Людмілай былі. У Мінск вярнуліся на прыгарадным аўтобусе, задаволеныя знаёмствам з магілёўцамі і экскурсіяй…

*

*26.05.2015.* Маладзік, як мяч прабіты, з якога паветра сышло…

*

*26.05.2015.* Дзьмухаўцы, як дым застылы цыгарэтны…

*

*26.05.2015.* Дыскрымінацыя ў паэзіі: ёсць белыя вершы, і ўсе астатнія…

*

*27.05.2015.* Каменне — ненароджаныя вершы ляжаць на полі, дзе была вайна…

*

*27.05.2015.* Удзельнічаў у адкрыцці выставы ў гімназіі-каледжы мастацтваў, прысвечанай 70-годдзю Перамогі. Пахадзіў па калідорах. Паўспамінаў, як сюды кожны дзень сем гадоў вадзіў дачку і сына. Яшчэ працуе іх першая настаўніца Зінаіда Кірылаўна. Зазірнуў у клас. Дзеці як дзеці, і ўсё ў гімназіі-каледжы, здаецца, добра, але няма таго, што раньш было. Развітаўшыся з Зінаідай Кірылаўнай, выйшаў на вуліцу. На вуліцы дождж. Сумны, як я…

*

*28.05.2015.* У восем гадзін прыйшоў на працу. Каля дзвярэй майго кабінета ўжо стаяла жанчына. Гадоў за пяцьдзясят. Прыехала здалёку. Прывезла вершы. Напісаныя пад Цвятаеву і Ахматаву. Нядрэнна напісаныя. Рэдка такое бывае, каб не малады чалавек прыйшоў, нідзе не друкаваўшыся, з творамі падобнага ўзроўню. Звычайна вершы слабенькія, тыпу: «Я цябе любіла. Ты мяне любіў. Я цябе забыла. Ты мяне забіў…» Прагледзеўшы некалькі твораў, я выказаў сваю думку і папрасіў пачытаць, бо вершы былі запісаны ў сшытку часам не вельмі разборліва. Жанчына пачала чытаць, а я час ад часу пахвальваць. Запытаўся, як завуць. Запісаў. Гаварылі амаль гадзіну. Здавалася б, усё скончыцца добра. Ды не! Калі я сказаў, што мы, на жаль, не маем магчымасці друкаваць усіх, хто хоча, бо ёсць адбор і ёй трэба спачатку надрукавацца хаця б у «Нёмане», жанчына з мілай ператварылася ў нямілую: «А навошта вы запісалі, як мяне завуць?» Давялося парваць і выкінуць у сметніцу паперчыну. Праўда, праз хвілін пяць я ўсё ж здолеў растлумачыць цяперашнюю сітуацыю з паэзіяй, якая стала амаль нікому не патрэбнай. Развіталіся, усміхаючыся адзін аднаму. Праз хвілін дзесяць прыйшла яшчэ адна паэтка. Ёй вылучыў з паўгадзіны часу. Потым жанчына з казкамі. Зноў прагаварылі з гадзіну. Толькі выйшла з кабінета казачніца, як з’явілася бабулька з паэмай пра Мінск. За бабулькай зайшла жанчына з прозай. Незаўважна і абед прайшоў. Пасля трох гадзін я выйшаў па выдавецкіх справах у горад і сустрэў на вуліцы п’яных хлопцаў у форме пагранічнікаў. Сёння іх свята. Паглядзеўшы на хлопцаў, усміхнуўся: «Няма каму мяжу ахоўваць, вось і пісучыя жанчыны прарваліся да мяне…»

*

*28.05.2015.* У творчасці, як у вялікай чарзе, могуць затаптаць...

*

*29.05.2015.* Сёння не людзі залежаць ад Паэзіі, а Паэзія ад людзей...

*

*30—31.05.2015.* Мой зямляк Павел Каўрыга, які выкладае ў БДУ на геафаку, запрасіў мяне выступіць перад студэнтамі, што на Валожыншчыне каля вёскі Калдыкі на геастанцыі «Заходняя Бярэзіна» праходзяць практыку…

Дробныя птушкі перад машынай пералятаюць дарогу, як самагубцы ці экстрэмалы…

На палях ходзяць буслы, як геадэзісты…

За Валожынам стаіць вятрак, нібыта знак, што тут Еўропа…

Прыехалі а чацвёртай гадзіне. На геастанцыі, якая знаходзіцца ў лесе, цішыня. Студэнты разышліся па сваіх вучэбных справах. З доміка выйшаў выкладчык, які пачуў, што мы прыехалі. «Учора ў нас быў Глобус…» — расказваючы пра лясное жыццё-быццё, паведаміў мужчына. Пачуўшы пра гэта,

я падумаў: «Маладзец Валодзя, што наведаў адарваных ад горада студэнтаў». Праз паўгадзіны я даведаўся, што тут учора быў не Адам Глобус, а студэнцкая вечарына «Музычны глобус»…

Сосны, як геадэзічныя збудаванні…

У лесе студэнты з заплечнікамі, як дыверсанты…

Спявалі птушкі. Раптам стала ціха і пайшоў дождж. Адна музыка замяніла другую…

Над поймай ракі праляцелі два лебедзі. Белыя, як анёлы…

Пасля вячэры ўсе сабраліся ў клубе. Вечарына пачалася з «Купалінкі», якую праспявала студэнтка чацвёртага курса. Яна для сяброў ужо свая эстрадная зорка. Лізавета Гурская прачытала верш Уладзіміра Караткевіча «Беларуская песня». За гэта я падарыў ёй сваю кніжку «Заўтра была адліга». Потым гучалі вершы, што напісалі самі студэнты падчас практыкі. Вайсковец праспяваў «Тры чарапахі» Лявона Вольскага. Амаль да адзінаццаці гадзін выступаў я. Вёў імпрэзу Уладзімір Малашэнкаў. Напрыканцы Павел Каўрыга падарыў мне сваю кнігу «Метэаралогія і кліматалогія (Беларуска-руска-англійскі даведнік) з аўтографамі студэнтаў сваёй кафедры.

Да дзвюх гадзін ночы з выкладчыкамі гаварылі пра жыццё-быццё. Па іх просьбе чытаў вершы. Слухалі, не перабівалі…

Сходзіўшы на студэнцкую лінейку, з Паўлам Каўрыгам паехалі ў Мінск. У некалькіх кіламетрах ад геастанцыі на ўскрайку лесу я заўважыў вялікага рыжаватага зайца. Ён назіраў за намі, нібыта студэнцкі дазорац, які замаскіраваўся пад зайца…

*

*31.05.2015.* З Людмілай хадзілі да Ратушы, дзе потым з экскурсаводам, а таксама князем Радзівілам Чорным і ягоным сямействам вандравалі па Верхнім горадзе. Народу сабралася шмат. На экскурсійны натоўп мінакі глядзелі па-рознаму: тры загарэлыя расейцы гадоў пад пяцьдзясят, пачытаўшы шыльду на Ратушы, прайшлі праз нас, як праз высокую траву. Нейкія замежнікі, якія сядзелі за столікамі вулічнай кавярні, калі мы праходзілі каля іх, сустрэлі Радзівіла і ягонае сямейства воплескамі і воклічамі захаплення. Павандраваўшы па Верхнім горадзе, каля Ратушы экскурсавод Ганна правяла конкурс на веданне гісторыі. Мы з Людмілай не адбіралі ў прысутных магчымась выйграць прызы. Нейкі час я пазабаўляўся з малымі радзівілятамі, адзін з якіх сказаў, што ён некаранаваны кароль…

## Чэрвень

*

*1.06.2015.* Галоўную прэмію Гедройца за найлепшую беларускамоўную прозу, а таксама прыз чытацкага галасавання атрымаў Віктар Казько за кнігу «Час збіраць косці». Прадстаўляючы намінантаў, выступоўцы гаварылі са сцэны, нібыта чыталі белыя вершы. І ўсё ж найбольш запомніўся Андрэй Федарэнка, які, наколькі ўмее пісаць выдатную прозу, настолькі не ўмее выступаць на публіку. Праўда, і гэтым ён таксама цікавы, як празаік…

*

*3.06.2015.* З Маладзечна прыязджаў Міхась Казлоўскі. Падарыў мне зборнік «Там, дзе Уша серабрыцца», у якім прадстаўлены 32 творцы, дзейнасць

і жыццё якіх непасрэдна звязана з маладзечанскім краем. Укладанне і прадмова Міхася Казлоўскага. На вокладцы зборніка фотаэцюд Генадзя Селядца «Лета». Ва ўступным слове Міхась напісаў: «У свой час Генадзь Каханоўскі, праглядаючы чарговы нумар часопіса «Маладосць», з відавочным гонарам прамовіў: «Глядзі, нашы ідуць у літаратуру». Для мяне Маладзечаншчына — родны край, і таму я з задавальненнем паўтараю за Генадзем Каханоўскім: «Нашы ідуць у літаратуру!» Акрамя зборніка Міхась Казлоўскі падарыў мне паштоўку, выдадзеную ў Познані з нагоды выхаду ў «Мастацкай літаратуры» кнігі пра Язэпа Драздовіча «Праз церні да зорак»…

*

*5.06.2015.* З Іванам Вараўкам сябрую з часу (1980-я гады) нашага знаёмства на літаб'яднанні «Крыніцы» пры «Чырвонай змене». Цяпер зрэдку сустракаемся, а так усё па тэлефоне дзелімся сваімі жыццёвымі навінамі. Іван нарадзіўся ў вёсцы Ілья на Вілейшчыне. Працуе на заводзе ў Мінску. Зрэдку піша вершы і яшчэ радзей друкуецца. Нікому, хто хадзіў на літ'абяднанне і потым выбіўся ў вядомыя пісьменнікі, Іван не зайздросціць. Сёння мы з ім сустрэліся. Гаварылі пра бацькоў. Іванавай маці 90 гадоў. Цяпер яна, на жаль, у бальніцы. Сёе-тое новага з вершаў пачыталі адзін аднаму. На маё пытанне: «Чаму мала пішаш?» Іван адказаў: «Не хачу! Я магу насачыняць сотні вершаў кшталту гэтага:

Гляджу я цілівізар вечарамі
І цэлу ноч яго глядзець гатоў.
А раніцай я крочу за грыбамі,
Хоць у гародзе мора агуркоў…

але ж гэта не высокая паэзія, таму і не псую паперу…»

**З жыцця Гражданаў…**

*5.06.2015.* На сайце «НН» з'явілася інфармацыя: «Пад Мінскам работнік жаночага манастыра шпакоўняй забіў сабутэльніка…»

*

*6.06.2015.* Удзельнічаў у XV Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Напачатку наведалі Вязынку. Чыталі вершы каля помніка Янку Купалу. На дзіва, людзей прыйшло нямала. Потым у Маладзечне ў Палацы культуры выступіў у паэтычнай гасцёўні «Красуй, Беларусь». Думаю, што многіх цікавіць адказ на пытанне: «Як там на фестывалі было?» Мой адказ: «На жаль, вас там не было, таму так было, як было. І магло быць лепей, але і магло быць горай…»

*

*7.06.2015.* Прачытаў!!!!!! Чацвёртую, заключную кнігу цыкла раманаў Людмілы Рублеўскай «Авантуры Пранціша Вырвіча, здрадніка і канфедэрата». У беларускай літаратуры падобнай маштабнасці і моцы твора (усе чатыры кнігі) няма. Можаце мяне за гэтую выснову пабіць, але я ад яе не адмоўлюся. Я гэта гавару не таму, што Людміла Рублеўская мая жонка, а таму, што чытаю амаль усё і ўсіх і гэты раман у чатырох кнігах прачытаў ад першай да апошняй старонкі і як чытач, і як рэдактар, і як крытык. І калі б гэты твор быў

напісаны іншым выдатным пісьменнікам-мужчынам, а іх у нас на сённяшні дзень столькі, што можна на пальцах адной рукі пералічыць, то… Словам, віншую ўсіх, хто радаваўся і будзе радавацца, чытаючы Людмілу Рублеўскую, што ў нас, у беларусаў, ёсць цыкл выдатных гістарычных раманаў пра Беларусь XVIII стагоддзя.

*

*7.06.2015.* Перад маім акном праляцеў недакурак, як збіты шпіёнскі лятаючы апарат, і, упаўшы на скошаную траву каля пад’езда, задыміўся…

*

*8.06.2015.* Здаецца, чым усё больш вясной спілоўваюць тапаляў, тым у чэрвені усё больш тапалёвага пуху…

*

*8.06.2015.* Сёння на працы ніхто з аўтараў не турбаваў мяне і толькі тапалёвы пух лётаў пад вокнамі кабінета, як пер’е графаманаў…

*

*9.06.2015.* Гарачыня. У некага мора перад вачыма, а ў мяне мора рукапісаў…

*

*9.06.2015.* З Людмілай хадзілі ў Купалаўскі музей на «Канцэрт для сяброў» Алеся Камоцкага. Народу было сотні паўтары. Слухаючы песні, забыўся пра многае, што перашкаджае жыць з добрым настроем. У перапынках паміж песнямі Алесь з сябрамі, якія яму падыгрывалі на гітарах, жартаваў, узгадваў былыя канцэрты, дзяліўся думкамі пра тое, што яму падабаецца і чаму. Я занатаваў: «Дзяцінства — гэта, калі твой кот старэйшы за цябе…» Праўда, гэта словы не Алеся, але яны сапраўды пра дзяцінства…

*

*10.06.2015.* Калі ніхто з аўтараў не тэлефануе, тады мне здаецца, што я не на сваю працу прыйшоў ці іншапланетнікі перарэзалі тэлефонныя драты…

*

*11.06.2015.* А палове на сёмую гадзіну быў у прамым эфіры тэлеперадачы «Добрай раніцы, Беларусь!» Гаварылі пра акцыю «Лета з добрай кнігай». Забралі мяне з дому а палове на шостую. Ехалі па амаль пустым праспекце. Звярнуў увагу, што на пляцы Якуба Коласа выстава рэпрадукцый карцін Міколы Селешчука. Падумалася, што, калі б мастак цяпер жыў, то хутчэй за ўсё ніякай ягонай выставы на вуліцы не было б…

*

*11.06.2015.* Раніцой на лузе белы туман ператварыўся ў белага каня, а вечарам белы конь у белы туман…

*

*11.06.2015.* Паміраючы па гэты бок нябёс, на другім баку з’яўляемся на свет…

*

*11.06.2015.* У бар начны вяртаюцца паэты, нібыта ў гавань з мора караблі…

*

*11.06.2015.* Чакаючы аўтобус на прыпынку каля царквы Пятра і Паўла, прыдумаў радкі:

Сядзіш ля царквы ў дзень святы з жабракамі,
Як на сцэне з вялікім начальствам сядзіш.
І жыццё, як рака, прад тваімі вачамі
Працякае няспешна і ціха, як мыш…

*

*12.06.2015.* Заходзячае сонца прасвечвае лістоту бярэзніка, нібы шукае бяздомных птушак…

*

*13.06.2015.* Ездзіў у родныя Пугачы. Адзін…

У аўтобусе было паўнютка народу. Некаторыя з катамі і сабакамі, як у вандроўным пагарэлым цырку…

У Пугачы прыехала сем чалавек. Нікога не ведаю…

Іду па вуліцы. Углядаюся ў зелень дрэў, дзе стаіць родная хата. Стаіць…

У садзе трава вырасла вышэй калена. Матылі па-над ёй, як лятаючыя кветкі…

У хаце, як на востраве, дзе яшчэ нядаўна існавала жыццё…

Схадзіў да дзядзькі Шуры. Пагаварыў, як з бацькам. Ён адзіны, хто застаўся са стрыечных бацькавых братоў…

Касіў амаль пяць гадзін. Прыходзілі нейчыя дзеці, каб паглядзець на пісьменніка…

Яблыкаў амаль не будзе, нібыта яблыні зразумелі, што нам не да яблыкаў…

Жабы ў траве. Каторая з іх зачараваная прынцэса?

Незнаёмы п’яны мужчына прайшоў каля плота. Нешта бурчэў сам сабе, успамінаючы жонку і яе маці…

Пярынка ў траве, як анёльская…

За мной у хату заляцела муха, як шпіёнка…

Вада ў кране іржавая, як паэзія пачаткоўца…

Над вёскай коршак, як гаспадар…

Зялёныя стрэлкі цыбулі паказваюць бясхмарнае неба. Паліў грады…

Пранеслася па вуліцы машына, як звар’яцелая…

Людзі чакаюць дажджу, бо няма чаго больш чакаць…

Ідучы на аўтобусны прыпынак, спыніўся каля сажалкі. Плаваюць дзікія качкі. Прыгожыя. Здаецца, прыгажэйшыя, чым тады, калі я тут з сябрамі-хлапчукамі лавіў рыбу…

На прыпынку сеў на лаўку, дзе мама сядзела, чакаючы мяне з горада…

Ехаў у Мінск, як на іншую планету…

*

*14.06.2015.* Людміле патэлефанаваў аўтар «Буквара» Анатоль Клышка і прапанаваў сустрэцца паблізу нашага дома на аўтобусным прыпынку, каб падарыць нам кніжку. Праз дзесяць хвілін Людміла вярнулася з «Новым запа-

ветам» у перакладзе з грэцкай. Анатоль Канстанцінавіч, каб зрабіць справу, вывучыў грэцкую мову. Гамера чытаў у арыгінале. Словам, мы цяпер маем «Новы запавет» на беларускай мове…

*

*14.06.2015.* З цешчай, жонкай і дачкой ездзілі на Чыжоўскія могілкі. Толькі пачалі прыбіраць магілу Людмілінай бабулі Палагеі, як пачалася навальніца. Схаваліся пад дрэвы. Стаім сярод помнікаў, як помнікі пад парасонамі. Маланкі асвечваюць наваколле, гром грыміць, нібыта з неба крыжы падаюць. Праўда, было зусім не страшна. Узгадалася, што першы раз у навальніцу на могілках быў у Крывічах, куды хадзіў з бабуляй Ганнай адведаць дзеда Міхася. Мне тады было гадоў пяць. Было страшнавата. Мы з бабуляй нейкі час ад навальніцы хаваліся ў царкве. Потым, дачакаўшыся, калі стыхія крыху суцішыцца, праз дождж пайшлі дахаты. Бабуля малілася, а я паўтараў за ёй. Так і дайшлі дамоў.

Ад праліўнога дажджу штучныя кветкі на магілах сталі, як жывыя…

Прайшоўшы крокаў сто ад магілы Палагеі Максімаўны, я раптам прыпыніўся. Маю ўвагу прыцягнула яліна з абрэзанымі галінамі, якія яшчэ нядаўна прыкрывалі магілу за высокай агароджай. Гляджу, а гэта ж тут пахаваны Сцяпан Гаўрусёў. На помніку выбіты радок з яго класічнага верша: «Я вырас пад гарматнымі стваламі…»

Не даходзячы брамы, што на ўваходзе на могілкі, мы схаваліся ад дажджу ў старую альтанку. Дождж суцішыўся, і я прайшоў па алеі, разглядаючы помнікі. У метрах пяцідзесяці ад альтанкі знайшоў магілу, дзе пахаваны празаік Кастусь Тарасаў…

Едзем у таксі. Размаўляем. Звяртаючыся да Людмілы, кіроўца кажа: «Пара вам дачцэ машыну купіць і яна вас будзе вазіць туды, куды папросіце!» Пачуўшы гэта, цешча тут жа прызналася: «А я ўжо некалькі гадоў з кожнай пенсіі латарэйкі купляю!»

На Чыжоўскіх могілках былі каля дзвюх гадзін. Увесь час навальніца то заціхала, то ўзмацнялася, нібыта дакараючы нас за тое, што на Радаўніцу не былі…

*

*15.06.2015.* Горача. Ідзём з працы па праспекце Пераможцаў. Перад сабой у метрах дваццаці бачым, прылёгшы над фантанам, нейкі пасівелы даўгавалосы чалавек бярэ ваду, нібыта шэпчацца з ёй. «Так можа браць ваду толькі паэт ці бомж», — падумаў я, і праз міг чалавек падняўся з каленяў. Перад намі была з пачарнелым тварам жанчына, якая тут жа з пластыкавай пляшкі пачала піць, гледзячы ў неба, нібыта ўбачыўшы анёлаў…

*

*16.06.2015.* Некалькі дзён таму пачаўся верш, але, як пачаўся, так і закончыўся:

Толькі ведае рыба сапраўднасць маўчання,
І вада для яе як бясконцы сусвет,
Дзе жыццё пачалося раней, чым каханне,
Што прыдумаў няшчасны тутэйшы паэт…

*

*16.06.2015.* Калі робіцца цяжка на душы і сумна, ратуюся ўспамінам пра сваё даўняе жаданне: кінуць-рынуць усё і з’ехаць у родную вёску, дзе стаіць

пустая хата, якая яшчэ не развалілася ад адзіноты. І тады б мяне ўсе шкадавалі і г.д. Жартую! Нікуды я не паеду, бо я на гарадскім ланцугу, які голас падае праз тэлефоны, і напамінае, што я тут яшчэ некаму патрэбны…

*

*16.06.2015.* Тапаліны пух няўлоўны, як паэзія таполяў…

*

*17.06.2025.* Прашу звольніць мяне з працы ў сувязі са сканчэннем свету…

*

*17.06.2015.* Раніцай у выдавецтва прыходзіў Адам Глобус. Ён і Алесь Бадак успаміналі былое, а я слухаў і думаў, што і наша пакаленне напісала не толькі геніяльныя творы, але жыло і жыве цікавым жыццём. Пра нас кніжкі пісаць можна. Можна і трэба! Праўда, калі мы самі іх не напішам, то ніхто і не напіша…

З Алесем хадзілі ў Нацыянальны мастацкі музей. Пасля афіцыйнага мерапрыемства глядзелі фільм Алега Лукашэвіча і Аляксандра Аляксеева пра Марка Шагала. У зале, дзе мы сядзелі, з карцін на нас паглядалі беларускія магнаты і некаторыя з іх вельмі-вельмі варожа…

Каля Музея Міхаіла Савіцкага сустрэўся з замежнікам, які запытаўся: «Как мне проехать к магазину «ЗамОк»? Я не адразу зразумеў, што яму трэба крама «Замак», і ўсё з таго, што назоў крамы напісаны па-руску і наш «замак» чытаецца як «замОк»…

*

*18.06.2015.* Гаварыў са Славамірам Адамовічам. Ён нядаўна вярнуўся з Нарвегіі, куды было паехаў у студзені гэтага года. Там дапісваў раман, пачатак якога ўжо друкаваўся ў «Дзеяслове». Цяпер Славамір шукае машыністку, каб зрабіць набор твора. Хоча да канца года выдаць кнігу, каб паўдзельнічаць у барацьбе за прэмію Гедройца. Славамір быў з заплечнікам, нібыта з парашутам…

*

*19.06.2015.* У складзе дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі па спецыяльнасці «Літаратурная работа (рэдагаванне)» быў на абароне дыпломных прац у Інстытуце журналістыкі. Потым Уладзімір Ліпскі запрасіў мяне і Мікалая Супрановіча да сябе ў «Вясёлку» на экскурсію. Гэта не рэдакцыя, а музей дзіцячай літаратуры! Як іконы ў Храме, вісяць партрэты былых рэдактараў часопіса Васіля Віткі, Еўдакіі Лось і Анатоля Грачанікава. Гаворачы пра сучасных пісьменнікаў і даючы ім ацэнку, Уладзімір Сцяпанавіч сказаў: «Трэба глядзець не ў твар, а ў твор!»

*

*20.06.2015.* Бібліятэка — гэта кніжнае аліўе…

*

*21.06.2015.* Спачатку кветку зрываем, зразаем, а потым хочам, каб яна жыла — у ваду ставім…

*

*21.06.2015.* Каля пад’езда, схаваўшыся пад дрэвам ад дажджу, дзяўчына курыць, нібы цалуецца…

*

*22.06.2015.* Поўня, як дзьмухавец…

*

*23.06.2015.* Праз пару дзён светлавы дзень пачне скарачацца, а мы яшчэ і росту ягонага не паспелі ацаніць…

*

*23.06.2015.* Хвілін пятнаццаць размаўляў са Славамірам Адамовічам. Адзін аднаму паскардзіліся, што зрок пагоршаў. Славамір тут жа ўзгадаў, як нядаўна ў Пухавічах у прыватнага акуліста падбіраў акуляры. На ягонае пытанне: «Чаму ў мяне зрок падпсаваўся?» — мужчына адказаў: «З гадамі ў цябе валасы на галаве пасівелі? Пасівелі! Вось і зрок пасівеў…»

*

*23.06.2015.* Патэлефанавалі з Пугачоўскага дома культуры і паведамілі, што мяне і Людмілу запрашаюць на свята вёскі, якое адбудзецца 12 ліпеня. Калі я адказаў, што ў гэты дзень нас не будзе ў Беларусі, загадчыца Дома культуры сказала, што яна прапануе старшыні сельсавета свята перанесці на пазнейшы дзень ліпеня, калі мы з Людмілай зможам прыехаць у Пугачы…

*

*24.06.2015.* Зайшоў у кнігарню. Вялікая! Кніг — мора! Прадавачак болей, чым пакупнікоў. Як да сцяны плачу, падышоў да паліц з беларускімі кнігамі…

*

*24.06.2015.* Патэлефанавалі з Пугачоўскага дома культуры і паведамілі, што Свята вёскі з 12 ліпеня перанеслі на 26. Перанеслі таму, што я з Людмілай Рублеўскай 12-га не магу быць у Пугачах. Развітваючыся, зямлячка сказала: «Без вас Свята нашай вёскі — гэта не Свята!»

*

*25.06.2015.* Быў на радыё ў Галіны Шаблінскай. Запісалі для «Дыярыуша» размову пра маю кнігу «Заўтра была адліга». Сёння можна будзе паслухаць па першым канале радыё ў 21.05. Мы гаварылі, а за акном зялёныя рыбкі лістоты стукаліся ў шыбу, нібыта клікалі нас на волю з акварыума-студыі…

**Барыс Мускі**

*26.06.2015.* На працягу дваццаці апошніх гадоў, а мо і болей, я сустракаў яго амаль на ўсіх літаратурных імпрэзах і на мастацкіх выставах у Мінску. Паедзеш на свята паэзіі ў Вязынку, і ён там. Паедзеш у Ракуцёўшчыну, і ён там. Некалькі месяцаў таму я з ім сустрэўся ў аўтобусе. Ён ехаў у Музей Якуба Коласа на вечарыну. Пагаварылі пра літаратуру. Развітваючыся, я хацеў запытацца, як яго завуць. Не запытаўся, бо падумалася, што калі буду пытацца,

то чалавек пакрыўдзіцца. Мы з ім віталіся разоў сто, а я не ведаю, як яго імя. І вось сёння ў інтэрнэце з'явілася інфармацыя з яго здымкам. Сумная інфармацыя. Ён памёр. І я даведаўся, як яго завуць. Барысу Мускаму было 76.

*

*26.06.2015.* Быў за горадам на прыродзе. Цудоўна! Вярнуўся ў кватэру да камп'ютара, нібыта прачнуўся, а ўсё, што бачыў за горадам, прыснілася…

*

*27.06.2015.* Лебедзь над возерам праляцеў, нібыта адарваўся ад воза і цяпер яго цягнуць рак і шчупак…

*

*27.06.2015.* Суніцы, як чырвоныя ліхтары ў мурашыным квартале…

*

*27.06.2015.* Сярод старых папер знайшоў свае пераклады вершаў Юрыя Кузняцова. Тэксты аддрукаваны на друкарцы. Значыць, у нас яшчэ камп'ютара дома не было.

*

А ты думкі чужыя казала
І насіла пярсцёнак чужы,
І чужымі агнямі згасала,
І чужой ты шукала душы.

Я прыйшоў — і маімі вачамі
Паглядзіш ты цяпер на сябе,
І заплачаш маімі слязамі…
І спагады не будзе табе.

**Другі**

І месяц і сонца ў нябёсах на дне.
Другі хтось памёр, а хаваюць мяне.
— Скуль дурні бяруцца! Скуль дурні бяруцца!
Сумлення і сэрца няма даўно ў вас…
І чую спакойны суцешны адказ:
— А Там разбяруцца! А Там разбяруцца!

*

Пэўна ніхто з нас не знае
Заўтра як будзем мы жыць?
Восень. Цяпло адлятае.
Сонца амаль не гарыць.

Вёсцы шчэ светла ў бярозах.
Вокны ў нябёсы глядзяць.
Птушка прапала ў нябёсах —
Снежна пярынкі ляцяць.

*

*27.06.2015.* Пісьменніку і літаратуразнаўцу Пятру Васючэнку 15 лютага 2009 года было 50 гадоў. Юбілей святкаваўся 18-га. На ўрачыстасцях выступаў і я. У дадатак да празаічнага віншавання мной было нарыфмавана куча радкоў, якія я і падарыў юбіляру. З таго святочнага дня мінула больш як

шэсць гадоў. Не ведаю ці захаваліся ў Васючэнкі мае вершы, а ў мяне яны яшчэ ёсць. Праўда, сёння я іх ледзь не выкінуў у сметніцу з іншымі старымі паперамі.

## Пытанні і адказы ў гонар Пятра Васючэнкі

*

Чаму Пятро спраўляе юбілей?
Каб наш не вытахся ялей!

*

Навошта створаны Пятро?
Каб пуста не было ў мятро!

*

Навошта піша Васючэнка?
Каб пазайздросціў Федарэнка
І на пытанне: «За што п’е?»,
Адказ пачуў: «За «Нічые»!

*

Нашто Пятро нас крытыкуе?
Бо добрых слоў сам рэдка чуе!

*

Нашто Пятро наш закаханы?
Каб для дзяўчат купляць бананы,
А для жанчын — цюльпаны!

*

Нашто Пятро студэнтаў вучыць?
Каб не маглі другія мучыць!

*

Чаму Пятро не любіць спаць?
Паспаўшы, трэба ж уставаць!

*

Чаму Пятро наш любіць спаць?
Бо ў сне пісакаў не відаць,
Што ля дзвярэй яго стаяць
І хочуць класікамі стаць!

*

Нашто ў Пятра з сабой партфель?
Там, у партфелі, спіць рубель.
А як Пятро рубель дастане,
Прачнецца чарка і каханне!

*

Нашто Пятро складае казкі?
Каб задрамаў наш люд Парнаскі
І на яго адзіны трон
Сеў Васючэнка, як барон!

*

Нашто Пятро п’е ўранку каву?
Каб не праспаць на працы славу!

*

Чаму Пятро не любіць каву?
Таму, што кава не каньяк
І літры два не вып’еш аніяк!

*

Нашто Пятро экзамены прымае?
Бывае й так, што сам не знае,
Бо так ці сяк
Паставіць прыйдзецца траяк!

*

Нашто Пятро нас тут сабраў?
Каб кожны з нас парыфмаваў
І зразумеў, што так, як Пеця,
Больш аніхто не можа ў свеце
На ўсе пытанні адказаць
І «вош» і «грош» зарыфмаваць!

*

*27.06.2015.* У пакой заляцела муха. Цяпер гэта яе пакой…

*

29.06.2015. З купалаўцамі і сябрамі Музея Янкі Купалы хадзіў на Вайсковыя могілкі. Сёння дзень памяці Песняра. Гучалі музыка, вершы і ўдзячныя словы Купалу. Людзі, якія праходзілі побач каля агароджы могілак, прыпыняліся, прыслухоўваліся. Можа, што пачулі і яны.

***Заканчэнне будзе.***





**Мікола ГІЛЬ**

# ДУРНЫ ЯЗЭП

*Апавед-быль з часоў вайны*

* * *

Нехта зморшчыцца: зноў пра вайну?
Гэта ўсім і даўно абрыдла!
Ну колькі можна цягнуць курню?
Як раней, нас лічаць за быдла?

Порсткага крытыка папрашу
Не спяшацца з прысудам, —
Памяць вайны я ў сабе нашу,
І яна не стане аблудам.

Мала было мне гадоў тады,
Ды ўсё ж зразумеў назаўсёды:
Страшнейшае не было бяды,
Не знала жыццё большай псоты!

Побыт вайны — смерць, мукі і кроў,
Сякера бязлітасна секла:
Мільёны воля правадыроў
Заганяла ў геену пекла.

Людзі, аднак, жылі й на вайне, —
Доўжылася ж не дні, а гады.

---

***Гіль Мікола (сапр. Гілевіч Мікалай Сымонавіч)*** *нарадзіўся 15 кастрычніка 1936 года ў вёсцы Слабада Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ (1959). Працаваў у газеце «Рабочае юнацтва», на Мінскай студыі тэлебачання, у газеце «Літаратура і мастацтва» (з 1990-га па 1996-ы — галоўным рэдактарам), у часопісе «Маладосць», у газеце «Культура» і часопісе «Мастацтва» (з 2005-га па 2008-ы — галоўным рэдактарам).*

*Аўтар кніг прозы «Ранішнія сны»(1973), «Тацянін чэрвень» (1978), «Пуд жыта» (1982), «Камандзіроўка ў Вішанькі» (1986), «Тэлеграма з Кавалевіч» (1988), «Бралася на дзень» (1993) і інш.*

Сёння куля цябе абміне —
Франтавую рабі работу:

Чысці, насі, капай, падавай,
Зашывай, падбівай падноскі, —
А як зацішак, то і зайграй,
І песню пусці падгалоскам.

Пад акупацыяй — тры гады! —
І сеялі людзі, і жалі;
Няпроста й выжыць было тады,
А — жаніліся і раджалі.

Стан вайны быў і станам жыцця
У яе трагічных умовах.
Дык мо няма падстаў для ныцця:
Маўляў, зноў пра вайну размова?

Быль, беражэ што памяць мая,
Ёсць вынік вайны безумоўна.
Аднак жа не пра вайну яна —
Пра святое, пра невымоўнае...

Пэўна, задоўжыўся мой уступ, —
Пара і быка браць за рогі.
Пара й Язэпу з’явіцца тут,
Час з ім пазнаёміцца трохі.

Помню яго яшчэ з давайны,
Па апошнім чэрвеньскім леце.
Жылі цераз вуліцу ўсе яны:
Дзядзька, цётка Зося і дзеці.

Я з іхнім Толікам сябраваў,
Мы часта гулялі ў іх разам, —
Дзядзька заўжды й мяне частаваў
Тым, што й сына, — цукеркай, квасам.

Конюхам дзядзька Язэп рабіў,
Любімцам яго быў Буланы,
І нас ён часта катаў-вазіў,
І мы былі рады нязнана!

Дзядзька й запомніўся дабратой,
Ласкавасцю нейкай ціхмянай.
Да былі гэтай, само сабой,
Дачыненне мае й Буланы.

Дзядзька, калі ўступаў у калгас,
Здаў кабылку сваю — Гнядую.
Прынесла яна праз нейкі час
Жарабё — бруюю маладую.

Стала Буланчыкам жарабё, —
Здагадацца, чытач, няцяжка.
Дзядзька ўспрымаў яго як сваё,
Таму і любіў — без нацяжкі.

І пры дзяльбе калгаса ў вайну
Дзядзька Язэп свайго дамогся —
Каб Буланы дастаўся яму;
Ад іншага ж проста адрокся.

Як жа насіўся з Буланым ён!
Так іншы не носіцца з дзецьмі.
Бы верыў у нейкі святы заклён:
З Буланым сям'я долю мецьме!

Як ён любімца аберагаў —
Ад фрыцаў і ад партызанаў!
І тым, і другім не давяраў —
Кругом жыўнасць павыразана!

Ў хляве зрабіў таемны куток,
І ў раўку, між кустоў, меў схову:
Ледзьве што — за каня і наўцёк,
За яго памерці гатовы.

І першыя два гады вайны
Іх Бог ратаваў няйначай,
Мінулі тыя ночы і дні, —
Мо будзе і далей удача?

Ды сорак трэці — трагічны год,
Беларусь тады ўся палала.
Доля — трапіць у кругаварот —
І Язэпа не мінавала.

Тым разам ён кульнуцца ў равок
Не змог — позна згледзелі немцаў,
І прыпусціў Язэп у Барок,
Куды беглі і аднасельцы.

Там усіх немцы і акружы —
І дзяцей, і старых, і сталых.
Пагналі пешшу іх па шашы
Ажно ў Мінск, са страху абвялых.

Чутка выпаўзла цераз канвой —
Іх павязуць у Нямеччыну:
Мужчын — на завод, а хто з сям’ёй —
Парабкамі да памешчыкаў.

Цьмяна ўспрымаў Язэп тое ўсё —
Коніка ў яго адабралі!
Змеркла разам для дзядзькі жыццё:
Быў Буланы з ім, а — не стала!

Вядома, думаў і пра дзяцей,
Пра Зосю — дастанецца, беднай!
Не пеставаў і сабе надзей —
І няўлежна будзе, й няўедна!

Ды стрэў палон свой дзядзька Язэп
З адвечным сялянскім досведам,
На ўсе выпадкі адзін рэцэпт:
Цярпі — ўратуешся Госпадам!

І Язэп, можа б, паспакайнеў,
Не Марыля каб Базылёвых:
Кінула новы ў душу сумнеў, —
Такі, што й не мовіцца ў словах!

Баба прыджгала з дзецьмі ў Барок,
Мужыка пакінуўшы ў хаце.
Цяпер жа розум падказаў крок,
Як з дзецьмі тут ёй ратавацца.

Прапанавала дзядзьку цішком:
— Давай, мы сям’ёй назавёмся?
Разам да немца трапім у дом,
Дык мо выжывем, не загнёмся?

— А дзеці як жа, Зося мая?
Не магу я, Марыля, гэтак!..
— Дык не напраўду ж! Мы як сям’я —
Для немцаў, няма ж у іх сведак!

— Не, Марылька, я так не магу!
Грэшна ж крыўдзіць жонку і дзетак!
Як я Зосі ў вочы пагляджу?
Хіба ж я сабачы паследак?!

— Ці ж я цябе на сабе жаню?
Дурны ты, Язэп, ці хітруеш?
І табе ж будзе лепш, як зманю!
Каго й да каго ты раўнуеш?

Дзядзька Язэп уздыхнуў, сказаў:
— Разумець не хочаш, Марыля!
Я Зосі некалі слова даў:
І ў думках — ні з кім, да магілы...

На тым і скончыўся шэпат іх.
— Дурань ты, табе ж будзе горай, —
Сказала Марыля ужо ўслых.
Дайшло да нас рэха няскора...

Як разышліся тады яны,
Каму выпала што на долю,
Уведалі мы пасля вайны,
Калі вязні прыйшлі з няволі.

Прыйшла й Марыля. Сёй-той — у шок;
Пазайздросцілі ўжо кабеце:
Валакла вандзэлкі і мяшок,
Ва ўсім панскім сама і дзеці!

«Зінгер» быццам прывезла сабе,
Дзецям — торбу з адзеткам розным,
Пярыны нібыта ажно дзве, —
Тады скарб, вядома ж, зайздросны.

Брытву везла свайму Паўлюку, —
Не знала, што лёг пад Берлінам, —
Аддала ягонаму сябруку —
Калі йшчэ спатрэбіцца сыну?!

От Марыля бабам і скажы:
— Дурны быў Язэп! Каб згадзіўся,
Разам бы ў баўэра і жылі,
І дамоў бы, як я, прыбіўся!

Хай бы сказаў ім, што ён мой муж,
Дык жа надта ўжо верны Зосі!
— Ну, не Паўлюк твой, хай быў бы дуж!
Ласы быў, калі дзе маглося!

— Кінь ты дарэмшчыну гаварыць!
Быў ласы і твой на кілбасы!
Зманіў бы Язэп — мог бы і жыць!
А то й Зосі няма папасу!

— А можа, бабачкі, дзе і жывы,
Мо яшчэ, дасць Бог, азавецца.
— Столькі ў свеце лілося крыві,
Што мала надзей застаецца.

— Язэпа папёрлі на завод, —
Марыля нібы ўдакладніла, —
Там мог патрапіць ён пад налёт —
Амерыка моцна бамбіла...

Бабскія показкі тым жа днём,
Вядома ж, дайшлі і да Зосі:
Апякло зноўку сэрца агнём,
Вочы зноў засляпілі слёзы.

«Хай бы прыкінуўся, можа б — жыў!» —
Пагаджалася ўжо з Марыляй.
А ў душы іншы голас тужыў:
«І зманіць не схацеў мой мілы!..»

Быццам зноўку быў побач Язэп,
Быццам  чула яго дыханне!
Толькі зеўраў зусюль чорны склеп —
Сумам вечнага з ім расстання.

Чула сэрцам: з Язэпам бяда —
Яго свет глынуў гэты злосны.
Гнала думку прэч, а нуда
Ела поедам невыносным!

Не хацела мірыцца душа,
Толькі ж розум казаў: змірыся!..
Уздыхала — і зноўку жыла:
Дзецям есці дай — хоць распніся!

Крывінкі ж ейныя і сама
Ніадкуль падмогі не мелі,
І Язэпа ж забрала вайна, —
А — ні пенсіі, ні надзеі!

Гарбела і гнулася ў дугу
На градзе і калгасным полі,
І сказаць некаму  — «Не магу!»,
Хіба толькі гаротнай долі.

Чорт жа тую Марылю прынёс!
«Мне і ў думках Язэп не здрадзіў!»
Растрывожыла згадка да слёз —
Як бы ён памог і парадзіў!

Колькі ночак заснуць не магла —
Ўсё стаяў Язэп прад вачыма!
Учарнела, дарэшты дайшла —
Хоць кладзі ты ў труну жанчыну...

І ўсё лепшым, дабрэйшым Язэп
Зосі бачыўся ў гэтых згадках.
Як наяве яго чула шэпт —
Сарамлівы й пяшчотна-звабкі.

Воблік любага мужа натхняў
І падтрымліваў ў пеклаванні, —
Мо таму стрыжань ейны й не звяў,
Не зламала наканаванне.

Годы, хай у бядоце й журбе,
Усё ж беглі — жыцця не ўнікнуць.
Падымаліся дзеці — сяўбе
Не дала Язэпавай знікнуць.

На сябе ж не зважала ані,
І не думала лёс уладзіць, —
Ёй малітвай было дзень пры дні:
«Мне і ў думках Язэп не здрадзіў!»

Паднялала і пусціла ў свет
Сваю тройцу — дачок і сына.
«От бы рады за іх быў Язэп!» —
Так сябе хваліла жанчына.

Стала ў хаце самотна пустой,
І хоць зваў яе Пётра Радзіч,
Не пайшла — трымаў спомінак той:
«Мне і ў думках Язэп не здрадзіў!»

Так і век свой зжыла — не адна,
А з Язэпам сваім у думках,
І, нібыта, шчаслівай была.., —
Хто аб'я́сніць што ў тых варунках?..

Дзеці слаўнымі сталі людзьмі,
Хоць, папраўдзе, й не знаю блізка, —
Ды знаць досыць учынак адзін,
Каб каму пакланіцца нізка...

Месца ўспомню журботнае тут,
Дзе жыцця раўнуюцца чашы:
Штораз, завітаўшы ў родны кут,
Хаджу і на могілкі нашы.

І запынюся заўсёды там
Ля помніка з надпісам сціплым.
Веру-не веру сваім вачам:
Усё ж дзядзька Язэп — не зніклы!

Дзеці яго вярнулі сюды,
На Бацькаўшчыну — з Нямеччыны, —
Няхай усяго хоць на клады,
Але й гэта — па-чалавечы.

Маці ставячы помнік, яны
Упісалі й бацькава імя.
Мудра мыслілі дзеці вайны:
Бацька іхні не сплыў іх міма!

Ён загінуў, па ўсім, як салдат:
Ад асколкаў бомбы ці кулі,
Ды яго пахавальны нарад
Не паклаў, дзе сябры паснулі.

Ў сэрцы матчыным жыў ён заўжды
І ўрэшце памёр разам з ёю, —
Бы на свае вярнуўся клады
І на захад лёг галавою...

Паліраваны камень блішчыць,
Рэльефна і буйна — тры словы, —
Імёны тых, хто пад ім ляжыць:
«Зося і Язэп Кусянковы».





**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# СЫН

*Апавяданне*

Жанчына пачувала сябе дрэнна, каторую ноч не магла заснуць. Час ад часу яна забывалася, нібы правальвалася ў бездань. Гэтыя правалы-трызненні былі кароткія, як вузенькія высахлыя ручаіны, што можна лёгка пераступіць. Але прыкрыя і жахлівыя. Пасля кожнага такога сну-правалу ёй здавалася, што яна пабывала недзе на нядаўнім пажарышчы. У роце сушыла і гарчыла, як ад палыну, ныла і гарэла душа. Бездапаможная і маўклівая, ляжала яна на спіне і яе, здавалася, не мог вывесці з одуму не толькі голас, нават крык. Клалася жанчына ў бальніцу круглатварая, з ямачкамі на шчаках. Цяпер абліччам стала падобна да муміі, а постаць нагадвала цень. І сама стала бязважкая, як перына. Але жалезная сетка ложка з матрацам (відно, раней на ім ляжала мажная і дзябёлая кабета) прасела і стала падобна да гамака. Матрац шчыльна аблягаў цела з усіх бакоў, і ад гэтага жанчыне было хораша і прыемна. Яна ведала, што ёй зрабілі хірургічную аперацыю. Але ні словам не абмовілася пра яе з ўрачамі, не спытала, як яна прайшла. Рабіла выгляд і паводзіла сябе так, быццам аперацыі не было ўвогуле. Але аднойчы раніцай нечакана прахапілася са сну і не на жарт устрывожылася. Яна адчула, што з ёй адбылося нешта і, як быццам чагосьці не хапае. Выцягнула перад сабой рукі — цэлыя! Варухнула правай нагой — кратаецца пад коўдрай. Божа, а дзе ж левая? Адкінула коўдру — замест нагі — кукса, старанна абматаная бінтамі. Разбушавалася жанчына на ложку, і прасціны, падушку і ручнік, быццам гурбу снегу ўзняў віхор і раскідаў навокал, села на ложку, няўцямна пазіраючы на кабет-аднапалатніц, быццам просячы дапамагчы. У наступнае імгненне, зарыўшыся тварам у падушку, ускінула на галаву рукі, каб загаласіць, дый голасу няма. Слёзы таксама, быццам высахлі ці кудысьці падзеліся. А ў грудзях заныла так балюча, нібы хтосьці конаўку кіпетню лінуў. Тым

***Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч*** *нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1964). Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Ліставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989), «Квадратура круга» (2000), «Неба ў руках» (2012) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2013).*

часам у палату ўвайшла маладзенькая медсястра. На твары жанчыны было столькі болю і жаху, што медычка спалохалася. Але, відаць, прывыкла да розных здарэнняў і праяў, асцярожна, нават з нейкай бояззю, прысела на край ложка, абняла галаву жанчыны, прытуліла да свайго халаціка, каб супакоіць. Яна і паклікала ўрача.

Ён увайшоў у палату ўпэўненай хадой, як чалавек, які загадзя ведае, што трэба рабіць і як сябе паводзіць з хворымі. Быў ён невысокага росту, меў шырачэзныя плечы, пудовыя кулакі, якіх, здаецца, саромеўся і хаваў у доўгіх рукавах халата. А калі сеў на табурэт, і ён жалосна заныў-заскрыпеў пад ім, жанчыне здалося, што ўрач падобны да барадатага чалавека, бюст якога стаяў у куце іх калгаснай канторы, глядзеў на ўсіх строга і патрабавальна. Праўда, ва ўрача твар быў спакойны і, здаецца, добразычлівы. Але хто ведае, што хаваецца за добразычлівасцю. Можа, ён накінецца на яе з папрокамі і лаянкай, як гэта рабіў калгасны брыгадзір, калі што-небудзь выходзіла не па яго. Жанчына ўжо не рада была, што з-за яе ўсчалася такая мітрэнга.

— Што здарылася, даражэнькая? — доктар паправіў рукой коўдру, падцягнуў яе да падбародка і ўсміхнуўся. Голас яго быў спакойны і прыязны. Але жанчыне здавалася, што зараз ён загрыміць як гром. А што ёй у такім разе рабіць? Там, у вёсцы, яна бегла да хаты, даставала з-пад падлогі пляшку і несла брыгадзіру, які рабіўся адразу добрым і настолькі лагодным, хоць яго бяры і да раны прыкладай. А як быць тут, у гарадской бальніцы, сярод людзей вучоных і дасведчаных ва ўсім, як і гэты доктар? Разгубленая, яна не ведала, што і сказаць. Нага, з-за якой перапалохалася сама і патрывожыла дактароў, цяпер ужо здавалася справай дробязнай і не вартай увагі, што наўрад ці трэба было турбаваць каго-небудзь, тым больш галоўнага ўрача.

— Ды во гэта самае, — жанчына замыляла губамі і, не бачачы нічога перад сабой з-за слёз, паказала рукой на куксу. — Як жа цяпер? Мне ж трэба і грады ўскапаць, і бульбачку пасадзіць, а там і радоўка з кароўкамі падыдзе.

Доктар заварушыўся, міжволі крануў рукой стэтаскоп, які ён пастаянна насіў перад сабой на грудзях. А ўслед за гэтым зрабіў рух і жэст, быццам збіраўся паслухаць грудную клетку жанчыны. Але замест гэтага дастаў з кішэні насоўку і старанна працёр шкельцы акуляраў. Рабіў ён гэта без мітусні, спакойна і разважліва. Жанчына падумала, калі б з ёй здарылася што-небудзь кепскае, ён не сядзеў бы вось так, як у гасцях за сталом, чакаючы, калі нальюць з каптуром чарку.

— Ну вы гэта дарэмна, — усміхнуўся ён і ўзяў яе ссохлую касцістую руку ў сваю, мяккую інтэлегентную, зверху паклаў другую, выпешчаную і дагледжаную, не раўнуючы, як паненку. З жанчынай гаварылі многія, нават раённыя начальнікі, калі прыязджалі ў вёску і ўгаворвалі падпісацца на аблігацыі, але ніхто ніколі не браў яе руку ў свае далоні, ад дотыку якіх яна адчувала сябе тут, у палаце, як дзіця, і гатова была расчуліцца і нават расплакацца. — Вы ж не малое дзіця. І ведаеце, што без хірургічнай аперацыі ну ніяк нельга было, — урач махнуў у жанчыны перад носам рукой, нібы нешта адсякаў не толькі лішняе, але і небяспечнае. — Вось мы і зрабілі яе. А пасля аперацыі кожны пацыент пачувае сябе, паверце мне, не вельмі камфортна. А праходзіць пэўны час, людзі прывыкаюць і жывуць, як нічога і не здарылася.

Урач гаварыў роўным спакойным голасам, быццам пра нешта звычайнае і будзённае, як часам сусед пра тое, што з яе даху вецер сарваў дзве дошкі і яму трэба ўзяць лесвіцу і злазіць наверх, каб на іх месца прыбіць новыя.

Пры гэтым ён хітравата пазіраў на яе і намякаў на пачастунак і не абыякі, а з гэтай самай, у белым фартушку, бо сухую глотку і смакоцце дзярэ.

У гаворцы доктара была здаровая развага і павага да яе. Нездарма ён сказаў нейкае надта мудрае і вучонае слова, якога яна не зразумела, але, відаць было, не менш, гаючае, як лякарства. І самае галоўнае, у гаворцы ўрача была ўпэненасць, што справы ў жанчыны ідуць на лад, як і павінны ісці. І яе праз тыдзень можна будзе выпісаць з бальніцы.

— Можа, яно і так, — пасмялела жанчына. Ёй не хацелася, каб доктар пакрыўдзіўся на яе ці падумаў, што яна звяглівая, з характарам калючым, як тарка. Але адно думала, а гаварыла іншае: — Ой Божачка, як жа мне ў сяле на людзі паказацца будзе?

Доктар добра ведаў, што пасля хірургічнай аперацыі ёй ужо не трэба турбавацца пра тое, як паказацца на людзях. А тым больш пра грады і бульбу. Але хіба ён мог сказаць праўду гэтай простай сельскай шчырунні-працаўніцы, што змалку білася як рыба аб лёд, каб неяк перакідацца дзень, а за ім другі, жыць тым жыццём, якім жылі ў сяле. І ён роблена-весела зірнуў жанчыне ў вочы, скупа ўсміхнуўся. Хаця ўсмешка выйшла трошкі штучнай і ніякаватай, доктар услед за гэтым, нібы запрашаючы ў сведкі, акінуў хуткім позіркам жанчын, што моўчкі ляжалі ў палаце, сказаў гучна, нібы выгукнуў:

— Вы яшчэ горы можаце перавярнуць. А расхваляваліся. Вунь інваліды з калясак не злазяць, і нічога сабе, жывуць. А вы? Будуць у вас і грады, і бульба! Танцаваць яшчэ навучыцеся! Вось пабачыце!

Пасля размовы з доктарам да жанчыны на нейкі час прыйшла палёгка.

Яна ляжала і глядзела прама перад сабой у столь і ні аб чым не думала. Можа, ад таго, што яна глядзела ў адну кропку і падоўгу, у тым месцы пачынала кружыцца нейкае колца. Яно кружылася настолькі ціха, павольна і раўнамерна, што на душы рабілася хораша і спакойна. Але час ад часу колца, здаецца, спатыкалася аб нейкую перашкоду, збівалася з прывычнага ходу і, тузаючыся, мільгала, стракацела перад вачамі, як пража з разбэрсанага клубка нітак. Тады ёй рабілася кепска і хацелася заснуць. Але здаровы і гаючы сон чамусьці не прыходзіў. Праўда, былі хвіліны забыцця ці то дзіўнага трызнення. Ёй у каторы раз бачылася адно і тое: зіма, белая, як рысавая папера, снег. Маладзенькі пеўнік, што невядома як ацалеў сярод ваеннай калатнечы і не папаў у рукі нямецкіх ваяк і абаронцаў «новага ладу» паліцыянтаў, зляцеўшы з куросання, дзеўбануў снег, узняў угору дзюбу, нібы спрабаваў яго на смак, каб праглынуць і ўтаймаваць голад, — гаспадыня даўно не сыпала яму ў начовачкі ні зернетка. Але, відно, тое каліва снегу перасела ў глотцы, зацяло дыханне і замест «кукарэку», выйшла нешта такое, ад чаго пеўніку стала не па сабе, ён незадаволена тропнуў крылом і падаўся пад паветку, дзе было больш зацішна і спакойна. Пеўнік паводзіў сябе так фацэтна і дзіўна, што дзяўчына, якая несла з-пад паветкі бярэмя дроў, каб затапіць у печы і зварыць у чыгуне бульбы, на нейкі час настолькі загледзелася на яго, што толькі ў апошняе імгненне заўважыла, як у расчыненых напята веснічках мітнулася чалавечая постаць і на падворак узбегла задыханая жанчына, відаць, нетутэйшая, мяркуючы па вопратцы, гарадская ці мястэчковая. Была яна чарнявая, гарбаносая і ў хусціне, што з’ехала набок. На руках трымала малое дзіця. Рот яе быў шырока раскрыты, яна часта і захапкана дыхала. Дзяўчына здагадалася, што жанчына ўцякала. За ёй гналіся паліцыянты, гоцаючы каванымі падэшвамі ботаў па ўезджанай і выветранай сіверам вуліцы. «Стой, такую-растакую! — роў, выбягаючы з-за вугла хаты, тоўсты прысадзісты бобік, са слінай на падбародку. — Тваё месца ў зямлі, хопіць паганіць гэты свет!» Ён спыніўся перад падворкам, бухнуў угору з вінтоўкі, відно, быў упэўнены, што адсюль, як з пасткі, жанчыне жывой ужо не выбрацца. «Вазьмі сынка, зберажы яго!» — белымі,

памярцвелымі ад страху і марозу, губамі прашаптала бяглянка і саўганула ў рукі дзяўчыны дзіця. Дзяўчына была настолькі разгублена і збянтэжана, што не адступіла назад, не схавала рукі за спіну, як гэта рабіла раней. Азірнуўшыся вакол, міжволі падхапіла дзіця, у якіх толькі што несла бярэмя дроў і бегма кінулася ў хату. За яе спінай, цяжка сапучы і задыхаючыся, працопалі паліцыянты. Яны беглі ў бок гарода, які распрасціраўся за плотам. Паліцаі, пэўна, добра падпілі, ногі іх не слухаліся, раз'язджаліся і коўзаліся па перапаленым марозам і сыпкім, як прысак, снезе. Пярэдні паліцай трапіў нагой на лёд, што быў засланы парошай, і з разбегу бразнуўся долу. Ён, відаць, расквасіў нюхаўку аб падмерзлы скавыш, доўга падымаўся, абапіраючыся на вінтоўку, брудна лаячыся і мацюкаючы бяглянку. А прысадзісты і тоўсты, не цэлячыся, на хаду раз-пораз бабахаў, пасылаў кулі хутчэй у белы свет, чым ва ўцякачку. За гародам пачынаўся густы хмызняк, і жанчына, дабегшы да яго, як у ваду канула. Галасы, крыкі са стралянінай аддаляліся ад падворка, пакуль не заціхлі зусім, як усё роўна праз зямлю праваліліся.

Дзяўчына была маладая, ёй не стукнула і дваццаці. Але, як і ўсе вясковыя рупліўкі, умела рабіць усё, што трэба было рабіць у хаце і па гаспадарцы. Дзяўчына магла сесці за кросны, заснаваныя маці, узяць у рукі чаўнок і бёрда і ткаць палатно. Улетку зграбала на пожні сена, складвала ў копы і падносіла з сяброўкамі на жэрдках да стога, што вялі ўгору дзецюкі. За якую б справу ні бралася, яна проста гарэла ў яе руках. Не разгубілася дзяўчына, калі чужое дзіцянё апынулася ў яе на руках. Увайшоўшы ў хату, яна пачала хадзіць з ім ад ложка да парога, калышачы і пагойдваючы, каб яно не расплакалася. Дзяўчына яшчэ як след не ўцяміла, што адбылося і як будзе далей. Яна зрабіла тое, што не раз рабіла і раней, яшчэ да вайны, калі, седзячы на лаўцы ці прызбе, якая-небудзь маладуха перадавала немаўлятка, каб патрымала на руках, пакуль турне з гародчыка курэй, што дралі грады, ці выганіць з двара кароўку і далучыць да статка, які гнаў на пашу пастух. Дзяўчына ахвотна трымала дзіця, адчуваючы яго пруткае і важкае цельца. Часам хто-небудзь са старэйшых жанчын заўважаў: «Прывыкай, хутка будзеш мець сваіх дзетак, не адзін ухажор недзе ладзіцца пасылаць сватоў». Ад гэтых слоў шчокі дзяўчыны ружавелі і сэрца абмывала цёплая хваля нейкага нязведанага і таямнічага пачуцця. Яна нават не заўважала, як маці дзіцяці, управіўшыся з клопатам, брала яго на свае рукі, ледзь не калоцячыся, — ці не здарылася з ім штонебудзь? Дзяўчына і цяпер спадзявалася, што праз хвіліну-другую рыпнуць дзверы і чарнявая жанчына-бяглянка ступіць цераз парог. Па сваёй маладосці і нявопытнасці яна не разумела, што ў вайны свае законы і правілы і робяць з чалавекам часамі такое, што цяжка паверыць.

Нешта падобнае адбывалася і цяпер. Кароткі зімні дзень ішоў на спад, канаў. Не паспела дзяўчына спахапіцца, ачомацца як пачало змяркацца. За акном сцямнела, закруціла, заскуголіла мяцеліца, стала біць халодным і марозным крыллем у вокны. А на тое, каб вярнулася жанчына і забрала дзіця, не паказвала. Калі б не ноч, магчыма, дзяўчына выправілася б у хмызы, дзе знікла бяглянка, каб па слядах адшукаць яе. Але за вокнамі і па наваколлі разлілася і сцяной стаяла цемрадзь. Заставалася спадзявацца на цуд. Магчыма, жанчына тоіцца дзе-небудзь паблізу, але баіцца вяртацца ў вёску, — паліцаі маглі пакінуць засаду, каб падпільнаваць яе і схапіць. Гэта меркаванне крыху супакоіла і ўсцешыла дзяўчыну. Але ненадоўга. Дзіця, якое да гэтага часу маўчала, пачало падаваць голас. Па ўсім было відаць, хацела есці. А што яна магла даць яму? Апрача бульбы ды кавалачка сала, што берагла і ашчадна спажывала сама, у яе нічога не было. Праўда, недзе ў судніку ляжала морквіна, на

якую натрапіла выпадкова,ператрасаючы харчовыя запасы. Дзяўчына знайшла яе на тым самым месцы, пацёрла на тарцы, куламесу загарнула ў марлю і дала гэта сусла дзіцяці. Яно зацмокала губамі і супакоілася. Відаць, перацёртая морквіна прыйшлася да смаку. Сама дзяўчына прытулілася плячамі да печы, якая трымала яшчэ цеплыню, стала грэцца. Толькі цяпер яна пачала ўсведамляць, які клопат абрынуўся на яе галаву. Дагэтуль яна неяк кідалася сярод ваеннай калатнечы, хапалася часам за саломінку, каб выжыць. А тут на табе, быццам гурба снегу гахнула зверху на галаву, як гэта бывае зімой у лесе. Дык там варта варухнуць плячамі, атрэсціся і ўся мітрэнга! А тут?

Жанчына ачуньвае і не ведае, спала яна ці трызніла. Побач гавораць дзве суседкі. Абое глухаватыя, звесіўшыся з ложкаў, яны галёкаюць, крычаць, бліжэй падносячы адна да адной вуха. «Калі выходзіла замуж, бацька адшчодрыў у пасаг цялушку і дзве авечкі. Падушкі я сама насыпала гусіным пер’ем. Спалі з Мітрафанам, як на воблаку, у раі», — хвалілася старая, якую ўчора ці заўчора прывезлі з рэанімацыі. «Малачу гэта я снапы на таку, а тут скрыпнулі вароты і — шасць! — мой Змітрок заходзіць, з вайны прыйшоў. А я, дурніца, замест таго, каб на шыю кінуцца ад радасці, абамлела, апусцілася на снапы ды як зараву, як заплачу… Людзі збегліся…» — спавядаецца другая ды выцірае ражком хусткі вочы.

Галасы чуваць гучна і выразна. Дзверы ў палату адчынены, днём стаіць такая духата, што, здаецца, неба і зямля дзесь гараць, а птушкі, як печаныя яблыкі, сыпяцца з галля каштанаў, што запрудзілі бальнічны двор. У палату зазіраюць хворыя, што ходзяць па калідоры, адлежаўшы бакі. Для іх цікава, хто так расказвае пра сябе дзівосныя гісторыі, якія не вычытаеш нават у самых тоўстых кніжках. Пабачыўшы дзвюх бабуль, яны паблажліва пасміхаюцца (дзве бабулі без зубоў гаварылі пра любоў!) і адыходзяць ад дзвярэй. Кожнаму баліць і помніцца сваё, кожны думае па-свойму і бачыць яго так, як хочацца. І жанчына заплюшчвае вочы, галасы цішэюць, глухнуць і нарэшце іх не чутно зусім. Яна бачыць сябе ў вагоне-цялятніку. У ім столькі людзей, што няма як павярнуцца, не тое, каб прысесці. Усе стаяць упрытык адзін да аднаго, нібы прыклееныя. Калі б яна была адна і сама па сабе, то куды б яшчэ не йшло. Але ў яе на руках дзіця. Маці-бяглянка не прыйшла па яго ні ў тую ноч, ні назаўтра. Нешта з ёй здарылася. Не магла яна проста так кінуць роднае дзіця. Можа, яе ўсё-такі падстрэлілі паліцаі? Трэба было неяк пахадзіць па хмызняках. Але ісці за вёску было страшнавата. Небяспека падпільноўвала з двух бакоў. Партызаны маглі западозрыць, што яна шукае месца іх стаянкі, каб выдаць «бобікам». А «бобікі» ў сваю чаргу маглі падумаць, што яна сувязная і ідзе на сустрэчу з партызанамі. Пошукі маці-бяглянкі маглі дрэнна скончыцца для дзяўчыны. Але трэба было рызыкаваць і яна крадком уплішчылася ў хмязняк, пачала шныпарыць па ім, спадзеючыся натрапіць хоць на якія-небудзь сляды. Вакол стаяла і звінела на ветры абледзянелае пасля адлігі кустоўе, круціла і мяла пароша. Валялася пута, якое з голаду праглынуў воўк, а пасля выкінуў яго, зморшчанае і бясколернае, быццам яно пабыло ў кіпетні. Ні з чым дзяўчына вярнулася з пошукаў, села на зэдлік, абхапіла галаву рукамі і, стомленая, заснула. Разбудзіў яе стук у дзверы, яны, здаецца, хадзілі ходуном, трашчалі пад напорам нейчых рук і плячэй. «Адчыняй, партызанская лярва!» — раўлі за дзвярымі паліцаі. Дзверы не вытрымалі, саскочылі з крукоў і паляцелі ўбок. «Бобікі» воўчай зграяй уварваліся ў хату, кінуліся да калыскі, у якой ляжала дзіця. Нехта з вяскоўцаў не ўтрымаўся і падказаў паліцаям, што ў іх вёсцы жыве малое яўрэйскае дзіця. Дзяўчыну схапілі, павезлі ў гарнізон і доўга дапытвалі, як у яе хаце апынуўся гэты вылюдак? Можа, яна сама

нейкім чынам з гэтага кодла? Выклікалі з вёскі старасту Гарвася з грыжай, каб ён пацвердзіў, хто яна і кім былі яе бацькі. Гарвась з грыжай не заступаўся, але, відно, закінуўшы за каўнер у сваяка, што жыў у гарнізоне і жыў няблага, перад камендантам паводзіў сябе смела і сказаў, што яна такая ж яўрэйка, як ён француз. Не ўратавала б яе і гэта сведчанне, калі б нейкім чынам не ўзялася сярод ночы полымем турма і не згарэла некалькі немцаў. Пачалося расследаванне, па якой прычыне адбыўся пажар? Настолькі гэта камусьці падпірала пад рэбры, што ад арыштаваных вырашылі як хутчэй пазбавіцца. Адных адправілі ў траншэю, месца расстрэлу, іншых спешна пагрузілі ў вагоны і павезлі ў Нямеччыну. Сярод іх была і яна, дзяўчына з дзіцяткам на руках…

Жанчына расплюшчвае павекі з такім высілкам, нібы яны сшытыя. Яе даймае смага, ёй хочацца піць. Навобмацак знаходзіць на тумбачцы графін з вадой, падносіць да ссохлых вуснаў. Але не п’е, а толькі мочыць іх. Ёй хапае і гэтага. Яна цяжка дыхае, магчыма, так, як дыхала ў нямецкім вагоне, у якім прывезлі яе з дзіцем у хвалёную Германію. Пра тое, што гэта канечная станцыя, можна было здагадацца па буханні і шорганні каваных ботаў, брэху аўчарак і рэзкіх адрывістых загадах, што чуліся за сценкамі вагона. Нарэшце цяжкія крыгі дзвярэй з іржавым віскам разышліся ўбакі, свежае паветра хлынула, уварвалася ў смуродны вагон. У дзяўчыны закружылася галава, яе, амаль непрытомную, падхапіла людская хваля і вынесла з вагона. Ступіўшы на цвёрды асфальт, яна пахваліла сябе, што здагадалася перад гэтым перакінуць сабе цераз шыю пасцілку з завязанымі рагамі, у якой цяпер драмаў яе сын, і яна была ўпэўнена, што не згубіць яго ў людской куламесе. Пад’язджаючы да станцыі, дзяўчына адшукала выпадкова ў кішэні свайго пінжака зярняты, што, відаць, зберагліся з таго часу, калі яна малаціла калгаснае збожжа, пажавала іх і дала хлопчыку сусла, якое ён цяпер і смактаў. Арыштантаў паставілі ў калону і пад канвоем, з аўчаркамі на павадку павялі ў густую, як каламазь, цемрадзь, дзе страхавітай аграмадзінай высілася нейкая забудова. Дзяўчына ледзь перастаўляла ногі і яе вялі пад рукі дзве кабеты, твары якіх яна не магла разгледзець у цемені. Час ад часу яны дакраналіся да хлопчыка, каб, не дай бог, ён не задыхнуўся ў цеснай пасцілцы. Па калоне папаўзла чутка, што вядуць іх у лазню, дзе яны павінны прайсці дэзынфекцыю, а адтуль адправяць у баракі. На самай справе іх вялі ў газавую камеру, што паглынала людзей, пакідаючы ад іх попел і чорны тлусты дым, што з высокіх труб вывяргаўся ў неба. Дзяўчына ні жывая ні мёртвая ішла да нямой зеўры, за якой варушыліся, калыхаліся цені і стаяў гул. Яна не адчувала страху. Яна потым дзівілася, што нават не падумала пра сына, які, канечне, не ведаў, што адбываецца, дзе ён знаходзіцца і чым можа скончыцца гэта дарога і жыццё. І прыйшла да высновы, што была з ім як адно нешта цэлае, падобнае на спарыш. Да газавай камеры заставаліся лічаныя крокі, як нечакана, нібы з-пад зямлі вымкнула легкавушка, з яе вылез нейкі чын і падаў знак канвойным. Яны ўмомант спынілі калону, палапаталі паміж сабой і пагналі людзей у бок баракаў. Рэйху патрэбна была рабочая сіла.

Сёння свята. Летні Спас. У палаце пахне яблыкамі, грушамі і ўсякай іншай садавінай. Жанчына глядзіць навокал сябе, палата выглядае таксама пасвяточнаму. Старая, якой бацька калісьці даў у пасаг цялушку і авечку, склала на грудзях набожна рукі і моліцца, павярнуўшыся ў бок Нямігі (вокны бальнічнай палаты, у якой яны ляжаць, якраз выходзяць на гэту сталічную вуліцу), дзе стаіць сабор і цяпер, відаць, ідзе богаслужэнне. Моліцца і старая, ціха і неўпрыкметку, каб не замінаць нікому. «Божа, есі на небясі…» — шэпча яна губамі васковага колеру і ўслед за гэтым часта і хутка хрысціцца. Рука старой

лятае, як ластаўка перад навальніцай. Скончыўшы малітву, яна нашчыцца яблыкам, з храбусценнем кусае яго, есць яго са смакам. Жанчына дзіваіцца, якія здаровыя і моцныя ў старой зубы. А старая частуе яблыкам і суседак. Ніхто не адмаўляецца. Жанчына таксама кладзе ў рот скрылік спасаўкі. Але не адчувае смаку. Ах, калі б гэты яблык яна знайшла нейкім чынам там, у канцлагеры, яна б лічыла сябе самым шчаслівым чалавекам на свеце. Як яна выжыла з хлопчыкам, адзін Бог ведае. Капалася ў памыйнай яміне, куды выкідвалі аб'едкі з нямецкай харчэўні, дзе ад'ядаліся афіцэрскія чыны. Але наўрад ці выратавалі б іх аб'едкі і агрызкі, калі б не пажылы немец, што прыязджаў на павозцы па смецце. Ён, здаецца, нічога не чуў і не бачыў вакол сябе, глядзеў у дол ці сабе пад ногі, быццам зрабіў нечуванае злачынства і яму сорамна было падняць вочы, каб не сустрэцца з чужым позіркам. Але неяк глянуў на хлопчыка пукатымі і круглымі, як талеркі, вачамі і заплюшчыў іх. Ці не трызніцца, ці не блюзнерыцца яму? Дастаў з футляра акуляры, пачапіў на нос і пачаў пільна ўглядацца ў твар хлопчыка. Нечакана падышоў да яго і, азірнуўшыся вакол, каб ніхто не бачыў, узяў на рукі і падкінуў угору. Дзяўчына-паланянка нічога не разумела. Глядзела на немца і чакала, чым скончыцца ягоная гульня-забава з яе сынам. Яна, канечне, не ведала, што ён быў наўдзіў падобны да ўнука гэтага немца, якога не стала падчас аднаго з налётаў англійскіх бамбардзіроўшчыкаў. Як толькі немец першы раз зірнуў на хлопчыка, ён ажно скалануўся душой. І ледзь не перахрысціўся. Няўжо ў жыцці могуць быць такія выпадкі, каб дзеці былі падобны адзін да аднаго, як дзве кроплі вады? А можа, гэта сапраўды яго ўнук? Аднаго не мог зразумець немец, як яго ўнук апынуўся тут, у канцлагеры, са знямоглай і змарнелай дзяўчынай, што ходзіць, ледзь перастаўляючы ногі? Стары не быў ні фанатыкам, ні містыкам, але мільганула думка, што ўсё-такі недзе ёсць Бог і ён зрабіў для яго, простага немца, у якога вайна адабрала самае дарагое, што ён меў у апошнія гады свайго жыцця, унука, неверагоднае і дзіўнае: паўтарыў родныя рысы ў іншым хлопчыку і даў яму магчымасць сустрэцца з ім. Дык хіба ён застанецца абыякавым да яго, хоць ён фактычна чужы і знаходзіцца за калючым дротам? Але хіба яго віна, што ён трапіў у гэта пекла? Хіба ён мог прынесці хоць малую шкоду для рэйха? Стары немец паставіў хлопчыка на зямлю і, калі ад'язджаў, не забыўся азірнуцца, глянуць на яго. На наступны дзень немец адшукаў яго ля той самай ямы. Немец палюбіў хлопчыка, прыгарнуўся да яго сэрцам і душой. І не мог змірыцца з тым, што ён галадаў і карміўся з маці агрызкамі са сметнішча. Кожны дзень ён прывозіў за пазухай старанна загорнутую ў газету лустачку хлеба, акрайчык шпінату, пару вараных бульбін і яшчэ тое-сёе. Азіраючыся па баках, каб, крый божа, не пабачылі ахоўнікі, ён соўгаў іх у рукі жанчыне ці пакідаў ва ўмоўленым месцы каля сметніцы.

Вось так і перабівалася яна з дзіцем з дня на дзень. Тлела, куродыміла іх жыццё, як сырая чадная галавешка, вісела на валаску, пакуль не загрымелі танкі і не прыйшло вызваленне. Расчыніліся, як з пекла, жалезныя вароты. Маладзенькі, але ўжо з вусамі танкіст, нешта крычаў, седзячы на гарматным ствале, паказваючы рукой на хлопчыка. Можа, дзівіўся, адкуль ён узяўся ў смяротнай пастцы канцлагера. Дзяўчына нічога не чула, ёй было не да чужых слоў, хоць і байца, што прывёз на танку ёй і яе сыну волю. Як і ўсіх былых нявольніц, яе пасадзілі з хлопчыкам у вагон і павезлі дамоў.

Цягнік, здаецца, ляцеў з ветрам наперагонкі. Наўзбоч мільгалі абгарэлыя будыніны, стаялі разварочаныя танкі, падбітыя гарматы і грузавікі, валялася рознае іншае ваеннае ламачча. Злезла яна з цягніка перад світаннем на патрэбнай станцыі. Да вёскі было недзе больш за трыццаць вёрст. Узяла за руку

хлопчыка, і пусціліся яны ўдваіх у дарогу. На абочынах зелянела трава, блішчэла раса, стракаталі конікі і стракозы. У кустоўі і на дрэвах ціўкалі сініцы. Сустрэлася рачулка. Яны перайшлі яе па хісткім мастку, прыпыніліся. Непадалёк цурчэў, упадаючы ў раку, ручаёк. Вада ў ім празрыстая і халодная да ламаты ў зубах. Яны не толькі напіліся, але і апаласнулі твары. Цераз масток прагрукала фурманка, ехала паштарка, везла пошту. Спытаўшы, адкуль яны і куды дабіраюцца, ветлівая і вясёлая кабета пасадзіла іх на драбіны, крутанула над конікам пугай і ён перайшоў на трух. Хата, дзякуй богу, ацалела, стаяла на тым самым месцы. Дзяўчыне пашанцавала, не кранулі яе хаты, калі непадалёку ладзілі цераз раку пераправу. Сцены суседніх хат ляжалі ў рацэ, імі масцілі пераправу перад наступленнем, — не было часу пялегаваць бярвенне з-за кіламетровай далечы, дзе высіўся лес. Цяпер бёрны выцягвалі з ракі. Ішло аднаўленне, людзі пачыналі мірнае жыццё. Уцягвалася ў яго вір і дзяўчына. Думала, што самае кепскае засталося за спінай. Хлопчык называў яе мамай, не адыходзіў ад яе ні на крок, заліваўся смехам. Гэта цешыла душу і сэрца. Але часам нядоўгай бывае чалавечая радасць. Прыходзіць канец і ёй. Перад гэтым была страшэнная бура-навальніца, ішоў, хвастаў, цёк струменямі такі дождж, што цэлыя патокі вады імчалі па вёсцы, падмываючы валуны і агаляючы карэнні дрэў, якія гатовы былі паваліцца долу. Пярун страляў над самай галавой, і дзяўчына ксцілася, прасіла Бога адвесці бяду ад яе хаты, што трэслася і калацілася, як у ліхаманцы. Навальніца спынілася гэтак нечакана, як і пачалася. Але нейкая незразумелая трывога пасялілася ў душы дзяўчыны, тузала і грызла яе, не давала спакою. Навальніца была прадвесцем нейкай бяды і небяспекі. Як з-пад зямлі, вынырнула, з’явілася на другі ці трэці дзень, пад вечар, чарнявая жанчына з гарбінкай на носе, асцярожна, нібы крадучыся, увайшла ў хату і проста з парога кінулася да хлопчыка, які валаводзіўся з самакатам. «Родны мой сынок, як збалелася маё сэрца па табе! Дзякуй богу, што жывы застаўся. Зараз я забяру цябе і мы паедзем дамоў, у горад!» Спалохаўся хлопчык чужой і незнаёмай жанчыны, кінуўся да сваёй мамы, абшчаперыў за шыю, туліцца, баіцца глянуць на чарнявую і незнаёмую жанчыну, што называе яго сынком. А гаспадыня хаты таксама разгубілася, не ведае, як быць і што рабіць. Хіба хоць раз калі-небудзь магла падумаць ці ўявіць, што можа вось такое, нечаканае-негаданае, адбыцца ў яе жыцці? Выхапіла яна сынка з рук чарнявай жанчыны, якая адразу стала для яе варожай і ненавіснай, горне, туліць яго да сябе, моцна трымае, — ніякі асілак не можа справіцца з ёй. І са страхам і варожасцю пазірае на прышлую. Дзе была ўсе гэтыя гады, пакуль яна з хлопчыкам пакутавала ў канцлагеры, што рабіла? Ці зазірнула хоць раз у вёску, ці спытала пра яго ў каго-небудзь? Можа, сядзела на сытых харчах ды дрыхла днямі на пярыне, забыўшыся пра сына. Нарэшце аглуздалася. Уварвалася ў хату і, не пытаючыся ні пра што, адразу загаласіла: паедзем, сынок, у горад! «Гэта мой сын, а не твой, — сказала гаспадыня хаты і рашуча ступіла наперад. — Я з ім вайну прайшла, тры гады ў канцлагеры была, зведала смяротнае дыханне крэматорыя. Не аддам яго табе. І не спадзявайся!» Чакала, што чарнявая жанчына адразу абвяне, аціхне, пачне апраўдвацца, чаму ні ў той далёкі дзень, ні пасля, не вярнулася ў вёску і не забрала сваё дзіцятка, родную крывінку. А яна, здаецца, не помніла, дзе знаходзіцца і што робіць. Але ў наступнае імгненне, як стаяла, так і кінулася перад дзяўчынай на калені: «Родненькая, даржэнькая, аддай, вярні мне сына. Я ж нарадзіла яго. Праз усю вайну сохла па ім. Колькі гора і бедаў выцерпела. Што хочаш аддам за яго. Жыцця не пашкадую. На, вазьмі яго, жыццё маё. Вунь нож ляжыць на стале, разані ім мне па глотцы. Без яго мне ўсё адно жыцця не будзе. Клянуся табе.

Дай ногі твае пацалую». Стаіць на каленях, слёзы ручаямі цякуць і плывуць з вачэй. Маўчыць гаспадыня, названая маці хлопчыка, нібы каменнай стала. Не можа скрануцца з месца, не можа варухнуць ні рукой, ні нагой. А хлопчык усё шчыльней і мацней туліцца да яе, са страхам пазірае на чарнявую жанчыну, як на Бабу Ягу, што прыляцела на ступе і хоча забраць яго з сабой. «Не трэба мне таё цалаванне», — адчуваючы жалоснасць да прышлай і, каб не паддацца слабасці, знарок груба і рэзка секанула яна, гэтым самым упэўніваючы сябе, што не трэба не толькі ґаварыць, але і слухаць, хоць і родную, але на справе маці-здрадніцу. Сапраўдная матуля вырвалася б нават з жалезнай клеткі і прыйшла б, прыбегла да сынка ў тыя сцюдзёныя зімовыя дні, каб узяць яго на рукі, быць з ім разам. Гаспадыня хаты нават адвярнулася, стала да яе спінай. Пабачыла чарнявая, што нічога не выходзіць, паднялася на ногі і, хапаючыся рукамі за сцены, нямогла не выйшла, а выпаўзла з хаты.

Тры дні і тры ночы яна ходзіць вакол хаты і падворка расхрыстаная, патлатая, паўтараючы адно і тое: «Родненькая, любенькая, вярні маё дзіцятка. Век буду Богу маліцца за цябе». Стане на калені перад вокнамі, складзе крыжам рукі на грудзях, кланяецца перад гаспадыняй хаты, ледзь ілбом зямлі не дастае. Пастаіць, можа, з паўгадзіны ды зноў кружыць, як прывязаная, вакол хаты, малітву шэпча, а пра што яна, малітва, не чутно, бо голас згубіла. Не есць і не п’е. Чорней за галаўню стала з твару. Магчыма, ужо не помніць, што і робіць. Адно бачна, не адступіцца ад свайго намеру забраць хлопчыка, хоць грамы грымелі б і білі ў цемя ці дажджы ліліся б, як з цэбара. Здрыганулася нешта ў грудзях дзяўчыны, названай маці, быццам абарвалася і заныла балюча і пранізліва. Кінулася былая паланянка перад іконай на калені: маці святая, што ты скажаш? Глядзела праз слёзы на ікону і здалося, што ў яе вачах таксама бліснулі слёзы. А гэта, відаць, знак, што трэба аддаць хлопчыка роднай маці, якая яго нарадзіла! Ледзь перастаўляючы ногі, быццам на іх начапілі валуны, выйшла на ганак, хацела сказаць ды горла перасохла, таму кіўнула чарнявай жанчыне галавой: ідзі забірай! Досвітак быў, туман, як сляпы, споўдаў пазаплоццю, недзе асвер абазваўся, ды нібы спалохаўся свайго скрыпу, замоўк. Баязліва, крадком, як зладзейка, пераступіла чарнявая парог, а каб дайсці да ложка, на якім спаў сынок, не можа, сілы пакінулі яе. Адно працягнула рукі, а ўслед за гэтымі апусцілася на калені і, як ваўчыца, на карачках папаўзла па падлозе, росячы яе слязамі. А дзяўчына, названая маці, ведала, што расстаецца з сынком, магчыма, назаўсёды, узяла яго на рукі, абцалавала, соннага, ад галавы да пятак і, не памятаючы нічога, працягнула чарнявай жанчыне, што, чапляючыся рукамі за пруты жалезнага ложка і здзіраючы з іх старую вохру, узгрэблася на ногі і стаяла насупраць. Захутаны ў цёплую посцілку, сонны хлопчык нагадваў жытні снапок. Дзве самыя, здавалася б, блізкія паміж сабой жанчыны, маці родная і маці названая, стаялі абапал і няўцямна пазіралі адна на адну. Тым часам хлопчык расплюшчыў вочы, зірнуў на чарнявую. І хто ведае, можа, у яго памяці раптоўна прарэзалася аблічча далёкага паваеннага часу роднай матулі, ці прычынай было нешта іншае, ён ускінуў перад сабой ручаняты і, пацягнуўшыся да яе, выгукнуў: «Мама!» У наступны момант азірнуўся на названую маці, як абсекся, змоўк. Гэты крык, быццам перавярнуў нешта ў яе грудзях. У вачах мільгануў нядобры бляск, валасы на галаве сталі дыбка і сама яна ўстрапянулася і наструнілася, хацця імгненне таму праз сілу і нянавісць збіралася абняць чарнявую, як быццам парадніцца з ёй, змірыўшыся з лёсам і ўсім тым, што адбылося. Яна нічога не бачыла перад сабой, густая павалока заслала зрок, пазбавіла развагі. Адштурхнуўшы ад сябе чарнявую жанчыну, якая ўжо чэпка трымала хлопчыка на

руках, і, адчуваючы, што вар'яцее, яна крыкнула: «Прападзі з вачэй! Бо схаплю сына і ўжо ніколі не аддам!» Чарнявая, адляцеўшы да дзвярэй, зачапіла вядро, што стаяла на ўслоне, і чамусьці, як загіпнатызаваная, глядзела на ваду, якая разлілася на падлозе. А гаспадыня, відно, нічога не помнячы, кінулася да яе, наступіла на лужыну вады, з усяго размаху грымнулася на падлогу, моцна выцяўшыся галавой. Чарнявая памкнулася да яе, каб дапамагчы ўзняцца на ногі, але мільганула думка, што дзяўчына аглуздаецца і стане адбіраць сыночка, і, адступаючы спінай да дзвярэй, намацала клямку, клацнула ёй і, пратупаўшы па дварэ, выскачыла на вуліцу і, азіраючыся па баках, кінулася ў канец, адкуль дарога вяла ў мястэчка.

Дзяўчына не помніла, колькі гадзін, а можа, і дзён праляжала на падлозе. Калі ачуняла і паварушылася, адчула, што ад болю разламвалася галава. Яна намачыла ў халоднай вадзе ручнік і абкруціла яе настолькі туга, нібы сціснула абручом. Боль крыху прыціх, але галава была цяжкой, нібы ў яе налілі волава. Ва ўсім целе адчувалася неймаверная стома. Ёй хацелася аднаго — спаць! Як стаяла каля ложка, так ніцма, як падрэзаная пілой, і ўпала на яго. Заснула хутка, нібы правалілася ў апраметную. Прачнулася на другі ці трэці дзень, калі сонца звярнула з паўдня. Яшчэ да таго, як расплюшчыць вочы, адчула, што адбылося нешта недарэчнае і настолькі жудаснае, — лепш бы ёй не прачынацца і не бачыць белага свету. З гаркатой у душы паднялася на ногі, перахрысцілася на абраз, і, не ведаючы, што рабіць, падалася на ганак, села на прыступку. На падворку корпаліся суседскія куры, у цяньку ляжаў кот ды мыўся лапай. Раптам хахлаткі занепакоіліся, адна з іх залопала крыллем і, здалося, кукарэкнула голасам пеўня. Дзяўчына ўскочыла на ногі, хапіла з долу нейкую ламачыну і шпурнула ўбок дурных курэй. Тропнуўшы крыллем і ўзняўшы вэрхал, яны паляцелі цераз тын. Дзяўчына пайшла пад паветку, пакружылася, не цямячы, што яна тут хацела зрабіць, за што зачапіць рукі. Заглянула і ў пуню, дзе звычайна ляжала сена, а летам стаялі граблі і каса-літоўка. З пуні вярнулася ў хату, узяла на прыпеку сярнічкі, чыркнула па карабку адной, другой. І спалохалася, што вось так, незнарок, можа падпаліць хату. Пагасіла апошнюю сярнічку аб прыпечак, прысела на зэдлік. І стала глядзець перад сабой на сцяну хаты. На вочы трапіўся кружок ад сучка, што быў падобны на жывое вока. Можа, яна доўга ўзіралася ў яго, кружок тарганууўся і, здаецца, падміргнуў ёй. Было падобна на тое, што за сцяной сядзеў чалавек і пазіраў на дзяўчыну. Ёй хацелася выглянуць праз акно і пабачыць, хто б гэта мог быць. Але перамагла гэта жаданне. Праўда, яна не заседзелася на зэдліку. Яе як усё роўна нешта цягнула з хаты. Зноў выйшла на падворак, быццам там трэба было знайсці нейкую пільную рэч. Але на падворку яна забылася, якую рэч шукае. І зноў вярнулася ў хату, каб глянуць і ўпэўніцца, што запалка, якую яна кінула на прыпеку, сапраўды пагасла. Да паўдня яна сноўдала з хаты на двор і назад. А праз нейкі час ужо шыбавала ў краму, каб купіць солі. Соль у хаце мелася, але чамусьці захацелася яе мець у запас. Праўда, купіла зусім іншае, некалькі кавалкаў мыла. У краме стаяла прамая, як шост, галаву трымала высока, нібы на ёй стаяла шклянка з вадой і яна баялася яе разліць. Яна нават не паглядзела, якія навінкі ляжаць пад шклом, прывезеныя з раённай базы. Вяскоўцы бачылі, што з ёй нешта здарылася, але ніхто не адважыўся падступіцца і спытаць, чаму яна паводзіць сябе, як непрыкаяная. Калі ішла назад, нехта здзівіўся, што яна адна, а не з сынам, маўляў, раней без яго кроку не магла ступіць? Дзяўчына спалохана зіркнула па баках і, быццам яе заспелі за нядобрым заняткам, заспяшалася дахаты. На прызбе ляжала рагатка. І яна ўспомніла, што гэта рагатка сына! Дзяўчына стаяла на месцы як укапаная.

Недзе ў сярэдзіне разануў такі боль, быццам нехта садануў пад бок ці пад дыхавіцу вострыя вілы і павярнуў іх некалькі разоў. Нутраны стогн вырваўся з грудзей і быў настолькі гучны і роспачны, што чародка вераб'ёў, якая шукала і дзяўбла на сметніку спажыву, спуджана шуганула ўгору і знікла за пунькай. Яна апусцілася сярод двара. Божа, за што ёй такія пакуты? Колькі праляжала на санцапёку, не помніла і не магла сказаць. А калі прыйшла ў сябе, то пабачыла, што трымае ў руцэ рагатку. Яшчэ нядаўна яе сынок цэліўся каменьчыкамі з гэтай штуковіны ў вераб'ёў і курэй. Тут, каля хаты, валтузіўся з катом і сабакам, што прыбягаў з суседняга двара і гуляў, забаўляўся з ім, віляў хвастом, падстаўляў спіну, нібы запрашаў сесці. А пасля вазіў яго па двары, пужаючы вераб'ёў і сінічак, што пырхалі ў крапіве і быллі, і прымушаў ката-катафея, які ляжаў на сонцы, устаць і даць дарогу. Хлопчык смяяўся, заходзіўся ад рогату ды тоўхаў сабаку пяткамі пад бакі. Дзяўчына глядзела на сынавы забавы і сама сабе ўсміхалася, радавалася. Цяпер усё тое кудысьці як усё роўна сплыло, аддалілася, стала падобна на сон ці трызненне. Няма сынка з ёй. Забрала чарнявая жанчына. Схапіла і панесла немаведама куды. Чаму яна аддала яго? Чаму не ўчапілася ў яе злямчаныя валасы, не білася за сына? Каб, здаецца, хоць краем вока пабачыць яго, павесялела б увачавідкі. Магчыма, трэба ёй у горад з'ездзіць. Прыйшло ад сына адно-адненькае пісямцо. Зваротнага адрасу не расчытала. Ён быў напісаны, але нехта старанна яго выкрасліў. Пэўна, чарнявая жанчына. А таму дзяўчына не ведае, на якой вуліцы жыве яе сынок і дзе яго трэба шукаць. Але ўсё адно трэба з'ездзіць у горад. Чаго толькі не бывае ў жыцці? Магчыма, ёй пашэнціць і яна сустрэне яго на вуліцы ці дзе-небудзь у іншым людным месцы.

Яна дастала са скрыні самую лепшую квяцістую хустку, што нейкім чынам ацалела ў вайну, апранула джэмпер. Хацела папрасіць у суседкі чаравікі, але адзела чуні, купленыя ў мястэчку на базары. Разважыла, што не ў госці і не на вяселле выбіраецца. Цяпер людзям не да ўбораў. Прыхапіла тое-сёе з прысмакаў: сустрэне сынка, — пачаставаць трэба будзе! Села на спадарожную машыну, што ішла па шашы, і яна, бразгаючы разбітым капотам і разбэрсанымі бартамі кузава, паімчала ў бок горада.

Шафёр быў сярэдніх гадоў дзяцюк. Толькі-толькі пачалася восень, а на галаве ў яго сядзела зімовая шапка, адно вуха ўгору, другое ўніз. Шчака была распухлая, быццам па ёй з'ездзіў нехта кулаком ці дручком. Магчыма, ён быў і на падпітку. Дзяўчына пашкадавала, што ёй трапіўся такі шафёр. Чаго добрага, з такім і ў аварыю можна папасці. Але яна памылялася. Шафёр быў дзецюком зусім іншага складу і ладу. Праўда, слова не залежвалася на языку. Ён ахвотна і лёгка загаварыў з ёй. Аказалася, што ў яго разбалеўся зуб, дактары параілі яго праграваць і дзяцюк змікіціў, што ратункам можа быць зімовая шапка. Ён і адзеў яе, насунуўшы адным вухам на шчаку. Але, відно, і яна мала памагала. Расказаў, што ў вайну партызаніў у гэтых мясцінах, у адным сяле знайшоў прысуху па душы і сэрцы. І ажаніўся. Цяпер яны чакаюць першынца. Пасля гэтага прызнання твар яго распагодзіўся, усмешка кранула вусны. Ён дастаў пачак з цыгарэтамі і смачна закурыў, пускаючы дым праз акно кабіны. Дзяўчына неяк неўпрыкмет уцягнулася ў гаворку і прызналася, якая бяда прымусіла яе паехаць у горад. Шафёр настолькі быў уражаны і расчулены, што, як зачараваны, паглядаў на яе ды ад здзіўлення войкаў. І не ўзяў трохрублёўку, якую яна працягнула яму, як плату, што падкінуў да горада. Сказаў, што ў яго рука адсохне, калі ён возьме ў дзяўчыны хоць капейку. Яна падзякавала, вылезла з машыны і азірнулася. Навокал грувасціліся руіны ды груды абгарэлай цэглы. Праўда, недзе далёка, як непрыкаяныя, стаялі два

вялізныя будынкі. Там-сям віднеліся ацалелыя даваенныя дамы. Астраўкамі сярод пасляваеннага бязладдзя і рэзруху радавалі вока драўляныя дашчанікі, збітыя з дзябёлых цалёвак і плашак. Горад жыў, рухвіўся і рупіўся. Рабочыя разбіралі завалы, расчышчалі месцы пад забудовы. Непадалёк узводзіўся драўляны дамок, каля яго снавалі і корпаліся людзі ў шапках ненаскага крою і шытва, пэўна, палонныя. Далей не было часу разглядаць тое, што рабілася навакол. Дзяўчыне трэба было займацца сваім клопатам, — шукаць свайго сынка. Яна перайшла па звэдзганых дошках раку, і падалася люднай вуліцай. Наперадзе, здаецца, віднеліся дзіцячыя постаці. Дзяўчына пільна ўзіралася ў твары хлапчукоў, што трапляліся насустрач ці прабягалі міма. Але роднага аблічча, якое дзяўчына пазнала б і за тысячы кіламетраў, не было. Яна хацела спыніць першую якую-небудзь жанчыну, каб параіцца, як ёй знайсці сына, але спахапілася. Хто і якім чынам ведае, дзе ён жыве? Яна не мае ні адраса, ні іншых нейкіх звестак. А горад не вёска, дзе ўсё навідавоку. Шукаць у ім чалавека, тое самае, што іголку ў стозе сена. Насустрач ішлі людзі з батонамі, баранкамі і кулькамі цукерак. Значыць, недзе ў тым баку крама з наедкамі і прысмакамі, дзе павінны быць дзеці. Сапраўды, крама месцілася за вуглом і каля яе было некалькі хлопчыкаў і дзяўчатак, якія трымаліся за руку сваіх матуль. Употай і моўчкі яна паназірала за імі, зайздросцячы чужому шчасцю, і, каб не кінуцца ў вочы людзям і яны не падумалі пра яе што-небудзь благое, падалася ўбок. Наводдаль стаяў даўгалыгі міліцыянер і яна падышла да яго і, збіваючыся, цераз пятае-дзясятае расказала пра сынка, якога шукае ў горадзе. Ці не мог бы ён памагчы ёй? У адказ ён спачувальна паглядзеў на яе, а ўслед за гэтым развёў рукамі. Але ў апошняе імгненне канцом палкі, што трымаў у руцэ, прыўзняў угору на ілбе шапку і параіў пайсці на Нямігу ды заглянуць у двары, там бывае многа дзетвары.

Вуліца была непадалёку і дзяўчына заспяшала туды, папракаючы сябе, што сама не здагадалася, дзе больш за ўсё можна сустрэць сына. Доўгай аднапавярховай забудове, з вокнамі на вуліцу, здавалася, не будзе канца. Але нарэшце адкрыўся круглы праход, падобны на арку, што вёў у двор. Сэрца ў дзяўчыны ёкнула і затахкала. У двары дзяцей было, як пчол у вуллі. Яны калупаліся ў пяску, лезлі на горку і ссоўваліся адтуль уніз, забаўляліся, як маглі. Дзяўчына прайшла ля іх збоку, стараючыся зазірнуць кожнаму ў твар. Але дзеці былі настолькі няўрымслівыя і мітуслівыя, што твары іх мільгалі, як у калейдаскопе. Сярод дзіцячага збою дзяўчына, забыўшыся на тое, дзе знаходзіцца і што робіць, пацерабілася наўпрост, стараючыся не зачапіць дзяцей.

Але яны чамусьці спалохана кідаліся ўбакі. Справа паварочвалася не ў той бок, куды трэба было. Перад дзяўчынай, як з-пад зямлі, вынырнула жанчына ў акулярах, відаць, выхавацелька і строга спытала, што ёй трэба ад дзяцей? Можа, хоча зрабіць што-небудзь кепскае? То няхай ведае, нічога ў яе не выйдзе і хутчэй вымятаецца з двара, іначай зараз жа тут будзе міліцыя! Тлумачэнняў выхавацелька не хацела і слухаць. Але і дзяўчыне больш не было чаго тут рабіць. І, не кажучы больш ні слова ў сваё апраўданне, памкнулася з двара. Абышла яна Камароўку і Старажоўку, парк Горкага, пабывала і ў іншых месцах, якія падказвалі ёй гараджане. На Камароўцы адбылася горшая мітрэнга і недарэчнасць, чым у двары на Нямізе. У роце ад самай раніцы ў яе не было ні крошкі хлеба ці чаго-небудзь іншага з наедку. Ад хады яна стамілася, ад пільнага ўзірання ў постаці дзяцей вочы пачалі туманіцца. На Камароўцы яна заўважыла чарнявую жанчыну, якая ішла і трымала за руку хлопчыка. Сэрца ў яе ёкнула, падскочыла. Нарэшце, яна знайшла сынка. Кінулася да яго, схапіла за руку і, відно, штурханула гарадскую жанчыну настолькі моцна,

што яна згубіла раўнавагу і ледзь не ўпала долу. Гэта была інтэлегентка. На галаве ў яе быў белы берэт, на нагах туфелькі на шпільках. Яна спалохалася і разгубілася, пачала азірацца вакол, маўляў, людцы, ці бачыце, што робіцца сярод белага дня? А потым кінулася да дзяўчыны, каб забраць сына. Хлапчук таксама ачомаўся і рваўся да маці. Непадалёку аказаўся міліцыянер. Ён умомант апынуўся каля жанчын, каб разабрацца, што адбываецца. Падцягнуліся людзі, сабраўся натоўп разявак, якія з раскрытымі ратамі, нібы заварожаныя, глядзелі на гэта відовішча і чакалі, чым яно закончыцца. «У вар'ятню яе!» — галёкнула камароўская гандлярка, трымаючы ў руках заржавелы дапатопны прас, які адшукала на звалцы і прынесла сюды, каб разжыцца на капейчыну. Як яна не соўгала яго людзям у рукі, ніхто нават не спытаў пра цану. Гандлярцы здавалася, што ва ўсім вінавата дзяўчына, з-за якой усчалася гэта куламеса. «Дакументы хай пакажа перш! — заверашчаў дробненькі з твару мужчына. — Хіба мала сёння ўсякіх прайдзісветаў аціраецца. Можа, былая паліцэйская падсцілка». Апошнія словы ўджалілі дзяўчыну, вывелі з сябе. Яна рванула рукаво джэмпера, агаліла плячо: «Вось мой дакумент, — крыкнула яна. — Немцы ў канцлагеры выдалі. Бачыце, нумар выпалены жалезам? Такі нумар і на плячы майго сынка, якога шукаю. Вязіце ў вар'ятню» Яна абвяла невідушчым позіркам тых, хто стаяў каля яе, нібы хацела запомніць іх. У гэта імгненне штосьці завішчэла-заскрыгатала, натоўп рассунуўся ўбакі і на дошцы з падшыпнікамі вымкнуў інвалід. Ён спыніўся каля дзяўчыны, нібы засланіў яе сабой. «Ану, каму трэба дакументы? — падняў ён перад сабой дзве драўляныя куксы, якімі, едучы на калясцы, адпіхваўся ад зямлі, грукнуў адна аб адну: — Во што з ім будзе». У яго быў настолькі рашучы і грозны выгляд, што разявакі, баязліва азіраючыся на інваліда, сталі разыходзіцца. Міліцыянер, які ўвесь час стаяў паблізу, неўпрыкметку адышоў убок і паводзіў сябе так, нібы нічога не здарылася. А яна сядзела на нейкім аполку, плакала, размазваючы па шчаках горкія няпрошаныя слёзы. Дзяўчына не бачыла, як пасля ўсяго інвалід дастаў з-за пазухі бутэльку з нейкім пітвом, зрабіў глыток ці два, хацеў нешта саказаць, але махнуў рукой і, адпіхнуўшыся ад тоўчанага-ператоўчанага людскімі нагамі долу драўлянымі куксамі, паскрыпеў да крамы, каля якой збіраліся і бавілі час такія, як і ён, «ваенныя абрэзкі». А дзяўчына, выплакаўшы слёзы і горыч, што сабралася недзе ўнутры, паправіла на сабе падраны і пакамечаны джэмпер і разбэрсаныя валасы на галаве, падалася да выхаду, ловячы на сябе скасавураныя позіркі тых, хто бачыў незразумелую мітрэнгу, якую нібыта яна ўчыніла.

Стомленая і знясіленая, вярнулася ў вёску, села за стол, абхапіла рукамі галаву. Думала-гадала: як ёй быць і што рабіць далей? Яна зразумела, што, відно, больш ніколі не пабачыць сынка. Чарнявая жанчына зробіць усё магчымае і немагчымае, каб яны не сустрэліся ні ў гордзе, ні ў сяле. І ёй, названай маці, трэба забыць пра яго. Навошта дарэмна вярэдзіць душу? Але паспрабуй забыць, калі яна зраднілася, зраслася з ім душой, як парастак, што ўпадзе ў развілку дрэва семем, зрастаецца з ім настолькі моцна, што нарост-вузел нельга расчапіць, а толькі можна рассячы па жывым. Боль не гас, але паступова адміраў у душы, пакідаючы не вуголле на вуголлі, а нешта падобнае на прысак. Кожны дзень жанчына ўставала, нешта рабіла, рупілася, а думкі былі пра сына, праўда, ужо цьмяныя, не такія выразныя, як раней. Радавалася, калі ёй снілася адно і тое: адчыняюцца дзверы і ў хату ўваходзіць высокі і стройны дзяцюк, яе сын-сынок, кідаецца да яе, абдымае, шэпча ласкава і прачула: «Мамачка-матуля, як ты пачуваеш сябе? Божа, каб ты ведала, як я хацеў пабачыць цябе!»

Жанчына і цяпер, лежачы на бальнічным ложку, думала пра яго, свайго сына-сыночка. Ёй здавалася, калі б ён прыйшоў сюды, у бальнічную палату, ёй адразу б стала лепш і яна пайшла б на папраўку. І аднойчы, як праз туман, пабачыла, як адчыніліся дзверы і ў палату ўвайшоў высокі дужы дзяцюк. Ён быў у ладна скроеным гарнітуры, белай вышыванай кашулі, бліскучых чаравіках і пры гальштуку. Акінуўшы палату хуткім і пільным позіркам, пабачыў яе і пашыбаваў да ложка. Жанчына адразу здагадалася, што гэта быў яе сын. Як толькі ён дайшоў да яе, упаў на калені і прашаптаў: «Мама, гэта ты? Што з табой?» Яна расчулілася, хацела супакоіць і сказаць, што во троху прыхварэла, адкрылася старая рана. Ён не помніць, як яна там, у канцлагеры, шукаючы на сметнішчы якую-небудзь спажыву, пабачыла вахманку, спалохана мітнулася за вугал дашчаніка дый зачапілася за дрот і параніла нагу. Рана хутка зажыла і не турбавала яе ні там, у канцлагеры, ні тады, калі вярнулася дамоў. А нядаўна драпіна неспадзявана заныла і адкрылася. Сын узяў яе за руку, і ёй адразу стала хораша, гэтак лёгка і светла на душы, як ніколі не было, здаецца, у жыцці. Шчаслівая ўсмешка кранула яе вусны, легла на твар. Яна бачыла, з якім захапленнем глядзяць на яе сына жанчыны, што ляжалі ў палаце. А ён гладзіў яе руку, настолькі ласкава і прачула глядзеў на яе, маці, што сэрца заходзілася ад невымернай радасці і шчасця, замілавання да ўсяго свету. Ад гэтага ў яе воку навярнулася сляза. Яна адчувала і ведала, што цяпер засне глыбокім і салодкім сном і прачнецца бадзёрай, вясёлай і здаровай. І, як усё роўна памаладзелай. І счыніла вейкі.

Калі да жанчыны падышоў урач, які рабіў ранішні абход, яна ўжо не дыхала. Урач узяў яе руку, яна была цёплая, хаця цела ўжо астыла. На твары, як ні дзіўна, была такая супакоенасць і ціхамірнасць, нібы жанчына бачыла шчаслівы сон. Праўда, у куточку яе вока бліскала кропля, падобная на алмаз. Урач здагадаўся, што гэта сляза. Але не ведаў, што гэта была сляза радасці.





**Алена СТЭЛЬМАХ**

# СТРАТА

*Апавяданне*

***Прысвячаю зямлячцы —***
***Леанідзе Сцяпанаўне ШЫШКАВЕЦ,***
***якая нарадзілася 22 чэрвеня 1941 года.***

Лёльцы як хто кол у галаву ўбіў — так завалодала ёю безвыходная думка пра згубу. Сцішыцца, вочы заплюшчыць: «Ну ўсё, спаць буду», — у каторы раз адно і тое ж паўтарае. А не, сон, як збеглы свавольнік, недзе далека гойсае, і ніяк яна яму не дасць рады...

Ажыў успамін пра бацькаў занятак, як той спрытна часаў вострай сякерай тонкія бярвенні. З-пад бліскучага ляза выслізвалі доўгія пасмы свежай бура-карычневай каравіны. Акораныя жэрдкі ўжо мала чым нагадвалі дрэва. Але, здавалася, яно яшчэ дыхала і ў такім непрывабным выглядзе саромелася сваёй аголенасці. Ацярэбленыя жэрдкі Сцёпка адкладаў у бок. Браўся за больш тоўстыя — слупкі. Іх ён яшчэ і завострываў, як алоўкі, старанна абмазваў салідолам, абгортваў чорным, як смоль, толем. Каб надзейней іх вострыя пікі ўвайшлі ў зямлю, пастукваў зверху абушком...

Стары ўжо больш за дваццаць гадоў спачывае на вясковых кладах. Плот ягоны толькі летась зяць змяніў на новы, па-сучаснаму фасоністы. А колстаўбун, бы той, бацькаў, у Лёльчынай галаве стаіць, не зварухнецца...

Лае сябе Лёлька на чым свет стаіць: век пражыла, а розуму не здабыла. Тугі гнятучай і ў душу, і ў сэрца напусціла. Сваімі ручкамі бяду бессаромную за рожкі на падворак прывяла. У «грабавы» запас залезла, каб цяпер саму сябе са свету зводзіць.

---

***Стэльмах Алена Анатольеўна*** *нарадзілася 20 ліпеня 1965 года ў вёсцы Навасады Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна (1986), Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (2000). Працавала галоўным рэдактарам раённай газеты «Узвышша» (г. Дзяржынск), галоўным рэдактарам «Белорусской лесной газеты», намеснікам дырэктара «Выдавецкага дома «Звязда».*

*Творы друкаваліся ў калектыўных зборніках «Созвучие» (2014), «Міншчына літаратурная» (2013), «Радзіма. Адзінства. Перамога» (2014), «Як мядзведзь пчаляром стаў» (2015), а таксама ў літаратурных выданнях Беларусі, Украіны, Таджыкістана, Кабардзіна-Балкарыі.*

*Узнагароджана медалём імя Алі Шагенцукава.*

Хоча Лёлька перайначыць думкі свае цяжкія, неадчэпныя. Ці такое за шурпатае жыццё перажыла? Ночкай той кароткай, міглівай, калі вораг люты каваным ботам на зямлю родную ступіў, прыйшла ў сям'ю радасная вестка — маці першынца на свет Божы нарадзіла. Разгубіўся бацька ад нерассмакаванага шчасця: праз колькі дзён позва на фронт чорным груганом у хату ўляцела, у душы чорнымі крыламі забілася. Якім ты будзеш, лёс непрадказальны, салдацкі? Дурная куля стрэне на паўдарозе? Ці злітуецца — абміне? Зможаш дзіцяткам-золаткам пацешыцца, узгадаваць яго? Ці слыць тваёй крывіначцы па свеце няшчаснай сіратой?

Калі вёску захапіла зграя навяўленых гаспадароў, і варожыя салдаты, наводзячы свой парадак, пачалі церабіць кожную хату, Шыкаўцы паспелі ўскочыць у стары склеп на супрацьлеглым баку вуліцы. У невялічкім, урослым у зямлю буданчыку яшчэ ляжалі кашы са тры пабітай храсткамі бульбы, дзясяткі два парослых буракоў ды моркаўка, што таксама паспела ўжо пусціць бледна-зялёныя косы. Нават тут, у цемры халоднага падзямелля, непераможныя сілы жыцця бралі сваё. Там, наверсе, святло вясёлкавага дня засланілі свінцовыя хмары, чорнымі крумкачамі наляцелі, павіслі на доўгія чатыры гады…

Гэткіх сціплых запасаў, па сялянскай кемлівасці, хапіла б да маладой гародніны. Тады і прыбралі б склеп, і паветра свежага ўхапіў бы ён з асалодай. Цяпер спёрты за зіму даўкі пах не даваў прадыху...

Калі ў перакошаныя дзверы пастукалі, Шыкаўцоў праняў нямы страх. Агаломшаныя, яны ледзьве разабралі дрыжачыя нясмелыя галаскі, пазналі па іх суседскіх дзяцей — маці малым Драчыкам, як дражнілі іх на вёсцы, наказала бегчы да выратавальнага сховішча. Упусцілі гэткіх жа, як самі, гаротнікаў. Стуліла іх адно да аднаго нечуваная бяда. Лёльчына маці, Адэля, мацней заціскала немаўляці рот трапіўшай пад руку анучай, што невядома колькі часу прэла ў склепе, каб дурненькае не закрычала, не выдала сховішча ворагу...

«Гэткая свавольніца была», — горка ўсміхнулася сама сабе, свайму гаротнаму маленству Лёлька. Усё жыццё стаіць на яе лёсе пячатка — дзіця вайны.

Адэля, калі ўспамінала пра вайну, часта ўзгадвала Драчыху. Як разам хадзілі на вячоркі, ды і пасля па-суседску добра ладзілі. І як стаяла жанчына ў апошняе імгненне свайго жыцця, баронячы сабой карміліцу-кароўку, каб не звялі немцы са двара, так і павалілася на зямлю, утаропіўшы ў высокае неба нямы пагляд…

Дзякуй богу, Лёльчын бацька вясной 45-га вярнуўся. Чаго толькі ні пабачыў салдат на сваім шляху, пакуль гнаў ворага да яго логава. Закамянела салдацкае сэрца, інакш бы не перажыў, не перанёс смяротнае пекла. А тут перад вачыма — дзіцятка роднае, дачушка-былiначка. Сумелася малая, за маці хаваецца. Адэля, здаецца, за вайну слязы не выраніла, а прыйшла тая доўгачаканая хвіліна — дала ім волю, светлым, празрыстым… Падштурхоўвае спалоханую Лёльку:

— Татка ж гэта, твой родненькі! Вярнуўся!

Сцёпкава сэрца, бы абмытае крывёй гарачай, страпянулася. Колькі ў снах трывожных салдацкіх марыў ён пра гэтую сустрэчу! Хоць і баяўся ў думкі пускаць, каб не спужаць далёкую адважную надзею. Ды яна не пакідала яго, усе чатыры гады след у след ішла поруч, упарта вяла звілістымі франтавымі сцежкамі.

Вайна разбурыла, зруйнавала ўсё навокал, прынесла мільёны ахвяр. А тут насуперак усяму — чалавек вырас, кветачка пунцовая расцвіла!

— Будзем з табой, Лёлечка, новае жыццё ладзіць!..

Сцёпка часта браў дзяўчынку на рукі, нібы хацеў навярстаць тое, што недаравальна прамінуў. Знутры яго падштурхоўвала нястрымнае жаданне вярнуць доўг — нерастрачаную за вайну любоў. Паненачкай яе называў, дурасліва забаўляўся.

Тое, што куля бацькаву нагу зачапіла, — бяды вялікай. За плугам ісці было цяжкавата, але ён прагна кідаўся да любой работы. Стараўся і салдатцы якой дапамагчы...

Ва ўсіх дзень нараджэння — чаканае свята, шумная весялосць. А Лёлька і ў свае семдзесят пяць не вызначылася, як ёй быць: і хацелася б гасцей склікаць, ды жалезны абруч сціскае грудзі — не можа даць волю пявучай радасці. Незагойна-балючай памяці здрадзіць не можа. Гэта ж колькі ў той дзень, 22 чэрвеня 1941 года, на краіну бяды-гора абрынулася! Слёзы людскія ракой, не ведаючай берагоў, паплылі, ад ран крывавых зямля спяклася…

Вось табе і на: думкі хацела адагнаць журботныя, а іх, новых, — насланнё, гэткія ж, гаротныя. Што зробіш, такая яна па жыцці — да ўсяго датклівая.

* * *

Як быццам прыснула трохі. І не можа ўцяміць: сон гэта ці ява?

...Пякло тым летам, як ніколі. У лесе нават воўчым грыбам не пахла. Затое адліло ў верасні. Пасля жыццядайных дажджоў маладзенькія апенькі пырснулі паўсюль, дзе толькі вытыркалася карчэўе, завіліся ланцужкамі па зямлі. Былі і такія выскачкі — навыперадкі мерыліся па бярозах ды елках нават да неба даскочыць. Шыкаўцовы хлопцы некалькі разоў з кашамі па іх збегалі, натаміліся. Уздумалі на грыбазбор каня запрэгчы, і Лёльку на воз падсадзілі.

Прыкмеціла Лёлька ў зарасніках малінніку, сярод парыжэлай травы, пень вялізарны. З усіх бакоў абляпілі яго апенькі-блізнюкі. А ў цэнтры пня таго — цар змяіны ў залатой кароне ўссядае. Ля пня змеі — круцяцца ў клубкі, вірують, выслізваюцца, языкамі агністымі, як стужкамі, павіваюць... Агідна ёй ад такога відовішча, моташна, а не зварухнецца. Бачыць — і апенькам не па сабе, ад жудасных танцаў ажно пабялелі.

Старэйшыя на вёсцы здаўна малых павучалі: на Узвіжанне ў лес — ні нагой! У гэты дзень змеі ды ўсе гады і ў гушчарах, і на прагалінах верхаводзяць, развітальныя стрэчы ладзяць, да зімовага спачыну рыхтуюцца. А яшчэ ці то праўду казалі, ці больш палохалі: на Узвіжанне змяіны яд — самы атрутны.

Змеі галовы ўверх задзіраць сталі, да цара пацягнуліся, шыпець пачалі...

Лёлька схамянулася, прачнулася. Бачанае ў сне на свой лад перайначыла: лепш бы змяя джыганула, пабалела б ды прайшло. А цяпер, як успомніць пра сваё, гнятлівае, такая роспач яе ахопіць — месца сабе не знаходзіць…

Пачула Лёлька, што стары ўжо ўспароўся, грукнуў у сенцах. Ведала, патупаў падкідаць у паравое брыкет. У хаце — астуда. З-пад цёплай коўдры вылазіць боязна. Мусіць, мароз памацнеў. Учора так мяло, што з ног збівала. Паштарка, якая несла пенсію, бабай снежнай у хату ўвалілася, казала, ледзьве па гурбах прапаўзла. Тамары Мелюковай, якая жыла ў канцы вёскі, не панесла грошы, вырашылі: сама яна забярэ іх у Шыкаўцоў. Вуліцу пакуль ніхто не прабіваў. Ад цэнтра, дзе іх хата, да самага верху толькі і жыхароў, што Тамара — адзіная жывая душа. А была ж вёска — гаманкая, вясёлая, людная. Жылі ў ёй людзі, працавалі, рупіліся, кахалі. Як казалі мудрыя дзяды, у поўны смак жыла вёска. Ды з часам каго горад да сябе як магнітам прыцягнуў, а каго — гады на ўзгорак — туды, «дадому» — на вечны спачын паклікалі.

Сцяпанаўна — так паважліва цяпер называюць Лёльку — зараз мясцовы стараста. Узяла міжволі на сябе клопат за ўсіх адзінаццаць местачкоўцаў. У зімовыя завеі непакоіцца за іх асабліва: і з хаты не вылезе каторы, так бывае за ноч намяце. Гэта з надыходам цяпла, нібы тыя шпакі, пачнуць злятацца ў вёску дачнікі.

Лёлька і вёска — даўно атаясамленае. І ў самых настырных думках ніколі не насіла, каб недзе ў свет брысці, іншай долі шукаць. Тут з Віцькам пад векавым дубам, што і зараз вёску вартуе, кахаліся-мілаваліся, у мясцовым сельсавеце шлюбам пабраліся, траіх дзетак — роду працяг — нарадзілі. Ён у саўгасе — сорак гадоў за рулём. Яна — бухгалтаркай у саўгаснай канторы, зарплату налічвала. Пасля ў вясковую краму перайшла. Да апошняга трымалася, ведала: сыдзе — не будзе каму гандляваць. Так і сталася: Лёлька — на пенсію, краму — на замок. Згасла ў краме акно-святлінка, і вёска яшчэ больш загарунілася…

Жылося ім з Віцькам на сваёй натаптанай бацькаўшчыне не горай, чым катораму адарванаму ад зямлі адшчапенцу. Многа вады ў іх Слаўцы сцякло з тае пары, і рэчка цяпер — адна ручаіна. Тыя з вяскоўцаў, хто ў горад пайшоў, свой век там пражылі. Якую ласку ён да іх меў, ім самім пра тое і ведаць. Але чамусьці многія з тых гараджан вяртаюцца на апошні прытулак на вясковыя могілкі. А ў апошні шлях каторых з іх толькі Шыкаўцы, ды яшчэ сёй-той з местачкоўцаў і праводзяць...

Лёльцы перш за ўсё пашчасціла ў тым, што быў гаспадар да гарэлкі спакойны. Таму з дому, як у каторага выпівохі, дабро нікчэмна не сплывала, а наадварот, у сям'ю рэчка дабрабыту цякла. Зайздросныя вочы за плячыма іх «магнатамі» празывалі.

— Людскія языкі да гаворкі здатныя, што ўздумаюць, тое і плешчуць. Хвалююцца за чужыя нажыткі, а не зважаюць на тое, як гэта далося, — ведаючы вясковы нораў, усміхаўся ў калісьці сівыя вусы Сцёпка, які напрацаваўся за доўгае жыццё. Прыкмячаў, як са свайго мазаля мацней становяцца на ногі маладыя, моўчкі ўхваляў выбар дачкі.

Іх з Віцькам гады залатыя, як адгулялі паўвекавы юбілей сумеснага жыцця, прыкметней сталі браць сваё. Паціху мусілі змяншаць клопатную гаспадарку, скарачаць жытнёва-бульбяныя палеткі… Затое гаспадар ахвотней стаў брацца за гармонік. І зусім не таму, што згультаіўся чалавек, пацягнула яго да лёгкага хлеба. Лёлька, бачачы, з якой пяшчотай Віцька браў сваю «музыку» ў рукі, нават трохі раўнавала яго да інструмента. Асабліва на людзях, лёгка пацвельвала: яе б так лашчыў. Гулліва падміргвала мужу.

З першым гармонікам — бацькавым падарункам — музыка не расставаўся з дзяцінства. А тады пайшло-паехала: што ні юбілей ці якая іншая важная нагода — у хаце новы гармонік спявае на ўсе лады.

Віцькава душа, не падуладная часу, просіць улюбёных з маладосці мелодый, прагне весялосці мінулых часоў. Пачуе знаёмыя гукі вёска, схамянецца ад вясёлых пераліваў вальсаў ды полечак, абудзяцца згорбленыя ад халадоў хаты, заскача ў верхавіне разгатага дуба агністая жывінка. Пакуль жыве музыка — жыве і вёска!

* * *

На кухні Колька, як заўсёды перад работай, паглядаючы ў тэлевізар, піў каву. Хацеў і Шыкаўцоў старэйшы хлапец у сталіцы карані пусціць, а не прыжыўся. Пакруціўся там троху, як блін на патэльні — адзін бок падсмажыў, а

пасля і другі падставіў. Апёкся. Вось і прыбілі жыццёвыя хвалі яго назад, да бацькоўскага парога.

Цяпер і ў неперспектыўнай вёсцы, як вызначылі яе лёс гарадскія знаўцы, многае па-сучаснаму. Шыкаўцы і «Залу» глядзяць, і ў хлебапечцы свежыя прысмакі выштукоўваюць. Апошнім часам Лёлька надумала прыдбаць мультыварку. Чула, бабка ў ёй надта смачная — спакуса для ўсёй сям'і.

— Няма на цябе супынку, — муж з сынам ушчувалі жанчыну.

Але ведала тая, што гэта яны так толькі знешне нібы злуюцца. Самі ж падахвоцілі завесці авечак. Маўляў, сена ўдосталь, а вясна агукнецца — на волю пойдуць. Кругом лугі шаўковыя, мядовыя. Толькі ніхто не спажывае іх даброць. Пчолкам няма куды сваю асалоду несці. У недалёкія часы паміж суседзямі за кожны кавалачак зямлі вяліся сур'ёзныя, а то і варожыя спрэчкі.

Лёлька згадзілася не адразу. І «в'етнамчыкаў» хапіла б — поўны хлеў драбязы напладзілі. Ажно тры свінаматкі, адна за адной, прыплод памножылі. Думала — каму прадасць, каму за так аддасць парасят. Ат, ніхто нават на дарэмшчыну не паквапіўся. Толькі зайдзі ў хлеў — малыя ашавуркі хапаюць за спадніцу. Усіх накарміць, прылашчыць трэба. Конь Каштан грывай трасяне, капытом тупне. Знак падае: і да яго падыдзі, пастой, даланёю па цёплай шыі пагладзь…

Варта гаспадару аказацца, у хлеўчуку зайздросны кавалер — індык Воляк — нешта толькі яму вядомае загергеча. Узрушацца сціхаміраныя куры — усіх павітай, добрае слова скажы кожнаму.

Лёлька не падавала выгляду, але задумала прыдбаць авечак. Думалася — можа, як памаленьку і з імі ўладкуецца. Закаранелая сялянская прыхільнасць да жывёлы брала верх над чэпкімі старэчымі хваробамі, пераважала над абяцаннем дзецям і сабе пацішэць у клопатах. А як памагаты Колька з горада вярнуўся, жыццё па новай кругавіне пайшло. Гаспадарка спакваля прырастала. І не столькі дзеля наедку тое рабілася, а каб падворак не быў пустым. Каб нешта на ім рухалася, кудахтала, рыкала… Каб было і ім, старым, за што рупіцца.

— Воўна будзе — унукам цёплых шкарпэтак, рукавічак навяжу, — захапіла светлая мара Лёльчына сэрца.

Сама Лёлька не надавала гэтаму значэння, але вайна пакінула на яе звычках незацярушаны гадамі след. Ёй увесь час хацелася нешта мець у запасе, каб не звялося, каб не давялося галадаць, каб было што апрануць.

Цішком схадзіла ў хлеў, прыгледзела для жывёліны месцейка. Наважылася Кольку загадаць, каб прыстроіў яслі. І толькі калі ў газеце вынайшла аб'яву, выдала сваё рашэнне: паеду купляць авечак, ужо і з гаспадыняй згаварылася, і машыну знайшла.

* * *

Да Новага года заставаліся лічаныя дзянькі. А чаканая зіма ўсё недзе сноўдалася ўдалечы. Стомленай нягодзіцай восені нічога не заставалася, як цягнуць сваю надакучлівую лямку — доўжыць маркотную шэрань кароткіх дзён.

Зранку ў Шыкаўцовай хаце панаваў узнёслы настрой — Лёлька збіралася ў дарогу, меркавала да прыцемкаў вярнуцца. Ды не адна!

Калі а дзясятай гадзіне засвятлела, ля хаты спынілася машына. Гаспадыня, убачыўшы прыезджых, гасцінна расчыніла вароты:

— Ідзі, кабетка, выбірай, каторае даспадобы.

Лёлька разгубілася: вялікія і маленькія, чорненькія і беленькія — перад ёй паўстаў цэлы статак авечак. Здаецца, яны са страхам пазіралі на яе: не гаспадыня...

Лёлька падлічыла: грошай хопіць на дзвюх авечак, барана і трох ягнят. З такім адмысловым кучаравым скарбам, як пачало шарэць, і спынілася машына ля Шыкаўцовага падворку. Напалоханых авечак пусцілі ў хлеў. Колька паклаў бярэмак сена, выбраў самае духмянае — хацеў заручыцца з навасельцамі сяброўствам.

Раніцай авечкі глядзелі не так варожа, бы зразумелі, што кепска ім тут не будзе. Рашылі пусціць іх на аселіцу. Няхай ногі разамнуць, глядзіш, і скубянуць зялёнкі, што выбілася, адчуўшы падманлівую снежаньскую цеплыню.

Узрадаваным свабодай авечкам сапраўды хацелася выбегацца, і малыя гулёны-ягняты ад дарослых не адставалі. Здалёк здавалася: уздымаюцца над зямлёй пухнатыя шарыкі-дзьмухаўцы.

Як на бяду, наскочыў сабака. Потым гадалі-думалі — адкуль ён узяўся? Вялізны, калматы, злосны. Вось такім і чалавек бывае. Кінутае, непатрэбнае, без прытулку, без спагады — дзічэе.

Сабака вар'ятам наляцеў на авечак. А яны, і без таго пудлівыя, змітрэжыліся, ратуючыся, сiганулі ў розныя бакі — толькі іх і бачылі. Сабака, быццам пярэварацень, знік гэтак жа непрыкметна, як і з'явіўся.

— Божухна, што ж гэта нарабілася! — як па нябожчыку, загаласіла Лёлька. Колька шпарка ўскочыў на каня, кінуўся наўздагон. Абляцеў усю ваколіцу, вярнуўся ні з чым: авечак нідзе няма, як пад зямлю праваліліся.

Неўзабаве адну авечку адшукалі ў кустоўі ля рэчкі. Відаць, знядужала, прыстала. Яна, знясіленая, надта і не супраціўлялася, калі Колька ўскінуў яе на каня і прывёз назад, закінуў у загарадку.

Астатніх шукалі яшчэ не адзін дзень: па хмызняках, гушчарах, людзей апытвалі — мо хто бачыў. Па вёсках, дачах, куды даехалі, аб'явы вешалі, узнагароду абяцалі хоць за якую вестку. Але ўсё дарма. Столькі прыклалі намаганняў, а з тых высілкаў адна крыўда: зніклі авечкі — не знойдзеш нават са свечкай.

Да ўсяго пекануў мароз-галашчок. Следам сапраўдная зіміца наступіла. Рукавом толькі махнула — белыня кругом.

Лёльцы, канешне, і грошай шкада — пусціла на вецер. Але сябе суцяшала: значыць, суджана ім з Віцькам пажыць яшчэ. Той «грабавы» запас, які парушыла, спатрэбіцца не скора.

Сэрца болем пякучым ад другога заходзілася: авечак-гаротніц калючыя вятры шкуматаюць, снежны цалік шлях ім гародзіць. Мароз пячэ без разбору, ён і ў шыкоўных футрах праймае. Халадна, галадна. Гавылле толькі дзе-нідзе калышацца, а які з яго наедак?

Іскрыстымі сняжынкамі сыпанулі ў Шыкаўцову хату навагоднія віншаванні. Людзі празналі пра Лёльчын клопат. Як хто мог, суцяшалі кабету:

— Не гаруйце раней часу. Мо яшчэ знойдуцца. Здараюцца ж навагоднія цуды.

— Гэта, Сцяпанаўна, праблемы вашы зляцелі, у годзе старым усё дрэннае з імі засталося.

— Купім вам новых авечак, няхай толькі пацяплее!

Дзякавала Лёлька за спагаду, а сама толькі цяжка ўздыхала:

— А там жа і ягняткі — дзеткі малыя…

* * *

Лёлька выйшла на кухню, калі сын сабраўся адыходзіць на работу. Ён ведаў: маці хоча сказаць тое, што чуў кожную раніцу. Пасля таго здарэння яна не прамінала нагадаць:

— Ты ж, сынок, на людзях будзеш — цікаўся. Мо хто і бачыў…

Сёння ён не вытрымаў, выказаў тое, што ўжо даўно насіў ў сабе:

— Забудзься, маці, на сваіх авечак. Нябось, даўно пайшлі на шашлычок. Няма ні рожак, ні ножак. А ты ўсё па іх плачаш.

Колька стукнуў дзвярыма і знік у снежным сеіве. Зірнула ў акно Лёлька: не памылілася, не на жарт усхадзілася зіма. Яе нораву прыйдзецца падпарадкавацца. А з сынам яна паспрачаецца: навошта пра людзей благое падумаў? Бескарыслівай дабрыні на свеце куды больш, чым зла ды жорсткасці. Яна чужому дабру заўсёды настойліва шукала гаспадара. Да яе што толькі ні прыбівалася. Нядаўна трактарыст прывёз у вядры падхоплены каўшом з зямлі выпладак лісянят. Знаходка апынулася ля фермы, дзе наводзілі парадак. Просіць хлапец:

— Сцяпанаўна, толькі на вас і спадзеў!

І ў аўталаўку па малако бегала, і са шпрыца карміла, і «павуцінку» варыла. А калі драбяза падрастаць стала — спалохалася. Што з такой аравай (ажно чатыры!) лісянят тых цяпер рабіць? Жартавала: і курэй не хопіць, каб, як вырастуць, частаваць. Стала людзей прасіць: дапамажыце знайсці выхаванцам іншае прыстанішча! На шчасце, пра хваляванні жанчыны пачулі ў экалагічным цэнтры. Цяпер там яе рыжыя хрэсніцы ў вялікай пашане.

Колькі часу прайшло — зазваніў тэлефон. Незнаёмец пытаецца:

— Вы авечак шукаеце?

— Шукаем, — прыліпла Лёлька да слухоўкі.

А той і кажа:

— Бачыў, на аўтобусным прыпынку стаялі.

Адчула Лёлька падвох нейкі ў гэтым:

— Хіба яны ехаць куды сабраліся? — удакладняе.

А той вазьмі ды і прызнайся ў сапраўдным намеры сваёй «дабрачыннасці»:

— Вы ж за звесткі ўзнагароду абяцалі. Мо дасце на бутэльку?

— Знайшоў, разумнік, як у калядныя дні сябе пацешыць, — абурылася Лёлька і паклала трубку.

Яна і сама разумела: месяц ужо хутка, як прапалі авечкі, шанцаў знайсці іх ўжо амаль ніякіх. І кінула б пустое, але той быццам уцямяшаны ў галаву кол як стаяў, так і стаіць: знойдуцца...

Лёлька ў сны верыла і не верыла. Але калі бацька-нябожчык прысніўся, ведала — прыносіў нечаканую навіну, спрыяў ёй добра. Прачнуўшыся, з хлопцамі падзялілася, што будзе дзіва нейкае. Тыя паднялі яе на смех, абазвалі крыўдным — прыдумляльшчыца. А як снедалі, зноў успомнілі ранішнюю размову, у дадатак задзірліва пакпілі з яе. Але назаўтра, не было яшчэ і сямі гадзін, як зазваніў тэлефон. Колька першы падскочыў:

— Маці, цябе, — паклікаў заспаным голасам.

У той рукі-ногі пашэрхлі, здранцвела, да сябе дайсці не можа. Так рана дарма ніхто не турбуе. У такую трывожную хвіліну хіба пра добрае думаецца?

— Міленькая, не крыўдуй, — супакоіў Лёльку лагодны жаночы голас. — Але ж сама месца сабе не знаходжу, ну проста прэ з мяне сказаць: знайшліся твае авечкі!

У Лёлькі ад такой нечаканкі і мову адняло. Камяк тугі горла сціснуў, слёзы нястрымныя з вачэй пакаціліся... Тут бы ёй распытаць жанчыну: як і што? А яна стаіць знямелая — ад абрушанай радасці, ад дзіва раптоўнага, бацькам прадказанага.

Віцька за сцяной усхапіўся. Спалохаўся: слоў Лёльчыных ён бы не разабраў, але гамонку пачуў бы. Чаму тая не аказваецца?

Хуценька да жонкі памкнуў:

— Лёля, што здарылася? Маўчыш чаму?

Здаецца, такой гаваркой здатная да доўгіх казанак Лёлька ніколі не была — так «прарвала» яе красамоўе. Усё да дробязей хацелася даведацца — як згуба знайшлася? Адкуль шанцаванне прыйшло?

Аказалася, жанчыну, калі ўбачыла лісток, што на краме вецер шкуматаў, узяў непрыхаваны жаль. Страту незнаёмым чалавекам блудлівых авечак успрыняла, як сваю. Вось і пайшла пытаць па вёсках. А на сяле ж гэтак: свежыя навіны на печы не залежваюцца. Той нешта бачыў, гэты нешта чуў… Так пакрысе след давёў да фермы, куды прыбіліся валацугі-авечкі. Праўда, і там яны не затрымаліся. Але людзі і тут падказалі: цёмнай ночкай памагатыя арандатара пагрузілі іх на воз і завезлі да яго ў двор. А той прышлых авечак у свой гурт пусціў.

— Там, мілка, цяпер яны, — усё, як на споведзі, выдала добразычлівая кабета.

Жанчыны разам дзівіліся далёкай і па адлегласці, і па часе авечай вандроўцы. Тая мясцовасць, адкуль аб’явілася жанчына, у кіламетрах дваццаці, не менш, ад Шыкаўцовых ваколіц. І пра астудныя зімовыя дні ўспаміналі, як авечкі не змерзлі, сцюжу падужалі. Лёлька не ведала, як аддзячыць незнаёмай жанчыне, што стала ў адно імгненне такой блізкай, сваёй. І ў гэтым была святая праўда.

— Чым магла — дапамагла. Зараз, кумка, сама разбірайся, — жанчына з палёгкай зняла з сябе цяжар чужых клопатаў. — За высокім плотам твае авечкі, а гаспадар абы-каго ў двор не пускае. Сабака страшэзны сцэражэ яго багацце.

У той жа дзень усё і парашылася. Арандатар, да яго гонару, не стаў упірацца. Мусіць, не адважыўся пярэчыць разляцелай па наваколлі авечынай славе. І вароты адчыніў, і сабаку навязаў.

Нагасцяваныя авечкі як нічога і не было паехалі дадому. Толькі чорненькага баранчыка з імі не было. Двое ягнятак, відаць, туліліся да маці, таму і выжылі, сагрэтыя яе цяплом. А дурненькі баранчык, пэўна, адстаў ад сваёй матулькі і згінуў. Вось чаму такі глыбокі сум, думала яна, і не сыходзіў з вачэй авечкі, што стаяла ва ўтульным Шыкаўцовым хляве, як не свая.

…Быў канец студзеня, калі незвычайны экіпаж павольна рухаўся па чорнай стужцы чыстай ад снегу дарогі. Хаця зіма яшчэ была ў самым разгары, але сілы святла непазбежна бралі сваё. У Лёльчынай галаве прасвятлела, цяжкіх думак як і не было.

Жанчына з перапоўненай душу радасцю, якая выплёсквалася лагоднай на вуснах усмешкай, назірала за кучаравымі аблачынкамі, што плылі ў нябеснай сінечы, — вельмі ўжо яны нагадвалі яе авечачак. А за імі наўздагон бег той самы неразумны баранчык.

«Даганяй! Ад сваіх адрывацца нельга!» — у думках падганяла яго Лёлька...



**Валерый НЯХАЙ**

# АПОШНІ

*Апавяданне*

Даўно не было дажджу, неба не цешыла зямлю жыватворнай вільгаццю. А ноччу раптам наліло. Усе сцяжынкі і дарогі, на розныя бакі ад вёскі, так развезла, што трэба было ісці вельмі павольна, ледзь падымаючы ногі.

Здаецца, і не ідзе стары Павел, топчацца на месцы разгублены, разважае, што рабіць далей, але якія б ні былі важкія справы, ён не спяшаўся, адцягваў да апошняга. Часам азіраўся — ці не знікла з віду крайняя хата, — баяўся, што схопіць сэрца, быццам сыходзіў назаўсёды. Моцна прыкіпеў стары да вёскі. Здавалася, адыдзі крыху далей — парвецца сувязь, якой звязаны з гэтым месцам, згубіцца ў зямной бясконцасці. Там, у вёсцы, некалі жылі тыя, хто быў яму бліжэй за ўсё на свеце. Спачатку бацькі, брат. Потым — жонка, сын, унук. А цяпер ён застаўся адзін. Раней яшчэ быў унучак Ванька. Але ён, як і ўсе маладыя, з’ехаў у горад. Дзед тады не стаў утрымліваць унука. Калі Ванька ад’язджаў, у яго вачах было столькі рашучасці пакінуць вёску, што стары зразумеў — не знойдзецца ні слоў, ні прычыны адгаварыць яго. Ды і што казаць — не пайшоў нават правесці ўнука: баяўся, што не вытрымае, пусціць слязу. Развіталіся дома, не гледзячы адзін аднаму ў вочы, абняліся. Потым стары доўга сядзеў на ложку, прыслухоўваўся, як ад’язджае аўтобус. Счакаўшы, устаў, знайшоў чырвоны аловак і буйна, каб бачылі падслепаватыя вочы, накрэмзаў пад гадзіннікам, на зашмальцаваным кавалку шпалеры: «7 красавіка. 2007 год. Ванька з’ехаў».

І пацягнулася жыццё, як у паўсне. Ужо, здавалася, нічога не трэба: ні глядзець за хлопцам, ні дапамагаць. Неяк адразу, застаўшыся адзін, Павел яшчэ больш пастарэў, амаль не выходзіў з хаты, неахвотна пускаючы паштарку, якая прыносіла яму пенсію. Да аўталаўкі тэпаў рэдка, а калі і з’яўляўся каля машыны, вяскоўцы змаўкалі і здзіўлена паглядалі на яго — жывы яшчэ?.. Толькі двум вяскоўцам дазвалялася ўвайсці ў Паўлаў дом без стуку — Паліне і Грышку, ягоным суседзям і сябрам, такім жа старым і пакінутым, як ён.

— Ну што, Паша, Іванька піша? — стрэла яго неяк Паліна на вуліцы. — Як ён уладкаваўся? Дзе працуе?

---

*__Няхай Валерый Мікалаевіч__ нарадзіўся 12 жніўня 1951 года ў горадзе Балхаш (Казахстан). Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1974). Працаваў настаўнікам. Друкаваўся ў часопісах «Беларусь», «Маладосць», у газеце «Літаратура і мастацтва». Піша на рускай і беларускай мовах.*

— Піша, — адказаў стары і змоўк, не жадаючы пераказваць суседцы тое, што было ў лісце ўнука. Той напісаў дзеду праз месяц пасля ад'езду і, як пакажа час, гэты ліст станецца адзіным. Па штампе Павел зразумеў, што ліст быў адпраўлены з Мінска. Пра сябе Іван, акрамя адпіскі «ўсё нармальна, можа, падамся ў маракі, ці ў нафтавікі», нічога больш не паведамляў. Затое доўга і блытана лаяў бацьку за смерць маці, за сорам, які перажыў перад вяскоўцамі, за сіроцтва. Дасталося і дзеду — няправільна выхаваў сына, выгадаваў распусту... Павел тройчы перачытаў ліст — ці не прапусціў што. Не знайшоўшы зваротнага адраса, доўга сядзеў на зэдліку, гледзячы ў адну кропку. Ён разумеў, што гэта была не крыўда Івана на бацьку, на дзеда... Іван даў зразумець, што прыехаць у вёску — значыць, вярнуцца ў мінулае, зноў перажыць пакуты дзяцінства, а гэтага ён не хоча.

— Ванька на Поўнач пакаціў, — схлусіў стары Паліне. — Нафту будзе здабываць. Відаць, у Мінску не атрымалася ўладкавацца, ці не захацеў.

— За грашыма пагнаўся, — выказала здагадку Паліна.

— Твая Маруська таксама не ў хованкі гуляць зматалася ў Маскву, — усміхнуўся Павел.

— І правільна. Пакуль маладыя, здаровыя, трэба зарабіць грошай. Паспрабуй набыць кватэру ў Мінску. — Паліна ўздыхнула. — А ўсё ж Масква — не Поўнач.

— А толку! — стары махнуў рукой. — Чатыры гады як з'ехала, а дома ні разу не з'явілася.

— Нічога, прыедзе, — вочы Паліны радасна заблішчэлі. — Прыедзе. Яна абяцала.

А Павел чакаў. Не прыезду ўнука, бо даўно змірыўся з тым, што гэтага не адбудзецца, хіба здарыцца цуд. Ён чакаў ліста, тэлеграмы, якой вестачкі ад Ванькі, што той жывы і здаровы.

Восень пераходзіла ў зіму, зіма ў вясну, і калі надыходзіў красавік, цяпер такі важны ў яго жыцці, стары на шпалеры праводзіў чарговую рысу. Новы год для яго пачынаўся не першага студзеня, а сёмага красавіка. Пацягнуліся гады, аднолькавыя, як пахмурныя дні, адзначаныя чырвонай паласой на шпалерах і, нарэшце, гэтых метак набралася ажно сем. Павел палічыў і здзівіўся, што яшчэ жывы. У год ад'езду ўнука яму было восемдзесят. Не пра сябе ён думаў — усё, што магло з ім адбыцца ў жыцці — адбылося, і добрае, і дрэннае, новага нічога не будзе, ён усё больш звыкаўся з адзінотай, дзе, як меркаваў, будзе лягчэй сустрэць смерць. Дзе Ванька цяпер? Як уладкаваўся? А можа, крый божа, загінуў? Такіх, як ён, лёс часта лёгка ламае. Іван увесь у матку пайшоў. Тая жыла непрыкметна, пакорліва пераносіла мужавы здрады. Той, бывала, па некалькі дзён запар загульваў у суседняй вёсцы. Чапляўся і да замужніх жанчын, за што мужчыны білі яго не раз. Маці Вані памерла ці ад гора, ці ад якой хваробы, калі хлопчыку споўнілася дзесяць гадоў. Ды бацька хутка пайшоў следам — загінуў у лесе. Казалі, мужыкі падпільнавалі, насалілі шмат каму. Хто не прамахнуўся са стрэльбы — ведае толькі лес. Павел хаваў сына ў закрытай труне — карцеч знесла паўгалавы. На могільніку побач з курганом жонкі, вырас яшчэ адзін — сына.

Пасля пахавання стары сабраў хлопчыкавы манаткі, такі-сякі скарб — сынава хата была на другім канцы вёскі — і перавёз унука да сябе. Не забыўся і жывёлу з птушкай прыхапіць, а на дзверы хаты павесіў замак. Першыя месяцы, калі жыў у дзеда, Ванька часта падыходзіў да роднай хаты. Зірне на вокны і заплача, а пасля спалохаўшыся, што ўбачаць суседзі, уцякаў за ваколіцу,

дзе даваў волю слязам. Пакуль унук жыў з ім, Павел у сынаву хату не хадзіў, ведаў, што Ванька сочыць за парадкам, кожны дзень бегае дадому. Але застаўшыся адзін, стары часам спыняўся каля знаёмага плота. Паглядзіць моўчкі на хату, зойдзе ў двор, спыніцца, пастаіць, цяжка ўздыхне... Усё заставалася на двары, як пры Міхасю, Ваніным бацьку... Часам здаецца, што зараз адчыняцца дзверы і на ганак выйдзе Ганна — маці ўнука...

Ён яшчэ крыху пастаяў, вядома, ніхто не выйшаў, і пайшоў з двара. Стары ішоў да ракі праверыць пастку, якую вось ужо два месяцы ставіў на ракаў. Не тое, каб ён іх любіў, а каб паказаць Паліне, што жывы, яшчэ на сваіх нагах. Вядома, плот падправіць, ганак або падняцца на дах, каб заладзіць дзірку, ён ужо не зможа. Але трэба было рабіць нешта такое, каб суседка паверыла, што ён, Павел, не проста топчацца па зямлі, а жыве. Вось і прыдумаў ён ставіць пастку на рацэ. Трапіць рак або не — справа іншая, Паўлавай віны ў гэтым няма, затое схадзіў, праверыў: якое-ніякое, а жыццё! Як ні асцярожнічаў стары, а ногі не ішлі, слізгалі па жыжцы, як лыжы па снезе. Ён нават балансаваў рукамі. З боку паглядзець — ну, проста танцор. Не зусім, праўда, гладка атрымлівалася. У адной руцэ было вядзерца, куды ён звычайна складваў ракаў. Вядзерца, калі ўзмахваў рукой, ляпала па баку. «Сіняк будзе», — думаў стары. Да самой вады ён спускаўся яшчэ асцярожней, хапаючыся свабоднай рукой за гнуткія пруты вербалозу.

Раней гэта была добрая рака. У ёй вадзілася шмат рыбы. Тут з задавальненнем купалася дзятва, што прыязджала летам да бабуль і дзядуль, дарослыя. Часта Павел, як быў маладзейшым, каб перабрацца на другі бераг па якой-небудзь патрэбе — лянота было ісці да моста за тры кіламетры — распранаўся, браў у рукі вопратку і, падняўшы яе над галавой, пераходзіў раку. Аднойчы ён вырашыў палічыць крокамі яе шырыню — іх было дваццаць пяць. З таго часу лічыць крокамі шырыню Быстругі стала яго звычкай. А перад ад'ездам Ванькі, ён перайшоў раку за пятнаццаць крокаў.

Сумныя думкі наведалі старога — рака высыхала. «Што здарылася з табой? — думаў ён, і ціха казаў, нібы яна разумела. — Не спяшайся памерці. Я пайду першым, я цяпер нікому не патрэбны. А як жа без цябе рыбе, жабам... Не, я першым».

У апошнія гады летам Павел смела пераходзіў раку. Плынь была настолькі слабай, што ён не адчуваў яе. І раптам рака перастала высыхаць: два апошнія гады запар шырыня яе была пятнаццаць крокаў. Стары задумаўся — чаму? Тайну раскрыў Грышка, яго сусед...

У маладосці Грышка жыў і настаўнічаў у суседняй вёсцы. Закахаўся ў мясцовую бібліятэкарку, ажаніўся. А праз паўгода яго Ліда збегла з чыноўнікам з райцэнтра. Грышка пабедаваў, прадаў хату і пераехаў сюды, маўляў, каб тут нішто не нагадвала пра яго першае і апошняе каханне... Больш ён не ажаніўся. Грышка шмат ведаў. Як пачынаў распавядаць — заслухаешся. І неяк Грышка расказаў, што вясной, у тое месца, дзе рака падступае да балота, прыгналі трактары, машыны, пачалі капаць — і балоты сталі знікаць.

— Гэтыя балоты, — распавёў тады Грышка, — прысунуліся да ракі, і не зразумела, хто каго смокча.

Праз месяц пасля гэтай размовы Грышку занеслі на клады. Смерць узяла яго нядоўгай хваробай, неяк ураз... Павел зайшоў раніцой да яго ў хату, а той нерухома сядзіць за сталом, паклаўшы на яго галаву... Пахаваць Грышку Паўлу дапамагала Паліна — да гэтага часу ў вёсцы нікога больш не засталося. Паднялі труну з целам, паклалі на каляску і пакацілі. Павел цяг-

нуў, Паліна штурхала ззаду. У Паўла сіл не хапіла, каб выкапаць шырокую і глыбокую яму, выкапаў крыху вышэй, чым па пояс, вузкую. З цяжкасцю ўпіхнулі ў яе труну, прысыпалі зямлёй. Ані крыжа, ані агароджы: зладзілі невялікі грудок. Як жыў Грышка ціха, непрыкметна, так і скончыў свае дні. Выпаў яму лёс бабылём цягнуць свой век, праз плот любавацца суседскімі дзеткамі.

— Добрая ў Грышкі смерць, хуткая, без пакут, — казаў Павел. — Мне б такую.

— Лёгкую смерць трэба заслужыць, — адказала Паліна, а потым ціха памалілася.

— Адкуль ты ведаеш малітвы? — здзівіўся стары. — Я ніколі ў цябе дома не бачыў царкоўных кніг.

— Бог у сэрцы ў мяне.

— Чаму твае малітвы такія кароткія?

— З Богам трэба доўга жыць, але нельга доўга размаўляць: у яго такіх, як мы, шмат.

— Колькі цябе ведаю, столькі і здзіўляюся, — глуха сказаў тады Павел. — Скрытная ты.

— Тое, што жыве ў сэрцы, не кожнаму адкрыеш.

— Памятаю, памерла Сцепаніха, потым Аўгінка… Многія паміралі, але ты ніколі не чытала малітваў каля іх трун.

— За іх маліліся дочкі, сыны, а Грышка адзін быў на свеце...

Цяпер, седзячы ля ракі, Павел падумаў пра тое, што дарэмна ён распачаў гульню з ракой — хто раней памрэ. Дарэмна, а галоўнае — нядобра. Смерць або жыццё — гэта клопат лёсу, а ён капрызны, помслівы. Можа і адпомсціць, толькі памыліўся, не яго, а Грышку прыбраў: той жа гадоў на дзесяць быў маладзейшы.

Стары хутка знайшоў тое месца, дзе звычайна лавіў ракаў. Тут рака клінам убіваецца ў бераг, утварае яму. Туды і апускаў Павел кош, кінуўшы ў яго печаную бульбу. Ён не баяўся, што нехта знойдзе яго пастку — чужыя ў гэтых месцах ніколі не хадзілі, а са сваіх няма каму. І раней, калі ў вёсцы жыло нямала людзей, калі ў гаспадарках быў дастатак, не было чутак, каб што ў каго ўкралі.

Стары прысеў на камень, паглядзеў на ваду, на бераг, назад, туды, дзе засталася вёска. Навокал было прасторна: як у новай хаце, яшчэ нічым не застаўленай... Тут яму заўсёды лёгка думалася, яснымі былі думкі, а памяць маладой... У гэтым месцы прайшлі яго дзяцінства і юнацтва: тут з хлапчукамі і дзяўчатамі ён купаўся ў рацэ, тут рос, сталеў... Тут часта заседжваўся да світання са сваёй нявестай Зінкай…

Павел падышоў да вады, ухапіўся за вяроўку і што было моцы пацягнуў яе ўверх. Надта ж цяжкі кошык плюхнуўся на бераг, а разам з ім шчупак — доўгі, вузкі, з белым жыватом. Стары разгубіўся — такога ён не чакаў. Шчупак ляжаў на баку, глядзеў на яго адным вокам, хапаў зубастай пашчай паветра. Пакуль Павел цяміў, што рабіць, шчупак падскочыў, пераварнуўся ўжо каля самай вады. Стары зразумеў — яшчэ адна такая спроба шчупака, і будзеш толькі ўспамінаць пра яго... Павел нагой далей адкінуў рыбіну ў траву.

Можна было б забіць шчупака палкай, ды хутчэй вярнуцца дадому, засмажыць. Але Павел не адважыўся на такое. «Вялікі трапіўся, напэўна, такі ж стары, як і я, — думаў ён. — Хай сам засне, я да яго не дакрануся».

Дзіва ці не, але калі ўзнікала патрэба забіць індыка ці курыцу, Павел прасіў суседзяў і сыходзіў з двара. «І адкуль у яго гэткае дурноцце? — гаварылі тады вясковыя між сабой. — Спакон веку вядома, што хатняя жывёла і птушка прызначаныя чалавеку ў ежу, чаго разважаць». Думаць думалі, але не асуджалі, разумелі, што вось такі ён чалавек... Адзін Павел ведаў, як і калі гэтае «дурноцце» засела ў яго сэрца. Усё жыццё ён быў пры конях. Аднойчы здарылася бяда — закладваў ён у даху стайні дзірку, ды не ўтрымаў, выпусціў ліст жалеза, а той вострым кантам упаў на жарабя, якое было ўнізе... Ледзь не задыхнуўся тады малады конюх ад жудасці. З таго часу Павел набліжаўся да жывёлы і птушкі толькі з добрымі намерамі — пакарміць, наліць вады або загнаць у хлеў.

— Я ведаю, шчупак, ты хочаш жыць, — сказаў Павел. — У старасці ўсе разумеюць цану жыцця, нават рыбы. Але я не адпушчу цябе. Даруй...

Больш ён не стаў казаць, нібы збаяўся, што рыбы разумеюць мову людзей, а толькі падумаў пра тое, што такой вялізнай рыбіны хопіць яму і Паліне на цэлы тыдзень. Апошні месяц яны елі толькі бульбу і буракі: сала, якое неяк ён набыў у аўталаўцы, скончылася. Даўно ўжо аўталаўка не прыязджае ў вёску. «Напэўна, — думаў ён, — машына зламалася, а вадзіцель малады, можа, не ўмее... Шкада, Ванька з'ехаў. Ён бы адрамантаваў, у яго рукі з патрэбнага месца растуць».

Стары чакаў. Сонца паднялося ўжо да сярэдзіны неба, а шчупак усё не засынаў, усё раскрываў пашчу, хапаў паветра.

«Дзіўна ўладкавана жыццё! — падумаў ён, гледзячы на шчупака. — Вакол столькі паветра, а табе яго не хапае. Ведаю, табе балюча, але што я магу? Я ўжо бачыў, як задыхаюцца. Ты паміраеш таму, што рыбам не трэба жыць на зямлі. Зямля для людзей, для звера ўсякага, птушак... А як жа задыхалася мая Зінка, калі яе мучыла праклятая астма... Я і вокны ў хаце адкрыў, і дзверы, а яна ўсё адно задыхалася. Падмануў я сваю жонку... Абяцаў першым памерці, ажно — не...»

Павел паглядзеў на шчупака, той варушыў хвастом, але ўжо вельмі слаба. Стары паглядзеў на раку, убачыў, як з вады выскачыла рыбка, бліснула ў паветры і, узняўшы дробныя пырскі, знікла.

«Мабыць, рака радуецца, што шчупак памірае, — падумаў Павел. — Ён жа не адну сотню рыбак зжэр. А цяпер сам...»

Павел узняўся, пайшоў уздоўж берага, каб знайсці які дрот. У вядзерцы ён не зможа несці такую вялікую рыбіну, а дрот прасуне скрозь жабры.

Яму пашанцавала, — ён хутка знайшоў кавалак іржавага, але яшчэ моцнага дроту. Калі прасоўваў праз жабры, аб вострыя зубы шчупака параніў палец, на скуры выступілі кропелькі крыві, але Павел не адчуваў болю. Ён узваліў шчупака на плячо, скіраваў да вёскі.

Ішоў ён цяжка, ноша ягоная была не такая ўжо і лёгкая: гады бралі сваё... Неўзабаве за чорнымі гнілымі платамі паказалася яго вёска, вёска, дзе яго хата, а ў ёй — усё дарагое яму...

Так, у яго — свой дом. Хай і з падранымі шпалерамі, сапраўдны колер якіх ён нават і не памятае, але гэта яго дом... Павел, пакінуўшы шчупака ў сенцах, зойдзе ў хату і па звычцы спыніцца перад шырокай рамай на сцяне, у якой за шклом фотаздымкі тых, каго любіў і памятаў... І хоць яго вочы часам, асабліва ў паўзмроку, ужо не адрознівалі, хто на якім фотаздымку, ён памятаў, што ў левым верхнім куце ягоны брат, які загінуў у першы месяц вайны; побач маці і бацька, а правей ён сам з Грышкам... На некаторых фотаздымках Павел

ужо не пазнаваў хто там, але не вымаў з рамкі, разумеў, раз яны знаходзяцца тут, то некалі гэтыя людзі былі блізкія яго бацькам, значыць, гэта частка яго жыцця.

Але прыйшоўшы ў вёску, Павел накіраваўся адразу ў хату да Паліны. Брамка ў суседкі ніколі не зачынялася, ён пхнуў яе свабодным левым плячом (рыбіна ляжала на правым), падышоў да акна, крыкнуў:

— Гэй, суседка! Выходзь! — змоўк, падумаў: «Цяпер старая ахне... Цікава, як яна прыгатуе шчупака? Калі разумна, дык яго хопіць надоўга».

Ён чакаў, што неўзабаве на ганак выйдзе суседка, але яна не з'яўлялася, прайшло некалькі хвілін, Павел падняўся на ганак, адчыніў дзверы ў сенцы, крыкнуў мацней:

— Гэй, суседка! Паліна! Спіш, ці што?

Па-ранейшаму — цішыня. Павел паставіў пустое вядро ў сенцах, не здымаючы з пляча шчупака, хвост якога целяпаўся ніжэй паясніцы, зайшоў у хату. У хаце было паўзмрочна, але ён заўважыў, што нехта ляжаў на ложку пры сцяне ад вуліцы, склаўшы на грудзях рукі. Паміж пальцаў тырчэў крыжык. Павел наблізіўся.

— Божухна, Паліна памерла, — роспачна, ледзь вымавіў ён.

Увогуле, Павел не вельмі здзівіўся таму, што ўбачыў. За апошнія гады старыя ў вёсцы паміралі часта, і гэта заканамерна: людзі аджылі сваё. І тое, што Паліна адышла, яго не вельмі здзівіла, не спалохала.

Павел агледзеў пакой, зразумеў, што яна загадзя рыхтавалася да гэтага. Вокны былі закрыты фіранкамі, старое люстэрка завешана нейкім чорным покрывам. На стале ляжала перавязаная ніткай насоўка, у ёй, як зразумеў, грошы...

— Падрыхтавалася, значыць, Паліна, падрыхтавалася... А мяне не паклікала. Хаця, можа, і клікала, ды я не чуў... Учора ж так грымела ў небе, быццам зямля раскалолася, што крычы не крычы, не пачуеш. А можа, ёй не было чаго мне сказаць, вось і не паклікала... Скрытная яна была. Нават калі Маруся, яе дачка, збегла з дому, нам з Грышкам толькі праз тры дні сказала.

На падлозе Павел убачыў лісток, выдзерты з сшытка. Падняў, паднёс бліжэй да вачэй, прачытаў: «Апошні наказ табе, Паша. Ямку я падрыхтавала, як магла. Яна побач з Грышкавай магілай. Можа, дрэнна атрымалася, неглыбока, як у Грышкі, але нічога, зараз нас двое, яму не так будзе сумна. Калі ў яму набяжыць вада, то накідай галінак, не хачу ляжаць у мокрым. Дзверы ў хаце не забівай, а толькі зачыні на кручок, Маруся, як прыедзе, каб адразу зайшла, не мучылася. Абразы ў труну не кладзі, Марусі аддай, яны мне яшчэ ад маёй бабулі засталіся. Труна ў хляве стаіць. Рыдлёўка на могілках, пад галінкамі, каля ямы. Рыдлёўку потым не забудзь, яна амаль новая, табе спатрэбіцца на агародзе. Жыві яшчэ, як зможаш, і не памінай ліхам».

Павел ледзь не заплакаў. З Грышкам не атрымалася па-людску пагаварыць перад яго адыходам... І з ёй — таксама... Хаця пра што было гаварыць?.. Жылі як маглі...

Ён падышоў да абразоў у куце, стаў глядзець на ікону Багародзіцы з немаўляткам на руках.

— Вазьмі рабу тваю Паліну ў царства нябеснае, яна ўсё жыццё працавала, добра працавала. Ніколі нікога не пакрыўдзіла, людзі яе паважалі. Калі ў раі з месцамі туга — маё аддай.

Павел змоўк, быццам чакаў адказу, затым нібы спахапіўся, падумаў: «Можа, мне няма месца ў раі, а я палез — маё месца... Нядобра атрымалася».

Ён доўга маўчаў, потым ціха мовіў:

— А Паліна, здаецца, падобная на цябе, маці ж...

Ён выйшаў з хаты, сеў на ганак, прысланіўся спінаю да шула, не скідаючы шчупака з пляча. Сядзеў доўга, здаецца, ні пра што не думаючы... Потым устаў, прыхапіў рыбіну, накіраваўся ў хлеў, убачыў там труну, прыстаўленую да сцяны, сказаў невядома каму:

— Добрая труна, дошкі добра збітыя, вытруганы акуратна. Бачу, суседка, грунтоўна падрыхтавалася. Каб мне менш клопатаў. — Правёў рукой па дошках. — Сухія. Даўно збітыя. Але калі? Хто пастараўся?.. Ага, Мікіта, не інакш. Каму яшчэ прыйдзе ў галаву такое, каб для Паліны, якая ад сілы даставала галавой мне да грудзей, збіваць труну ў два метры?.. Цікава, колькі ён здзёр з яе? Яшчэ той жук быў! — І тут нібы спахапіўся. — А труна ж, мабыць, такая доўгая на выпадак, што я першы сканаю... Эх, Паліна, Паліна... Пра мяне клапацілася, за свае грошы мне заказала, каб калі што, не мець клопату...

Павел выйшаў з хлява, усё яшчэ трымаючы рыбіну на плячы і не адразу заўважыў сабаку. А сабака стаяў на падворку, і ўбачыўшы Паўла, заскуголіў. Павел спыніўся, паглядзеў на яго. Руды, худы, аблавухі сабака стаяў кроках у пяці ад яго.

— А я думаў, што застаўся зусім адзін. Памыліўся, дзякаваць богу, — усміхнуўся Павел. — Адкуль ты? У нас даўно няма сабак. Напэўна, выкінуў цябе гаспадар. Пачуў ежу і прыбег. — Што ж табе даць?.. Чакай... — Павел дастаў з кішэні акраец хлеба, які паклаў у кішэню раніцой, трымаючы яго ў руцэ, падаў сабаку. Сабака ўзяў хлеб, адышоўся, прагна праглынуў. Павел памаўчаў, затым дадаў: — Чакай, падзялюся з табой і шчупаком, больш няма з кім: і ты адзін, і я адзін. Але пачакай крыху... — Павел падышоў да дзвярэй. — Трэба добра зачыніць, можа, яшчэ дзе бегаюць твае сябры. Як бы да цела не дабраліся.

Павел зайшоў на ганак, зачыніў дзверы на кручок, пайшоў з двара, накіраваўся да сваёй хаты. Сабака моўчкі брыў следам. Павел ішоў, і яму здалося, што ззаду некалькі разоў бразганула незачыненая аконная фортка, абярнуўся, сказаў:

— Мабыць, клічаш, Паліна. Думаеш, я цябе кінуў. Дурніца, хіба ж я цябе пакіну адну?.. Чакай, вось рыбу дадому занясу, і вярнуся. Памятаю я пра цябе.

Ён падышоў да свайго падворка, павесіў дрот з рыбай на плот, вярнуўся да Палінінай хаты: фортка акна была адчынена, час ад часу ляпала. Павел зламаў галінку на вішні, што расла пад акном, заклаў паміж створкамі і моцна прыціснуў.

Стары агледзеў аканіцы, адышоў ад сцяны, заўважыў, што сабака стаіць амаль ля самых яго ног, дрыжыць, зазірае ў вочы...

— Не бойся, — сказаў Павел, — не праганю... Нічога, пажывём яшчэ. Тут пажывём, нікуды я адсюль не паеду. Прыязджалі неяк да нас у вёску з раёна хлопцы, перапісалі ўсіх, хто яшчэ заставаўся. Дзесяць чалавек набралася. Прапаноўвалі, прасілі нас пераехаць на зіму ў інтэрнат, казалі, пажывіце да вясны, потым — назад. Там жа — на ўсім гатовым, і ўрачы глядзяць. Але, атрымліваецца, быццам мы самі ўжо ні на што не здатныя, вось дзяржава і аказвае нам такі клопат. А Грышка, тады яшчэ жывы быў, казаў: «Як жа мы

свае хаты пакінем? Асірацеюць...» Адмовіліся мы ехаць. Мікіта, праўда, пагадзіўся. Адну зіму пажыў, а пасля збег. Кажа, што там і цёпла, і добра, і сытна, а хочацца дадому... — Стары памаўчаў, пагладзіў пашарпаную сцяну Палінінай хаты, працягваў: — Так выйшла, што я апошні з нашай вёскі застаўся, а калі так, паміраць мне рана. Хай Палініна дачка прыедзе, мой Ванька. А там ужо будзе бачна... І ты будзеш жыць. Хто ж будзе глядзець за Грышкавай, Сцяпанавай, Мар'інай і Мікітавай хатамі?.. Мы з табой. А хто будзе хадзіць да іх на магілкі?..

Павел павярнуўся, пайшоў да сваёй хаты. Адчуваў, што сабака ідзе следам.

Стары падышоў да плота, хацеў узяць рыбіну, як пачуў гул матора.

— Няўжо аўталаўка? — узрадаваўся Павел і павярнуўся на гул, і скалануўся: каля яго спыніўся бліскучы легкавік.

На такіх машынах гадоў дзесяць таму, калі ў вёсцы яшчэ было нямала жывых старых, прыязджалі адведаць родных некалі вясковыя, а цяпер гарадскія іх дзеці і ўнукі. Здаралася ў іншую суботу столькі набівалася ўсялякіх легкавікоў — не прайсці. Капот гэтай машыны, падалося Паўлу, нагадваў шчупака. Праз пярэдняе шкло былі бачныя двое — пасажыр і вадзіцель. З машыны доўга ніхто не выходзіў. «Напэўна, іх вёска напалохала, — падумаў Павел. — Хаты ёсць, а людзей няма... Шкада, што не аўталаўка. Я б каўбаскі купіў сабе і сабаку. Вось і спатрэбіліся б Палініны грошы. Памянуў бы... Самагонка ў мяне засталася яшчэ ад Грышкавых памінак».

Дзверца ў машыне адчынілася, з боку вадзіцеля вылезла маладая жанчына, пакруціла галавой па баках.

— Гэй, дзед, дзе народ?

— Няма.

— Я бачу, што няма. Пытаюся, дзе?

— Там, — Павел махнуў рукой ў бок могілак.

— А ты хто?

— Апошні.

Жанчына вярнулася да машыны, адчыніла дзверцу, села за руль. Машына не кранalася з месца. А стары не зводзіў позірку з пасажыра, ён здаўся яму знаёмым і не знаёмым...

Паўлава сэрца пачало біцца ўсё мацней і мацней... «Божа, — думаў ён, — хто ж гэта?.. Няўжо?.. Не, не можа быць, ён напісаў бы, папярэдзіў...»

А гэтым часам за старым назіраў той, што сядзеў справа ад вадзіцеля: малады, коратка стрыжаны, апрануты ў модную куртку, мужчына.

— Не можа быць! — раптам прашаптаў ён і ўвабраў галаву ў плечы, нахіліўся наперад, быццам хацеў ад некага схавацца.

— Што з табой? — спытала жанчына. — Табе дрэнна?

— Не… Паехалі адсюль.

— А як жа дом? Нават не паглядзелі.

— Вось прыстала! — мужчына, не разгінаючыся, вылаяўся. — Паехалі!

Машына рэзка ўзяла з месца. Стары няўцямна паглядзеў ёй услед, пацiснуў плячыма.

Машына, выехаўшы з вёскі, скіравала на бальшак, і ў ёй адбылася такая размова.

— ...Знойдзем дом для тваёй дачы ў іншай вёсцы, — казаў мужчына, ён ужо сядзеў роўна, глядзеў наперад. — Вунь іх колькі закінутых хат.

— Слухай, Ванюша, — жанчына строга глянула на яго, — не мая, а наша дача, пара звыкнуцца з тым, што мы — сям’я. І не трэба мне грубіяніць!

— Даруй. Сарвалася, — сказаў мужчына. — Некалі я даў сабе слова, што ніколі не з’яўлюся тут і вось… Нікога не хачу бачыць!..

— Але ж ты сам прывёз мяне сюды.

— Ды хто думаў, — мужчына на хвіліну змоўк, потым, быццам нешта ўспомніўшы, дадаў: — Не злуйся. Я тут не быў сем гадоў. Думаў, што мой дзед даўно памёр ужо. Яму было восемдзесят, калі я з’ехаў. Ты ж ведаеш, жыццё так закруціла мяне: мора — па годзе ў рэйсе, розныя краіны...

А потым — бераг...

— А гэты стары...

— Не... Не ён. Мабыць, прыблуда нейкі. Ён жа табе казаў: апошні там...

— І ўсё ж трэба было застацца. Мне проста хацелася паглядзець на хату, у якой нарадзіўся ты, мой муж.

— Хата як хата, нічога асаблівага.

— Куды далей ехаць?

— За тым дрэвам бяры налева. Там павінна быць вёсачка. Можа, хто жывы застаўся?..

...Каля вуліцы расло дрэва. Калі яно выцягнулася і стала перашкаджаць машынам, яго спілавалі. Павел сядзеў на пні, прыслухоўваўся, як шалёна калоціцца яго сэрца.

— Бач, разышлося, як! — праз сілу ўсміхнуўся ён, прыкладваючы руку да грудзей. — Быццам птушка ў клетцы. Ты што, Ваньку пачула? Ды не, што ты! Ванька далёка, дай бог яму шчасця... Гэта не Ванька быў, чуеш?! Ну-ну, цішэй. Яшчэ памру, а мне нельга...

Гэта былі апошнія словы старога. Вымавіўшы іх, ён паваліўся на бок і праз хвіліну ўжо не адчуваў нічога... Ён не адчуваў, як сабака спачатку лізаў яму рукі, потым твар, як завыў глуха і жудасна.

А тым часам жанчына, якая сядзела за рулём, быццам пачуўшы гэтае выццё, спыніла машыну, развярнула яе, скіравала назад у вёску, ціха мовіўшы мужчыну:

— І як жа ты мог не пазнаць яго?..





Алесь ДЗЯТЛАЎ

# ТРЫ НАВЕЛЫ

## Муштра «ваўчанят»

Карны атрад фашыстаў прыехаў у вёску ясным чэрвеньскім ранкам. Дзве грузавыя крытыя брызентам машыны спыніліся каля крайніх хат пасярод вуліцы. Маладзенькія вясёлыя немчыкі жвава пасаскоквалі з кузаваў на дол, стоўпіліся каля грузавікоў, чакаючы каманды камандзіра. Пажылы немец-эсэсавец не спяшаючыся ступіў на падножку кабіны пярэдняй машыны. Паглядзеў на вёску, затым грузна скочыў на зямлю, у пыл, зняў фуражку, выцер насоўкай спацелую лысіну, як усё роўна вясковы дзядзька ў час работы, нешта строга гыркануў, і вясёлыя немчыкі ўраз прыціхлі, хуценька пастроіліся ў дзве шарэнгі каля плота ў цяні высокай ліпы, што расла за варотамі Саўкі Бузана.

Вяскоўцы трывожна насцярожыліся, потайкам апасліва касавурыліся на няпрошаных гасцей: ці мала што тыя задумалі...

Карнікі ў апошні час часта сталі заязджаць у вёску, або спыняліся на шляху, абмінаючы вуліцу, бывала, праязджалі міма паселішча, быццам што вынюхвалі, але людзей не чапалі. Хаты стаяць пры самай дарозе, якая кіруе да чыгуначнай станцыі, а непадалёку пачынаецца дрымучы лес. Карнікі ведалі, што там недзе знаходзяцца партызаны, што яны наведваюцца ў вёску.

І вось тут нечакана заявіліся немцы, маладыя, стройныя, амаль што падлеткі. Былі яны ў чорнай форме, з вінтоўкамі, з выгляду бесклапотныя, ружовашчокія, не такія, як ранейшыя, што прыязджалі ў вёску. Тыя былі пахмурныя, насцярожаныя, ад тых можна было чакаць бяды. Здаецца, тады яна вісела ў паветры, стоеная, злавесная, але ўсё неяк абыходзілася... Зараз вяскоўцаў насцярожваў таўсты, у чорным мундзіры немец, як было бачна, старшы над немчыкамі: ён, здавалася, не гаварыў, як усе людзі, а адрывіста гаўкаў, як злы сабака.

---

*Дзятлаў Алесь (Аляксандр Мікалаевіч) нарадзіўся 3 чэрвеня 1936 года ў вёсцы Туркі Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1959). Працаваў у глыбоцкай раённай газеце «Сцяг камунізму», у газетах «Чырвоная змена», «Звязда», на кінастудыі «Беларусьфільм», у часопісе «Родная прырода».*

*Выдаў кнігі прозы «Росы на поплаве» (1974), «Белы месяц сакавік» (1977), «Сляды» (1981), «Вяртанне» (1987), «Парог» (1993), «Над безданню» (2007), «Чорная эмка» (2008) і іншыя.*

Немец, стоячы перад строем, штосьці рэзка скамандаваў, і з крытага брызентам кузава задняй машыны двое канваіраў вывалаклі са звязанымі за спінай рукамі Гаргуна, паліцая, якога з тыдзень ноччу назад ледзь не заграблі партызаны. Але тады трое акружылі ягоную хату, ды не змаглі ўзяць Гаргуна: паліцай паспеў непрыкметна выпаўзці з сенцаў праз патайны лаз у хлеў, адтуль цішком выслізнуў па жыце на выган і сігануў у недалёкае кустоўе, а неўзабаве прыбег на станцыю пад ахову немцаў. Нават вінтоўку не паспеў захапіць, якую яму ўручылі немцы — старую рускую трохлінейку. Мабыць, таму, што страціў зброю, Гаргун і трапіў пад падазрэнне: фашысты меркавалі, што хітруе паліцай, яго арыштавалі, білі, дапытваліся, ці не звязаўся ён з партызанамі. І вось цяпер Гаргуна прывезлі ў вёску, каб на месцы дазнацца, што адбылося ў тую ноч на самай справе.

Гаргун плёўся па пыльнай вуліцы наперадзе канваіраў, астатнія немчыкі гуртам ішлі за імі, насцярожаныя і прыціхлыя, трымаючы вінтоўкі напагатове. Ля хаты Лявона Веліча прыпыніліся, двое немцаў забеглі з глухой сцяны за хату, трое ўбіліся ў двор, сталіся ля вокнаў. Толькі тады таўстун у чорным мундзіры праціснуўся ў веснічкі, па двары ён крочыў няспешна, цвёрда, нібы быў тут гаспадаром.

Лявоніха была ў хаце, пачула гоман і тупат ботаў, угледзела праз шыбку ў двары чужых людзей, матнулася да парога, каб пераняць іх, не даць убіцца ў хату, бо ў куханьцы абедае яе старэйшы сын Колька, якому тыдні два таму Гаргун гразіўся паказаць, дзе ракі зімуюць: паліцай нейкім чынам дазнаўся, што падлетак аднойчы нібыта правёў групу партызанскіх падрыўнікоў да чыгункі. З таго часу паліцай не даваў Кольку праходу, усё дапытваўся, ці праўда, што дапамог партызанам? Гразіўся, калі не прызнаецца сам, здасць немцам — тыя выб'юць прызнанне.

Калі «бобік» збег да немцаў, то Лявоніха занепакоілася, затрывожылася — злыдзень выдасць немцам Кольку, каб выратаваць сваю скуру. Наплявузгае карнікам, што хлопец дапамагае партызанам, а пасля навёў іх і на яго, паліцая… Гэтыя думкі не пакідалі Лявоніху ўвесь час, і калі заўважыла на двары Гаргуна пад канвоем немцаў, у яе ёкнула сэрца: прывёў карнікаў, паганец, загубяць Кольку.

— Здэсь жівёт помогатэль партізант? — прагаўкай немец у чорным мундзіры, павярнуўшыся да паліцая, чакаючы адказу.

— Тут, тут, — хутка, паслужліва заківаў той галавой. — Тут, пан маёр. Пасобнік бандытаў. І на мяне навёў бандзюкоў, ён самы, — Гаргун перахрысціўся і паказаў на вокны хаты. — Тут жыве, тут…

Таўстун нешта коратка гергетнуў двум немчыкам, якія, наструніўшыся, чакалі ля дзвярэй на ганку, і тыя кінуліся ў хату.

Колька, як толькі карнікі ўбіліся ў двор, усё зразумеў, падхапіўся з-за стала і матнуўся ў другі пакой да акна, якое выходзіла ў зарослы кветнік, дзе можна ў зарасцях схавацца, але на вуліцы і каля плота — гурт немцаў з вінтоўкамі. З сенцаў таксама не выскачыш — двое напагатове каля дзвярэй. Колька зразумеў, што не вырвацца, абклалі ўсе выхады. Пашкадаваў, што не пайшоў да партызан, паслухаўся маці.

Чэпкія рукі абхапілі хлопца, які зашыўся ў куток пакоя, двое немчыкаў павалаклі яго ў двор, кінулі на дол каля ног эсэсаўца. Лявоніха загаласіла, заламала рукі, упала на калені перад тоўстым немцам, казала, што яе сын невіноўны, даводзіла, што ніякіх партызан не ведае, што Гаргун узвёў на яго паклёп, бо сам хоча быць чыстым.

— Паночак, ён яшчэ дзіцё, яму няма і пятнаццаці гадкоў, — плачучы,

жанчына ўмольвала немца, падпаўзла на каленях бліжэй да яго ботаў. — Не памагаў ён партызанам, не бачыў іх ніколі. Пашкадуйце майго адзінага сыночка, не вінаваты ён ні кропелькі.

Немец, гідліва падцяўшы губы, не слухаў жанчыну, павярнуўся да яе бокам, падаў знак немчыкам. Тыя падпіхнулі Гаргуна бліжэй да эсэсаўца. Твар паліцая яшчэ больш сшарэў, калені дробна дрыжалі, па-сабачы ён аддана зазіраў у вочы карніку.

— Узнавайт, этат? — не гледзячы на паліцая, гаўкнуў немец.

— Етат, пан маёр, і на мяне навёў бандытаў, — пралепятаў Гаргун сухімі дрыготкімі губамі, ад страху нізка схіляючы галаву, каб паказаць сваю пакорнасць і ўлагодзіць эсэсаўца. — Еты самы бандзюкоўскі памагаты.

Маладыя немчыкі, наставіўшы вінтоўкі, цікавалі за кожным рухам хлопца. Колька ляжаў на зямлі ніцма, і яго худыя плечы дробна ўздрыгвалі — ён ужо не мог плакаць, толькі ледзь чутна хлімкаў ад страху і бездапаможнасці.

Лявоніха на каленях падпаўзла бліжэй да немца, абхапіла рукамі яго бот і пачала цалаваць яго. Плечы яе торгаліся, цела звівалася, яна галасіла, спадзеючыся, што немец злітуецца, выратуе яе сына ад пагібелі.

Карнік гідліва скрывіў губы, незадаволена чмыхнуў, адрывіста нешта гыркнуў немчыкам, адзін з іх падбег да жанчыны, з усяе сілы выцяў насцаком цяжкага бота, памкнуўся адцягнуць далей, да плота. Але Лявоніха не давалася, яна ўжо адпаўзла ад карніка, рукамі ўчапілася за кашулю сына, не адпускала яго ад сябе, нема галасіла. На дапамогу немчыку падбеглі яшчэ двое, адцягнулі жанчыну. Затым яны ўхапілі хлопца за рукі, пацягнулі па зямлі да каліткі. Галава Колькі бездапаможна матлялася, быццам у мёртвага, а ў шырока адкрытых вачах застылі боль, страх і адчай.

Лявоніха паспрабавала ўзняцца, але не змагла, апала на дол, папаўзла за сынам, сутаргава хапаючыся рукамі за яго босыя ногі, галосячы, ажно захліпаючыся.

Немчыкі выцягнулі хлопца на вуліцу. Маці парывалася паўзці ўслед за сынам, прыпадымалася, рвала на сябе кофту, падала на зямлю: страшны, жудасны крык-адчай вырываўся з яе горла...

Калі немцы адышліся, суседкі прыбеглі ў двор, паднялі жанчыну, далі ёй вады, узяліся весці ў хату, але яна вырвалася з іх рук, хістаючыся, як не ў памяці, кінулася на вуліцу. Там яна падала на зямлю, падымалася, імкнулася да машын, якія ўжо крануліся з месца і кіравалі да будынка школы, што стаяла воддаль на пагорку.

Мабыць, зразумеўшы, што не дабяжыць, Лявоніха ўпала на калені, узняла рукі ўгору, быццам прасіла Усявышняга, каб заступіўся, пакараў забойцаў, адвёў бяду ад яе сына... А неўзабаве, знясіліўшыся, сціхла — не магла ўжо слаць праклёны, выціснуць з сябе хоць слова: ледзь чутна хрыпела, паволі апускаючыся ў гарачы пыл вуліцы і, урэшце, заціхла.

Людзі і Лявоніха не пачулі, як у недабудаванай новай школе глуха татахнуў вінтовачны стрэл...

Праз нейкі час вясёлыя і бесклапотныя немчыкі ў акуратных мундзірчыках вывалілі шумным гуртам на школьны двор, дурэлі, смяяліся, забаўляліся, быццам нічога не адбылося — так, звычайны занятак, дробны эпізод на вайне.

Таўсматы эсэсавец, як пасля цяжкай, але небходнай работы, прылёг на траву ў цяні бяроз, упараны, спатнелы, расплікнуў мундзір, зняў фуражку. Па яго загадзе адзін з немчыкаў, выкруціў з калодзежа вядро вады, паднёс яму. Таўстун выцягнуў з пляскатай сумкі складную невялікую шкляначку,

чарпануў з вядра. Немчык пачціва нізка схіліўся, чакаў, калі старшы нап'ецца, і такая гатоўнасць выканаць любы загад гэтага пажылога эсэсаўца свяцілася ў ягоных вачах, што хмурны і суровы камандзір адабральна паляпаў яго па плячы.

Ці не гэты паслужлівы немчык стрэліў у патыліцу безабароннаму вясковаму хлопцу, амаль свайму равесніку, каб заслужыць пахвалу старшага?..

Адпачыўшы, праз паўгадзіны карнікі пачалі збірацца. Гаргун, радасны і задаволены, што бяда яго абмінула, асцярожліва, бокам, падаўся да машын, пачціва прапусціў у кузаў немчыкаў, ускараскаўся туды апошнім, апусціўся на краёк жалезнай лаўкі...

Позняй восенню партызаны высачылі і забралі Гаргуна, які перабраўся на станцыю пад ахову нямецкага гарнізона. Паліцая прывалаклі ў вёску, правялі па вуліцы са звязанымі за спінай рукамі, каб людзі бачылі, што здраднік злоўлены і не міне кары. Каля хаты Лявоніхі «бобіка» паставілі на калені і зачыталі прыгавор партызанскага суда.

Расстралялі Гаргуна на школьным двары — паставілі да камля той самай бярозы, ля якой улетку пасля гібелі Колькі адпачываў эсэсавец.

Вяскоўцы моўчкі назіралі, як звіваўся перад смерцю і скуголіў у жаху паліцай, прасіў і маліў аб літасці.

Закапалі «бобіка» на ўскрайку могілак у раўку, закідалі зямлёй, як сабакупрыблуду, не паставілі крыжа.

На наступнае лета тое месца зарасло быльнягом.

## Горкая радасць

Стары Анісім з нецярпеннем чакаў таго дня, калі прыйдуць чырвоныя вызваляць вяскоўцаў ад невыноснага чужога нямецкага прыгнёту, што, як цёмная ноч, доўжыцца ўжо тры гады.

Спачатку ў вёсцы стаяў нямецкі гарнізон — салдаты займалі школу, а мінулай восенню немцы кудысьці выбраліся. Пасля іх сталі паліцаі. Казалі, прыгналі «бобікаў» сорак аднекуль здалёку, загадалі выкапаць каля шашы два бліндажы, паставіць кулямёты, каб ахоўваць падыходы да вёскі з усходняга боку.

Зіму і вясну паліцаі сядзелі ціха, амаль не паказваліся на вясковай вуліцы. Але на пачатку лета замітусіліся, нікога з вёскі не выпускалі — ні ў суседняе паселішча, ні ў лес, які сінеў на гарызонце, выставілі пасты, каля шашы выкапалі траншэю і замаскіравалі яе. Вяскоўцаў устрывожыла, што да паліцаяў раніцой часта пачала прыязджаць зялёная нямецкая машына, падобная да аўтобуса, доўгія вусы-антэны тырчалі на яе даху. Яна стаяла каля бліндажоў да паўдня: немцы ці нешта слухалі, ці перадавалі якія звесткі, вяскоўцам было невядома.

Анісім здагадаўся, што, мабыць, хутка пачнуць наступаць нашы, вось немцы і нервуюцца. Усё часцей самалёты з чырвонымі зоркамі на крылах бесперапынку гулі ў небе, ляцелі ў бок горада і да чыгуначнай станцыі. Адтуль даносіліся грымоты, падымаліся над лесам слупы дыму. На ўсходнім баку неба ў бязмесяцавыя ночы ўзнікалі танюсенькія бліскаўкі, быццам бязгучна крыжаваліся далёкія кароценькія маланкі. Яны сведчылі, што дзесьці далёка ідуць баі — фронт набліжаўся з кожным днём, вызваленне было блізка.

«Так, сіла ідзе, што супраць яе гэтыя бліндажыкі ды вінтовачкі, — радаваўся Анісім. — Сатруць гадаў на парашок. І мой жа Юрык, мабыць, ідзе з

нашай арміяй. Не можа быць, каб мінуў бацькоўскую хату. Камандзір у артылерыі, перад самай вайной наведаўся ў водпуск дадому, у рамянях і форме, як належыць быць вайскоўцу. Казаў, што пры батарэі службу нясе, ля самай граніцы».

Чула сэрца старога селяніна, што сын жывы, уратаваўся ў пекле вайны, мінулі яго кулі і асколкі. Можа, і паранены быў, не без гэтага ў баях, але выжыў. Жонка Анісіма неяк забегла да мясцовай гадалкі, тая раскінула карты, і паказалі яны, што выпадае сыну дарога да дому. Значыць, жывы і ваюе. Стары так зжыўся з думкай, што Юрык заявіцца да яго з чырвонаармейцамі, бацька і сын сустрэнуцца, парадуюцца вызваленню, сядуць за стол, запросяць суседзяў, сяброў...

Яшчэ ў маі, тоячыся начамі ў стопцы, Анісім выціснуў крыху самагонкі, закапаў яе ў бочачцы ў куточку ў хляве, каб паліцаі не дазналіся і не выжлукцілі. Але з надыходам вясны іх быццам што пакусала: яны шнырылі па дварах у пошуку спажывы, напіваліся, калі дзе ў якога гаспадара знаходзілі самагонку.

— Няйначай, скон свой пачулі, — радаваўся Анісім. — Заўсёды так бывае — звер, чуючы пастку, гатовы на дрэва сігануць, абы ўратавацца.

Неяк у двор Анісіма прывалакліся трое «бобікаў», адзін наставіў на гаспадара вінтоўку:

— Паказвай, дзе прыхаваў самагон і прочае, стары пень. Ждёш, кагда прыдут тваі красные? Не даждзёшся, падохнеш.

Адзін трымаў яго пад прыцэлам, а двое ўбеглі ў хляўчук, перапаролі салому, абшукалі стопачку, перастрэслі ўсё ў хаце. Нічога не знайшлі, раззлаваліся яшчэ больш:

— У лесе схаваў самагон, падсвінка таксама зажыліў, морда. У нас сведзенія точныя.

— Здурэлі ці што? Яшчэ як немцы тутака стаялі, забралі парсючка, кароўку звялі з двара. Во, крыж кладу, калі маню, хай праваліся пад зямлю, — Анісім не на жарт перапужаўся. — Кажу вам, парсючка ў хляве гахнулі ў лыч з вінтоўкі, той і не рохнуў. Суседзі бачылі, як на машыну ўсцягвалі. Спытайце, кожны пацвердзіць.

— Ты, стары, не прыдурвайся. Пару шомпалаў урэжам — будзеш, як міленькі, язык развяжацца, — пагразіўся здаравенны рыжы паліцай.

— Калі не верыце, давайце ў лесе праверым, — не то ў жарт, не то ўсур'ёз прапанаваў Анісім. — Я ж не мог далёка парсючка адтарабаніць, сілы не тыя…

Ён не паспеў дагаварыць, як паліцай, які стаяў ззаду, з усяе сілы агрэў старога па спіне шомпалам. Анісім сагнуўся ад пякельнага болю, ускрыкнуў, у вачах пацямнела, і паволі асеў на дол, ашчаперыў галаву рукамі. Да яго падбегла Марфа, загаласіла, праклінаючы паліцаяў, якія ўжо выграбаліся з двара. Вохкаючы, Анісім устаў, дацягнуся да прызбы, прысеў.

— Адкажаце, за ўсё адкажаце, — амаль бязгучна шаптаў ён дрыготкімі губамі. — Поскудзь паліцэйская, мярзота. Хутка прыйдзе кара на вас, ужо вісіць над вамі…

І аднойчы чэрвеньскай раніцай з пагорка, дзе стаяў хутар аднаасобніка Харытона Каптура, скацілася лёгкая зялёная самаходка з чырвонай зоркай на бране, мабыць, разведвальная. Яна дала дзве кароткія чаргі па бліндажах, дзе хаваліся паліцаі, крутнулася на вузкіх гусеніцах, паслала яшчэ чаргу па паліцэйскай траншэі і заднім ходам запаўзла за хлеў хутара. Дурні «бобікі» адкрылі агонь з кулямётаў, забухалі з вінтовак, ды што браніраванай машыне

кулі! А паліцаям дзявацца няма куды: ззаду ля горада стаяць немцы, іхні абарончы рубеж, а з усходу набліжаюцца чырвоныя. Таму і агрызаліся «бобікі». І няўцям ім было, што самаходка разведала, хто і як абараняецца, ды дала сігнал вяскоўцам, каб хаваліся ў пограбы і іншыя сховы, бо неўзабаве пачнецца бой.

Папоўз у сваю схованку і Анісім: загадзя воддаль ад хлява выкапаў яму, накрыў дошкамі, прысыпаў зверху зямлёй. Жонка, яна з раніцы акучвала бульбу, адразу ж як толькі ўсчалася страляніна, схавалася ў яме, і клікала да сябе Анісіма. Задыхаўшыся, Анісім скаціўся ў сховішча, трохі ачомаўшыся, чуйна і з трывожнай радасцю ўслухоўваўся ў гукі, што даносіліся звонку.

— Мабыць, счас нашы пойдуць у атаку. З вінтовачкамі супроць брані не папрэш. Тая танкетка разведала паліцаяў, — Анісім, як стары салдат, — ён прайшоў Першую сусветную вайну, з веданнем справы казаў Марфе. — Зараз артылерыя ўдарыць з усіх ствалоў, а потым пойдзе пяхота.

І сапраўды, каля шашы пачулася некалькі выбухаў, праляцелі міны, узрваліся на пазіцыі паліцаяў.

Анісім не ўцярпеў, высунуў галаву са сховішча, паўзіраўся ў бок бліндажоў, радасна ўсклікнуў:

— Ага, прыпякло! Мітусяцца паліцаі, некаторыя да лесу пабеглі!

Міны ўзрываліся часцей, каля траншэі і бліндажоў стаяла заслона з агню і дыму. Грукнуў доўгай чаргой кулямёт, рэзка, пагрозліва — відаць, танкі зайшлі за крайнія хаты вёскі, білі па паліцаях, якія ўцякалі, часта зашпокалі аўтаматы, забухалі вінтоўкі.

— Матушка-пяхота пайшла, — стары салдат вызначаў ход бою. — Ад яе не ўратуешся. Знаю па сабе, калі ў германскую вайну аўстрыякаў з генералам Брусілавым гналі.

Стрэлы сталі гучаць радзей, затое па-ранейшаму білі мінамёты, грукалі кулямёты.

Не вытрымаў Анісім, не цярпелася яму першаму сустрэць вызваліцеляў, прывітаць іх — у вяскоўца ж страляць не будуць.

— Пагляджу хіба, як у вёску ўвойдуць, — Анісім яшчэ вагаўся, вылазіць са сховы ці не. — Мабыць, паліцаі пакінулі пазіцыю, наша пяхота набліжаецца.

— Не вылазь! Без цябе разбяруцца, — забурчала старая. — Во, чуеш, яшчэ міны кідаюць, узрывы на шашы. Яшчэ якая дурніца не даляціць, тутака разарвецца. Сядзі, покуль не сціхне.

— Кідаюць, кідаюць, — перадражніў жонку Анісім. — Што ты панімаеш у вайсковай справе? Я прывычны, адпоўзаў усю германскую. Пяхота не дурная біць па мірных людзях, а паліцаі ўжо ў штаны кладуць ля лесу, калі хто дабег.

Перасіліўшы страх, Анісім, азіраючыся па баках, выпаўз са сховы. Першае, што ўбачыў, кінуўшы позірк на шашу, не здзівіла яго: купка паліцаяў, пакідаўшы вінтоўкі, бегла ад трашэй куды вочы глядзяць — шлях да лесу ім адрэзала тая самая саходка, што першай паказалася з-за пагорка.

Стары ўжо смялей адпоўз да ўзмежку, да сцяны высакаватага зялёнага жыта, прыпадняўся, зірнуў на лужок, які ляжаў перад вёскай і аслупянеў: такога ніколі не бачыў — па ім ад краю да краю, як акінуць вокам, сюды беглі чырвонаармейцы.

Анісім памкнуся ім насустрач, прыўзняўся, але ў гэты час міна мякка шмякнулася на агародзе непадалёк ад яго...

Анісім упаў. Ён не бачыў, як другая самаходка, праскочыўшы з лужка, заехала на ўскрай вёскі, як пачала страляць з кулямёта ў кірунку ўзлеску, да якога імкнуліся паліцаі... Падаючы, ён глядзеў на луг, у апошняе імгненне яму падалося, што сярод чырвонаармейцаў бачыць сына...

Калі страляніна сціхла, людзі вылазілі са сховішчаў, твары ва ўсіх былі радасныя і трохі трывожныя. Яшчэ не зусім верылася, што прыйшло збавенне ад чорнай навалы. Вось яны, свае, родныя, з аўтаматамі і вінтоўкамі запаланілі ўсю вуліцу.

...А тым часам на агародзе галасіла, білася ў няўцешным горы Марфа, жонка Анісіма.

## Выпадак у лесе

Ліпень выдаўся спякотным і сухім, сонца пякло з ранку да вечара, быццам хацела сваім цяплом адагрэць знявечаную вайною зямлю, абяздоленых людзей, якія нацярпеліся страху і спазналі шмат гора. Там-сям у вёсцы бачыліся чорныя прагалы — на тых месцах, дзе раней стаялі хаты: зімою карнікі запалілі селішча з таго боку ад шляху. Запалілі і паехалі, а вяскоўцы ледзь змаглі ўратаваць ад агню суседнія будыніны.

Вайна адкацілася на захад, здаецца, павінна быць ціха, але ж не — амаль кожны тыдзень чулася, галосяць жанчыны: то ў адным канцы вёскі, то ў другім, дзеці падрываліся на мінах і снарадах. Але здаралася, хлопцы дзеля цікаўнасці спрабавалі разбіраць іх, і калі не ўдавалася дазнацца, што там усярэдзіне, клалі на выгане ў вогнішча і адбягаліся куды далей. Ды ўсё адно ў некага траплялі асколкі... Нярэдка падшыванцы гуртам выпраўляліся на лясное азерца глушыць гранатамі рыбу, вярталіся радасныя са здабычай, маці ёй былі не рады, сварыліся, прасілі нічога падазронага не чапаць, ды дзе там...

Вядома, бацькоў, якія засталіся з пачаткам вайны ў вёсцы ды выжылі ў акупацыі, як прыйшлі нашы, мабілізавалі ў войска, а маці не заўсёды маглі ўгледзець за гарэзамі-хлопцамі. Падлеткі адчувалі сябе амаль дарослымі, гулялі ў «вайнушку», забаўляліся са зброяй, як маглі.

Лёнька Бегунок у свае пятнаццаць, дачакаўшыся вызвалення, меркаваў увосень пайсці ў школу ў пяты клас, хацеў вучыцца. Яго бацька, якога адпусцілі на двое сутак з партызанскага атрада пабачыцца з сям’ёй перад адпраўкай на фронт, таксама строга наказаў сыну абавязкова пайсці ў школу.

Маці зранку бегла на работу у паляводчую брыгаду — усё ж штосьці вяскоўцы паспелі пасеяць пры немцах: і палола, і за серп бралася, і касіла, не цуралася ніякай работы. Лёнік дапамагаў ёй, але які з яго работнік — за вайну ад галадухі знясілеў, схуднеў, адно выцягнуўся ў росце. Маці непакоілася за сына, — колькі ўжо хлопцаў пакалечылася на «цацках», што пакінула ў лясах і на палях вайна. Яна ўпрасіла калгаснага каваля, дзядзьку Сцяпана, далёкага сваяка, каб дапамог да школы прыстроіць хлопца падсобнікам пры кузні. Але і на вачах будзе, і працадзён хоць колькі налічаць, ды і ў лес не набегаецца, дзе хапае мін і снарадаў.

Лёнік пачаў працаваць у калгаснай кузні — каваль, дзядзька Сцяпан, паспагадаў жанчыне, якая адна гаравала з трыма дзецьмі. Як і абяцаў, узяў хлопца падсобнікам. Ён то загадваў Лёніку паднесці якую жалязяку, то прасачыць, каб загартавалася ў вядры з вадой выкаваная падкова ці скаба, то прасіў падкінуць вугалю ў горан. Хлопец усё выконваў спраўна і ахвотна.

Неяк вечарам пасля працы Сцяпан папярэдзіў хлопца:

— Вось што, Лёнік, заўтра з раніцы паедзем у лес, брыгадзір на паўдня дае каня. Назбіраем жалеза, патрэба такая ўзнікла — плужкі падладзіць, бароны да ладу давесці — хутка пасяўная. Нямецкая сталь дужа крэпкая, зносу не будзе, хай і нам паслужыць. Там жа ў лесе яе шмат, нашы самалёты, сам ведаеш, разбамбілі вялікую калону нямецкіх машын. Да абеду ўправімся. Так што скажы маці, каб пабудзіла цябе раней.

Раненька дзядзька Сцяпан, захапіўшы патрэбны інстумент — ключы, каб адкручваць гайкі, пілку па метале, лом, разам з Лёнікам выправіўся ў лес за Савічы па жалеза. Яны ведалі, хоць вайсковыя каманды, якія збіралі трафеі, збольшага прыбралі ўсё вартае і спраўнае, што ўцалела пасля бамбёжкі, на месцы падарвалі снарады, міны, якія знайшлі, але шмат чаго вартага для кузні пакінулі. І вось цяпер вяскоўцы з навакольных паселішчаў і збіралі ў лесе дабро, прыгоднае і ў сваёй гаспадарцы.

Вось і дзядзька Сцяпан з Лёнькам назбіралі сяго-таго, накідалі поўныя калёсы, як каню павезці. На ўзлеску дзядзька Сцяпан прыкмеціў вялізную нямецкую гармату, якая, задраўшы ўгору ствол, нахіліўшыся на бок, застыла каля глыбокай варонкі: відаць, пацэліла бомба.

— Вось гэта штуковіна, — абрадаваўся каваль. — Шчыток на гармаце роўны, акурат на адвалы для плужкоў згадзіцца. І гаек шмат, і балты крэпкія. Давай, Лёнік, папрацуем, конік пацягне.

Знялі з гарматы ўсё, што здолелі адкруціць і адламаць — шчыток падрэзалі, потым вывернулі яго ломам, адкруцілі гайкі, павыцягвалі з гнёздаў балты. Дзядзька Сцяпан узяўся за гайку, якая тырчала на канцы доўгай гладкай трубы, прымацаванай да ствала гарматы. Не ведалі ні стары, ні малады, што гэта прылада не што іншае, як накатнік, які пасля стрэлу і аддачы вяртае ствол на ранейшае месца. Пры стрэле з сілай сціскаецца шырокая шматкілаграмовая спружына ўнутры накатніка.

Каваль вялікім разводным ключом аслабіў вялікую гайку, і спружына, быццам снарад, дзвынкнуўшы, вырвалася з свайго гнязда, шалёна панеслася ўверх. Сцяпана адкінула ўбок, ключ выбіла з рук, балюча выцяла па руцэ. Спачатку стары не ўцяміў, што адбылося, лежачы на зямлі, павярнуў галаву, і краем вока прыкмеціў, што Лёнік, прыгнуўшыся, што ёсць сілы сігае далей ад гарматы. Малады, хуткі на ногі, хлопец адбегся метраў з дзесяць, а каваль, крэхчучы, з натугай паспрабаваў адпаўзці ад гарматы, але не змог — цела быццам занямела ад страху, не паварушыцца.

«Здаецца, Лёнік жывы, уратаваўся, — мільганула думка. — Адбегся далей, але штосьці не чуваць яго».

Стары, крэхчучы, пачаў узнімацца на ногі і раптам пачуў, ці здалося яму, нібы слабы ўсхліп у тым баку, куды пабег Лёнік. Сэрца ёкнула, зашчымела: бяда...

Раптам нешта побач зверху ўпала каля старога, дзынкнула, потым пругка падскочыла, скрыгатнула па станіне гарматы, узнялося невысока і апусцілася каля яе. «Спружына, — уцяміў стары, крыху ачомаўшыся ад страху. — Божа, як блізенька стаяла смерць, зусім поруч. А Лёнік чаму не абзываецца? Спужаўся, ці што здарылася?»

Каваль з цяжкасцю ўзняўся, і накіраваўся да хлопца. Лёнік ляжаў непадалёк ніцма, падкурчыўшы ногі. Сцяпан наблізіўся да нерухомага цела, ногі яго здранцвелі, трывожна закалацілася сэрца: «Няўжо? Няўжо?.. Божа мой, не можа быць…»

Ён нахіліўся над Лёнікам і ледзь не страціў прытомнасць — галава хлопца была разбіта, з-пад вуха сцякала кроў.

Сцяпан хуценька сарваў з сябе споднюю кашулю, абматаў рану, павярнуў хлопца на спіну і затым матнуўся да калёс, скінуў з воза жалеза. Спяшаючыся, паклаў Лёніка на драбіны і пагнаў каня да бальнічкі ў Савічы.

На дрогкіх калёсах Лёнік трохі ачуўся, застагнаў, але вачэй не адплюшчыў. «Дасць Бог, не памрэ, давязу да ўрачоў, уратуюць хлопца, — думаў Сцяпан. — Етая дурніца, што выскачыла з трубы, бяды нарабіла. Хто ж ведаў, што яна тамака затаілася. І трэба ж, знайшла Лёніка — не ў той бок пабег, выцяла, па маю душу прыляцела — каля саменькага гахнулася... А Лёніка давязу, яму жыць ды жыць трэба, уратуюць».

Слёзы выкаціліся з вачэй старога каваля, ён з трывогай і жалем глядзеў на белы твар хлопца.

Праз паўгадзіны ў сельскай бальніцы Лёнік, не ачуўшыся, памёр. Старэнькі доктар, як ні стараўся, не змог уратаваць яго. Горасна пахітаў галавой, са скрухай вымавіў:

— Такі малады і… Вайна забрала, усё мала ёй. — Памаўчаўшы, ціха дадаў, быццам сабе, шкадуючы маладое жыццё: — Калі б адразу разрэзаць скуру на галаве, куды прыйшоўся ўдар, кроў спусціць, магчыма, хлопец і выжыў бы.

Лепей бы ён гэтага не казаў — Сцяпан увачавідкі збляднеў, сутарга скрывіла твар, пахіснуўся — ледзь устаяў на нагах.

Пасля абеду белы, як палатно, дзядзька Сцяпан прывёз на калёсах цела хлопца ў вёску, занёс на руках у матчыну хату, паклаў на лаўку. У старога ў вачах стаялі слёзы, галасіла маці, заломваючы рукі...

Лёніка хавалі на трэці дзень. Сабралася ўся вёска, ад старога да малога. Ля труны ў хаце Бягуніхі ўсе тры дні моўчкі сядзеў Сцяпан, і ў душы праклінаў сябе, што ўзяў малога ў лес, і не ўгледзеў, не збярог... А найбольш пакутаваў ад таго, што гэтым самым узяў на сябе страшэнны грэх...

Потым Сцяпан нёс са старымі і падлеткамі дамавіну на могілкі, кідаў лапатай жаўтапесак, акуратна аздабляў курганок над магілкай, і ўсё адчуваў, як яму невыносна цяжка.

А пасля, жонка і дачка дапамаглі яму дабрысці да хаты, ён прылёг на лаўку і ціха папрасіў вады. Выпіўшы, саслабела прашаптаў:

— Вайна, вайна… Усё мала ёй… І я, стары дурань… Лепш мяне б...

Ён яшчэ памкнуўся нешта сказаць, але не змог, толькі смыкнуў губы і заціх.

Што ён хацеў сказаць, ніхто не ведаў, можна было здагадацца: хацеў пакаяцца. Але ў чым? Ён жа, едучы ў лес, хацеў дабра для ўсіх...



**Суеркул ТУРГУНБАЕЎ**

# ШМАТКАЛЯРОВАЙ МАРЫ СПЕЎ

## ЦУДА-КВЕТКІ

Учора быў сон
У мяне сапраўдны,
Прывабны,
Зманлівы,
Звабны,
Ядвабны,
Патаемны, прыемны
Клікаў мяне на нязведны парог
Цуда-кветак мурог…

## СУСВЕТ-СОНЦА

Аднойчы, калі стамілася галава ад доўгай працы,
я адчыніў акно:
свет пыльны,
што шуміць сваімі нізінамі, пагоркамі —
ляжаў
след на тысячы год…

«Сусвет-сонца» —
Я спяваў вершы Алыкула[1] —
ува мне бруілі вялікія мроі,
вялікі голас, вялікі рытм
мітусіліся,
шукаючы мяжу сусвету без берагоў,
праходзячы
і знікаючы.

---

[1] Алыкул Асманаў (1915—1950) — кіргізскі паэт, драматург, перакладчык.

Імкліва
бы хвалю Ісык-Куля гонячы,
не шкадуючы сілаў,
шліфуючы бераг, мора дымілася,
крычала, кіпенем пену разлівала само па сабе…

Сусвет-сонца —
іграла спеў Тагалока-Малдо[1],
праз найвышэйшыя пікі
праносячыся міма,
апрануўшы аблічча
шматтысячнага натоўпу,
неслася, быццам туман, што накрывае зямлю…

То ізноў
глуха ўтаропіўшыся ў думкі,
раз’юшана
праносілася цярністымі шляхамі
ў глыбіні стагоддзяў,
каб распавесці гісторыю мінулага.

То буркатала,
леравальвала праз плямістыя горы
гневам сваім,
разганяючы сустрэчных ворагаў,
то ізноў
пераказвала сваю гісторыю,
калі яно нудзілася
пад цяжкім жорсткім прыгнётам.

Але вось
прад вачыма вялікая ўрачыстасць —
хочацца захапляцца,
стаяць увечары, не адрываючы вачэй:
Сусвет-сонца —
Бібісара[2] танчыць свой танец,
выпраменьвае
пяшчотна мелодыю вясны,
узлятае, ляціць, кружыцца,
знікае, як вецер,
палошчацца,
быццам сцяг, нясецца,
і ў палёце,
зрабіўшыся салаў’ём, махае крыламі.

---

[1] Тагалок Малдо (сапр. Байымбет Абдырахманаў, 1860—1942) — кіргізскі савецкі акын, выканаўца эпаса «Манас».

[2] Жаночае імя.

Куды вядуць ветры часу?
Колькі тых вятроў?
Жыццё падвязаўшы, імчыцца наперад,
то валіць долу,
то на ногі ставіць зноў,
зачароўвае, падманвае.
Вось у гэтым моц не ведае стомы, —
уздымае струмень угару, перакульвае
сінечу ў белае.

Вялікі дух —
дух жыцця мітусіцца.
Спяшаецца, потым павольна ідзе.
Ад гэтай рэчаіснасці,
ад гэтага жыцця
хочацца ўзляцець,
быць падобным да вольнае птушкі,
граць
на камузе[1],
што чакае пальцаў Майстра.
Я сябе
адчуваю мелодыяй тысячы76 мараў,
я хачу пранізліва спяваць.
Ад усяе душы, я моцна жадаю
адляцець,
перасякаючы межы гэтага свету.

## НОЧ

Ноччу глухою — нараджаюцца людзі.
Ноччу шырокаю — іх робіцца больш.
Светлаю ноччу — цешацца людзі.
Змрочнаю ноччу — сыходзяць яны, паміраюць.
Ноч — ты бездань таямніц.
Ноч — ты жыццё, што аслепла.
Ты — глухі Час,
Час, што з'ядае сваіх жа дзяцей
І адразу ж
У бездані пустой
Нараджае ўсё новых і новых.

---

[1] Камуз — струнны шчыпковы музычны інструмент.

## ДЗЯЎЧЫНА І ВЯСНА

Табе, здаецца, было гадоў сямнаццаць
ці, можа, дасягнула ты васямнаццаці —
здагадвацца не буду, тое марная справа.
Казаць карацей —
ты была паўналетняй,
ты пасталела,
дасягнула той пары,
што дасі рады і кахаць,
і быць каханай.
Захапляць чыйсьці позірк,
хлапцоў укленчваць,
прымушаць па слядах тваіх іх хадзіць,
на кінутае слоўца — адказваць
годна, непахісна
ці летуценна,
быццам толькі пабачыўшы гэты свет.
Ты даспадобы гэтаму гораду,
гэтаму дню —
нібы ластаўка вясною махае крылом,
ты выходзіш на вуліцу.

У галаве пяе вясенні ветрык,
і ёсць ячшэ
шматкаляровай вясновай мары спеў
у тваёй галаве,
здаецца, ёсць таксама трошкі розуму,
узятага з кніг, кіно,
ад людзей.
Ў вачах тваіх вясны туман зялёны,
і ёсць яшчэ пяшчотнае каханне.
Гэтая вясна —
твая, здаецца, і толькі твая.
Ледзь-ледзь уздымае грудзі радасць,
ўзяла, нібыта сцяг, ты сваю маладосць,
прыгажосць.
Ідзеш пагардлівай хадою, быццам жораў
(у думках і ў сэрцы з жаданым джыгітам),
быццам спатканне кахання наперадзе чакае цябе,
цокаюць абцасы твае па алеі,
ты бяжыш, гарэзлівая і імклівая.

На тваім твары гарыць агонь юнацтва,
у шаўковых валасах тваіх іграе вецер.
Завушніцы твае
на кожным кроку
звіняць, хістаюцца
ў такт.

У торбачку сваю ты паклала духі
памерам з далонь,
перавесіла яе праз плячо,
духмянасць пудры, румянаў —
водар вясны.
Ты ідзеш па зялёным горадзе,
упрыгожваеш вуліцы, радуеш сэрца.
Твой шырокі крок
натхняе, —
мабыць,
подых гэта спаткання вячэрняга.
Ўсхвалявана імкнешся ў будучыню, —
пэўна, гэта моц вясновай крыві.

Пестуючыся прыгажосцю жыцця,
Сённяшнім смехам ты смейся,
калі табе сёння
дорыць радасць вясна,
але будуць, напэўна, і дні завірух.
Плод паспытаеш першай любові,
а пакуль пажыві напоўніцу.
Зачароўвае мінакоў твая прыгажосць.
Хто скажа,
што будзе нязменнай яна?
Хто ведае,
ці сустрэнеш ты наступную вясну
з гэткай жа радасцю,
як сёння?
Гэта жыццё каго толькі не састарыла,
каго толькі не прапусціла праз свой вір?
Няма, пэўна, чалавека,
які бестурботна пражыў бы жыццё,
не прыціснуты
выпрабаваннямі лёсу.
Будзеш жывою —
калісьці ўзяўшы кій у руку.
Таксама калісьці ты старасць сустрэнеш…

Твой пяшчотны твар яскравы,
нібы чарэшня,
ты свецішся па-дзявочаму,
як зараз.
Хто можа сказаць,
што дасягне наступнай вясны
Нязменнай
твая прыгажосць.

## МАЛАДОМУ ПАЭТУ

Твае радкі — як маладыя парасткі,
што толькі карэнне пусцілі...
спорна
насустрач вясне прараслі,
трымцяць,
як танюткія пруткі,
галасна спяваюць наваколлю.

Звіняць, як крыніцы выток
і вока прыроды,
і складаныя,
і простыя,
як уласна жыццё…

…Уначы вершы твае
прысніліся мне.
Спорным дажджом
кранулі зямлю
і моц свету
быццам дадалі…

***З кіргізскай. Пераклад Адама ШОСТАКА.***



Вольга ЛЫНША

# ТЫПАЛОГІЯ ГОРНАГА МАТЫВУ Ў ПРОЗЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА І АЛЕСЯ ГАНЧАРА

## *(да пытання пра асаблівасці фарміравання індывідуальнай творчай манеры беларускага пісьменніка)*

Вывучэнне творчасці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава працягваецца ўжо больш як паўстагоддзя. Найбольш грунтоўныя навуковыя артыкулы і манаграфіі належаць пяру беларускіх — В. Каваленкі, Д. Бугаёва, А. Адамовіча, М. Тычыны, рускіх — Л. Лазарава, І. Дзядкова, даследчыкаў і майстроў мастацкай літаратуры. Але амаль не разглядаецца напісанае ім у кантэксце ўкраінскага літаратурнага працэсу. Кантактна-тыпалагічныя сыходжанні і мастацкія адметнасці беларускага і ўкраінскага пісьменства ў распрацоўцы тэмы Вялікай Айчыннай вайны — адна з наспелых задач філалагічнай навукі, паколькі методыка гісторыка-параўнальнага аналізу дазваляе найбольш выразна выявіць асаблівасці станаўлення творчай індывідуальнасці пісьменніка.

У ваеннай прозе В. Быкава асаблівае месца належыць аповесці «Альпійская балада» (1963). «Альпы» (1946) — назва першай часткі знакамітага рамана Алеся Ганчара «Сцяганосцы», у якім даецца панарамнае ўзнаўленне барацьбы Савецкай Арміі за вызваленне ад фашызму роднай зямлі і зямель Заходняй Еўропы. Зварот да альпійскага матыву ў творах беларускага і ўкраінскага майстроў ваеннай прозы цалкам заканамерны. Абодва — удзельнікі вайны, абодва належалі да маладога пакалення. Альпы — адзін з тых геаграфічных плацдарамаў, дзе вяліся асабліва цяжкія і пераможныя баі. Заўважым, плацдарм па-свойму «экзатычны». Бо ўвогуле горны масіў ва ўсёй яго разнастайнасці быў аднолькава нязвыклым для воінаў з Украіны і Беларусі, ураджэнцаў пераважна стэпавых і раўнінных, балоцістых мясцовасцей.

Патрыятызм, пафас інтэрнацыянальнага абавязку — асноўныя светапоглядныя канцэпты савецкіх воінаў. Менавіта гэтыя якасці ў шырыні ідэйна-тэматычнага дыяпазону савецкай ваеннай прозы былі вядучымі. Аднак відавочны перагук паміж «Альпамі» Ганчара і «Альпійскай баладай» Быкава яшчэ і ва ўвядзенні тэмы кахання. У кожнага гэта тэма — не самамэта, яна дапамагае раскрыць больш глыбінна, псіхалагічна матывавана нечалавечае аблічча вайны.

Асноўны носьбіт цэнтральнай ідэі «Сцяганосцаў» — вернасць Радзіме, вернасць прыгажосці ў найшырэйшым разуменні паняцця, вернасць каханай — Юрый Бранскі. Ён разам з іншымі персанажамі ваюе з першых дзён. Да прыходу арміі ў Альпы ўжо праявіў лепшыя свае якасці камандзіра і таварыша. І толькі ў Альпах раскрываецца інтымны свет яго пачуццяў. Тут у час невялічкага перапынку паміж баямі Бранскі расказвае пра сваё навучанне ў Мінскім універсітэце, пра сваё каханне да аднакурсніцы Шуры. Адкрыты і шчыры ў перадачы пачуццяў. Як гэта бывае на споведзі. А сталася так, што менавіта тут, у Альпах, у час атакі на ворага асколак снарада трапляе герою прама ў сэрца. Сэрца, адкрытае для прыгажосці…

У іншым сваім творы гэтага ж часу Ганчар, распрацоўваючы тэму кахання, таксама тэрытарыяльна звязвае яе з гарамі. У навеле «Модры Камень» (1946) трагедыйнае выяўляецца яшчэ больш сканцэнтравана, бо гісторыя гібелі маладой

дзяўчыны ўскосна прадвызначана яе сустрэчай з савецкім камандзірам. Байцы трапляюць у закінутую далёка ад дарогі горную хату, у якой толькі дзве жанчыны, старая маці і маладая яе дачка. Параненыя атрымалі там прытулак, ім вызвалілі месца для начлегу, абагрэлі, накармілі. Паміж камандзірам і маладзенькай гарэзлівай Тэрэзай узнікае пачуццё, якое кожны з іх адчуў упершыню, з усім яго шчымліва-радасным уздымам. Раніцай дзяўчына выводзіць салдат па няходжанай, вядомай ёй горнай сцежцы на цэнтральны шлях, бліжэй да лініі фронту. Пасля вызвалення прылеглай тэрыторыі камандзір спяшаецца ў горы, каб убачыцца з дзяўчынай, якая запала яму ў сэрца. Аднак там папялішча. І адзінокая згараваная маці. Вінаватыя ва ўсім — сляды на снезе, сляды вялікіх мужчынскіх ботаў. Па іх фашысты прыйшлі ў хату. Ворагі ўспрынялі гэта доказам сувязі горнай сям'і з партызанамі. Фашысты закатавалі Тэрэзу. У апошнія хвіліны жыцця яна азіралася на Модры Камень, глядзела неадрыўна туды, дзе развіталася з камандзірам, адкуль пралягала лінія наступлення савецкага войска. У марах камандзір бачыць іхнюю незабыўную сустрэчу, іхняе шчасце вернасці адно аднаму.

У навеле характэраны два моманты. З аднаго боку, гэта сканцэнтраванасць і канкрэтыка падзеі ў горнай мясцовасці, што знаходзіцца, як вызначае сама гераіня, «у Чэшска-Славенскай рэспубліцы». З другога — вобраз камандзіра падаецца абагульнена. У час кароткага знаёмства ён не паспявае нават назваць свайго імя, якое чытачу магло б падказаць нацыянальнасць героя. Камандзір — рускі, што ў тых умовах азначала савецкі. І гэта сімвалічна.

Матыў кахання ў ваенных Альпах ляжыць у аснове «Альпійскай балады» Быкава. Назва твора выяўляе разуменне яго жанравай прыроды. Балада шырока сустракаецца і ў беларускім фальклоры, і ў беларускай літаратуры. Як адзначае В. Рагойша, беларуская балада «асаблівага росквіту дасягнула пры распрацоўцы тэмы Вялікай Айчыннай вайны» [7, с. 50]. Балада, як вядома, — гэта ліра-эпічны верш. Чым жа зацікавіў гэты тэрмін празаіка Быкава? Няма сумненняў, для яго як аўтара ваеннай тэмы само слова «балада» асацыявалася з матэрыялам драматычна напружаным, легендарна-гістарычнага, гераічнага напаўнення. Сюжэт аповесці — гэтаму выразны доказ. Каханне беларуса Івана Цярэшкі і італьянкі Джуліі на тэрыторыі Альпаў, акупаванай фашысцкай Германіяй, — асноўны матыў твора. Гісторыя гібелі Івана, трагічная непрадказальнасць лёсу Джуліі — кампаненты драматызму «Альпійскай балады».

Паказальна, што мастацкая распрацоўка тэмы кахання ва ўмовах вайны выклікала моцную крытыку на адрас як Ганчара, так і Быкава. Некаторым даследчыкам падалося, што гэта тэма прыўносіць «легкаважнасць» у асвятленне сур'ёзных грамадска-палітычных праблем. Раздражненне выклікаў і лірыка-драматычны характар асабістых перажыванняў герояў, што ўспрымалася як «ненатурнае ўпрыгожванне» рэальнай падзейнасці. Фактычна мысленне крытыкаў было скіравана ў рэчышча праўдападабенства. Пісьменнікам адмаўлялася ў праве на пачуццёвую згушчанасць, якая станавілася канфліктным стрыжнем сітуацыі, на эмацыянальна-экспрэсіўную танальнасць у адлюстраванні псіхалогіі герояў. Паводле той крытыкі, рэалістычнае мастацтва павінна катэгарычна адмяжоўвацца ад рамантычных прыёмаў.

Аднак, урэшце, то рамантычная, то песенна-ўрачыстая, то трывожна-задуменная, лірыка-філасофская стылістыка выявілася асаблівай вызначальнай рысай творчай манеры Ганчара. І яна, якая вырасла з украінскай нацыянальнай фальклорнай традыцыі, украінскай літаратурнай класікі, замацавалася за аўтарам канчаткова. Яго героі, як згаданых, так і ўсіх далейшых твораў, узяты з рэальнасці. Падзейнасць твораў таксама адлюстроўвае рэальнае жыццё ва ўсіх складанасцях яго праяў. Аднак пры гэтым украінскі пісьменнік заўсёды карыстаецца і палітрай рамантычных сродкаў. Так, у вобразную сістэму твораў Ганчар, у прыватнасці, «уводзіць сімвалічныя дэталі, якія, не адрываючы

звычайнага чалавека ад зямлі, узносяць яго, апаэтызоўваюць» яго лепшыя якасці [9, с. 12].

Звернемся да аповесці Быкава «Альпійская балада». Як і наратар у Ганчара, у Быкава герой — зусім малады хлопец. І паэтызацыя дзявочага цела — псіхалагічна апраўдана ў кожнага з аўтараў. Аднак, як падкрэсліў М. Тычына, беларуская крытыка ўбачыла ў апісанні дзяўчыны надуманасць, «сканструяванасць сітуацыі» [8, с. 656]. «Распранутая, яна адразу страціла праклятыя адзнакі гефтлінга і адзін на адзін з прыродаю зрабілася зусім іншаю ў сваёй палахлівай дзявочай сціпласці, поўнай таямніцы і хараства <…> Па яе зіхотkіх ад пырскаў вострanькіх плечуках блукаў каляровы водбліск вясёлкі» [3, с. 529]. Сёння можна гэты прыклад прыводзіць як узор псіхалагічнага майстэрства Быкава. Малюнак звязаны з летнім часам. І Быкаў нават больш яскрава рамантычны, чым яго калега Ганчар. Падзеі з навелы «Модры Камень», як мы заўважылі, адбываюцца ўзімку. Прырода не спрыяе маладым людзям. Герой навелы паспявае ўхапіць толькі нешта асобнае ў абрысах Тэрэзы: «Я <...> сказав завісити вікна. Мати світила лампу, а сірник дрижав у її руці. Ти стояла на стільці боса, закриваючи вікна. Я стидався дивитись на твої білі стрункі ноги, але, одвівши погляд, все одно бачив їх увесь час» [4, с. 464]. Найбольш увабраў у сваё сэрца цяпло дзявочых рук, калі яна перабінтоўвала яму раны. Наступны прыём псіхааналізу, скарыстаны Ганчаром, — зварот да памяці, размова з памерлым чалавекам…

Такім чынам, жыццёвыя малюнкі Ганчара і Быкава, аб'яднаныя адным матывам, прыблізна падобныя па жывапіснай манеры. У кожнага з творцаў тая ж рамантыка незвычайнасці месца дзеяння — горы. І незвычайнасць лёсу герояў: яны закахаліся ў неспрыяльны для светлага рамантычнага пачуцця час, у змрочны час вайны.

Рамантычная танальнасць ваеннай аповесці «Альпійская балада» выявілася для чытачоў асабліва прыцягальнай. Так, ва Украіне гэты твор быў адразу перакладзены Г. Вігурскай: асобным выданнем у Кіеве (выдавецтва «Молодь») «Альпійская балада» выйшла ўжо ў 1965 г. У Беларусі часопісны варыянт аповесці надрукаваны ў 1964 г. Да выхаду ўкраінскай публікацыі «Альпійскай балады» было толькі адно кніжнае выданне В. Быкава ва Украіне — «Трэцяя ракета», што ва ўкраінскамоўным узнаўленні М. Шумылы ўбачыла свет у 1964 г. (выдавецтва «Дніпро»). Заўважым, што асабліва ўдалымі ў перакладзе Г. Вігурскай можна лічыць прыродаапісальныя старонкі «высакагорнай аповесці». Гэта пацвярджаецца, у прыватнасці, маляўнічай карцінай альпійскага луга, выкананай выдатна, з эмацыянальным уздымам, паэтычнай урачыстасцю. «Буйні, листаті, викохані щедротою природи мільйони квіток мліли урочистою червоною барвою, стиха погойдувалися на легенькому вітерці й збігали вниз, на всю широчінь цієї відгородженої горами луки, — аж під самісінький темно-зелений масив хвойного лісу» [2, с. 94]. Украінская перакладчыца, знаходзячыся ў стыхіі роднай мовы, выхаваная на ўзорах украінскай літаратурнай класікі, трымаючы ў душы і вобразы Ганчаровага пісьма, выявіла яскравую метафарычнасць мыслення, разняволенасць стылістычнай будовы фразы.

У сучасным украінскім літаратуразнаўстве існуе думка, што менавіта «Альпійская балада» — лепшы твор Васіля Быкава. У артыкуле, прысвечаным антымілітарысцкай тэме ў прозе, М. Кудраўцаў увесь час звяртае ўвагу на прыкметы рамантычнасці ў гэтым творы: «велике і прекрасне кохання», «чудовий романтично-трагічний твір», «гімн коханню», «музика сердець». «Альпійська баллада» — чи не найкращий твір, в усьому творчому доробку письменника про високе і прекрасне в людських взаєминах» [6, с. 113].

Тэматыка «Альпійскай балады» лагічна падказвае пытанне: ці зацікавіліся гэтым творам Быкава ў Італіі? Факты, як на першы погляд, могуць выклікаць здзіўленне. Італьянскі пераклад з'явіўся больш як праз дваццаць год ад часу напісання твора. І выкананы ён быў у Маскве, убачыў свет у выдавецтве «Радуга»

ў 1987 г. Мяркуем, што Італія, як і краіны Заходняй Еўропы ў цэлым, імкнулася падаць свайму чытачу найперш Быкава як мысліцеля, пісьменніка-філосафа. І першая прэзентацыя Быкава ў Італіі адбылася праз аповесць «Сотнікаў» у 1974 г. Міланскае выдавецтва «Мурсія» выпусціла яе пад назвай «Апошнія тры дні» ў перакладзе Дж. Спендэль. У прадмове перакладчык упісала беларускага аўтара ў кола роздумаў пра лёс чалавека знакамітага француза Альбера Камю [10, с. 8]. Творы ж Камю найперш адлюстроўваюць крызісны стан чалавечага духу, уласцівы значнай частцы еўрапейскай інтэлігенцыі пасля Другой сусветнай вайны. Для яго характэрныя такія філасофскія канцэпты экзістэнцыялізму, як абсурд быцця і самагубства індывідуума, свабода чалавека, той выбар, які можа здзейсніць асоба перад пагрозай смерці.

У той час, як Захад засяродзіўся на экзістэнцыялісцкіх адкрыццях майстроў мастацкага слова, украінцы, беларусы, іншыя славяне не страчвалі, у выніку гістарычнай абумоўленасці станаўлення нацыянальнага мастацтва, асалоды ад прыёмаў рамантычнага пісьма. Рамантызм, як вядома, выяўляўся ў супрацьпастаўленні будзённасці, жорсткасці быцця і высокіх ідэалаў, у паказе моцных асоб, здольных да высокіх пачуццяў, яскравых перажыванняў. Псіхалогія героя Ганчара з навелы «Модры Камень» падаецца праз зварот да трансцэдэнтнай сувязі камандзіра з ужо неіснуючай каханай. Быкаў жа надзяліў свайго героя ў апошні момант яго жыцця, калі патрэбна прымаць імгненнае рашэнне пра лёс каханай, асветленасцю духоўнай інтуіцыі. Гэтыя аўтарскія знаходкі — выявы рамантычнай эстэтыкі, бо менавіта яны адлюстроўвалі адмову аўтараў ад прынцыпу «цвярозай логацэнтрычнасці». Як вядома, рамантыкі аддавалі першаснае значэнне звароту да вечных матываў, звязаных з унутраным жыццём чалавека, засяроджваліся на сутыкненнях свядомага і падсвядомага, на ідэалізацыі вяршынь духоўнага суб’ектывізму. Менавіта каханне для пісьменнікаў рамантычнага складу з’яўлялася тым паказчыкам, што выяўляў непаўторны ўнутраны свет індывідуума, разглядаўся як шлях да пазнання каштоўнасці маральных якасцей чалавека.

Вельмі паказальна тое, што згаданыя творы сведчаць пра паслабленне ў літаратурах славянскіх народаў залежнасці ад тэндэнцыі еўрапацэнтрызму. Славянскія літаратуры ішлі сваім шляхам развіцця, абумоўленым гістарычнымі асаблівасцямі станаўлення іх пісьменства. Гэта выявілася, у прыватнасці, у апоры на нацыянальныя фальклорныя ўяўленні пры адлюстраванні сутыкненняў асобы і наваколля: паэтызацыя першаснай прыроды чалавека, арыентацыя на прыярытэт вышэйшага выяўлення духоўнасці, акцэнт на цнатлівасці пачуццяў, зварот да экзатычнага матэрыялу, да элементаў іррацыянальнага, містычнага і інш.

Падобным, як і ва Украіне, выявіўся пачатак прыходу твораў Быкава ў Польшчу. Першае знаёмства палякаў з ім адбылося праз выданне «Трэцяй ракеты». Поспех твора ў перакладзе Е. Кабатца ў 1963 г. быў замацаваны тымі сімпатыямі, якія выклікала ў далейшым «Альпійская балада». На працягу двух гадоў да перакладу гэтага твора звярталіся двойчы асобныя перыядычныя выданні, затым у Варшаве ў 1970 г. убачыла свет кніга В. Быкава, куды ўвайшла і «Альпійская балада» ў перакладзе В. Варашыльскага.

Уладзімір Калеснік, падагульняючы назіранні за польска-беларускімі літаратурнымі сувязямі 1970-х гг., таксама акцэнтуе ўвагу на прыцягальнасці рамантычнай аўры аповесці: «Польскія чытачы і крытыкі, мабыць, адчулі ў гэтым творы нейкую асаблівую сугучнасць з традыцыйнай рамантыкай і рыцарскім духам сваёй айчыннай класікі» [5, с. 275]. У Польшчы ацанілі «глыбока індывідуальны, псіхалагічны, драматычна напружаны», «пазбаўлены эфектнасці» стыль беларускага аўтара. Польскія крытыкі, піша У. Калеснік, «Быкава хваляць за тое, што ён не навязвае чытачу гатовых ацэнак, а толькі пабуджае да самастойных роздумаў і высноў».

Заўважым, што ў наступных творах Быкаў, у адрозненне ад Ганчара, не працягваў карыстацца са скарбніцы рамантычных сродкаў пісьма. Аднак гэтыя адметнасці нельга разглядаць як прызнанне пісьменнікам справядлівасці той крытыкі, што была выказана некаторымі беларускімі крытыкамі адносна рамантыкі і паэтычнасці «Альпійскай балады». Яна — пэўны этап станаўлення творчай індывідуальнасці Быкава, які ўвесь час знаходзіўся ў пошуках тых форм свайго мастацкага самавыражэння, што найбольш поўна адпавядалі яго ўласнай псіхіцы і нацыянальнай традыцыі з апорай на рэалізм эпічных жанраў беларускага фальклору. Урэшце, быкаўскае пісьмо — гэта моцная знітаванасць з прыёмамі рэалізму. І з паглыбленасцю ў праблемы экзістэнцыялізму. Як тонка адчуў А. Адамовіч, і праз «Альпійскую баладу» выявіўся моцны струмень рэалістычнага светабачання пісьменніка, звязанага з непакоем аўтара за стан дэмакратычных перамен у роднай краіне ў 60-я гг. XX ст. «У гэтай “высакагорнай” баладзе псіхалагізм усур’ёз рэалістычны (нягледзячы на рамантычную падсветку, тон, каларыт самой сітуацыі)»,— пісаў А. Адамовіч у кнізе «Здалёк і зблізку» [1, с. 481].

Паставіўшы ў адзін тыпалагічны рад альпійскія матывы Ганчара і Быкава, відаць яшчэ адна паказальная акалічнасць у падабенстве сюжэтных перыпетый, што выяўляе іх жыццёвую праўдзівасць. У Быкава герой, загнаны на горную пляцоўку перад стромым абрывам, бярэцца скінуць, саштурхнуць з абрыву каханую дзяўчыну, каб яна не трапіла ў рукі ворага. Простая логіка падказвала, што гэта рашэнне не магло меццщь шчаслівага выніку: на паратунак Джуліі спадзявацца было дарэмна. Сітуацыя, створаная пісьменнікам, здавалася надуманай. Звярнуўшыся да рамана Ганчара «Сцяганосцы», знаходзім паралель да сюжэтнай перыпетыі з твора Быкава. Гісторыя, што адбываецца ў Трансільванскіх Альпах, асабліва блізкая да задумкі Быкава пра вырашэнне лёсу Джуліі. Харват з трылогіі «Сцяганосцы», якога мабілізавалі ў венгерскае войска, не хацеў ваяваць на баку фашыстаў. Ён уцякае з нямецкага атрада, каб далучыцца да савецкага войска. Але неспадзявана зноўку трапляе да немцаў. «Отак проблукавши ніч в Альпах — жорстокі гори Альпи! — він знов попав до осоружних фашистів». Фашысты, прыкаваўшы жалезным ланцугом уцекача да горнай скалы, меркавалі, што салдат сам «сконає тут страшною повільною смертю на безхліб’ї та безводді серед розпеченого сонцем каміння. Бо хто почув би його стогін серед цих безкраїх пустельних кам’яних гір? Кому спало на думку шукати живу людину тут, на краю світу? Хіба що голодні орли прилетіли б випити йому очі.... Могло б так бути, але не буде», — канстатуе аўтар [4, с. 147]. «Гірські орли кружляли високо в синьому небі. “Сюди, мабуть, ніколи не залітали степові наші птахи, — подумав Козаков. — А ми залетіли”» [4, с. 145]. Харвата вызваляе група савецкіх разведчыкаў на чале з гвардыі сяржантам Казаковым. Вядома, што ўратавалася і гераіня «Альпійскай балады» Быкава: каханне знайшло працяг у новым жыцці, жыцці сына Івана і Джуліі.

Нельга не пагадзіцца з М. Тычынам, які адзначае, што, фарміруючы ўласнае пісьменніцкае светаўспрыманне, В. Быкаў «вытокі новай літаратуры пра вайну знаходзіў у кнігах А. Бека, К. Сіманава, В. Гросмана, А. Ганчара, А. Твардоўскага, Э. Казакевіча, К. Чорнага» [8, с. 644]. Згадка пра Ганчара тут цалкам апраўданая. Па-першае, Быкаў заўсёды быў адкрыты да дасягненняў калег. Па-другое, творы Ганчара цікавілі яго незвычайнасцю творчай манеры. Па-трэцяе, што таксама вельмі верагодна, звярнуў увагу на «Сцяганосцы», бо яшчэ ў 1949 г. у Мінску быў апублікаваны пераклад гэтага знакамітага твора на беларускую мову, выкананы Усеваладам Краўчанкам і Іванам Мележам.

Вынікі літаратурных кантактаў знаходзяць у творцаў выявы і на свядомым, і на падсвядомым узроўнях. Горныя матывы ваенных твораў Ганчара і Быкава звязаны з інтрыгай жыцця і смерці, бінарнымі паняццямі, што знаходзяцца ў адвечнай апазіцыі. Абодва пісьменнікі выяўляюць рамантычнае супрацьстаянне святла

і цемры. Кожны з іх рамантычна-ўзбуйнена выяўляе пратэст супраць вайны як анамаліі чалавечага існавання на зямлі. Рамантычная эстэтыка, якая абгрунтоўвала свой ідэал прыгажосці ў Ганчара і Быкава, не пярэчыла рэалістычнасці ўзнятай пісьменнікамі тэматыкі. І калі адна з галоўных прыкмет рамантызму выяўляецца ў тым, што герой і натоўп знаходзяцца ў сітуацыі канфрантацыі, то менавіта гэтай рамантычнай дамінанты не існуе. Героі Ганчара і Быкава ўзятыя з жыцця цэласнага калектыву — народа, кожны з дзейных персанажаў — непаўторная індывідуальнасць.

Праведзены аналіз дазваляе гаварыць пра асаблівыя ўзоры ўзаемадзеяння сустрэчных плыняў у творах савецкіх аўтараў на ваенную тэматыку. Творчасць Быкава пачатку 1960-х гг. выявіла разамкнёнасць стылёвых пошукаў пісьменніка: рамантычная выключнасць адлюстраваных абставін не аспрэчвала іх рэалістычнасці. І Ганчар, і Быкаў у кантэксце антыгуманных ваенных падзей падаюць пераканальныя доказы чалавечай годнасці. Сюжэтныя калізіі, паўтораныя ў творах абодвух пісьменнікаў, знаходзяць падтрымку з боку чалавечага вопыту і жыццёвай праўды.

Паэтычны свет Ганчара, як вядома, на працягу ўсяго яго творчага шляху, нават пры звароце да шырокіх эпічных палотнаў, заўсёдна зарыентаваны на паэтыку рамантызму. Рамантычная танальнасць аповесці «Альпійская балада» выяўляе толькі пэўны этап фарміравання творчай індывідуальнасці Быкава. Сюжэты яго твораў, што ўбачылі свет пазней, у адрозненне ад твораў Ганчара, як правіла, не маюць разгалінаванняў, яны невялікія па аб’ёме, апісанне падзейнасці выключна сціслае, ашчаднае. «Суровы рэалізм» — вызначальная рыса мастацкага пісьма сталага Быкава. Беларускі пісьменнік у далейшым пры раскрыцці тэмы вайны не звяртаецца да палітры рамантычнага мастацтва, арыентуючыся пераважна на прыёмы псіхалагічнага экзістэнцыялізму.

## Спіс літаратуры:

1. Адамовіч, А. А. Здалёку і зблізку / А. А. Адамовіч. — Мінск, 1976. — 624 с.

2. Биков, В. В. Альпійська балада / В. В. Биков; перекл. Г. Вігурської.— Київ, 1965. — 140 с.

3. Быкаў, В. У. Поўны збор твораў: у 14 т. / В. Быкаў. — Мінск; Масква, 2006. — Т. 4. — 600 с.

4. Гончар, О. Т. Зібрання творів: у 6 т. / О. Т. Гончар. — К., 1978. — Т. 1. — 502 с.

5. Калеснік, У. А. У польскім друку / У. А. Калеснік // Даляглядыы. — Мінск, 1976.

6. Кудрявцев, М. Г. Повість Василя Бикова «Альпійська балада» у контексті проблеми «любов і війна»: антимілітаристичні мотиви / М. Г. Кудрявцев // Вісник Кам’янець-Подільського національного університету імені Івана Огієнка. Філологічні науки. Випуск 2. — Кам’янець-Подільський, 2011. — 267 с.

7. Рагойша, В. П. Тэорыя літаратуры ў тэрмінах / В. П. Рагойша. — Мінск, 2001. — 384 с.

8. Тычына, М. А. Васіль Быкаў / М. А. Тычына // Гісторыя беларускай літаратуры XX ст.: у 4 т. — Мінск, 2001. — Т. 3. — С. 640—688.

9. Фащенко, В. В. Поетичний світ Олеся Гончара / В. В. Фащенко // Гончар, О. Твори: в 6 т. / О. Гончар. Київ, 1978. —Т. 1. — С. 3—18.

10. Bykov, V. Gli ultimi tre giorni; presentazione di Giovanna Spendel / V. Bykov. — Milano, 1974. — 134 p.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 14 сакавіка 2016 г.

## Рэзюмэ

### Вольга ЛЫНША

### Тыпалогія горнага матыву ў прозе Васіля Быкава і Алеся Ганчара (да пытання пра асаблівасці фарміравання індывідуальнай творчай манеры беларускага пісьменніка)

В. Быкаў як майстар ваеннай прозы разглядаецца ў кантэксце ваенных твораў А. Ганчара. Выяўленне агульнага і адрознага ў распрацоўцы экзатычнага горнага матыву абодвума пісьменнікамі ажыццяўляецца ў літаратуразнаўстве ўпершыню. Параўнальна-тыпалагічны аналіз дазваляе ўбачыць больш выразна індывідуальныя і нацыянальныя рысы творчай манеры кожнага з пісьменнікаў. Для А. Ганчара зварот да рамантычных сродкаў пісьма з'яўляецца вядучым. Рамантычнае ў аповесці В. Быкава «Альпійская балада» — вынік уплыву ўзаемадзеяння сустрэчных рамантычных і рэалістычных плыняў савецкай ваеннай прозы. Выявы рамантычнага пафасу ў «Альпійскай баладзе» спрыялі яе папулярнасці ў славянскім асяроддзі. Заходняй Еўропе бліжэй выявіліся творы Быкава пазнейшага часу, звязаныя з філасофіяй экзістэнцыялізму. Пачатак 1960-х гг. — пэўны этап у выспяванні ўласнай аўтарскай манеры В. Быкава, які ў далейшым выкажа арыентацыю на «суровы рэалізм», што найбольш поўна адпавядае ўласнай псіхіцы творцы і нацыянальным традыцыям беларускай літаратуры.

**Ключавыя словы:** творчая індывідуальнасць, тыпалогія, ваенная проза, горны матыў, рамантызм, рэалізм.

## Summary

### Volha LYNSHA

### Typology of the mountain motif in prose of Vasil Bykov and Ales Gonchar (to the question about the pecularities of individual creative manner of a Belarussian writer)

V. Bykov is considered as a master of military prose in the context of O. Gonchar's military works. Both writers use an exotic mountain motive, and this article, for the first time in literary criticism, carries out the identification of common and distinct in the development of this motive. Typological analysis allows us to see more clearly the personal and national features of each writer's creative manner. The appeal to romantic writing tools is leading for O. Gonchar. Yet romantic features of V. Bykov's novel «Alpine Ballad» are the result of the influential interaction of colliding romantic and realistic manners in the Soviet military prose. The images of romantic pathos in the «Alpine Ballad» contributed greatly to its popularity in the Slavic environment. Western Europe, however, felt closer to Bykov's late works, associated with the existentialism philosophy. The early 1960-ies were a certain stage in the maturation of V. Bykov's creative manner, and the writer subsequently expresses the focus on «harsh realism», which most closely matches creator's mentality and the national traditions of Belarusian literature.

**Keywords:** creative personality, typology, military prose, mountain motive, romanticism, realism.

**Мікалай КУРЫПКА**

# БАЛЮЧАЯ ПАМЯЦЬ
## *(раман Мікалая Чаргінца «Аперацыя “Кроў”» у кантэксце сучаснай прозы аб Вялікай Айчыннай вайне)*

На пачатку XXI стагоддзя тэма Вялікай Айчыннай вайны працягвае заставацца адной з вядучых тэм не толькі ў беларускай літаратуры, але і ў сусветным маштабе. Нягледзячы на тое, што цягам часу кола ўдзельнікаў яе ўсё больш і больш вузее, гэтая вайна становіцца здабыткам гісторыі, тэма гераічнасці і трагедыі па-ранейшаму надзвычай актуальная. Куды больш актуальная як па памерах агульначалавечага гераізму, так і народнай трагедыі, якой да гэтага не ведала беларуская зямля.

Невычарпальнасць тэмы Вялікай Айчыннай вайны трапна характарызуе А. Марціновіч, калі параўноўвае яе з акіянам: «чым глыбей уцягваешся ў яго бяздонне, тым больш нязведанага паўстае перад вачамі» (тут і далей пераклад наш. — **М. К.**) [1, с. 196]. Сапраўды, з кожнай новай эпохай змянялася і працягвае змяняцца мастацкае бачанне вайны, а шматлікія факты паўстаюць у новым ракурсе.

Мастацкі вопыт сучаснай беларускай літаратуры пра вайну абапіраецца на дзесяцігоддзі цяжкіх мастацкіх пошукаў пісьменнікаў дзеля ўмацавання і максімальна глыбокага асэнсавання маштабаў той далёкай трагедыі. Канец XX стагоддзя адкрыў прастору для новага глыбокага псіхілагічнага пераасэнсавання падзей Другой сусветнай вайны, дазваляючы зрабіць свежы погляд на мінулае і яго адлюстраванне ў сучаснасці.

Канец 80-х гадоў стаў для ваеннай прозы лёсавызначальным, калі «папярэдні літаратурны перыяд паступова растраціў свой запал і саступіў месца новай літаратурнай эпосе» [2, с. 484]. Паўстала магчымасць якасна новага мыслення і пераацэнкі набытага вопыту. Адносная свабода ў творчасці дазволіла распачаць новыя эстэтычныя пошукі ў ваеннай тэме, якім спрыяла сітуацыя, што чалавек канца XX стагоддзя ведаў значна больш горкай праўды вайны і яе непрадузятых старонак, чым яго папярэднікі.

Новыя палітычныя ўмовы 1990-х гадоў выклікаюць «працэс перагляду савецкай мінуўшчыны» [3, с. 119]. Праяўляецца тэндэнцыя рэабілітацыі раней забароненых пытанняў ці маральна неэтычных у рамках існуючай грамадскай сістэмы. Гэта вымусіла пісьменнікаў больш уважана падысці да ўжо далёкіх падзей.

Раней не актуальныя і закрытыя тэмы «сталінізму», «калабарантаў», «свой-чужы» становяцца асновай творчасці В. Карамазава, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава, В. Быкава і інш. Нібы героі «страчанага пакалення», якія «неслі ў сабе вострую нянавісць да вайны і шчымлівы боль да падманутых надзей і аплёваных ідэалаў. І яны прыходзілі ў мір, які ім падаваўся яшчэ больш незразумелы, чым вайна, бо яны цяпер добра разбіраліся ў яго ілжывасці і подласці» [4, с. 10], героі сучаснай беларускай літаратуры зноў праз 80 гадоў сутыкнуліся з тымі самымі праблемамі растаптаных ідэалаў і разбітых ілюзій.

Ваенная проза канца 1980—90-х гадоў стварыла жудасную атмасферу ўсеагульнай жорсткасці і страху, у цэнтры якой знаходзіліся звычайныя безабаронныя людзі. Правільна ці не, але тым не менш у некаторых творах вайна паўстае

як стыхійнае бедства, крывавы канфлікт, што ў роўнай ступені бессэнсоўны для ўсіх ваюючых бакоў. Акцэнт ваеннай прозы робіцца не столькі на ўсенародным змаганні, колькі на паказе «трагічнага боку вайны з фашызмам, як з’яве супраціўнай чалавечай прыродзе» [2, с. 501]. Такім чынам у сучаснай ваеннай прозе цесна перапляліся трагічныя матывы «страчанага пакалення» і гераічны гуманістычны пафас савецкай літаратуры.

У ваеннай прозе канца XX — пачатку XXI стагоддзя пісьменнікі працягваюць паглыбляць свае пошукі сапраўдных маральных каштоўнасцей з моцнай духоўнай і псіхалагічнай абгрунтаванасцю. Агульначалавечым пратэстам супраць «“забі чалавека”, ваяўнічага зла, бесчалавечнасці таго грамадства, дзе рэлігіяй была жорсткасць і непрымірымасць» [5, с. 64], стала позняя творчасць В. Быкава. Аповесці «У тумане» (1989) і «Пакахай мяне, салдацік» (1997) раскрываюць складаны лёс чалавека ва ўмовах вайны, калі не толькі вораг, але і свае людзі становяцца чужымі і ненавіснымі.

Да тэмы народа і беларускай вёскі ў гады акупацыі і пасля яе звяртаюцца А. Савіцкі «Верасы» (1987) , «Обаль» (1989), «Пісьмо ў рай» (2003), В. Адамчык «Голас крыві брата твайго» (1991), В. Карамазаў «Бежанцы» (1993), І. Чыгрынаў «Вяртанне да віны» (1994) і «Не ўсе мы згінем» (1996) і ламаючая стэрэатыпы аповесць А. Адамовіча «Нямко», выдадзеная толькі ў 2002 годзе. Прыкметнымі мастацкімі з’явамі XXI стагоддзя сталі раманы М. Чаргінца «Аперацыя “Кроў”» (2013), З. Дудзюк «Выжыць на дарозе смерці» (2013), У. Гніламёдава «Вайна» (2014) і інш.

Творчасць М. Чаргінца заўсёды знаходзілася ў залатой сярэдзіне паміж пасляперабудовачнымі тэндэнцыямі, калі «балючае становіцца модным» [6, с. 168], а менавіта адлюстраванне старонак, звязаных з культам асобы, сім-тым негатыўным у партызанскім руху і беззаконнем, і класічнай савецкай літаратурай, якая ў першую чаргу сцвярджала звышчалавечы подзвіг чалавека, няхай складанага і супярэчлівага, у барацьбе за правую справу. Замест «гульні ў “паддаўкі з мінулым”» [7, с. 182] пісьменнік вызначае пераемнасць і развіццё карэнных рыс савецкай літаратуры розных гістарычных этапаў.

У сваёй творчасці М. Чаргінец прытрымліваецца рэалістычнага прынцыпу «тыповага характару ў тыповых абставінах», што робіць яго раманы жыццепадобнымі. Пры гэтым М. Чаргінец пазбягае акцэнту на шырокім ахопе падзей, а засяроджваецца на лёсе асобных людзей, праз прызму якіх і адлюстроўвае гераізм і трагедыю вайны.

Гэтым разам узнаўляюцца малавядомыя старонкі Вялікай Айчыннай вайны, да якіх беларуская літаратура яшчэ не звярталася. Гісторыя стварэння дзіцячага донарскага цэнтра для салдат Вермахта ў вёсцы Сёмкава недалёка ад Мінска і вызвалення дзяцей партызанскай брыгадай «Штурмавая» ў 1944 годзе мацуецца на дакументальнай аснове, сведчаннях пра жудасныя злачынствы гітлераўцаў на акупіраванай тэрыторыі Беларусі.

Справядліва адзначыць, што для М. Чаргінца вайна — гэта абсалютна бесчалавечая і пры гэтым супярэчлівая з’ява са шматлікімі спрэчнымі эпізодамі. Расказваючы аб падзеях Вялікай Айчыннай вайны, М. Чаргінец не ставіць сваёй мэтай «абяліць» тых людзей, хто прымаў удзел у вайне на баку акупацыйных улад. Як заўважае І. Саверчанка, «пісьменнік справядліва адмаўляецца ад штампаў» [8, с. 4] і адзначае, што на вайне не ўсё было аднабакова, і некаторыя супрацоўнічалі з немцамі з-за страху, імкнучыся выжыць у складаных умовах; іншыя запісваліся ў паліцыю, каб не патрапіць у Германію і не падзяліць лёс тых, каго фашысты сотнямі бязлітасна знішчалі. У адносінах да гэтых людзей і выяўляецца аўтарская пазіцыя ў адлюстраванні гераічнай і трагічнай праўды вайны.

Звяртаючыся да тых, хто пераступіў сваю маральную мяжу, М. Чаргінец кіруецца правілам, якое выдатна сфармуляваў А. Адамовіч: «Памры, але не забі!

Чалавеку інакш не дазволена паступаць. Хто спрабаваў абысці гэтую забарону, апынаўся ў "яме" куды больш страшнай і глыбокай, чым тая, якой яго пужалі фашысты» [9, с. 116]. Сапраўды, у рамане можна ўбачыць тых, хто перайшоў на бок акупантаў, але нельга і не заўважыць гатоўнасць пісьменніка дараваць тым, хто не праліў крыві.

Адзін з тых, хто стаў на шлях здрады, — малады паліцай Леанід Цвяткоў. Наіўны хлопец, ён з-за свайго глупства зрабіўся сляпою зброяй у руках акупацыйных улад. «*А куды мне? Быў выбар адправіцца ў Германію, дзе батрачыць, ці ў паліцыю. А ў мяне ж маці хварэла, бацька памёр у саракавым годзе. Акрамя мяне ў сям'і яшчэ трое, я старэйшы*» [10, с. 49], — кажа Леанід сваёй знаёмай Жэні ў сітуацыі, калі павінен яе арыштаваць, але замест гэтага дапамагае выратаваць маленькую яўрэйскую дзяўчынку.

Відавочна, што большасць сярод калабарантаў былі людзі незадаволеныя савецкай уладай, а таксама крымінальныя і маргіналізаваныя элементы. Акурат на вайне адбываецца выяўленне чалавечай сутнасці, ідэйных і маральных асноў, сфармаваных у даваенны час. У гэтым сэнсе вайна — працяг мірнага жыцця чалавека ў іншых, абвостраных умовах, суровая праверка яго сацыяльных якасцей [11, с. 7]. Па сваіх паводзінах, па тых намаганнях, якія чалавек будзе прыкладаць, каб дасягнуць пастаўленай мэты, можна разважаць аб яго сапраўднай сутнасці.

Мікалай Чаргінец не хавае абурэння тымі, хто перайшоў межы разумнага і ўдзельнічаў у злачынствах. Вайна ў гэтым выпадку выступае сродкам раскрыцця ўнутранага свету чалавека, які здольны на зло. Пісьменнік паказвае, што нельга раптоўна стаць забойцам, бо зло ў мірны час у некаторых проста хаваецца ў глыбінях душы, а падчас вайны праяўляецца ва ўсёй красе. Той жа паліцай Абрам Ліпковіч і раней праявіў сябе не з лепшага боку, аб чым сведчыць гераіня Жэня Статкевіч: «*Ён і да вайны быў свалатою, у НКУС настукваў на суседзяў, а цяпер вось перакваліфікаваўся*» [10, с. 68].

Яўрэй Ліпковіч з задавальненнем вынішчае сваіх суайчыннікаў, пры гэтым з'яўляючыся «унтэрмэншам» для акупацыйных улад. Між тым, ён сам зусім не саромеецца таго, што робіць: «*Мы ахоўваем вуліцы, уваходы і выхады з гета. Займаемся канфіскацыяй рэчаў, арганізоўваем аблавы, мы — актыўныя і верныя služкі немцаў і літоўцаў*» [10, с. 23].

Звяртаючыся да свайго былога суседа Левіна, Ліпковіч выхваляецца, што жыццё ўсіх жыхароў гета ў яго руках: «*А ... ты і твой вывадак сёння кандыдаты ў Трасцянец, а я жыву з сям'ёю дома і радуюся жыццю... варта мне толькі пальцам пашавяліць — і ты на нябёсах*» [10, с. 22].

Да розных прыёмаў апісання герояў звяртаецца М. Чаргінец. Гэта не толькі аналіз іх ваеннай біяграфіі, не толькі пошукі скрытых духоўных рэзерваў, але і яркі кантраст супрацьпастаўлення дабра і зла, светлага і цёмнага бакоў чалавека. У Цвяткове пісьменнік убачыў такія светлыя бакі, якія можна і не заўважыць, прымаючы да ўвагі ролю беларускіх калабарантаў у гісторыі краіны. М. Чаргінец разумее, што для такога чалавека, як Цвяткоў, яшчэ не ўсё страчана ў жыцці, пісьменнік не адмаўляе яму ў дараванні яго правіннасці.

Да і сам Цвяткоў увесь час перажывае душэўныя пакуты. У яго разважаннях гучыць філасофская думка самога М. Чаргінца, які з націскам Дастаеўскага выпрабоўвае трываласць чалавечага сумлення: «*Чаму ты так ганарыўся, што табе вінтоўку далі? А калі б ты каго-небудзь бабахнуў? А можа, павёў бы сябе так, як Ліпковіч? Той людзей забівае, нібы травінкі нагою збівае. А як ты, Лёнька, будзеш апраўдвацца, калі нашы прыйдуць?! Хто пачуе твой лепет? Лепет здрадніка, ворага народа?!*» [10, с. 187].

Яркая жыццёвасць і дакладнасць характараў дазваляюць пранікнуць глыбока ў душу чалавека, і, як вынік, героі рамана не паўстаюць традыцыйна аднабаковымі асобамі: таму паліцай Цвяткоў зрэшты знаходзіць страчаны шлях праўды,

а Абрам Ліпковіч атрымоўвае па заслугах і гіне ад выбуху гранаты, падкладзенай Цвятковым.

Відавочна, што, паказваючы розныя праявы калабарацыянізму, М. Чаргінец не ставіць сабе мэту пакласці на адны шалі тых, хто збіўся са шляху і такіх як Ліпковіч, яго сябар Антончык ці дырэктар сёмкаўскага інтэрната Вайтовіч — тых, хто свядома прыстасаваўся да новай улады, «падносячы іх ледзь не заступнікамі Беларусі, свабоднай ад камуністаў» [1, с. 196], як заўважае А. Марціновіч, што на самай справе, не без поспеху адбываецца ў апошні час. Але М. Чаргінца хвалюе іншая памяць, якая і праз 70 гадоў застаецца незразумелай і цяжкай для тлумачэння.

Васіль Жураўлёў, разважаючы пра сучасную літаратуру, адзначае «на аб'ектыўнае, праўдзівае, глыбокае, мастацкае ці навуковае ўзнаўленне рэальнасці і псіхалогіі чалавека працуе, безумоўна, вялікая колькасць прычын, фактараў, матываў. Дастаткова бывае тут нейкаму аднаму моманту дэтэрмінантнай сілы паслабіць сваю ролю ўплыву, як аб'ект даследавання пачынае губляць належную глыбіню, звужаецца і аддаляецца ад таго, што злучае яго з ісцінай і праўдай. Аб'ектыўнаму паказу вайны ў мастацкай і навуковай літаратуры ў апошнія дзесяць — пятнаццаць гадоў прыкметна перашкаджае, як нам уяўляецца, аднамерна-традыцыйны (а падчас і адкрыты спекуляцыйна-палітычны) падыход некаторых аўтараў да асвятлення тых або іншых аспектаў гэтай вялікай гістарычнай падзеі» [7, с. 185].

Такая фармуліроўка датычыцца адносін не толькі да ўдзельнікаў калабарацыянісцкіх падраздзяленняў, але і да прадстаўнікоў акупацыйных улад, а менавіта фігуры гаўляйтара Кубэ. Не сакрэт, што сёй-той гатовы выстаўляюць гэтую адыёзную фігуру амаль што заступнікам Беларусі.

На дакументальнай аснове М. Чаргінец бязлітасна раскрывае ўсю «стваральную натуру» Вільгельма Кубэ, калі прыводзіць яго думкі наконт мінскіх яўрэяў: «*...з нагоды Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі 7 і 8 лістапада правесці спецыяльную акцыю ў мінскім гета. Неабходна арганізаваць пагромы, вобыскі, адабраць усе каштоўнасці і знішчыць не менш за дзесяць тысяч яўрэяў*» [10, с. 14], ці праз яго загады аб стварэнні дзіцячага донарскага цэнтра пад Мінскам: «*ваша задача — стварыць на базе Сёмкава донарскі цэнтр крыві і, дзейнічаючы бязлітасна, адбіраць кроў у дзяцей бальшавікоў, нашых галоўных ворагаў. Нашы медыкі раяць накіроўваць у цэнтр дзяцей ад шасці да дванаццаці гадоў. У гэтым узросце кроў ідэальна падыходзіць нашым доблесным франтавікам*» [10, с. 39].

Вобразы Вільгельма Кубэ, каменданта мінскага гета Готэнбаха, каменданта донарскага цэнтра Мойрына і іншых з'яўляюцца для аўтара ўвасабленнем выключнага зла. Яны не заслугоўваюць пільнай увагі да свайго ўнутранага міру, які пісьменніку такі супрацiўны і прыкры. Між тым аўтар не мінуе ўвагай той факт, што сам гаўляйтар быў дастаткова адукаваным чалавекам і цікавіўся гісторыяй Рэчы Паспалітай. Але відавочна, што ні адукацыя, ні культура не дазваляюць нікому ўздымаць сябе і сваю нацыю вышэй за іншых людзей. І не можа быць даравання тым, хто разважаў аб гістарычных каштоўнасцях і разам з тым адпраўляў тысячы людзей у печы.

Увесь раман М. Чаргінца прасякнуты гарачым болем за лёсы дзяцей, якія трапілі як у мінскае гета, так і ў донарскі цэнтр Сёмкава, а тэма «слёзы дзіяцяці» становіцца квінтэсэнцыяй усёй трагедыі вайны, бязвіннымі ахвярамі якой у першую чаргу былі дзеці.

У развіцці такой сюжэтнай лініі можна ўбачыць відавочнае жаданне пісьменніка працягваць тэму страчанага дзяцінства, якая цяжкім набатам гучыць у творах К. Чорнага, М. Лынькова, Я. Брыля, В. Быкава і інш. Акрамя таго, вобраз дзіцяці, якое пакутуе, як ніякі іншы здольны напоўніць твор глыбокім гуманістычным сэнсам.

Эсфір Гурэвіч справядліва заўважае: «Дзеці — вось самы вялікі боль на вайне, самае святое апраўданне нашай барацьбы і пакут, сувязная нітка часу» [12, с. 129]. М. Чаргінец паказвае найвышэйшую ступень падзення Ліпковічаў,

Вайтовічаў і іншых здраднікаў, якія праз замах на дзяцінства, замахваюцца на ўсе натуральныя законы існавання чалавека.

Глыбока ўражваюць у рамане моманты шчырага дзіцячага гераізму. М. Чаргінец з вялікім хваляванне назірае за хлопчыкам Мішам, які не баіцца сказаць праўду ў вочы фашысту, што забірае яго кроў: «*— Ты — фашыст! Я цябе не баюся. Мой тата адпомсціць табе, — і раптам хлопчык, нібы звяртаючыся да бацькі, усклікнуў: — Тата, адпомсці яму! Яго прозвішча Мойрын». Маёру Мойрыну ад гэтых словаў відавочна стала не па сабе: «Ён нават паняволі агледзеўся па баках: ці не чуе бацька хлопчыка гэтых словаў?*» [10, с. 104].

Пакуты, якія выпадаюць падчас вайны на долю дзяцей, ніяк не суадносяцца з іх духоўнымі і фізічнымі магчымасцямі. Вайна праз вочы дарослага бачыцца трагедыяй, між тым дзеці «з мукамі пакутнымі відавочна высвечваюць трагічны воблік вайны як з'явы ненатуральнай чалавечай прыродзе; на іх, дзецях, праўдзівей за ўсё правяраецца асялок чалавечнасці, умацоўваецца думка аб ненармальнасці вайны і недапушчальнасці, абсурднасці новай...» [12, с. 115].

Для М. Чаргінца дзіцячыя пакуты — гэта магчымасць не толькі ўбачыць вайну з яе трагічным максімалізмам, але і вынесці адназначны прысуд усім тым, хто так ці інакш меў дачыненне да падобных злачынстваў, і зазірнуць у будучыню, каб ніколі не даць магчымасці павярнуць стрэлкі гадзінніка і пераацаніць вынікі Вялікай Айчыннай вайны.

Тэма дзіцячага гераізму дасягае свайго піку і набывае філасофскае асэнсаванне, калі шаснаццацігадовы Абрам перад усім горадам прызнаецца ў забойстве каменданта Готтенбаха. У яго ёсць магчымасць знікнуць у натоўпе, але фашысты ўжо накінулі петлі на шыі заложнікаў, і хлопчык вырашае здацца. У гэты момант праяўляецца ўвесь супярэчлівы драматызм сюжэтнай сітуацыі: узброеныя салдаты і шалёныя паліцаі пачынаюць баяцца аднаго звычайнага хлопца. «*Яны зусім не верылі свайму поспеху і не маглі пераадолець збянтэжанасць і нават страх, трымаючыся на адлегласці ад Абрама*» [10, с. 310].

Смерць Абрама на шыбеніцы вельмі падобна на апошнія хвіліны жыцця быкаўскага Сотнікава: гэта не проста смерць мужнага чалавека, гэта смерць хлопчыка, які выдатна ведае, дзеля чаго і каго ён стаіць пад шыбеніцай. У кнізе «Маральны свет героя» Г. Твармановіч бачыць у смерці гераічнага чалавека лёсавызначальны для будучыні момант. «Абавязак чалавека ў тым, каб выкарыстоўваць выпадкова атрыманую магчымасць — з годнасцю выказаць сябе ў сваім часе, які толькі малекула, атам у плыні Вечнасці, і перамагчы гэтым непазбежнасць: памерці і застацца. Убачыць, акінуць вокам мінулае, прайсці па сучасным і адысці з упэўненасцю ў тым, што наступіць будучыня [13, с. 104].

У сітуацыі з пакараннем Абрама тэма дзіцячага гераізму відавочна пераходзіць у тэму будучыні ўсёй краіны. Бо ў самаадданасці і самаахвяраванні падлетка М. Чаргінец бачыць раскрыццё бязмежных магчымасцей чалавечага духу, сцвярджаючы, што той народ непераможны, дзеці якога гатовыя на такія подзвігі. Дзіцячае сумленне для пісьменніка — гэта галоўны крытэрый маральных каштоўнасцей чалавецтва.

Раман «Аперацыя "Кроў"» у пэўнай ступені мае элементы аўтабіяграфічнасці, што з'яўляецца адной з істотных тэндэнцый у сучаснай літаратуры. Пэўная гістарычная рэальнасць і яе мастацкае ўвасабленне ў творы цесна пераплятаюцца: героі рамана, мінскія дзеці, жывуць тым жа жыццём і праходзяць праз тыя ж выпрабаванні, праз якія давялося прайсці ў маленстве і самому аўтару рамана.

Забойства паліцэйскімі двух хлопчыкаў, якія ўпотайкі пранікі ў гета, вельмі моцна нагадвае смерць аднаго з сяброў самога М. Чаргінца. А ці не пераклікаецца апісанне быту сям'і галоўнай гераіні Стакевічаў: «*Любы вымыты шматок тканіны ператвараўся ў рэч для продажу. Але ўсё роўна сям'я не магла есці больш разу ў дзень. Праўда, улетку можна было зварыць што-небудзь з лебяды ці шчаўя, а ўжо калі ўдавалася здабыць на рынку кавалак кастлявага мяса — гэта называла-*

*ся святочным абедам*» [10, с. 42] з успамінамі самога Мікалая Іванавіча: «Памятаю ўвесь час хацелася есці. І мы, малыя, стараліся хутчэй заснуць, каб раніцай зноў паглядзець, ці не вырасла за ноч зялёная траўка, якую сашчыпвалі і елі, каб утаймаваць бясконцае пачуццё голаду» [14, с. 80].

Падобная аўтабіяграфічнасць надае раману «Аперацыя “Кроў”» яшчэ большую каштоўнасць не толькі з пункту ўзнаўлення трагічных старонак вайны, але і тым, што яны раскрываюцца пісьменнікам, які сам воляю лёсу стаў сведкам тых гістарычных падзей. Гэта напаўняе раман трагічнай рэалістычнасцю і дазваляе адчуць «дыстанцыю часу», якая, па справядлівым вызначэнні В. Жураўлёва, дапамагае чалавеку «захоўваць аб’ектыўнасць і справядлівасць на нялёгкіх і пакручастых шляхах спасціжэння ісціны» [7, с. 229].

Іван Саверчанка сцвярждае, што «місія кнігі — папярэдзіць новыя трагедыі, не дапусціць злачынстваў і праліцця крыві нявінных людзей» [8, с. 4]. У гэтым сэнсе раман «Аперацыя “Кроў”» з’яўляецца не толькі выдатным дасягненнем у магістральнай для беларускай літаратуры тэмы Вялікай Айчыннай вайны. Гэта і зварот да будучых пакаленняў з наказам па-філасофску асэнсоўваць прыроду злачынства і выяўляць небяспеку, якая хаваецца ў спробах забыць сваё трагічнае мінулае.

Неспакойным набатам гучаць для чытача заключныя разважанні аўтара: «*Час ад часу, калі бываеш у Хатыні, можна назіраць рэдкую карціну: ад групы турыстаў з Германіі не-не ды і адзяліцца хто-небудзь з мужчын. Ён становіцца на калені і каецца за ўсе свае грахі. Хто ведае, можа, у яго жылах цячэ кроў нашых дзяцей. Ці памятаюць гэта немцы? Мы якраз памятаем...*» [10, с. 325].

Спасцігаючы глыбіню чалавечага характару, М. Чаргінец уздымае кола маштабных праблем: паводзіны чалавека на канкрэтным гістарычным этапе, адказнасць перад сваім народам, гісторыяй за свае ўчынкі ў экстрэмальных абставінах. Пісьменнік ніколькі не прыніжае маштабы трагедыі, што выпала на долю краіны, і не ставіць пад сумненне сапраўды вялікую гістарычную місію савецкага народа, які ўсклаў на сябе асноўны цяжар барацьбы супраць гітлерызму.

## Спіс літаратуры:

1. Обжигающая память / А. Мартинович [и др.] // Нёман. — 2013. — № 10. — С. 196—200.

2. Баршчэўскі, Л. Беларуская літаратура і свет: ад эпохі рамантызму да нашых дзён: папулярныя нарысы / Л. Баршчэўскі, П. Васючэнка, М. Тычына. — Мінск: Радыёла-плюс, 2006. — 574 с.

3. Лысова, Н. Сучасная беларуская літаратура / Н. Лысова. — Наваполацк: ПДУ, 2009. — 196 с.

4. Затонский, Д. Герой и знание / Д. Затонский. — М: Знание, 1962. — 50 с.

5. Бельскі, А. Сучасная беларуская літаратура / А. Бельскі. — Мінск: Аверсэв, 2000. — 127 с.

6. Андраюк, С. Творчы лёс і час / С. Андраюк [і інш.] // Сучасная літаратура: каардынаты ідэйна-мастацкага пошуку / С. А. Андраюк [і інш.]. — Мінск: Бел. навука, 2008. — С. 166—190.

7. Жураўлёў, В. Класіка і літаратурная сучаснасць / В. Жураўлёў. — Мінск: Беларус. навука, 2011. — 244 с.

8. Саверчанка, І. Вайна — вулкан жахаў / І. Саверчанка // ЛіМ. — 2013. — 20 вер. — С. 4.

9. Адамович. А. Ничего важнее: современные проблемы военной прозы А. Адамович. — М.: Сов. писатель, 1985. — 288 с.

10. Чергинец, Н. Операция «Кровь» / Н. Чергинец. — Минск: Маст. літ., 2013. — 326 с.

11. Ломидзе, Г. Нравственные истоки подвига: Советская литература и Великая Отечественная война / Г. Ломидзе. — М.: Советский писатель, 1985. — 208 с.

12. Гуревич, Э. Боль и тревоги наши: Дети, война, литература / Э. Гуревич. — Минск: Наука и техника, 1986. — 255 с.

13. Творонович, Г. Нравственный мир героя: белорус. и югосл. воен. проза 60—70-х годов / Г. Творонович. — Минск: Наука и техника, 1986. — 127 с.

14. Вось гэтым і жыву... / З. Падліпская [і інш.] // Роднае слова. — 2012. — № 10. — С. 80—82.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 4 лютага 2016 года.

**Рэзюмэ**

**Мікалай КУРЫПКА**

**Балючая памяць (раман Мікалая Чаргінца «Аперацыя “Кроў”» у кантэксце сучаснай прозы аб Вялікай Айчыннай вайне)**

Звяртаючыся да падзей Вялікай Айчыннай вайны, М. Чаргінец даследуе паводзіны чалавека, яго духоўнасць і сумленне ва ўмовах, калі на кон пастаўлена не толькі сваё ўласнае жыццё, але жыццё і лёс іншых людзей. Праз факты жахлівых злачынстваў нямецкіх улад пісьменнік дасягае максімальнага драматызму і псіхалагічнай напружанасці рамана і паказвае гераізм і трагедыю чалавека на вайне ва ўсёй сваёй балючай і горкай праўдзе.

**Ключавыя словы:** ваенная проза, Вялікая Айчынная вайна, акупацыя Беларусі, ваенныя злачынствы, праблема «свой-чужы».

**Summary**

**Mikhalai KURYPKA**

**Grieving remembrance (Mikhalai Charginets’ novel «Operation “Blood”» in the context of modern prose about the Great Patriotic War)**

Referring to the events of the Great Patriotic War N. Cherginets explores a person’s human behaviour, morality and conscience in a situation when not only life, but the life and destiny of others is at stake. Showing the facts of the monstrous crimes of the German occupying authorities the writer expresses exceptional dramatic and psychological tension and the novel shows the heroism and tragedy of man at war in all its painful and bitter truth.

**Keywords:** war prose, Great Patriotic War, occupation of Belarus, military crime, problem of «friend or foe».



**Серафім АНДРАЮК**

# ЯГО ЛЁС — ЛІТАРАТУРА

Яго — гэта Барыса Сачанкі. Літаратурай ён жыў, літаратура жыла ў ім. І гэта не толькі сама творчасць — проза, публіцыстыка, эсэістыка. Гэта ўсёпаглынальная любоў да кнігі, гэта самы актыўны ўдзел у літаратурным жыцці краіны, выключная ўвага да нацыянальнай (і не толькі) літаратурнай спадчыны, гэта самая непасрэдная далучанасць да нацыянальнай выдавецкай справы, асабліва ў 80-я — першай палове 90-х гадоў. Да апошніх дзён сваіх.

Вось гэтая арганічная і шырокая сувязь Барыса Сачанкі з літаратурай не была выпадковай ці то выключнай. У яго яна проста была, можа, асабліва ярка, актыўна выяўлена — у творчасці, у дзейнасці-працы, у жыцці штодзённым. А ўвогуле ён усёй творчай і чалавечай сутнасцю належаў да свайго пакалення — так званага «філалагічнага». Яно ж — пакаленне дзяцей вайны, пакаленне шасцідзясятнікаў. У сваю ж чаргу лёс пакалення — гэта лёс народа, у яго асабліва выразным, у яго знешнепадзейным ці то ўнутранадухоўным праяўленні. Сёння ўсё гэта пацверджана часам, гісторыяй, навукай. У першую чаргу, у найбольшай ступені мастацкай літаратурай.

Розныя назвы аднаго і таго ж пакалення зусім не выпадковыя. Іх падказала, прадыктавала рэальнае жыццё, адметная, багатая творчасць. І не толькі літаратурная.

Пакаленне дзяцей вайны... Блізкасць знешніх умоў фарміравання ўнутранага свету дзіцяці, пазнанне навакольнага свету — вайна, акупацыя, жорсткасць маральных крытэрыяў ацэнкі чалавечых паводзін і чалавечых учынкаў. Пазней, у творчасці, пэўнае падабенства бачыцца ў паказе побыту, у агульным успрыняцці навакольнага свету, ва ўзаемаадносінах з прыродай, у духоўна-псіхалагічным стане жанчыны і дзіцяці, у агульным эмацыянальным ладзе твораў. Разам з тым, у кожнага пісьменніка, у яго творчасці ўсё гэта было адметнае, сваё.

«Філалагічнае» пакаленне... Тут няма адчування межаў часу. Гэтае вызначэнне, у параўнанні з двума іншымі, больш вузкае, звязанае толькі з літаратурай. Уся справа ў тым, што пераважная большасць прадстаўнікоў пакалення дзяцей вайны прыйшла ў літаратуру праз філалагічную адукацыю. Была, напэўна, якаясьці вялікая ўнутраная духоўная патрэба ў пакалення, перанёсшага выпрабаванні вайны, акупацыі, чалавечага прыніжэння, далучыцца да адвечных крыніц дабра і прыгажосці — слова, літаратуры, мастацтва. У нашай нацыянальнай літаратуры, можа, як ні ў адной з еўрапейскіх ці то былых савецкіх, адбілася гэта даволі адчувальна.

Шасцідзясятнікі... Тут ужо ёсць адчуванне часу. Час пазначаны. То час найбольш поўнага выяўлення духоўнай сутнасці пакалення, духоўнага зместу яго душы і памяці. А накоплена было неймаверна многа — драматычнага, балючага. Пакінутага вайною і выпрабаваннямі першых пасляваеных гадоў. Грамадска-палітычныя ўмовы таго часу стрымлівалі хоць малое адкрытае выяўленне набалелага. І як толькі адліжныя часы другой паловы 50-х—60-х гадоў прыйшлі, усё накопленае ў дзіцячых і юначых душах і памяці, эмацыянальна актыўна выказалася. І не толькі ў слове, але і ў музыцы, кіно, мастацтве, тэатры. На гэты конт

ёсць нямала асабістых прызнанняў творцаў, сведчання іх. Найбольш, зразумела, літаратараў. Але не гэта галоўнае, не асабістыя прызнанні. Сама творчасць — вось што вызначальнае. Найперш, відаць, у літаратуры.

Пры ўсёй індывідуальнай адметнасці творчасці гэтага пакалення, асабліва таго, што было напісана ў 2-й палове 50-х—60-х гадах, бачацца моманты істотныя агульнага характару. Абумоўлены яны прычынамі грамадска-сацыяльнага зместу. Так, ва ўзнаўленні рэальнага свету вырашальная роля аддаецца свету абставін — ваенных, сацыяльных, бытавых. Яны фармуюць лёс чалавечы. Багацце карцін, жывых малюнкаў прыроды — неад’емная, вельмі істотная, частка ўзноўленага рэальнага і створанага мастацкага свету. Галоўныя героі твораў — дзеці, жанчыны, старыя. Эмацыянальны лад твораў выключна драматычны, дзесьці трагічны, з нярэдкімі мясцінамі лірычнага настрою. У мове добра відаць, чуваць прысутнасць жывога слова родных мясцін. Гучанне гэтага слова было натуральным, арганічным. То было выяўленне набалелага ў нялёгкія гады пасталення.

У лёсе і творчасці Барыса Сачанкі даволі выразна і адчувальна ўвасобіўся, выявіўся лёс яго пакалення, пакалення дзяцей вайны. Па сутнасці, уся яго творчасць у сваёй рэальнай аснове грунтуецца на асабістым жыццёвым лёсе пісьменніка. А лёс гэты — няпросты, драматычны. Адначасна ў пэўныя перыяды поўны светлых лірычных парыванняў і высокіх духоўных памкненняў.

Словамі пра гэта пачыналася «Аўтабіяграфічная нататка» Барыса Сачанкі, напісаная ў верасні 1964 г. і прызначаная для другой кнігі пісьменніцкіх аўтабіяграфій «Пра час і пра сябе» (1966). І невыпадкова. Бо менавіта там, на Палессі, пачыналася яго жыццёвая дарога, там — выток яго творчых крыніц: жыццёвых, духоўных, эмацыянальных. Кутку гэтаму Сачанка заставаўся верны да апошніх дзён сваіх — і як чалавек, і як творца. Сувязі з ім не пакідаў ніколі.

У рамане «Чужое неба» яго галоўны герой, за якім выразна праглядаецца аўтар, узгадвае не раз родны куточак на Палессі. Эмацыянальна прачула, з хваляваннем: «Дзе б ні быў я, куды б не закінула мяне доля, не-не ды згадаю яго. У радасці і ў журбе, з блізкіх і далёкіх дарог я вяртаюся зноў і зноў туды, дзе сярод старых пракаветных лясоў і вялізных неабсяжных балот на пясчанай выспе раскінулася вёска, у якой я нарадзіўся... Там, у той вёсцы, у дзедаўскай сялянскай хаце, я ўпершыню адкрыў свае вочы, там сказаў першае сваё слова, зрабіў першыя свае крокі…»

Тая ж вёска, што і ў аўтабіяграфіі.

Менавіта там 25 мая 1936 г. нарадзіўся Барыс Сачанка. Там прайшлі гады ранняга дзяцінства, поўныя радасці, узбуджанасці проста ад таго, што ты жывеш, поўныя адчування прыгажосці і шчымлівай таямнічасці навакольнага свету, невытлумачальнага імкнення адкрыць, спазнаць невядомае, нязведанае. Там напаткала яго вайна, цяжкія дні недзіцячых выпрабаванняў і перажыванняў. У «Аўтабіяграфічнай нататцы» Сачанка пра гэта напіша: «Мне не было і шасці год, як пачалася вайна — тая вайна, якая прымусіла ўсіх, у тым ліку і многіх маіх равеснікаў, пасталець адразу год на дзесяць, пабачыць на свае вочы крывавы прывід смерці, зведаць жудасць разбурэнняў, голад і няволю.

Помню, як усім сялом праводзілі на фронт хто бацьку, хто брата, хто сына ці мужа... Помню барвовыя пажарышчы на ўсё неба, плач асіроцелых дзяцей, жахлівыя размовы пра немцаў, пра тое, што ўсіх нас чакае тут, у акупіраванай ворагам вёсцы... Потым прыйшлі і самі немцы — пачалося жыццё, поўнае трывогі і страху». І яшчэ: «У хаце холад, есці таксама няма чаго...»

А былі ж яшчэ два гады (з чэрвеня 1943-га і аж да мая 1945-га) выгнання разам з усімі жыхарамі вёскі ў Германію. Вёску спалілі. Вяртанне зноў жа было туды, у родныя мясціны.

Юнацтва засталося ў памяці шчаслівым і светлым, непаўторна прыгожым, прываблiва таямнічым, трапяткім — такім сваім. Асабліва пасля ваеннага ліхалецця.

Пройдуць гады. Жыццёвыя дарогі павядуць Барыса Сачанку далёка ад роднага кутка Палесся. Будуць сустрэчы з новымі мясцінамі, з іншымі людзьмі, новыя ўражанні. Жыццё паўстане больш багатым, больш складаным і разнастайным. Але паэзія палескіх гадоў дзяцінства і юнацтва, трагізм часоў акупацыі і выгнання застануцца ў памяці назаўсёды. Больш за тое, менавіта яны, гэтыя падзеі, уражанні, стрэсы, спадзяванні, мары і надзеі тых гадоў, успрынятыя ўсёй чалавечай існасцю, нават як бы фізіялагічна, бачацца першаасновай яго творчасці. Асноўныя тэмы і ідэі яе, вядучыя матывы, эмацыянальны лад выпраменьваюцца, вынікаюць якраз адтуль — з тых часоў і з той зямлі. У тых часах, у той зямлі і жывая крыніца таго імкнення да прыгожага, высокага ў яго нязменнай прыхільнасці, любові да літаратуры, да мастацкага слова, да кнігі.

Пройдуць яшчэ гады. Надарыцца Чарнобыльская катастрофа. Родныя Сачанкавы мясціны апынуцца практычна ў зоне павышанай радыяцыі. Наведванне ўзрушае, выклікае пакутлівыя перажыванні, цяжкі роздум. У нататках пра радыяцыю запісвае: «Раней ездзіў я ў сваю вёску, каб набрацца сіл, асвяжыць памяць, памаладзець душою, падужэць.

Цяпер пасля паездак дадому падоўгу хварэю. І фізічна, і маральна. Мілы, дарагі куточак — і яго атруцілі, так раптоўна адабралі ў мяне ды і ў многіх, хто нарадзіўся там, жыў…» Думкі ідуць глыбей — пра жыццё роднага беларускага слова: «Яно ж было жывое ў нас, нічым не запарушанае, спрадвечнае, глыбіннае, — як крыніца ў лесе. Што будзе з тымі песнямі, казкамі, прымаўкамі, якія нарадзіліся на гэтай зямлі, жывіліся яе сокамі і якія так мы і не запісалі».

Увогуле пытанні беларускай мовы, яе літаратурнага стану, грамадскага бытавання хвалявалі пісьменніка ўсё яго творчае жыццё. Яшчэ ў 1957 г., калі быў на другім курсе журфака БДУ, Сачанка ў «ЛіМе» 14 снежня надрукаваў артыкул з красамоўнай назвай «Шанаваць родную мову». Артыкул выклікаў актыўны рэзананс чытачоў, афіцыйнае незадавальненне. І ва ўсе наступныя гады ў сваіх эсэістычна-публіцыстычных артыкулах, у сваіх інтэрв'ю, матэрыялах літаратурна-крытычнага зместу Сачанка не раз звяртаўся да гэтай няпростай, балючай тэмы нацыянальнага беларускага жыцця. Яна, тэма гэтая, стала адной з вызначальных у творчасці і грамадскай дзейнасці пісьменніка.

Моцная далучанасць Сачанкі да роднага кутка зямлі, роднай мовы, людзей, іх звычаяў і нораваў, да прыроды і гісторыі краю, такая нязменнасць жыццёвых сімпатый надае творчасці яго пэўнасць, мэтанакіраванасць і ўстойлівасць, з'яўляецца асноўнай крыніцай яе жыццёвасці і адметнасці, яе ідэйна-мастацкай глыбіні.

Тут, на падставе аўтабіяграфічных сведчанняў розных гадоў аўтара, увасобленых у яго мастацкіх творах, тым самым пацверджаных, вызначаны рэальныя жыццёвыя асновы і крыніцы творчасці яго. Але асновы і крыніцы творчасці — гэта яшчэ не сама творчасць. Творчасці трэба было і навучыцца. Натхніцца на творчасць.

Закончыўшы з сярэбраным медалём Хойніцкую сярэднюю школу, у 1955 г. Барыс Сачанка паступае на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Скончыў у 1960 г. То былі гады не толькі набыцця ведаў, але і моцнага духоўнага наталення. Пазней напіша: «Цэлымі днямі я не выходзіў з бібліятэкі, спачатку сваёй, універсітэцкай, пасля і Ленінскай — «Ленінкі», як мы яе называлі. Чытаў. Кожны дзень я адкрываў для сябе ўсё новых і новых аўтараў. Сярод іх асабліва многа было беларускіх, пра якіх я чуў краем вуха яшчэ ў школе ад настаўнікаў…»

Менавіта праз кнігу, дзякуючы ёй, ішло набыццё ведаў пра свет і чалавека, ішло духоўнае напаўненне пакалення — таго, якое пазней назавуць філалагічным. А яго прадстаўнікі былі побач. Яны вучыліся ў тым жа ўніверсітэце, курсам вышэй ці ніжэй. Сведчанне Сачанкі: «Само сабой неяк усе мы перазнаёміліся, здружыліся, пасябравалі. Памагалі адзін аднаму і рублём, і добрай кнігай, і парадай. Часта спрачаліся між сабой па творах — і тых, што пісалі самі, і тых, што

друкавалі старэйшыя пісьменнікі. Усё гэта давала нейкі штуршок, цягнула і самога паспрабаваць узяцца за пяро». Да таго ж, трэба адзначыць, што Сачанка — і як чалавек, і як пісьменнік — не быў пазбаўлены пэўнай долі здаровай амбітнасці. У 1956 г. у часопісе «Маладосць» было надрукавана першае яго апавяданне. У 1960 г. атрымаў дыплом аб заканчэнні ўніверсітэта. У руках ужо трымаў сігнальны экзэмпляр сваёй першай кнігі прозы «Дарога ішла праз лес». Самім жыццём, часам быў пакліканы да творчасці. Працаваў і на пачатку творчасці, і ва ўсе пазнейшыя гады вельмі актыўна, плённа. Зроблена шмат. Галоўнае месца займае проза. Яна багатая і разнастайная.

Палессе... Вайна... Гэтая жыццёвая прастора і гэты час у самых разнастайных іх праяўленнях і мастацкіх увасабленнях складаюць рэальную аснову творчасці Барыса Сачанкі. Пераважнай і найбольш значнай часткі яе. Эмацыянальна, духоўна — гэта радасць, шчасце і — боль, трагізм.

Пачынаючы з першай кнігі «Дарога ішла праз лес» і да рамана «Вялікі Лес», публіцыстыкі гэтых гадоў, вайна ў творчасці Барыса Сачанкі прысутнічае нязменна. Пачаўшы з паказу асобных фактаў, падзей, у аснове сваёй драматычнага, а то і трагічнага зместу, пісьменнік мэтанакіравана ішоў да больш шырокага ўзнаўлення і асэнсавання жыцця беларускай (палескай) вёскі ў часы вайны. На гэтым шляху прыкметнымі вехамі вылучаюцца аповесці «Пакуль не развіднела» (1965), «Апошнія і першыя» (1966), раман у навелах «Чужое неба» (1969—1973), раман у трох кнігах «Вялікі Лес» (1976—1982).

У познія, паслясавецкія ўжо, гады ў гэтай неабдымнай тэме мінулай вайны Сачанку асабліва цікавіў лёс беларускай эміграцыі, драматычны лёс з гэтым нацыянальнай інтэлігенцыі, нацыянальнай культуры. Творы гэтыя, публіцыстычныя нарысы, публіцыстычна-крытычныя артыкулы, эсэ, што насычаны багатым канкрэтным матэрыялам, грунтуюцца на дакументальна-фактычнай аснове, прасякнуты клопатам пра нашу літаратуру, нашу культуру, у творчасці пісьменніка займаюць асобнае месца.

Вылучаецца ў творчасці Барыса Сачанкі аповесць «Апошнія і першыя». У творы моцна адбілася, увасобілася тое, што названа «Памяць Хатыні». Твор гэты, разам з аповесцю Івана Пташнікава «Тартак» (1967), па сутнасці, адкрывае ў нашай літаратуры гэтую трагічную тэму.

Як вядома, родная вёска будучага пісьменніка была спалена, жыхары яе вывезены ў Нямеччыну. А колькі вёсак было знішчана разам з людзьмі. Пра гэта ведалі ўсе — і дарослыя, і дзеці. Дзіцячым розумам, дзіцячым сэрцам успрымалася ўсё гэта як штосьці невытлумачальна жахлівае, як насланнё нейкае. Такім назаўсёды запомнілася. І калі праз гады Сачанка пісаў пра спаленую разам з яе жыхарамі вёску Рудню (пра гэта аповесць «Апошнія і першыя»), то памяць яго, яго душэўны настрой жывілі ўспаміны, перажыванні тых страшных гадоў. Было б, напэўна, няправільна шукаць рэальнага пацвярджэння ўсіх падзей, сітуацый, якія паказаны, ёсць у творы. Не ў гэтым прызначэнне мастацкай літаратуры. Галоўнае — праўда чалавечых пачуццяў і перажыванняў у экстрэмальных абставінах, праўда агульнай эмацыянальнай атмасферы, адпаведнасць іх таму, што тады адбывалася і што захавалася ў дзіцячай памяці і дзіцячым сэрцы.

У славутай кнізе «Я з вогненнай вёскі...» (у расказах людзей, якія перажылі жахі карных экспедыцый) неаднаразова падкрэслены сваеасаблівы ўнутраны стан чалавека, які толькі што глядзеў у вочы смерці, бачыў, як гінулі тыя, з кім ён дагэтуль жыў, як гінуў і сам. Пасля пабачаных і перажытых жахаў амаль у кожнага з’яўлялася адчуванне, што ён адзін застаўся на свеце, больш нідзе нікога жывога няма.

Герой аповесці «Апошнія і першыя» таксама перажывае нешта падобнае. Прыходзячы на папялішча знішчанай разам з людзьмі роднай вёскі, ён думае, што нічога ўжо няма таго, з чым ён зжыўся: «Ёсць толькі хіба вось гэтае папялішча ды шырокае, неабдымнае неба над галавою... Ды яшчэ цішыня... Дзень і ноч

цішыня. Так ціха, што, здаецца, нідзе, на ўсім белым свеце, ніхто ўжо не жыве — усіх пастралялі, папалілі немцы. Ні смеху, ні кроку, ні лаянкі — усё супакоіла, прыглушыла смерць».

Альбо вось яшчэ: «Я і сам не ведаў, чаму я ўсе гэтыя дні нават не падумаў ісці шукаць людзей. Я зусім забыўся, што яшчэ дзе, акрамя нашай вёскі і Замошак (суседняй спаленай вёскі. — **С. А.**), могуць быць жывыя людзі».

Тады, калі была напісана аповесць, яшчэ не было кнігі «Я з вогненнай вёскі…», не было іншых сведчанняў людзей, якія засталіся жывыя пасля карных экспедыцый.

Адкуль жа тады гэтая праўдзівасць у паказе ўнутранага стану чалавека ў тых жахлівых умовах?

Памяць, учэпістая дзіцячая памяць змагла захаваць сапраўднае аблічча тагачаснага жыцця, аблічча вайны, змагла захаваць атмасферу тых дзён, своеасаблівасць паводзін чалавека, адметнасць адчуванняў. Талент дазволіў праўдзіва па-мастацку перадаць гэта.

Увогуле ў гэтай аповесці ёсць тыя істотныя якасці, якія заўсёды выклікаюць давер да твора мастацтва — гэта ўзаемаадпаведнасць зместу і формы, арганічная ўзаемаўзгодненасць эмацыянальнай атмасферы і ўзноўленых падзей, адпаведнасць характару апавядальнай манеры ўнутранаму стану героя, ад імя якога вядзецца апавяданне. А ўнутраны стан героя-апавядальніка даволі складаны. Ён у творы галоўная дзейная асоба. Пра падзеі, удзельнікам і сведкам якіх быў, расказвае праз дваццаць гадоў. Голас яго і на такой часавай адлегласці гучыць усхвалявана, узбуджана; ён наскрозь пранізаны нязбытным чалавечым болем. Асабліва ў першай палавіне твора, дзе ўзнаўляюцца падзеі першых дзён і тыдняў пасля знішчэння вёскі.

У другой палавіне твора больш вызначальна гучыць голас дарослага чалавека, які знае, што такое вайна, які ўсёй істотай прагне міру. Голас гэты публіцыстычна страсны, па-грамадзянску заклапочаны, поўны роздуму.

Рэквіем — вызначаны пісьменнікам жанр твора. У дадзеным выпадку гэта твор жалобна-гераічнага характару. Туга, сум па загінуўшых натуральна гучаць як праклён вайне, яе адмаўленне. Жанравае вызначэнне — рэквіем — мае сваё мастацкае апраўданне ва ўсіх галоўных кампанентах твора: кампазіцыя, манера выкладання жыццёвага матэрыялу, эмацыянальны лад. Паміж імі існуе арганічная ўзаемазалежнасць.

Твор пачынаецца знешне стрымана: «Я хацеў бы, каб гэта быў сон. Але гэта не сон. Не, не сон…» Але пад канец гэтых радкоў ужо адчуваецца трывога, унутраны ціск пачуццяў. Далей ідзе сам расказ-успамін пра трагічную гісторыю. Расказвае пажылы чалавек, але расказвае пра тое, што пабачыў і што перажыў у дзяцінстве. Расказвае-ўспамінае пра спаленую вёску Рудню, спаленых і забітых аднавяскоўцаў, пра маці... Расказвае і пра паступовае адраджэнне жыцця, пра «апошніх і першых» жыхароў ажываючай Рудні.

Першая палавіна аповесці, дзе ўспомнены-ўзноўлены жахлівыя дні і ночы, праведзеныя ім у спаленай вёсцы, блуканні па папялішчах, што засталіся на месцы хат, узгадвае тое, што ён пабачыў і чаго, здаецца, не можа вытрываць ніякае чалавечае сэрца, — напісана з вялікай драматычнай сілай, на такой высокай эмацыянальнай ноце, што, здаецца, голас апавядальніка вось-вось можа сарвацца і загучаць істэрычна. Аднак, не. Тон вытрыманы да канца, тон чысты.

Барыс Сачанка праўдзіва перадае ўнутраны стан хлопчыка ў розным становішчы, у розных рэальных сітуацыях: і тады, калі маці, нібы прадчуваючы бяду, адпраўляе хлопчыка Ясіка ў суседнюю вёску Замошкі аднесці малако цётцы Лісавеце; і тады, калі ён, яшчэ не ўсведамляючы ўсёй небяспекі, бачыць, як карнікі паляць яго родную і суседнюю вёскі, знішчаюць іх жыхароў; і тады, калі шмат дзён блукае па пажарышчах, бачыць косці, чарапы спаленых людзей; і тады, калі сядзіць на пажарышчы роднай хаты і, каб неяк уратаваць сваю свядомасць і сваё

сэрца ад жахаў усяго, што толькі што здарылася, успамінае-перажывае нядаўняе шчаслівае і бесклапотнае мінулае; і тады, калі ў яго голасе апавядальніка, чалавека ўжо дарослага, пачынаюць гучаць ноты біблейскіх сказанняў.

«І зноў быў дзень, і зноў ноч была. І прайшлі гэтыя дзень і ноч, і прыйшлі новыя. Цемра змянілася святлом, і святло змянілася зноў цемраю. Усходзіла сонца, і заходзіла сонца. Выплываў на небе месяц, і знікаў з неба месяц. Загараліся зоры і патухалі... А я ўсё туляўся і туляўся, блукаў і блукаў па полі, па лесе, не могучы знайсці сабе нідзе ніякага прыстанку. Стамляўся, падаў дзе-небудзь на ўзмежку ў траву і на нейкі час забываўся на ўсё на свеце — правальваўся нібы ў прорву, у цяжкі, трывожны сон».

Гэтыя радкі побач з паказам таго, што хлопчык успамінае-перажывае, набываюць сэнс абагульняльны, злавесны.

У аповесці ніколькі не здаюцца штучнымі ці то выпадковымі праклёны вайне, звароты да Смерці, Зямлі, Ночы, просьбы да Сонца, Месяца, Ветру, Неба, Хмараў, вялікія маналогі, звернутыя да маці, бацькі, прытчы, што прыгадваюцца герою. Пры такой падзейнай і фактычнай напоўненасці, такой эмацыянальнай насычанасці розум не можа не рабіць абагульняльныя вывады. Філасофская насычанасць для гэтага твора натуральная. Яна арганічна вынікае з усяго расказанага і паказанага. Больш за тое, незвычайнасць, жахлівасць, неадпаведнасць чалавечаму (не кажучы ўжо — дзіцячаму) успрыманню і ўяўленню ўсяго гэтага дыктуе, абумоўлівае перарывісты рытм апавядання, усхваляваны, з частымі перападамі, высокімі ўсплёскамі непасрэдна лірычнага ці то публіцыстычнага напаўнення яго тон.

Паступова хлопчык Ясік як бы вяртаецца да жыцця. Сустракае аднавяскоўцаў (вельмі рэдкіх), што нейкім цудам ацалелі, засталіся жыць, вярнуліся хто адкуль у родную вёску (дакладней — на папялішчы родных хат) — каб жыць. Трагічны напал нібы змяншаецца. Пачынае гучаць голас многіх людзей, апошніх жыхароў старой і першых жыхароў новай Рудні. Сама гісторыя з хлопчыкам, з яго сям'ёю, роднаю вёскай набывае шырокія маштабы, становіцца гісторыяй народа.

Час і людзі дапамагаюць хлопчыку, які ні на хвіліну не забывае таго, што давялося яму перажыць, больш уважліва паглядзець праз прызму трагічнага мінулага на тое, што адбываецца праз шмат гадоў. Ён, ужо дарослы чалавек, думае пра бясконцасць сусвету і хуткаплыннасць зямнога жыцця, яго непаўторнасць у кожным асобным выпадку, у кожным праяўленні, пра неўміручасць чалавека. Праклінае вайну і тых, хто яе развязвае. Рашуча, актыўна, бескампрамісна яе адмаўляе.

«Я хацеў бы, каб гэта быў сон. Але гэта не сон. Не, не сон. Гэта — праўда». Словы тыя, што і ў пачатку. Дабаўлены апошні сказ: «Гэта — праўда». У тым, што гэта так, па-мастацку пераканаўча даводзіць нам уся гісторыя «апошніх і першых».

Увогуле ж той жыццёвы вопыт, які выпаў на долю пакалення дзяцей вайны, унікальны. Жахліва ўнікальны. Тое, што кожны змог убачыць і адчуць у тагачасным жыцці, у іншым жыцці ўбачыць немагчыма. Багацце жыццёвых фактаў, разнастайнасць падзей, сітуацый экстрэмальнага характару, праяўленні чалавечай псіхалогіі, якія ў жыцці нармальным і не ўбачыш. Выключная скандэнсаванасць і сканцэнтраванасць жыццёвага матэрыялу — рознага характару, рознага ўнутранага зместу, рознай эмацыянальнай насычанасці.

Для Барыса Сачанкі, яго «вывучэння» жыцця, яго памяці, яго духоўна-эмацыянальнага росту і пасталення вельмі істотнае значэнне мела Нямеччына. Гэта цэлая гісторыя — выгнанне, жыццё і праца ў няволі на чужыне, вяртанне, водгалас усяго гэтага ў пазнейшыя гады. Шмат што пісьменнік сказаў, многае засталося нясказанае.

Матыў, тэма «чужога неба», Нямеччыны, прысутнічае, па сутнасці, ва ўсёй Сачанкавай творчасці, насычае яе драматызмам, затоеным сумам і ціхім роздумам. У рамане «Чужое неба» матыў гэты — вядучы.

«Як Антэй, дакрануўшыся маці-Зямлі, набіраўся новых сіл, так і я, наведаўшы родныя мясціны, гаюся, на доўгі час пазбываюся сноў...

Сноў свайго трывожнага, абпаленага нягодамі маленства...»

Словамі гэтымі канчаецца раман Сачанкі «Чужое неба». Яны перадаюць сэнс таго, што ўсё жыццё і, мо, асабліва тады, калі пісаўся твор гэты, хвалявала душу пісьменніка і пра што яму абавязкова трэба было расказаць. Расказаць дзеля таго, каб хоць у малой ступені скінуць цяжар з душы, вызваліць памяць ад пакутлівых успамінаў.

«Чужое неба» — кніга пераважна пра вайну. Вайну, якую пабачыў і перажыў сам пісьменнік, якая жыла ў яго памяці. «У кожнага пакалення сваё жыццё, свая памяць, — разважае герой рамана Сымон Гарапашка. — ...Трэба кожнаму помніць сваё. Калі кожны будзе помніць сваё, усе разам будуць помніць усё». Так лічыць і сам пісьменнік. Чытаючы твор, бачыш, адчуваеш, як многа са свайго жыцця, духоўнай біяграфіі аддаў ён свайму герою. Аддаў не скупячыся, шчодра, але па-мастацку прадумана, мэтаскіравана. Адсюль у творы спалучэнне жыццёвай непасрэднасці, шчырасці і ідэйна-мастацкай цэласнасці і закончанасці.

Вузлы памяці — такое жанравае вызначэнне даў Б. Сачанка свайму твору. Яно досыць дакладна перадае характар адбору і мастацкага асэнсавання жыццёвага матэрыялу. Сапраўды, «Чужое неба» — у пэўным сэнсе як бы шэраг самастойных твораў, у аснове якіх пераважна ўспаміны Сымона Гарапашкі, яго родных і блізкіх, тыя вузлы, якія ў іх памяці, напэўна, навечна завязала вайна. Вонкава яднае ўспаміны, уводзіць іх у мастацкую сістэму вобраз Сымона. Яму адрасаваны ўспаміны іншых герояў. Сымон знітоўвае, перадае гэтыя ўспаміны чытачу, надаючы ім адпаведнае эмацыянальнае асвятленне. Асобныя вузлы-ўспаміны, апрача вобраза Сымона, яднае ў адзінае мастацкае цэлае галоўная тэма, а хутчэй матыў — матыў «чужога неба». Ужо сама назва твора, яшчэ да чытання, нясе ў сабе эмацыянальны зарад. Пазней, калі пачынаеш чытаць твор, акунаешся ў яго атмасферу, назва набывае канкрэтнае рэальнае напаўненне і адначасна шырокі сімвалічны сэнс.

«Мне не было і васьмі гадоў, калі немцы спапялілі нашу Бароўку, а нас, яе насельнікаў, пагналі ў Нямеччыну», — згадвае Сымон Гарапашка праз гады, ужо выкладчык універсітэта. Чужое неба было небам яго дзяцінства. Далёка ўжо адышлі гады вайны. Шмат змянілася ў жыцці галоўнага героя, яго родных і блізкіх, у жыцці краіны. Але след, які пакінула вайна, не сціраецца. Вайна зноў і зноў вяртаецца (і не толькі ў сне) да тых, хто яе перажыў. Праз гады бачыцца яна, магчыма, не так востра, не так непасрэдна адчувальна, але затое больш асэнсавана, у больш шырокіх сувязях. Бачыцца гэта добра ў «Чужым небе» ў арганічнай паяднанасці сучаснасці і мінулага.

«Задумаюся — і мімаволі ўзнікае, паўстае тое даўняе, што адышло быццам у нябыт, і лепш было б, каб яно не толькі не паўтаралася, але нават і не ўспаміналася. Ды нічога не зробіш: чалавечая памяць — нібы туга зматаны клубок нітак, пацягні за кончык — размотваецца ўвесь клубок», — разважае Сымон Гарапашка. Клубок яго памяці размотваецца без усялякага напружання. Сымон прыгадвае, узнаўляе асобныя сцэны, асобныя эпізоды свайго мінулага, таго, што ён сам перажыў ці пабачыў на ўласныя вочы, перадае ўспаміны іншых, імкнучыся захаваць іх непасрэднасць і шчырасць, — і перад чытачом узнікае выразная карціна таго, што было фашызмам у штодзённым жыцці. Фашызм нявечыць жыццё, калечыць душы не толькі тых, супраць каго ён скіраваны адкрыта, з кім змагаецца — рускіх, беларусаў, украінцаў, палякаў. Ён скіраваны супраць чалавека і чалавечнасці наогул. Пісьменнік дае некалькі драматычных эпізодаў з жыцця немцаў, дзе выяўлены злавесныя якасці фашызму.

Для многіх з тых, хто паказаны ў «Чужым небе», вайна не скончылася 9 мая 1945 года. Яна назаўсёды ўвайшла ў іх жыццё, парушыла чалавечы лёс. Усю вайну прайшоў, наводзячы масты, пераправы на рэках, дзядзька Мігай. З-пад

Гродна адступаў да Волгі. Ад Волгі з баямі дайшоў да Берліна. Разоў шэсць паранены быў. Вярнуўся, зрабіў на сваім селішчы буданчык, чакаў жонку і дзяцей. Выпадкова даведаўшыся, што сям'я загінула, дзядзька Мігай знікае з вёскі назаўсёды. На парозе новага жыцця гіне ад рук бандытаў дзядзька Вахлак.

Бацьку Сымона пасля вяртання з Нямеччыны выклікалі ў раён: нехта сказаў, што той быў шпіёнам. Вяртаўся «бацька заўсёды злосны, знерваваны і, бывала, цэлымі суткамі ні з кім ні пра што не гаварыў, нават з маткаю. Замыкаўся ў сабе і рабіўся сумны-сумны». Гісторыя гэтых хаджэнняў бацькі ў Ельнікі, так называўся раённы цэнтр, напісана, бадай, сама моцна. Псіхалагічная дакладнасць у раскрыцці характараў агранічна спалучаецца з вострай напружанасцю разгортвання дзеяння, са сцісласцю і дакладнасцю апісанняў.

Праўда ўсё ж перамагла. Але колькі гэта каштавала сям'і Гарапашкаў.

«Чужое неба», пад якім прайшлі два гады дзяцінства, адчуваецца ўсё жыццё. Яго цяжар з гадамі памяншаецца, але не знікае ніколі. Ды ёсць у чалавека сваё, роднае неба, неба яго дзяцінства, неба Бацькаўшчыны. Яно чыстае, блакітнае і празрыстае. Яно не гняце чалавека, а ўзвышае, узнімае да жыцця. Паветрам гэтага неба напоўнены твор Барыса Сачанкі. Паветрам роднага неба жывуць яго героі. Маці Сымона, напакутаваўшыся на чужыне, сэрцам, думкамі, усёй сваёй істотай імкнецца дадому. «Хай галодныя, хай голыя — абы дома, на зямельцы сваёй, ля свайго поплава, пад сваім небам».

Кніга «Чужое неба» адкрываецца раздзелам «Вёска майго маленства». Сам пачатак раздзела — гэта ўсхваляванае лірычнае адступленне (яно цытавалася раней) пра родны, бясконца дарагі і герою, і аўтару куток зямлі, той куток, з якога пачынаецца Радзіма. З гэтага лірычнага апісання ўзнікае матыў, настрой роднага неба. Ён адчуваецца праз усю кнігу. Менавіта гэты матыў надае твору жыццесцвярджальнае, аптымістычнае гучанне.

Асвойваючы, творча ўвасабляючы неабдымна складаны жыццёвы матэрыял вайны, засяроджваючы асаблівую ўвагу на найбольш «блізкіх» яму падзеях і праявах, тых, што сталі часцінай яго жыццёвага лёсу, Сачанка ўвесь час адчуваў як бы нейкае творчае незадавальненне — ад нявычарпальнасці таго агромністага рэальнага матэрыялу, ад творчай неўвасобленасці больш поўнага ведання, разумення, асэнсавання трагічнага і гераічнага народнага (ды і асабістага) вопыту. Так, думаецца, можна вытлумачыць з'яўленне найбольш эпічнага твора пісьменніка — рамана «Вялікі Лес». Твор заняў сваё належнае месца ў нацыянальнай літаратуры, стаў прыкметнай вяхой на творчым шляху самога аўтара. Адчуванне такое, быццам ён зняў нейкі цяжар са сваёй душы, са свайго лёсу. Цяжар болю, перажытага, памяці, ведаў, цяжар абавязку. Вайна — гэта палярызацыя, выразнае выяўленне, актыўнае ўзаемадзеянне і разам моцная ўзаемазалежнасць, глыбінная счэпленасць розных сацыяльных сіл, груп людзей, розных чалавечых лёсаў, асабістых памкненняў.

Гэтае агульнае цэласнае тагачаснае бачанне, успрыманне мінулага пісьменніку трэба было па-мастацку ўвасобіць — зняць з душы, забраць з памяці. Але на ўзроўні ведаў гадоў напісання твора, тагачаснага ўсведамлення мінулага. Захацелася карціну мінулага ўзбагаціць, пашырыць, падзеі разгарнуць. Праўда, дзесьці атрымалася так, што моманты пашырэння і разгортвання не насычаліся належна эмацыянальна, арганічна слаба ўваходзілі ў свет Вялікага Лесу. Сам жа свет гэты багаты, складаны, рухомы, напоўнены жывымі чалавечымі характарамі. Сачанку ўдалося паказаць вайну як народную — не толькі ва ўсеагульным супраціўленні, але і ў сацыяльных, бытавых складанасцях і супярэчнасцях. Гэта вайна палескай вёскі, яе жыхароў, і адначасова вайна Беларусі. Гэта вайна пісьменніка, якую ён захаваў у памяці, у сэрцы і пра якую шмат уведаў у пазнейшыя гады.

Жывая крыніца гэтых твораў — боль і памяць дзяцінства. Іх боль — гэта боль вайны, пазней — боль Чарнобыля. Выток крыніцы і яе нязменнае пастаяннае сілкаванне — Палессе. І гэта не толькі ў творах пра вайну. А вялікі нарыс «Зямля

маіх продкаў»? А палеская быль «Агліцкая сталь» ці «Дыярыуш Мацея Белановіча»? А «Дзік-бадзяга» ці «Соль»? А адна з апошніх кніг «Родны кут»? А «Запіскі аб радыяцыі» ці «Паездка ў «зону»? А лепшыя апавяданні — колькі іх?

У аснове іх — падзеі (рэальныя ці то выдуманыя), якія адбываліся на Палессі. Прырода ў іх палеская, насычаная паветрам балот і лясоў, героі — людзі, надзеленыя адметнай паляшуцкай псіхалогіяй, глыбокім арыгінальным розумам; у іх свае, адметныя, побыт, звычаі.

У Сачанкавых творах тыя героі найбольш прывабныя, цэласныя і жыццёвыя, якія нібы вырастаюць з роднай глебы, сілкуюцца ёю, нясуць у сабе яе законы, яе дух і сілу. Яны надзелены актыўнымі гуманнымі адносінамі да жыцця, менавіта з імі звязаны аўтараў роздум пра сапраўдныя чалавечыя каштоўнасці, пра месца чалавека ў свеце наогул і ў сучасным для яго жыцці.

У самых складаных жыццёвых стасунках, у няроўным сутыкненні з жорсткаю сілаю абставін таму ж Сымону Гарапашку, яго родным і блізкім надае сілу, мацуе веру ў лепшае ў жыцці еднасць з роднай зямлёю, упэўненасць у тым, што толькі яна (зямелька родная) уратуе ад любых нягодаў.

Пісьменнік увогуле паказвае ўсю няпростасць, унутраную складанасць узаемаадносін з родным куткам дзяцінства. Асабліва ў век (час) тэхнічнага прагрэсу, асабліва ва ўмовах моцнай сацыяльнай падпарадкаванасці чалавека.

Вось два апавяданні, напісаныя ў адзін і той жа час у 1971 годзе. Падобныя жыццёвай сітуацыяй, але адрозныя яе вырашэннем. Адрозныя духоўна. «Мара» і «Соль».

Раман Пятровіч, герой першага апавядання, вучоны. Жыве ў апошні час запаветнай марай — «дачакацца, дажыць да тых дзён, калі... можна будзе махнуць на ўсё рукою і паехаць у вёску, паехаць не на дзень, не на два, а навечна, назусім». Можна будзе глядзець на неба, «на тыя воблакі, што ўсё некуды плывуць і плывуць», слухаць, «як пакалыхваюцца, шумяць дрэвы ці булькоча, бяжыць вада ў рачулцы, як заліваецца недзе ў кустах салавей ці, крумкаюць у балацявіне жабы». Там не будзе штодзённай мітусні, не трэба будзе хлусіць ні самому сабе, ні іншым, не будзе непатрэбных абмеркаванняў, пасяджэнняў, званкоў, узгадненняў і ўдакладненняў. «...І сходаў не будзе, не будзе той барацьбы, змагання за пасады, аўтарытэт, іншую злыбяду ды халеру». Чалавек адчуваў, што жыве не так, што робіць не тое, што мог бы зрабіць і што трэба рабіць. Хоча лепшага, сапраўднага, таго, што давала б душэўнае задавальненне, раўнавагу ўнутраную, паўнату адчування жыцця. Ёсць нейкая заканамернасць: калі тое, што зроблена табою, дае табе самому сапраўднае ўнутранае задавальненне, радасць, то такое ж задавальненне, радасць атрымаюць і іншыя. Зробленае з вялікім душэўным зарадам, зарад гэты будзе несці іншым. Гэта закон прыроды. Герой вынес яго ў сабе з дзяцінства. Мара Рамана Пятровіча не здзейснілася. Памёр ён ад вострага сардэчнага прыступу. Не зрабіўшы таго, што было яму наканавана, не даўшы радасці людзям, не атрымаўшы задавальнення сам.

Падзейна, асабліва развязкай, блізкае гэтаму апавяданню апавяданне «Соль». Але духоўнае напаўненне іншае. Жыццё Рамана Пятровіча, героя «Мары», пададзена неяк у агульных неакрэсленых контурах: ён сам, відаць, не можа прыгадаць сабе, што ён зрабіў у жыцці больш-менш значнае. Усё рабілася як нешта пабочнае, другараднае, але забірала ўвесь час, усю творчую энергію. Галоўнае было мара.

Зусім іншае жыццё Трахіма («Соль»). Пражыў ён шмат, зрабіў нямала. Жыў быццам не думаючы. Вёў яго той інстынкт сумленнага, працавітага чалавека, чалавека, які робіць дабро іншым не задумваючыся, бо гэта яго ўнутраная неабходнасць, патрэба. Яго жыццё ідзе ў рытме ўсяго навакольнага жыцця — прыроды і людзей. Трахім жыве апошнія дні. Адчувае гэта. Адчувае нейкую няўцямную тугу, шкадаванне. «Здавалася іншы раз, што не ўсё яшчэ зроблена, не ўсяму дадзены належны лад, не ўсё спазнана, перажыта, і наперадзе чакае яго нешта незвычайнае, дзеля чаго ён і нараджаўся, дзеля чаго і жыў, кіўляў гэтулькі год».

Марыць пра нешта незвычайнае ў жыцці, хоча зрабіць яшчэ нешта значна большае, што зроблена. Хоць зроблена многа. Зроблена з душэўнай аддачай. Смерць напаткала яго за работай, работай знешне быццам нязначнай, але так патрэбнай для іншых. Трахім вязе соль калгаснікам, якія паехалі касіць, і па дарозе памірае. Памірае на працы, робячы добрае для іншых. Можа, больш за ўсё для іншых. У апошнія хвіліны жыцця, у паўзабыцці, Трахім думае, што «недарэмна пражыў сваё жыццё. У вёсцы стаіць зрубленая яго рукамі хата, расце пасаджаны ім сад... У горадзе жыве сын, яго сын Раман, унук Артурык...

Паднімаецца ўгору, імкне да святла, да сонца... пасаджаны таксама яго, Трахімавымі, рукамі хвойнік... А колькі пахадзіў ён за плугам, пераараў зямлі? Колькі памалаціў збажыны, нарыхтаваў стагоў сена, памалоў зерня, колькі папасвіў кароў». І няма тут нічога незвычайнага, хоць трохі выключнага. Звычайнае жыццё звычайнага чалавека, селяніна-працаўніка. Затое якая жыццёвая моц, натуральнасць, пэўнасць!

Глыбока народныя, засвоеныя спрадвеку адносіны да жыцця, да навакольнага свету ўласцівы бабе Адарцы («Навальніца», 1975 г.). Драматызм яе лёсу — у пэўнай несуадпаведнасці бурнага тэхнічнага прагрэсу і ўстойлівага, традыцыйнага, чалавечага бытавання і светаўспрымання. Значныя пераўтварэнні ў свеце, як і ў грамадска-сацыяльных узаемаадносінах, ніколі не абыходзяцца для чалавека без болю.

За вякі ва ўзаемаадносінах чалавека з навакольным светам выпрацаваліся пэўныя законы ўзаемаўзгодненасці, натуральнай раўнавагі. Усялякае парушэнне гэтае раўнавагі, гэтай узаемаўзгодненасці адразу ж адбіваюцца негатыўна на чалавеку. У гэтым сэнсе апавяданне «Навальніца» пасля Чарнобыля чытаецца паасабліваму. У ім як бы адчуваецца, бачыцца папярэджанне ад таго, што адбылося, і ад таго, што можа нас чакаць.

Іншы бок глабальных і разам з тым самых канкрэтных (што называецца на бытавым, штодзённым узроўні) узаемаадносін чалавека з навакольным светам паказаны Сачанкам у адным з лепшых яго апавяданняў «Ваўчыца з Чортавай Ямы» (1975). Пафас твора скіраваны супраць бяздумна-жорсткіх адносін да свету жывой і нежывой прыроды. Тактоўна, неназойліва, усім эмацыянальным ладам і мастацкай логікай сцвярджаецца думка: усялякая бяздушная жорсткасць чалавека ў адносінах да жывога і нежывога навакольнага свету выклікае жорсткасць у адказ, парушае ўсталяваную ў свеце раўнавагу, пэўнасць. Думка сама па сабе, можа, не такая ўжо і новая. Але ў мастацтве мае сэнс яе канкрэтнае ўвасабленне, мастацкае абгрунтаванне.

Палессе, светлае дзяцінства, драматычны і трагічны час вайны — вось той жыццёвы матэрыял, які стаў рэальнай асновай творчасці Барыса Сачанкі. Да таго ім уведаны, пражыты, усвядомлены. Матэрыял выключна багаты, складаны. Беручы розныя рэальныя гісторыі, падзеі, розныя жыццёвыя сітуацыі, калізіі, па-мастацку іх распрацоўваючы, даследуючы, пісьменнік у іх і праз іх вывярае і правярае чалавека. І аказваецца, што чалавек гэты розны, розны і па-рознаму сябе паводзіць у розных сітуацыях. Супрацьстаяць грубай, нярэдка жорсткай сіле абставін, не паддацца іх уздзеянню і, урэшце, не падпарадкавацца ім удаецца не кожнаму і не заўсёды. Хутчэй атрымліваецца так, што, раз паддаўшыся іх уздзеянню, чалавек поўнасцю трапляе пад іх уладу. А яны, абставіны гэтыя, даволі зменлівыя — грамадзянскія, сацыяльна-бытавыя.

У гэтым сэнсе характэрныя аповесці «Не на той вуліцы» (1970) і «Запіскі Занядбайлы» (1974). З’ява, якой прысвечаны і супраць якой скіраваны гэтыя творы, — вельмі небяспечная — была і ёсць — у жыцці грамадства. З’ява гэтая — бездухоўнасць, спажывецкія адносіны да жыцця. Чалавек, пазбаўлены высокіх духоўных памкненняў, чалавек, які згубіў ці нават і не знайшоў у жыцці сваю сапраўдную дарогу, сваё годнае месца, такі чалавек згублены для грамадства, асабіста проста абкрадзены. Такімі з’яўляюцца і Занядбайла ў сваіх запісах,

і Тарасюк («Не на той вуліцы»). І ў аднаго, і ў другога няма моцнага ўнутранага духоўнага стрыжня, жыццёвай пэўнасці і ўстойлівасці. Такі чалавек ва ўсім падуладны непасрэдным абставінам, больш таго, усяляк імкнецца выкарыстаць гэта дзеля сваіх асабістых, нярэдка дробных інтарэсаў. Гэта мешчанін савецкага часу.

Ды і сёння ён не звёўся. Асноўны сродак яго ўзаемаадносін з грамадствам (ды і з іншымі людзьмі) — дэмагогія, спекуляцыя высокімі словамі, паняццямі, гульня ў шчырасць і даверлівасць.

Сам пісьменнік гэтым творам выкрывальнага характару надаваў асаблівае значэнне. Яны для яго каштоўныя адкрытым, прамым выяўленнем яго грамадзянскай пазіцыі. Аўтар нібы спадзяецца на непасрэдную жыццёвую рэакцыю чытача, на прамы станоўчы вынік. Але аб’ектыўныя законы мастацтва не заўсёды падуладны суб’ектыўнай волі пісьменніка, не заўсёды супадаюць з ёй. Законы мастацтва патрабуюць не проста непасрэднай рэакцыі, не проста выяўлення асабістых адносін, а глыбокай перажытасці, вынашанасці ўнутранай. Час крышталізуе маральныя ацэнкі, дае магчымасць канкрэтнаму чалавеку асобную падзею бачыць глыбінна, у суаднесенасці з лёсам іншых, з падзеямі вялікага жыцця.

Горад, а якраз з ім ідэйна і тэматычна звязана большасць твораў Барыса Сачанкі, прысвечаных сучаснасці, ён ужо сам па сабе не ў такой ступені духоўна глыбокі, як вёска. Ён выключна рухомы, зменлівы, менш пэўны. Асабліва горад сучасны, у значнай ступені малады. Тым больш, калі ён бачыцца вачыма вяскоўца, пасляваеннага вяскоўца, успрымаецца яго сэрцам.

Для мяне, у прыватнасці, найбольш блізкія тыя творы пісьменніка, у падзейнай, жыццёвай аснове якіх яго асабісты духоўны і душэўны вопыт, факты яго біяграфіі, тое, што выверана ўжо часам, вопытам іншых людзей. Найперш гэта творы пра родны кут, пра Палессе, шматпакутны і высокі лёс людзей яго.

Барыс Сачанка жыў актыўным творчым і грамадскім жыццём. Асабліва ў гады перабудовы і нядоўгага нацыянальнага адраджэння. Дзейнасць грамадская і творчасць літаратурная былі для яго непадзельныя. Бо клопат адзін тут і мэта адна — нацыянальнае духоўнае адраджэне. Праз гады і яго творчасць, і яго грамадская дзейнасць успрымаюцца не толькі самі па сабе, а як выяўленне даволі пэўнай глыбіннай грамадска-літаратурнай тэндэнцыі. А менавіта — выяўленне, надзвычай характэрнае, адметнае, глыбінных духоўных намаганняў, памкненняў пакалення, якое шмат перажыло, пабачыла, шмат адчула болю, пакалення, якое жыло ў высокім унутраным напружанні, якое актыўна адраджала і мацавала духоўныя асновы нацыі.

Выступаючы на X з’ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі (красавік 1990 г.), Барыс Сачанка гаварыў: «...Мы, беларусы, шчаслівыя і разам з тым няшчасныя людзі. Шчаслівыя, бо ў нас, як у большасці народаў, ёсць свая зямля, свая мова, свая культура, сваё мінулае і сваё будучае. Няшчасныя, бо, маючы, здаецца, усё, што трэба, мы тым не менш не мелі цягам стагоддзяў сваёй дзяржаўнасці. І не мелі не таму, што не дараслі да яе ці не хацелі, а таму, што, як пісаў Якуб Колас:

Тут схадзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць,
А нас цяжка ў сэрца раніць,
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынесці на здзек,
Каб у віры той ашукі
Знішчыць нашы ўсе сляды,
Каб не ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.

І кожны, хто прыходзіў з агнём і мячом на нашу зямлю, прыносіў сюды і свае парадкі, імкнуўся, калі не фізічна знішчыць нас, дык духоўна».

Разуменне і веданне драматызму гісторыі Беларусі, яе народа, яго пастаянных духоўных высілкаў, каб выжыць, разуменне і веданне, набытае і ў выніку грамадскіх гістарычных змен, і дзякуючы асабістым намаганням Сачанка актыўна імкнуўся аддаць і перадаць іншым. Якраз гэтаму была падпарадкавана яго творчая энергія.

Для ўстойлівага адчування, разумення сучаснасці, вызначэння перспектыўных шляхоў у будучыню патрэбна была грунтоўная рэальная аснова ў мінулым — і далёкім, і больш блізкім, можна сказаць, учарашнім. А тут столькі было неадкрытага, заблытанага, памылковага, палітычна тэндэнцыйнага — таго, што не давала магчымасці правільна зарыентавацца ў гістарычным часе, вызначыць сваё ўстойлівае месца ў геапалітычнай прасторы. Сам пачатак нацыянальнага адраджэння патрабаваў не толькі збірання, яднання, дэманстрацыі ўсіх нацыянальна свядомых сіл сучаснасці, але і пошуку ў мінулым нацыянальных асноў адраджэння, паказу, выяўлення драматычных і трагічных падзей мінулага, ролі асобы ў гістарычным працэсе. У тагачасных гістарычных ведах была ўвогуле бедная, аднабаковая рэальная аснова. Тыя факты, на падставе якіх рабіліся пэўныя гістарычныя вывады, былі бедныя, часта падабраныя тэндэнцыйна. Каб паверыць у якіясьці новыя высновы, патрэбны былі факты. Факты, раней нярэдка невядомыя ці то тыя, якія па тых або іншых прычынах раней утойваліся. Гэта быў адзін з самых істотных, самых актуальных аспектаў грамадска-публіцыстычнай дзейнасці таго часу. Сачанка адчуваў гэта, усведамляў, самааддана працаваў у гэтым кірунку.

Якраз у гэты час, час перабудовы і пачатку нацыянальнага адраджэння, піша ён пра невядомыя ці то мала вядомыя старонкі жыцця і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, піша пра Францішка Скарыну і Януша Радзівіла, М. Доўнар-Запольскага і В. Ластоўскага, А. Гаруна і К. Сваяка, Я. Лёсіка і Л. Геніюш, піша пра Мураўёва-вешальніка і Л. Бэндэ... Творы гэтыя адкрыта публіцыстычныя. Але іх публіцыстычнасць грунтуецца на багатым фактычным матэрыяле, яе эмацыянальны лад як бы выверагы і ўзмоцнены гістарычнай рэальнай асновай і тагачаснымі патрэбамі нацыянальнага жыцця.

«Па слядах Скарыны» (1989) — своеасаблівы падарожны дзённік з багатымі матэрыяламі, прысвечанымі жыццю і творчай дзейнасці першадрукара за межамі бацькаўшчыны. Наведванне Скарынавых мясцін дае магчымасць аўтару гаварыць і пра Скарыну, і пра тых, хто ўжо значна пазней быў вымушаны і меў магчымасць там жыць і працаваць.

Прага... «Асабліва вялікая калонія беларусаў жыла ў Празе на пачатку дваццатых гадоў нашага стагоддзя. Чэшскі ўрад спачуваў беларусам, дапамагаў, нават выдзеліў некалькі стыпендый. Можа, таму, што чэхі ведалі, як цяжка ідзе адраджэнне народа — прайшлі ж самі праз гэта». Сачанка згадвае, называе прозвішчы тых беларусаў (палітычных дзеячаў, людзей літаратуры і мастацтва), хто знайшоў там гасцінны прытулак у першай палове XX стагоддзя, расказвае пра тагачасныя літаратурныя сувязі дзвюх краін. Наведванне бібліятэкі, могілак зноў жа выклікае ўспаміны, згадкі пра тых сыноў зямлі беларускай, чый жыццёвы і творчы лёс выходзіў па тых ці іншых прычынах за межы роднага краю. Шырока, досыць падрабязна расказваецца перш за ўсё пра лёс Скарыны, звязаны з гэтым славутым горадам.

Нарысы «Здраднік» (1989) і «Доўнар-Запольскі» (1990) уяўляюць сабою своеасаблівыя невялікія жыццяпісы: першы пра гетмана Вялікага Княства Літоўскага, другі пра «шырока вядомага ў свой час і на Украіне, і ў Расіі, і ў Беларусі вучонага і педагога». Фігуры гэтыя цікавяць пісьменніка не самі па сабе (хоць ёсць і гэты момант), а ў сувязі з тымі працэсамі (рэальна-гістарычнымі і гісторыка-тэарэтычнымі), што суадносіліся даволі выразна з дзяржаўным і нацыянальным самавызначэннем нашага народа. Увесь змест гэтых твораў моцна праецыраваны на сучаснасць. Увогуле трэба зазначыць, што, па сутнасці, уся публіцыстычная

творчасць Сачанкі ідзе ад сучаснасці (тагачаснай), народжана ёю ды, відаць, і натхнёна ёю. Бо адносна спакойна, неўсхвалявана, з халодным розумам і з халодным сэрцам пісаць пра такія рэчы і ў такі час нельга.

Характэрна, што нават у такіх аналітычных, багата дакументальна насычаных творах, як «Мураўёў-вешальнік» (1989), «Бэндэ (30-я ў абліччах і дакументах)» (1988), эмацыянальны лад вызначае публіцыстычнасць. Прозвішча Мураўёва быццам бы не новае ў нашай гісторыі. Дадатак «вешальнік» звязаны з падзеямі паўстання 1863 года. Але гэта толькі адзін момант яго біяграфіі — асноўны. Сачанка, спасылаючыся на шматлікія дакументы XIX стагоддзя, прасочвае паслядоўна, як гэты, па словах А. І. Герцэна, «рабалепны нахабнік, выкрыты казнакрад — выкрывальнік злоўжыванняў, кат, інквізітар», які з 1826 г. звязаў свой лёс з нашым краем, паслядоўна, мэтанакіравана русіфікаваў яго, вынішчаючы, ліквідуючы любыя праявы нацыянальнага жыцця.

Па яго хадайніцтве імператар Мікалай I выдаў 1 студзеня 1839 года закон аб адмене Літоўскага статута і забароне карыстацца беларускай мовай у судах і афіцыйных установах па ўсёй тэрыторыі Беларусі. У тым жа годзе ён прапанаваў зачыніць Віленскі ўніверсітэт, у якім з 48 выкладчыкаў 36 былі беларусамі. Зноў жа ў 1839 годзе па яго прапанове была скасавана Унія, казанні на беларускай мове ў цэрквах і касцёлах. У 1840 годзе было забаронена афіцыйнае ўжыванне назваў Беларусь і Літва. Быў непахісным абаронцам прыгону. Асабліва праявіў сябе ў час паўстання ў Заходнім краі ў 1863 годзе... Назначаны генерал-губернатарам Віленскай губерні, ён жорстка пачаў распраўляцца з паўстанцамі і тымі, хто памагаў ім. У Сібір было выслана за пяць тысяч чалавек з хутароў і вёсак. Мураўёў наняў цэлую армію даносчыкаў. Ён падтрымаў сваёй рэзалюцыяй судовае рашэнне аб павешанні Кастуся Каліноўскага: «Згодзен. Выканаць прысуд у Вільні». Вялікая заслуга губернатара ў тым, што ён зрабіў «по умиротворению и обрусению» краю, каб навечна прыяднаць яго да Расіі. Сачанка, цытуючы дакументы, сведчанні сучаснікаў, паказвае, як усё гэта праводзілася — нахабна, бесцырымонна. Становіцца шмат што зразумелым і з сучасным нацыянальным самасцвярджэннем і самавызначэннем.

Іншы час, іншая эпоха, іншая, спецыфічна духоўная, сфера нацыянальнага жыцця асветлена ў нарысе «Бэндэ». Характэрны тут падзагловак «30-я ў абліччах і дакументах» і пазнейшы дадатак «А суд гісторыі цяжкі?» (1988). Бэндэ тут з'яўляецца фігурай, якая ўвасабляе час, яго палітычную і духоўную сутнасць. Ён прадукт гэтага часу, і яго актыўны творца, увасабленне яго зместу, сутнасці. Часу даносаў, паклёпаў, беспадстаўных абвінавачанняў, палітыканства. Бэндэ быў такі не адзін. Можа, найбольш поўна і ярка ўвасабляў гэты крывава-змрочны час. І актыўна твaрыў. Сачанка багата выкарыстоўвае, цытуе дакументы, факты. Паказвае вынікі. Яны жахлівыя. У канцы нарыса даецца спіс беларускіх пісьменнікаў, якія «ў гады Сталіна арыштоўваліся, высылаліся, сядзелі ў турмах і лагерах, былі асуджаны, расстраляны». Іх 66. Толькі некалькі іх вярнуліся пасля рэабілітацыі. Яшчэ зазначаецца, што пасля 1937 года «ў складзе пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі асталося менш 40 чалавек». Названы прозвішчы 38 чалавек. Вывад гэтага перапоўненага чалавечым болем твора адназначны: пра мінулае трэба ведаць усю праўду, якой бы горкай яна ні была — каб будаваць годную будучыню, каб больш-менш нармальна пачуваць сябе ў сучаснасці. Гэта неабходна і для народа, і для асобнага чалавека.

Адмаўляючы шмат што з мінулага, засцерагаючы ад яго жыццё сучаснае, пісьменнік імкнуўся ўзяць адтуль усё станоўчае, карыснае для развіцця нацыянальнай культуры, літаратуры, наогул для нацыянальнага самасцвярджэння. На тым этапе (не менш і сёння, калі не больш) развіцця нашай дзяржавы галоўным было (і ёсць) памнажэнне нацыянальнага духоўнага багацця, узбагачэнне, пашырэнне і паглыбленне асноў беларускасці. Гэтай ідэяй пранізана ўся публіцыстыка пісьменніка, уся яго грамадская дзейнасць.

У сваёй публіцыстыцы Б. Сачанка не адзін раз дае цэлыя спісы прозвішчаў вядомых людзей, што ў свой час так ці інакш прычыніліся да духоўнага жыцця, гісторыі нашага краю, да іх вывучэння. Спісы тут сведчаць за адно: за імі лёс літаратуры, гісторыі, мовы, краязнаўства, а не толькі аднаго творцы. У «Думках уроссып» ідзе пералік імёнаў: Я. Чачота, У. Сыракомлі, І. Насовіча, Е. Раманава, М. Нікіфароўскага, А. Кіркора, П. Шпілеўскага, П. Шэйна, П. Бяссонава, А. Сапунова, М. Доўнар-Запольскага, М. Любаўскага, П. Уладзімірава, Я. Карскага, А. Сержпутоўскага, М. Федароўскага, Ч. Пяткевіча, К. Мышынскага... Пытае (пытанне і сёння гучыць у не меншай ступені актуальна): «Што ведаем сёння мы пра гэтых людзей, што зрабілі і робім дзеля вывучэння і прапаганды іх вялікай і такой каштоўнай творчай спадчыны?» Ушчувае за абыякавасць да свайго мінулага, усяго таго, што пакінулі папярэднікі.

Увогуле ў непрацяглы перыяд нашага нацыянальнага адраджэння Барыс Сачанка самую моцную духоўную падтрымку знаходзіў у мінулым народа. У 1991 годзе з хваляваннем, гонарам, верай піша: «Пра нашы казкі, песні, прымаўкі, наогул фальклор сказана і напісана нямала самых хвалебных слоў. І справядліва сказана і напісана! Бо ў нашым фальклоры ёсць усё — шматвяковы вопыт, мудрасць, вера ў лепшую будучыню, мары і спадзяванні. І, вядома ж, тое, што гадамі будзе набываць яшчэ больш вагі і вартасці — слова наша, мова — золата, якое ніхто ў нас не адніме ні пры якіх акалічнасцях, яно будзе з намі, пакуль жывём, саграваe нас, даказвае ўсім, што мы не бязроднае племя, а народ, маем такое багацце, якое ніхто не меў і мець не будзе. Яно было і будзе наша!»

То быў наш час вялікай веры і надзеі...

Вось яшчэ адзін характэрны запіс гэтага часу — 1991 г. Сачанка ўзгадвае, як, працуючы ў свой час у часопісе «Полымя», рыхтаваў да друку рукапісныя творы Максіма Гарэцкага. Прачытаў на адной старонцы лірычнае адступленне, якое яго моцна ўразіла. Перадае яго змест: «М. Гарэцкі звяртаўся да Усявышняга, Валадара нашага: «Божа, навошта даў ты мне гэтую беларускую мову? За яе мяне праследавалі палякі, немцы, садзілі ў турму бальшавікі. Усё маё жыццё — суцэльная пакута. І праз што — мову, якую ты даў мне быццам на радасць, каб я размаўляў на ёй і славіў цябе».

І, нягледзячы ні на што, М. Гарэцкі не выракся сваёй роднай мовы, гаварыў і пісаў на ёй. Да самога скону, да апошняй хвіліны жыцця...»

Падкрэслім яшчэ раз, час, тыя палітычныя і духоўныя зрухі, што адбыліся ў 2-й палове 80-х гадоў, актывізавалі грамадзянскія пачуцці і памкненні пісьменніка, прымусілі, далі магчымасць на развіццё нацыянальнай літаратуры паглядзець глыбей і шырэй. Паспрабаваць далучыць да нацыянальнага мацерыка роднасныя землі, адарваныя ад яго па тых ці іншых прычынах у той або іншы час. Было моцнае імкненне зрабіць, падаць гістарычны грунт больш глыбокім, геаграфічна больш шырокім — як духоўную аснову нацыянальнай дзяржавы. Сачанка першы звярнуўся да шырокага гістарычнага разгляду і асэнсавання такой з’явы, як беларуская эміграцыя. У 1988 годзе ў часопісе «Маладосць» (№ 10, 11) была надрукавана яго грунтоўная праца «Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні», як сведчыць аўтар, «плён... шматгадовых назіранняў, роздумаў і пошукаў». Твор выклікаў немалую цікавасць. Аўтар атрымаў лісты ад некаторых, пра каго пісаў, меў вусныя сведчанні тых, хто ў свой час ведаў будучых прадстаўнікоў эміграцыі, асабліва літаратурнай. У наступным годзе піша дадатак — «У працяг размовы». Выйшла некалькі выданняў «Беларускай эміграцыі». На сённяшні дзень гэта, напэўна, адно з самых грунтоўных і шырокіх па ахопе фактаў даследаванняў гэтага мацерыка нацыянальнага жыцця — няпростага, драматычнага, а то і трагічнага, але глыбока пранізанага нацыянальнай ідэяй.

Сачанка прасочвае шляхі высялення — перасялення беларусаў яшчэ да ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага. Найбольшую ўвагу акцэнтуе на XX стагоддзі і на эміграцыі палітычнай. То была эміграцыя, выкліканая Першай сусветнай

вайной, рэвалюцыяй, падзелам Беларусі паводле Рыжскага мірнага дагавору, асабліва — Другой сусветнай вайной: тут была эміграцыя і прымусовая, і вольная. Тлумачачы характар і прычыны (найчасцей рэлігійнага і нацыянальнага зместу) першай беларускай эміграцыі, пісьменнік асабліва вылучае постаці ксяндза Язэпа Германовіча (пісьменнік Вінцук Адважны), спевака Міхася Забэйды-Суміцкага, паэтаў Ларысы Геніюш і Уладзіміра Жылкі.

Найбольш складаныя, супярэчлівыя, неадназначныя па сваіх прычынах і матывах эмігранцкія лёсы тых, хто апынуўся за межамі сваёй краіны пасля Другой сусветнай вайны. Сачанка гаворыць пра іх літаратуру, мову, паэзію, крытыку, пераклады, пра спевакоў, мастакоў, кампазітараў, вучоных, найбольш вылучаючы тых, хто звязаны з літаратурай. А ўсё гэта выклікала жаданне, дало магчымасць яму пазнаёміць беларускага чытача і з яе канкрэтнымі з’явамі, асобамі. У выніку з’явіліся асобныя часопісныя публікацыі, а ў 1992 годзе анталогія паэзіі беларускай эміграцыі «Туга па Радзіме». Укладанне анталогіі, прадмова і невялікія біяграфічныя даведкі былі зроблены Барысам Сачанкам. У канцы прадмовы ён пісаў: «Туга па Радзіме» — гэта спроба вярнуць на Бацькаўшчыну тое, што ёй па праве належыць. Будзем спадзявацца, што ўслед за першай ластаўкай прыляціць, вернецца з доўгага выраю і ўсё, што таго заслугоўвае». Дзесьці так яно і атрымалася. Праўда, у малой ступені. Сам аўтар-складальнік анталогіі яшчэ да гэтага непасрэдна прычыніўся да выдання кніг прозы Масея Сяднёва і паэзіі Ларысы Геніюш. А яшчэ да гэтага, у верасні 1989 года, была запісана гутарка са спеваком Данчыкам і яго маці Юляй Андрусішынай, а ў чэрвені 1990 года — вялікая гутарка з тым жа Масеем Сяднёвым. У той жа анталогіі багата і featuring рознабакова была прадстаўлена паэзія Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, Алеся Салаўя, досыць шырока — Хведара Ільяшэвіча, Уладзіміра Дудзіцкага, Янкі Золака, Уладзіміра Клішэвіча, Міхася Кавыля, Янкі Юхнаўца, асобнымі, найбольш характэрнымі, прыкладамі — паэтычная творчасць Вінцука Адважнага, Рыгора Крушыны, Алеся Смаленца, Алеся Змагара, Сяргея Ясеня, Анатоля Бярозкі.

У 1994 годзе выйшла кніга «На суд гісторыі». Укладзена яна была зноў жа Барысам Сачанкам. Ім была напісана невялікая прадмова, зроблены кароткія нататкі пра аўтараў. То была кніга ўспамінаў розных аўтараў, якія «друкаваліся ў пераважнай большасці на старонках выданняў, што выходзілі за межамі Беларусі». Успаміны ў пераважнай большасці прысвечаны асобным старонкам жыцця і творчасці найбольш вядомых беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў культуры. Як зазначае ўкладальнік, успаміны — «гэта ж жывыя галасы свайго часу, далёкага ці ўсім блізкага мінулага, уражанні і думкі сведак падзей, што так ці інакш прычыніліся да гісторыі Беларусі». Увогуле такія кнігі, як «Туга па Радзіме», «На суд гісторыі», пераканаўча сведчаць, якія нацыянальныя духоўныя набыткі яшчэ трэба нам прымаць і асвойваць у нашым агульным беларускім духоўным свеце.

Час, новыя ўмовы духоўнага жыцця далі магчымасць паглядзець на свет шырока, убачыць, што багатай, адметнай з’яўляецца літаратура на роднай мове, што ўсё ж шырока ў свеце гучыць беларускае слова. «Дзе толькі, у якіх краях не жывуць цяпер беларусы... Раз’ехаліся, разбрыліся па ўсім, можна сказаць, свеце. Ёсць і такія, што жывуць быццам дома, на спрадвечнай бацькоўскай зямлі, і, аднак, не ў Беларусі, як, напрыклад, Беласточчыне — жыхары блізкіх да Белавежскай пушчы вёсак і мястэчак», — так пачынаўся Сачанкаў нарыс «На зямлі беластоцкай». То была яшчэ адна ўсхваляваная старонка пра этнічна беларускі куток, яго духоўнае жыццё, літаратуру. Пра вядучых літаратараў краю (даючы ім слова) — Алеся Барскага, Віктара Шведа, Сакрата Яновіча, Яна Чыквіна, Надзею Артымовіч.

Знаёмячыся з літаратурай беларускай эміграцыі, з літаратурай Беласточчыны, адкрываючы ўсё новыя старонкі беларускай мінуўшчыны, Барыс Сачанка ўсё больш, яшчэ і яшчэ раз пераконваўся ў тым, што жыло ў душы яго з самага ранняга дзяцінства, што мацавалася ў дні выгнання ў Нямеччыну, што вызначала яго

шлях у жыцці, а менавіта: мова — найвышэйшая адзнака адметнасці чалавека і народа, галоўны паказчык іх натуральнасці і свабоды бытавання ў свеце. На ўсім жыццёвым і творчым шляху пісьменніка пытанні драматычнага мінулага роднай мовы, не менш драматычнага тагачаснага яе становішча, няпэўны лёс (а сёння гэта добра відаць) яе ў будучым сталі для яго аднымі з самых важных. Да іх ён звяртаўся пастаянна — у нарысах, артыкулах, эсэ, у інтэрв'ю, гутарках, дзённікавых запісах... Піша пра мову мастацкай літаратуры, пра выкладанне мовы ў школах, вышэйшых навучальных установах, пра афіцыйны статус роднай мовы, пра адсутнасць дзяржаўнай абароны нацыянальнай літаратуры і мовы.

Сачанка — як творца, як чалавек — заўсёды быў актыўна ўключаны ў нацыянальны літаратурны працэс. Часта выступаў на з'ездах, на пленумах пісьменніцкай арганізацыі па актуальных пытаннях развіцця прозы, крытыкі, літаратуры для юнацтва і дзіцячай літаратуры. Усе гэтыя матэрыялы друкаваліся. Публіцыстыка была працягам грамадскай дзейнасці, грамадская дзейнасць — рэалізацыяй пэўных ідэй і палажэнняў публіцыстыкі. Свае погляды, ідэі, меркаванні пісьменнік актыўна даводзіў да шырокага чытача, дзякуючы шматлікім інтэрв'ю, гутаркам з карэспандэнтамі газет, часопісаў. Асабліва адчувальна было гэта ў 2-й палове 80-х гадоў. Менавіта ў гэты час разгорнутыя актуальныя гутаркі па надзённых пытаннях літаратурнага працэсу і наогул грамадскага жыцця з'явіліся на старонках газет «Советская Белоруссия», «Літаратура і мастацтва», «Голас Радзімы», «Ніва» (г. Беласток, Польшча), у часопісах «Беларусь», «Маладосць», у зборніку «Вобраз-89». А ўвогуле матэрыялы публіцыстыкі, літаратурнай крытыкі, эсэістыкі даволі поўна прадстаўлены ў кнігах пісьменніка «Жывое жыццё» (1985), «Сняцца сны аб Беларусі». (1990), «Трэцяе вока» (1992).

Прайшоў час. І ўжо сёння, чытаючы гэтыя матэрыялы, бачыш, як глыбока быў пагружаны Сачанка ў літаратурны свет, а найперш у нацыянальны літаратурны працэс, як шырока яго бачыў, адзначаў і яго дасягненні, набыткі, і пэўныя слабасці, правільна акрэсліваў месца таго ці іншага творцы ў літаратуры. Ацэнкі, высновы гэтыя час пацвердзіў.

5 ліпеня 1995 года Барыса Сачанкі не стала. Памёр раптоўна. За рабочым сталом галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Творчасці аддаў няпоўныя 40 гадоў. Творчы плён багаты, значны. Аснова яго — жыццёвая біяграфія пісьменніка, якая супала з лёсавызначальнымі падзеямі ў жыцці краіны. Ён быў уважлівы сведка і актыўны ўдзельнік тых падзей. Мэта творчасці яго — служэнне Беларусі, роднаму слову. І гэта рабіў ён сумленна, аддана.



Святлана ДЗЯНІСАВА

# «ШАЛЁНЫЯ МІГРЭНІ Ў МЯНЕ ТРЫ ДНІ ЗРАБАВАЛІ»

## *Гамеапатычны падыход у раскрыцці невядомых рыс асобы Элізы Ажэшкі*



Як сказаў у адным сваім дакладзе амерыканскі літаратар-славіст, прафесар Каліфарнійскага ўніверсітэта Дэніел Ранкур-Лафер'ер, хто-небудзь калі-небудзь наважыцца напісаць псіхалагічную біяграфію Талстога, але гэта зробіць не ён, таму што стварэнню сапраўднай — псіхалагічнай! — біяграфіі Талстога трэба прысвяціць усё жыццё, а ён такім запасам часу не валодае. А хто валодае?

Размова — і ў прыведзенай цытаце, і ў гэтым артыкуле — не толькі пра тое, што звычайныя, «акадэмічныя» біяграфіі вядомых персон з'яўляюцца часам справай «неабдымнай», але і пра тое, што «на выхадзе» яны аказваюцца аднабокімі, часам перакрыўленымі, у нечым надуманымі і ўжо дакладна пазбаўленымі той глыбіні, якую маглі б мець, калі б уяўлялі сабой біяграфіі іншага кшталту — збудаваныя на падмурку ўнутраным, псіхалагічным (а нават і псіхафізіялагічным), а не толькі на фактах жыцця і аспектах творчасці.

Пачнём, як ужо зразумела, здалёк. Уявіце сабе, што ў вас ёсць ідэя стварыць біяграфічны раман на падставе багатага дакументальнага матэрыялу. Вы ўжо прачыталі кілаграмы тамоў, якія ўтрымліваюць кіламетры лістоў, адпраўленых некалі вашым героем яго сучаснікам і атрыманых ім ад іх. Вы ўжо дастаткова натхніліся тым, што было зроблена гэтай асобай на працягу жыцця, несумненна, вартага ўвагі і ўвогуле вартага. Вы ведаеце як звалі яго жонку і сабаку і кім сталі яго дзеці (і ўжо стаміліся абурацца тым бясспрэчна відавочным — хоць і неверагодным — фактам, што легендарныя асобы мінулага часцей за ўсё цікавяць каго заўгодна, нават такіх як вы, але чамусьці амаль ніколі не цікавяць іх уласных родных). І вось вы нарэшце наважваецеся пачаць. Магчыма, успамінаеце сябра ўсіх авантурных пісьменнікаў Караткевіча і яго бессмяротны выраз пра цнатлівы ліст паперы, які чакае першага пацалунка пяра. Тады вы рашаеце: «Далоў клавіятуру» — і выпраўляецеся ў краму, каб набыць самы цудоўны сшытак з усіх, якія траплялiся вам у жыцці, і такое ж цудоўнае «пёрка». Цяпер вы гатовы пісаць біяграфічны раман? Можаце пачынаць?

Уявіце сабе, што вы пачалі. Але, з'яўляючыся чалавекам уражлівым (іначай вы не пісьменнік) і ўдумлівым (іначай вы ніякі не даследчык біяграфій), вы хутка спатыкнецеся. Дакладней, спатыкнецца ваша «пёрка». Напрыклад, на тым месцы, дзе вам захочацца апісаць сняданак вашага героя. Быў бы ён вамі пры-

думаным, вы б смела пачаставалі яго тым, чым бы вам захацелася. Але ваш герой — рэальная персона. Толькі вось бяда: вы ніяк не змаглі ніадкуль даведацца, што ён любіў — гарбату ці каву? Вы прачыталі ўсе існуючыя дакументы, але ў іх такія дробязі не ўтрымліваюцца. Для вас жа як для аўтара хоць і мастацкай, але біяграфіі, хіба гэта дробязь? Аўтары біяграфічных раманаў па ўсім свеце толькі таму не акцэнтуюць увагу на некаторых момантах жыцця сваіх герояў, што проста не ведаюць гэтых момантаў. Або выдумляюць іх. Пішуць, напрыклад, як любуецца герой узыходам сонца і радуецца новаму дню. І ні на хвілінку не агортвае іх сумненне: а ці прачынаўся калі іх герой на світанні? А раптам узыходзячае сонца было пакутным для яго з прычыны парушэння здароўя? Пішуць, як рашуча і чаканна дэкламаваліся ім вершы, а ці так гэта было? Мо ён, наадварот, саромеўся, картавіў, заікаўся, глытаў кавалкі слоў і нічога не мог з сабой зрабіць…

Ідэя апісанага тут даследавання ўзнікла ад жадання стварыць жыццяпіс рэальнай гістарычнай асобы, які, няхай сабе і ўвасобіўшыся ў мастацкую форму, быў бы пазбаўлены аўтарскіх прыдумак, хоць яны і з'яўляюцца дапушчальнымі нават для дакументальнай прозы.

Пазбавіць біяграфічны тэкст хібаў кшталту «дамысліванняў» магчыма пры ўмове наяўнасці ў даследчыцкім арсенале інфармацыі настолькі вычарпальнай, наколькі гэта ўвогуле рэальна пры задзейнічанні абсалютна ўсіх сродкаў і метадаў, уключаючы і методыкі псіхааналізу, якімі карыстаюцца ў стварэнні партрэтаў даследуемых персон і згаданы ў першым абзацы Ранкур-Лафер'ер, і іншыя літаратары-навукоўцы. Набліжаючыся да тэмы, акрэсленай у загалоўку, — прынамсі да асобы Элізы Ажэшкі, — зазначым, што польская даследчыца літаратуры прафесар Данута Данэк (у полі інтарэсаў якой знаходзіцца і лёс нашай пані Элізы) спрабуе для стварэння псіхалагічных партрэтаў вядомых пісьменнікаў мінулага задзейнічаць аналіз фабул, метафар і вобразаў, выкарыстаных імі ў мастацкай творчасці, а таксама ўражанняў і рэмінісцэнцый, якімі спярэшчаны іх аўтабіяграфічныя тэксты. Якраз Данута Данэк у сваіх працах і наракае на неаб'ектыўнасць даследчыкаў, якія «ўводзяць у зман чытачоў, скажаючы вобраз пісьменніка». Элізу Ажэшку яна «пасадзіла» на кушэтку доктара Фрэйда, ператварыўшы пісьменніцу ў пацыентку і такім чынам зрабіўшы спробу тлумачэння яе хранічнай меланхоліі акалічнасцямі дзяцінства — стратай бацькі і старэйшай сястры, дэспатычнасцю маці, працяглым расстаннем з домам, а ў дадатак — наступствамі ранняга неабдуманага замужжа і нераздзеленага кахання.

Данута Данэк «вадзіла» пані Элізу да псіхааналітыка, а мы «запішам» яе на прыём да ўрача-гамеапата. Прычына і мэта такога дзеяння можа падацца незразумелай для тых, хто не знаёмы блізка з сутнасцю гамеапатыі, таму паведамім тут коратка і вобразна і прычыну, і мэту звароту, і сутнасць гамеапатыі адначасова — у той ступені, якая спатрэбіцца для разумення далейшага расповеду.

Гамеапатыя як медыцынскі напрамак адрозніваецца ад алапатыі («традыцыйнай медыцыны») тым, што яе сродкі ўздзейнічаюць на хворага, а не на хваробу[1].

---

[1] Пра тое, што яны яшчэ і выбіраюцца паводле прынцыпаў «малых доз» і «падабенства ад адваротнага» (напрыклад, калі цыбульны сок выклікае ў чалавека слёзацячэнне і нешта накшталт насмарку, прымушаючы нагадваць сабою хворага ў першыя дні вострай рэспіраторнай інфекцыі, дык у выпадку наяўнасці такой інфекцыі лячыцца трэба якраз «цыбульным сокам» — прэпаратам Alium сера, які створаны на яго аснове і ўтрымлівае ад яго літаральна «сляды»), гаворка тут не вядзецца. Але адзначым, што іранізаваць над такім метадам лячэння (як гэта робяць некаторыя) не варта: хвароба ў гамеапатыі — гэта не сведчанне пашкоджання здароўя (як у алапатыі), а спосаб яго ўзнаўлення, які патрабуе ўздзеяння на арганізм «прычыннага» рэчыва ў малой колькасці па той прычыне, што пры хваробе мяняецца лабільнасць тканак, у іх узнікае мясцовае «перанапружанне», якое праяўляецца парушэннем функцый і характарызуецца тым, што моцныя раздражняльнікі не ўспрымаюцца ніяк, а ўспрымаюцца толькі слабыя і спецыфічныя.

З таго, што становіцца вядомым урачу падчас размовы з пацыентам, складаецца пэўны вобраз хворага, які выводзіць урача на вызначэнне канстытуцыйнага тыпу асобы і адпаведнага — канстытуцыйнага — прэпарата. *Канстытуцыйным тыпам* у гамеапатыі прынята лічыць спосаб фізіялагічнай і псіхалагічнай арганізацыі біялагічнага аб’екта, якая робіць яго звышадчувальным да некаторых рэчываў — прынамсі, здольным спецыфічна рэагаваць на лекавыя сродкі ў звышмалых дозах у выніку ўзнікнення паталагічных станаў. Канстытуцыйным тыпам прынята даваць лацінскія назвы ў адпаведнасці з назвамі гэтых найбольш «характэрных» гамеапатычных прэпаратаў, якія, у сваю чаргу, носяць назву *канстытуцыйныя прэпараты*. Трэба адзначыць, што стаўленне з боку саміх урачоўгамеапатаў да вызначэння канстытуцыйных тыпаў далёка не адназначнае, гэта засведчана ў шматлікіх працах вопытных даследчыкаў. Як піша Кэтрын Култэр у «Партрэтах гамеапатычных прэпаратаў», Silicea не абавязкова мерзне, а Sepia можа выпраменьваць жыццярадаснасць і весялосць, Natrum muriaticum можа і не любіць соль, а Arsenicum album — ніяк не хвалявацца наконт свайго здароўя. Але паколькі штодзённая практыка гамеапатыі сваімі эфектыўнымі вынікамі ўпарта дэманструе слушнасць такога падыходу і паколькі самі практыкуючыя ўрачы-гамеапаты ва ўсім свеце шырока карыстаюцца дадзенымі катэгорыямі, мы кіруемся тут гэтым шляхам.

Варта даць некаторыя тлумачэнні адносна розніцы паміж гамеапатыяй і псіхааналізам. Першая ставіцца да індывідуальных рыс чалавека як да праяў яго канстытуцыі, якая ёсць сукупнасць асаблівасцей, устойлівых ад нараджэння, то бок, абумоўленых генетычна, у той час як псіхааналіз засяроджвае ўвагу на сукупнасці душэўных працэсаў і іх матывацый. Паспрабуем сказаць прасцей: псіхааналіз *выяўляе сімптомы*, накіраваныя на прыняцце рашэнняў (не абавязкова правільных), а ў гамеапатыі *сімптомы з’яўляюцца* арыенцірамі ў выбары шляхоў паляпшэння здароўя (у тым ліку і псіхалагічнага).

З усяго сказанага вынікае практычная думка: чаму б не распавесці гамеапату пра вядомыя нам сёння адметнасці Элізы Ажэшкі (яе псіхічны стан, скаргі на фізічныя недамаганні, выказаныя перажыванні, акалічнасці жыцця і творчасці) з тым каб праз іх вызначыць яе канстытуцыйны тып, а з яго даведацца пра тое, чаго зусім не ведаем (канстытуцыйныя асаблівасці, фізічныя адметнасці, рысы характару, тэмперамент, прынцыпы, закладзеныя ў паводзіны, перавагі, патрэбы, густы, звычкі, схільнасці, асаблівасці іншага кшталту)?

Ідэя «ўбачыць на свае вочы» аб’ект даследавання, які жыў дзясяткі або сотні гадоў таму, зрабіць яго «жывым суразмоўцам» урача «на прыёме» ў гамеапатычнай клініцы і рэальнай персонай для складальніка біяграфій здаецца ўтапічнай, але толькі на першы пагляд. Такім чынам, Эліза Ажэшка трапляе на прыём да ўрача-гамеапата. Anamnesis vitae і anamnesis morbi (гісторыю жыцця і гісторыю хваробы) збірае практыкуючы ўрач-гамеапат Таццяна Аляксеева (Мінск).

У анамнезах пазначаюцца:

1) факты біяграфіі, у тым ліку перададзеныя праз успаміны і дзённікавыя запісы самой пацыенткі (найбольш аб’ектыўная інфармацыя);

2) звесткі, атрыманыя з лістоў (таксама досыць аб’ектыўная інфармацыя, хоць і мае больш элементаў суб’ектыўнасці — у паспешлівых меркаваннях пацыенткі (якія яна часам сама ў наступных лістах абвяргае) і ў іх успрыманні чытачом-даследчыкам);

3) уражанні, складзеныя пасля прачытання публіцыстычных твораў (прынятыя за адлюстраванне пацыенткай яе жыццёвай пазіцыі);

4) уражанні, складзеныя пасля прачытання мастацкіх твораў (найбольш суб’ектыўная інфармацыя, без якой, аднак, агульны анамнез нельга было б лічыць поўным (наколькі гэта магчыма ў завочным даследаванні));

5) скаргі пацыенткі на фізічны і псіхічны дыскамфорт (атрыманыя з крыніц, названых у пунктах 1 і 2).

Герхард Кёлер у працы пад назвай «Гамеапатыя» адзначае, наколькі па-рознаму ў залежнасці ад «ступені адукаванасці і інтэлігентнасці» людзі, што трапілі на прыём да гамеапата, тлумачаць свае адчуванні. Асобы «простыя» апісваюць іх яскрава, выкарыстоўваючы маляўнічыя параўнанні кшталту «пячэ як агнём», «быццам іголкай коле», «як маланка бліснула». Інтэлектуалы — наадварот, саромеюцца такіх падрабязных апісанняў і «манернічаюць». А «звышінфармаваныя напаўпісьменныя ў медыцынскіх пытанях» пацыенты з’яўляюцца перад урачом з ужо гатовымі дыягназамі, якія самі ж сабе і паставілі. У другім і трэцім выпадках найпершая задача гамеапата — карэктна перавесці пацыента ў стан «непісьменнасці», папрасіць расказваць пра адчуванні простымі словамі, без выкарыстання якіх бы там ні было ведаў.

Можна меркаваць, што Эліза Ажэшка была б для ўрача-гамеапата ўзорным пацыентам, і гэта быў бы ідэальны выпадак у гамеапатычнай практыцы: простай мовай, вобразнымі параўнаннямі, без мудрагельства гаворыць чалавек адукаваны, высокаінтэлектуальны, выхаваны праз лепшыя ўзоры еўрапейскай філасофскай думкі. Бо што б ні адзначала Эліза Ажэшка, усё — праз вобразы, параўнанні, ацэначныя катэгорыі. «У нас тут цесна, як у абцугах», — піша яна пра дом у Мількаўшчыне Юзафу Сікорскаму. «Гады, як пацеркі, прабегліся па нітцы, часцей чорнай, чым чырвонай», — адзначае ва «Успамінах». «Мяркую, што з’яўляюся шчыглом, але такім, які мае спеў ладны і патрэбны ў гэтым крылатым хоры, што нагадвае людзям крылы і сферы, вышэйшыя за зямныя падолы і багны», — чытаем у «Аўтабіяграфіі ў лістах».

Свае фізічныя адчуванні яна таксама апісвае адмыслова: «Шалёныя мігрэні ў мяне тры дні зрабавалі», — скардзіцца Юзэфе Савіцкай.

«Індывідуальныя асаблівасці людзей найбольш праяўляюцца ў іх разумова-псіхічнай сферы», — піша доктар Кёлер. У гамеапатыі ж галоўнае — менавіта ўлік індывідуальнасцей. Гамеапат малюе партрэт свайго пацыента, пры гэтым фізічнае не аддзяляецца ад псіхічнага і ўзаемадзейнічае з эмацыянальным.

Значыцца, калі б на пацыентку Элізу Ажэшка была заведзена картка ў гамеапатычнай клініцы, у ёй было б пазначана наступнае:

*назіральнасць, вобразнасць мыслення, дасціпнасць; актыўнасць і прадпрымальнасць, патрэба ў давядзенні пачатага да завяршэння; самаахвярнасць, імпульсіўнасць меркаванняў з наступным шкадаваннем, удзячнасць, клопат аб людзях, патрэба ў прыязных размовах і прысутнасці побач блізкага па духу чалавека, моцная прывязанасць да пэўных асоб; патрэба ў станоўчай ацэнцы творчасці і сяброўскай парадзе, моцная прага пісьменніцкай працы, вялікая любоў да чытання; добрае самаадчуванне ў вёсцы і нецярпенне гарадскога тлуму, шуму і бруду, любоў да прыроды, інтарэс да батанікі, веданне псіхалогіі людзей, асаблівая ўвага да птушак; захапленне рукадзеллем, любоў да стужак і карункаў у адзенні; жаданне рабіць падарункі; адчуванне адзіноты, непрыязнасць да жыцця, плаксівасць, скаргі на цяжар у сэрцы і невыносны смутак — часта знешне беспадстаўны або выкліканы цішынёй, гукамі музычных інструментаў, храмавым звонам, боем гадзінніка, крыкамі мужыкоў у полі; адышка, слабасць сэрца.*

Развагі гамеапата Таццяны Аляксеевай прывялі яе да наступных высноў:

*Па канстытуцыі, сыходзячы з прадастаўленых звестак, гераіня даследавання найбольш блізкая да тыпу Natrum muriaticum. Гэта канстытуцыя людзей, якія не з’яўляюцца моцнымі фізічна. У псіхічным і псіхалагічным плане гэта людзі, якія вельмі цэняць стасункі з іншымі і пакутуюць ад іх разрываў (Natrum muriaticum — прэпарат хранічнага гора), калі здараецца ім пакахаць, то застаюцца адналюбамі.*

*Любяць соль (часцей за ўсё) і ўсё салёнае. Не любяць хлеб. У большасці інтэлігентныя, тактоўныя. Худыя (поўныя сустракаюцца радзей).*

*Алергіі, герпетычныя высыпанні і захворванні скуры ўвогуле — характэрныя. Магчыма выпадзенне валасоў. Сухасць скуры. Павышаная смага. Галаўныя болі — вельмі характэрныя. Магчымы катары і бранхіяльная астма. Анемія — магчыма. Дрэннае самаадчуванне пасля 11 гадзіны раніцы. Часцей любяць гарбату, каву — наўрад ці. Могуць пакутаваць ад хваробы вачэй: слёзацячэнне, блефарыт, неўралгія вейкавага нерва, слабасць мышц вачэй. Іншыя магчымыя дыягназы і станы: пякотка і гастрыт, дыябет, бясплоддзе, хваробы сэрца з сардэчнай недастатковасцю і ацёкам лёгкіх, зоб, падагра, параліч трайнічнага нерва, варыкознае расшырэнне вен, галавакружэнні.*

На галаўныя болі Эліза Ажэшка скардзілася, як ведаем з яе лістоў і ўспамінаў, даволі часта. Гэтаксама як і на дрэннае самаадчуванне раніцай, нежаданне пачынаць новы дзень. Памятаем таксама яе занепакоенасць зрокам: то яна не можа пісаць, то паведамляе аптымістычна адрасату, што «акуляры ўжо закінула ў кут». Наконт «калі здараецца ім пакахаць, то застаюцца адналюбамі»: на першы пагляд быццам няслушна, улічваючы колькасць сімпатый, пачынаючы ад Пятра Ажэшкі, у якім «не было нічога, што магло б выклікаць непрыязнасць у такой пустой і легкадумнай паненкі», якой Эліза была ў свае шаснаццаць, перад першым шлюбам, і далей — Зыгмунд Свінціцкі, Станіслаў Нагорскі, Францішак Гадлеўскі, Тадэвуш Бохвіц. Іх пералічваюць звычайна ў звязцы з думкай, што Эліза Ажэшка мела шчодрае на каханне сэрца. Але варта дазволіць сабе з гэтым не пагадзіцца. Чытаючы яе «Дні» — «кніжку вельмі асабістых, найтаемнейшых нататак», пісаных для сябе, а не для іншых, разумееш згаданыя «прывязанасці» іначай. У адным нататніку, на адных старонках, у суседніх радках яна канстатуе сваё сардэчнае імкненне да Гадлеўскага, звяртаецца з гэтай бядой да памерлага Нагорскага і вядзе размову з Богам. Каб атрымаць некаторае тлумачэнне гэтай душэўнай з'яве, а таксама некаторыя характарыстыкі тыпу Natrum muriaticum, звернемся да кнігі Кэтрын Култэр «Партрэты гамеапатычных прэпаратаў».

Падзелім інфармацыю на дзве часткі — вядомыя характарыстыкі нашай гераіні (збіраем, такім чынам, пацвярджэнні слушнасці здагадкі ўрача-гамеапата наконт канстытуцыйнага тыпу) і тое, што характарызуе тып Natrum muriaticum дадаткова (тое, праз што магчыма пашырыць веды пра асобу пісьменніцы з мэтай дапаўнення ўжо існуючага партрэта). Найбольш зручная форма падачы такой інфармацыі — дзве калонкі.

| **Характарыстыкі тыпу Natrum muriaticum, заўважаныя ў Элізы Ажэшкі** | **Характарыстыкі тыпу Natrum muriaticum, якія можна выкарыстоўваць пры стварэнні больш поўнага партрэта асобы** |
|---|---|
| Можа з задавальненнем гадзінамі сядзець у сваім пакоі або працаваць у адзіноце. *(Пацвярджаецца лістамі.)* | Ходзіць хутка, не гледзячы па баках, хадою чалавека, які ведае, куды яму трэба ісці, з мэтай трапіць у патрэбнае месца хутка і без затрымкі; шыя выцягнута наперад. |
| Любіць аналізаваць чалавечую натуру, імкнецца зразумець, як «працуюць» дух і свядомасць. *(Пацвярджаецца мастацкімі творамі.)* | Можа адчувацца недахоп прыроднай элегантнасці і свабоды. Нязграбнасць паходкі, рухаў. Або ступае цяжка, напіраючы на абцасы, або шаркае нагамі, хістаючыся на хаду, або крочыць нерашуча, цела пры гэтым нахіляецца наперад, а рукі «малоцяць паветра» ці прыцiснуты да тулава. |
| Якую б сферу дзейнасці ні абраў, паўсюль праяўляе высокую грамадскую свядомасць і любоў да чалавека. *(Пацвярджаецца грамадскай дзейнасцю.)* | Збівае рэчы на хаду, пралівае вадкасці, рассыпае прадукты, спатыкаецца аб парог, чапляецца за дыван і рог стала, раніць рукі, калі абірае гародніну, выпускае з рук прадметы. |

| | |
|---|---|
| Дэманструе вялікую здольнасць пакутаваць за іншых. Калі не мае асабістых прычын для пакут, атаясамлівае сябе з прыгнечанай і непрызнанай часткай чалавецтва або культывуе ў сабе апантанасць гістарычнымі пакутамі сваёй нацыі. *(Творчасць, рэвалюцыйная настроенасць і грамадская дзейнасць, пачынаючы ад дапамогі пагарэлым гарадзенцам і завяршаючы нелегальным адкрыццём польскамоўных школак і спробамі наладзіць дзейнасць віленскай друкарні.)* | Нават пры ўменні ясна фармуляваць свае думкі можа мець складанасці, выказваючы іх уголас. Гаворыць несвабодна, дыкцыя можа быць дрэннай. |
| Праца з мэтай надаць узвышаны характар сваёй бядзе і пераадолець боль успамінаў. *(Тут праглядваецца паралель і з успамінамі пра ўдзел у падзеях 1863 года, і, з іншага боку, з дзённікам Элізы Ажэшкі, які яна пачала весці пасля смерці Станіслава Нагорскага, другога мужа.)* | Часам суразмоўца можа фізічна адчуць цяжар праблем чалавека гэтага тыпу, якія накладаюць адбітак і на твар, і на манеру трымацца: глыбокія зморшчыны ідуць ад крылаў носа да куткоў рота, погляд апушчаны або вінаваты, звычка сядзець са скрыжаванымі, прыціснутымі да грудзей рукамі. |
| Дапамагае іншым дасягаць здароўя і шчасця, якіх, магчыма, сам ніколі не адчуваў. *(Тут вельмі ярка — падрыхтоўка вясельнага падарунка для Францішка Гадлеўскага, чалавека, да якога мела высокае пачуццё, і яго нявесты.)* | Пры размове пра ідэалы і надзеі вочы запальваюцца, зморшчынкі знікаюць, з’яўляецца знешне вельмі заўважнае ўнутранае свячэнне. |
| Несуцяшальны, няздольны забыць пра душэўныя раны, пастаянна культывуе траўміруючыя ўспаміны. Доўга не можа мірыцца са смерцю любімага чалавека.. (*Эліза Ажэшка не толькі не дае спакою сабе з-за жалобы па Станіславу Нагорскім, але смуткуе з прычыны смерці бацькі, якога амаль не ведала. Ёй таксама балюча ўспамінаць пра памерлую сястру.)* | Прывязанасць да жывёл (як да аб’ектаў, якія не ўяўляюць небяспекі, не пойдуць супраць гаспадара, не здрадзяць). |
| Рэдка хваліцца, хутчэй недаацэньвае свае дасягненні. Лягчэй прасоўвае нечую справу, чым сваю. Калі славалюбівы, то славалюбівы без шуму. | Не вельмі звяртае ўвагу на мэблю, шпалеры і іншыя прадметы аздаблення жытла, лічачы гэта другасным, не вартым першачарговай увагі. |
| З-за высокай маральнасці вымушаны накладаць абмежаванні на сябе ў адносінах да ежы, вопраткі, абстаноўкі. | Адклікаючыся на ўсё высакароднае і ўзвышанае, слухае класічную музыку і чытае высокую літаратуру ў неадпаведнай абстаноўцы, адмаўляючы сабе ў навядзенні парадку навокал. |
| «Слязлівая дэпрэсія», вялікая схільнасць да плачу, але пасля працяглых гераічных стрымліванняў. | Здараецца кароткі нервовы смех над нечым нясмешным, усмешка пры апісанні сумных падзей. Гэта прыкмета запрыгоненага ўнутрана чалавека. Здараецца таксама гучны рогат — як элемент дыскамфорту, калі размова ідзе пра нейкае балючае пытанне ў «гумарыстычным ключы» (прыкмета прыгнечаных эмоцый). |

| | |
|---|---|
| Гора, якое ён сабе прыносіць, выяўляецца ў пастаянным мусіраванні перажыванняў ці ва ўпартым вяртанні да непадзеленага пачуцця. *(Тут успомнім запісы ў дзённіку «Дні» — звароты да памерлага Станіслава Нагорскага і пакуты з-за Францішка Гадлеўскага.)* | Віну прызнае хутчэй не словамі (папрасіць прабачэння гэтаму тыпу складана), а «выпраўляльнымі» дзеяннямі. |
| Нават у выпадку «раздзеленага кахання» можа паставіць сябе ў такія ўмовы, якія зробяць асабістую трагедыю непазбежнай. Верагодна, справа тут у выбары аб'екта кахання — ён ажыццяўляецца ў падсвядомым страху перад каханнем. *(Згадаем тут Зыгмунда Свінціцкага, які не пажадаў застацца ў Гродне дзеля кар'еры ўрача; Станіслава Нагорскага, які доўгі час іх знаёмства быў жанаты; Францішка Гадлеўскага, маладзейшага на два дзясяткі гадоў.)* | Вельмі любіць шакалад і соль. Калі смажаную бульбу, то вельмі салёную. |
| Апраўдваецца, выбачаецца і тлумачыць занадта шмат, чым ставіць сябе ў яшчэ больш няёмкае становішча, пра што ведае, але нічога з гэтым не можа зрабіць. *(Доказы — у шматлікіх лістах, частка якіх менавіта з-за гэтай рысы ў выніку выглядае як аўтабіяграфія.)* | Жанчына гэтага тыпу можа паўгадзіны ўладкоўваць заколку ў прычоску, вельмі патрабавальна ставіцца да спалучэння колераў у адзенні, але пры гэтым не звяртаць увагі на строй у цэлым. |
| Галаўныя болі раніцай і ўдзень, нежаданне пачынаць новы дзень, дрэнны настрой у пачатку дня. *(Такія скаргі — нярэдкія запісы ў дзённіку «Дні».)* | Вельмі часта выбірае прыглушаныя, няяркія адценні колераў: сінія, шэрыя, карычневыя і іншыя «зямлістыя» фарбы. Можа быць ярка выражана схільнасць да пурпурнага колеру. |
| Сонечнае цяпло — не на карысць: агульнае самаадчуванне псуецца, узнікаюць галаўныя болі. *(Успомнім, з якім яскравым акцэнтам апісваюцца Элізай Ажэшка гарачыя дні ў Гродне.)* | Могуць здарацца ўспышкі нечаканага гневу, часта з-за спрэчак па нязначных пытаннях. Сур'ёзныя выпадкі апраўданага гневу таксама характэрныя. |
| Нашмат часцей, чым у іншых тыпаў, усталёўваецца слабы кантакт з адным або абодвума бацькамі, што выклікае крыўды або пачуццё вінаватасці. *(Эліза Ажэшка не разумее і не прымае душой сваю маці, пра што піша ва ўспамінах.)* | Можа не сказаць нічога адкрыта, але маўклівае неадабрэнне прачытаецца на твары. Нядзольнасць прыкідвацца можа прыносіць вялікія непрыемнасці. |
| Ні «корпанне» ва ўласных праблемах, ні забавы, ні захапленні, ні новыя кампаніі не дапамагаюць пазбавіцца адчування абяздоленасці, дапамагае — абстрактная любоў да чалавецтва. | |
| Праца з мэтай надаць узвышаны характар сваёй бядзе і пераадолець боль успамінаў. *(Тут праглядваецца паралель і з успамінамі пра ўдзел у падзеях 1863 года, і, з іншага боку, з дзённікам Элізы Ажэшкі, які яна пачала весці пасля смерці Станіслава Нагорскага, другога мужа.)* | |

| | |
|---|---|
| Нягледзячы на свае дасягненні ў працы, часта адчувае, што пацярпеў у жыцці няўдачу; стомлены доўгім шляхам да поспеху і расчараваны, не атрымаўшы прызнання заслуг. *(Маем тут на ўвазе няўпэўненасць пісьменніцы ў вартасці сваіх прац, высокія ацэнкі самой пісьменніцай тэкстаў яе калег у суправаджэнні светлай зайздрасці з яе боку і той факт, што, будучы двойчы намінаванай на Нобелеўскую прэмію, Эліза Ажэшка яе так і не атрымала.)* | |

Ці ведалі мы пра Элізу Ажэшка тое, што напісана ў калонцы справа? Ці можам мы гэтымі фактамі карыстацца? Мяркую, патрабуюцца новыя даследаванні, якія будуць даказваць або абвяргаць тое, пра што «гаворыць» нам канстытуцыйны тып. Што да аўтарскай спробы ўбачыць Элізу Ажэшка як сваю сучасніцу, то яна бадай што ўдалася. Кабета з вытанчанымі манерамі, але не «манерная» — яе манеры ёй пасуюць, арганічна ў яе «ўжыўлены» і нікога не раздражняюць, а наадварот — выклікаюць замілаванне, бо сведчаць пра непасрэднасць, прыродную, а не штучную экспрэсіўнасць і часам чыста дзіцячую разгубленасць. Апошняя магла здарацца ў прысутнасці вялікай колькасці невядомых асоб або тады, калі Эліза вымушана была стаць цэнтрам агульнай увагі. Яна дакладна павінна была рэпеціраваць свае выхады з заклікамі да незнаёмых людзей, каб пасля не губляцца. Яна мо і не чырванела ад хвалявання, але стук яе сэрца, як ёй здавалася, мог заглушыць любыя словы. У прыязных кампаніях або сярод блізкіх людзей яе прамовы ліліся, як жаўруковая песенька, а перад малазнаёмымі ці не настроенымі прыязна асобамі часцей дэманстравалася невыразнасць дыкцыі і паспешлівасць вымаўлення. Яна гаварыла, як ішла — хутка і «не гледзячы па баках», не звяртаючы ўвагі на тое, што адбываецца навокал: з-за апантанасці ў адных выпадках, а ў іншых — з прычыны няўпэўненасці ў сабе. Гэтая ж няўпэўненасць спараджала няёмкасць, якая знешне магла праяўляцца ў нязграбнасці рухаў і дзеянняў. Так, яна магла б нешта разліць, рассыпаць, перакуліць, але толькі ў выпадку, калі ведала, што за яе рухамі назіраюць з мэтай ацэнкі. Сама з сабой яна была больш упэўненай і таму досыць зграбнай. Прынамсі, наўрад ці калі рассыпала «без дай прычыны» пясок, у якім засушвала пялёсткі і травінкі для гербарыя, або разлівала атрамант ці ўпускала на падлогу кнігу або пёрка — тут яна адчувала сябе рыбінай у вадзе.

Як шмат якія бессямейныя жанчыны, яна была, мяркую, вельмі цікаўнай да спраў іншых жанчын і сямейных пар, магла сачыць за імі ў паўвока. Але не зайздросціла. Такая праява не была ёй уласцівай увогуле, як не ўласцівая яна многім людзям з дэфіцытам пачуцця ўласнай значнасці. Праявы чужога шчасця яе замілоўвалі, праз іх яна адчувала шчаслівай і сябе. Увогуле ж, сваё шчасце яна бачыла ў працы як працэсе і яго карысных выніках. Уласныя поспехі не ўздымалі яе над іншымі людзьмі, а толькі ўраўнівалі яе з імі, толькі служылі ёй доказам, што і яна нечага вартая. Адсюль нараджалася ўдзячнасць — да жыцця, і людзей, і Бога, і выбранай справы. І толькі гэта давала задзелы на новыя поспехі.

Яна, мяркую, добра ведала адрасы не толькі рэдакцый і выдавецтваў, але і месцаў, дзе рамантавалі абутак. Яе звычка ступаць цяжка, з націскам на абцасы, або цягнуць ногі, асабліва ў канцы доўгага шпацыру, вельмі блізкая аўтарцы гэтага тэксту. Але пакуль не пра тое. Як гэтую звычку даказаць? Ці ацалела хоць пара абутку нашай пані Элізы і дзе яе можна шукаць?.. Гэтыя радкі я дапісваю пасля інтэрв'ю з прафесарам Святланай Мусіенка, якая згадала, што паводле ўспамінаў сучаснікаў любімым колерам пісьменніцы (прынамсі, колерам яе сукенкі на 50-гадовым юбілеі) быў ліловы, а кветкі, самыя распаўсюджаныя ў гербарыях,

афармленых яе рукамі, — фіялкі. Паміж пурпурным колерам, пра які гаворыцца ў кнізе Кэтрын Култэр як пра любімы колер канстытуцыйнага тыпу Natrum muriaticum, і колерам ліловым, а таксама колерам верхніх пялёсткаў фіялкі трыкалор — ці вялікая розніца?..

Маленькае папярэджанне. Апантанасць некаторых даследчыкаў біяграфій гістарычных персон стварае часам вельмі істотную перашкоду аб'ектыўнасці і спрыяе «суб'ектывізму»: якасці аб'екта даследавання могуць несвядома дапаўняцца якасцямі самога даследчыка. Пазбегнуць такой экстрапаляцыі даволі цяжка. Ведаючы гэты факт і арыентуючыся на выніку прадстаўленага эксперымента, можна выказаць наступнае меркаванне: калі апісаны метад будзе калі-небудзь прыняты як слушны, найбольш аб'ектыўныя біяграфіі мусяць выходзіць з-пад клавіятур аўтараў — носьбітаў аднайменных канстытуцыйных тыпаў.

Што яшчэ? Гэты артыкул быў напісаны з нагоды 175-га дня нараджэння Элізы Ажэшкі, калі верыць распаўсюджанай думцы, што яна нарадзілася ў 1841 годзе. Калі ж прытрымлівацца не менш распаўсюджанай думкі, што год яе нараджэння — 1842-гі, то да юбілейнай даты можна яшчэ паспець напісаць біяграфію.

## Спіс літаратуры:

1. Barbara Olech. Samotność wśród ludzi. O «Dniach» Elizy Orzeszkowej / Творчество Элизы Ожешко в эстетическом пространстве современности. Сборник научных работ. — ГрГУ им. Я. Купалы, 2011. — С. 154—164.

2. Danuta Danek. Śmierć wewnętrzna. Literatura w świetle doświadczenia psychoanalitycznego. — Gdańsk: Słowo/obraz terytoria, 2012. — 184 с.

3. Danuta Danek. Ponowne odkrycie nieznanego wielkiego pisarza. O Stanisławie Morawskim / Danuta Danek // Nauka. — 2013. — № 3. — С. 17—33.

4. Eliza Orzeszkowa. Listy zebrane. — Tom 4: Do literatów i ludzi nauki (pod redakcją Jana Baculewskiego z komentarzem Edmunda Jankowskiego). — 1958.

5. Кёлер Герхард. Гомеопатия. Смоленск: Гомеопатическая медицина. — 1997. — 600 с.

6. Култер Кэтрин Р. Портреты гомеопатических препаратов. Психосоматический анализ избранных конституциональных типов. Часть 2. — Москва: Гомеопатическая медицина, 2004. — 100 с.

7. Orzeszkowa, E. Dnie / E. Orzeszkowa; opr. I. Wiśniewska. — Warszawa: Wydawnictwo IBL, 2001.

8. Черных, А. А. Диалектика гомеопатической конституции. — http://www.repertory.ru/repol/



# СЯБРОЎСТВА, ВЫПРАБАВАНАЕ ВАЙНОЙ

*Літаратурная спадчына Васіля Віткі заслужана ўваходзіць у залатую скарбонку нацыянальнага прыгожага пісьменства. Асаблівыя дасягненні Цімоха Васільевіча ў дзіцячай літаратуры. Ён заснавальнік часопіса для дзяцей «Вясёлка», а прыдуманы ім персанаж Вася Вясёлкін, без якога не абыходзіцца ніводная справаздача гэтага выдання, стаў сапраўдным творчым брэндам і талісманам беларускай дзіцячай літаратуры.*

*За сваё доўгае творчае жыццё Васіль Вітка падтрымліваў цёплыя сяброўскія адносіны з многімі пісьменнікамі. Яго хросным бацькам і настаўнікам быў Міхась Лынькоў. Цімох Васільевіч сябраваў з Кузьмой Чорным, Іванам Мележам, Максімам Танкам, Янкам Брылём, Янкам Маўрам, Уладзімірам Дубоўкам, украінскім педагогам і пісьменнікам Васілём Сухамлінскім. Але, бадай, самыя цёплыя сяброўскія адносіны звязвалі яго з Лобанам.*

*Па-першае, іх родныя вёскі Еўлічы і Чаплічы Слуцкага раёна побач, па-другое, абодва нарадзіліся ў адзін 1911 год і нават у біяграфіях іх бацькоў шмат агульнага. У 1911 годзе, усяго праз некалькі месяцаў пасля нараджэння сына, Васіль Крысько разам з сям'ёй у пошуках заробку паехаў у Сібір. У аўтабіяграфіі В. Вітка піша: «У 1912 г., калі мне споўніўся год ад роду, мы былі ўжо ў Омску. Тулячыся ў падсуседзях па чужых кутках, бацька карміў сям'ю тым, што, гнучы спіну на гарадскім рынку, падбіваў і латаў просты і грубы абутак людзей…» Хутка Васіля Максімавіча ўзялі ў армію, а яго жонка Марыя Міхайлаўна ў 1917 годзе з дзецьмі вярнулася ў родныя Еўлічы, куды неўзабаве пасля дэмабілізацыі прыехаў і муж.*

*Нешта падобнае адбылося і з бацькам Лобана. У аўтабіяграфічнай «Паэме майго маленства» пісьменнік сведчыць: «Бацьку давялося ў свет пайсці. Кім і дзе ён толькі не працаваў: і гарбаром, і мулярам, і стрэлачнікам, і кандуктарам... На задняй пляцоўцы таварнага эшалона аб'ездзіў Украіну, Сібір, Сямірэчча. Туляўся па начлежных дамах у Адэсе і Самары, мок на дажджах з рыбакамі Азоўя... А пад канец блуканняў пабыўся яшчэ і паслушнікам у Кіева-Пячэрскай лаўры. Нішто з пералічанага не стала яго лёсам. Пацягнула на радзіму, у сваё сяло…»*

*А вось што ўзгадвае ён пра знаёмства з Віткам: «Летняй парою, ні то ў чэрвені, ні то ў ліпені 1927 года да мяне прыйшоў хлопец з Еўліч, прыблізна майго ўзросту з бландзіністай, прывыклай прычоскай і блакітнымі вачамі. У той год я толькі пачынаў свае валасы драць уверх. Ён быў босы, у крэмавай вышыванай сарочцы, без шапкі і з дабраватым кійком у руках. Я ўжо ад Змітра Герасімовіча, які вучыўся ў Мінску ў педтэхнікуме, наслухаўся пра маладнякоўцаў, што ўсе яны ходзяць з палкамі і носяць беларускія вышываныя сарочкі. Таму, убачыўшы гэтакім гэтага еўліцкага хлопца, мне адразу падумалася, што ён або сам маладняковец або спрабуе пісаць. А калі ён запытаў зборнік Алеся Гаруна «Матчын дар», то я і зусім ўпэўніўся, што гэты хлопец мае прамое дачыненне да літаратуры. З вялікім задавальненнем я б яму даў пачытаць гэты зборнік, але ён быў у некага на руках. Хлопец пашкадаваў, што няма Гаруна, і ўзяў пайшоў сабе назад*

*у свае Еўлічы. Я не ведаў, што хлопец яшчэ раз прыйдзе, я б сыскаў к яго прыходу гэту кнігу. А ён, счакаўшы дзён тры, зноў паказаўся на чапліцкім выгане.*

*— Маё прозвішча Крысько, Цімох Крысько. Жыву ў Еўлічах, вунь мая хата за поплавам на ўзгорку. Там у мяне маці, бацька, сёстры, браты. Можна, я буду прыходзіць па кніжкі? Ахвота чытаць. Добра вам, усё на месцы: і бібліятэка, і чытальня, і сямігодка. А ў Еўлічах нічога няма. Трэба ў горад, бліжэй да бібліятэк...»*

*Хлопцы рабілі першыя крокі ў літаратуры, а потым іх разлучыла вайна. Калі пачалося вызваленне Заходняй Беларусі, В. Вітку прызвалі ў дзеючую армію. У час Вялікай Айчыннай вайны ён быў рэдактарам масавых выданняў для акупіраваных раёнаў Беларусі, працаваў у рэдакцыях газеты «Савецкая Беларусь», сатырычных — «Партызанская дубінка», газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». У студзені 1944 года Цімох Васільевіч стаў адказным сакратаром новага часопіса «Беларусь». А ў гэты час Лобан пасля цяжкіх раненняў і лячэння ў шпіталях настаўнічаў у пасёлку Келераўка Паўночна-Казахстанскай вобласці. У газеце «Комсомольская правда» ён прачытаў артыкул за подпісам свайго сябра і, не надта спадзеючыся на адказ, напісаў у рэдакцыю з просьбай перадаць яму ліст. 17 мая 1943 года Лобан атрымаў бандэроль і ліст з Масквы. Вось што ён піша пра гэта ў дзённіку: «Якое шчасце! Марыя Маркаўна прынесла мне з пошты заказную бандэроль з беларускімі часопісамі. Колькі радасці! Я па дзесяць разоў перачытваю адзін і той жа твор. Але хто ж гэта даслаў? Няўжо Цімох? Мой дарагі Цімачка!*

*20 мая 1943 года.*

*Ліст ад Цімоха. Ён так напісаў, што я ледзьве разбіраю. Чапляюся як за саломінку. <...>»*

*(Прызнацца, я таксама з цяжкасцю расчытваў гэты ліст і ўсё ж некалькі слоў мне не ўдалося расшыфраваць. — А. В.)*

*У канцы 1943 года Лобан прыязджае на падмаскоўную станцыю Сходня, каб аднавіць вучобу ў БДУ, а 11 студзеня 1944 года ў Маскве адбылася доўгачаканая сустрэча старых сяброў. Вось што ўзгадвае Мікола Паўлавіч: «Тыдняў праз два па прыездзе маім на Сходню я паехаў электрычкай у Маскву, каб сустрэцца з Цімахом. Адрас рэдакцыі часопіса «Беларусь» толькі што створанага, дзе ён працаваў адказным сакратаром, нейкім чынам трапіў у мае рукі, таму я не меў вялікага клопату сустрэць свайго сябра. Рэдакцыя змяшчалася на першым паверсе ў доме, які адным сваім вуглом выступаў на вуліцу Горкага і плошчу Пушкіна. Тады помнік Пушкіну стаяў яшчэ на Цвярскім бульвары, у самым яго пачатку. Язык прывёў мяне ў прасторны пакой з двума акнамі і трыма сталамі. З чатырох мужчын — хто сядзеў, хто стаяў — пазнаю аднаго, хто мне якраз і патрэбен, — Цімаха. Гэта быў мой шчаслівы дзень — каб з першай спробы ды ўзяць і знайсці. Пазнаў і ён мяне. Збегліся пасярэдзіне пакоя, абняліся.*

*— Шынялёк твой порахам пахне, дарагі мой.*

*— Больш волхаўскім балотам, чым порахам.*

*— На Волхаўскім фронце ваяваў? Цяжка было? Пра гэта яшчэ раскажаш. А зараз падыдзем да нашага адказнага сакратара Ільі Данілавіча (Гурскага).*

*Прозвішча гэтага чалавека я ведаў і па газеце «Літаратура і мастацтва», і па п'есе «Качагары», якую я недзе бачыў у пастаноўцы самадзейнага гуртка. Ні п'еса, ні пастаноўка яе мне тады не спадабаліся. Цяпер жа, калі ішло згуртаванне нацыі супраць фашызму, яна магла б загучаць. Ілья Данілавіч у кажушку наапашкі сядзеў за сваім рэдактарскім сталом і сустракаў мяне з добрай ветлівай усмешкай.*

*— Будучы выдатны празаік Мікалай Лобан, — пажартаваў Цімох і ўвагнаў мяне ў фарбу.*

*— Вельмі рады пазнаёміцца. Трэба збірацца патроху, хлопчыкі. Разагналі нас па свеце. Але нічога, канец ужо блізка. На краявідзе заблішчала прасветліна.*

*Скора загляне сонца ў наша ваконца. Дзе ж астаўбаваліся? На Сходні, ва універсітэце? Любая справа вучоба. Сам з задавальненнем павучыўся б, ды не тыя гады. Трэба часопіс рабіць. Прыносьце, калі ёсць што нагатове».*

*Летам 1944 года сябры вяртаюцца ў разбураны і зруйнаваны Мінск. І зноў Вітка працягвае руку дапамогі свайму параненаму сябру: «Летам 1944 года разам з універсітэтам я вярнуўся ў родны Мінск. Аставалася паўтара года заняткаў. Канчаў і працаваў у Акадэміі. Не ведаю, ці вярнуўся б я да літаратурнай работы, калі б не ўсё той жа Васіль Вітка. Аднойчы ён прышоў да мяне і запрасіў на працу ў часопіс «Беларусь».*

*Да 1948 года сябры працавалі разам, а потым Вітку прызначылі галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва». Здавалася б, пачэсная пасада, але ў сталінскія часы, калі нават адно не тое слова або сказ маглі стаць пропускам у Сібір, гэтая праца не спрыяла творчасці. Падчас наведвання Вісарыёна Гарбука ў Пяцігорску Цімох Васільевіч узгадваў гэты перыяд свайго жыцця. У сваім дзённіку ад 6 снежня 1964 года Гарбук запісаў: «Быў у гасцях Васіль Вітка, паэт. Ветлівы, стрыманы, з насцярожанасцю. І адчуваецца, што гэтая насцярожанасць не пакідае яго з часу суровай школы, калі ён стараўся быць толькі вінцікам, а яго розум не карыўся, ды быў бездапаможным...*

*— Дзесяць сваіх лепшых гадоў я аддаў на чортведама што! Рэдагаваў «Літаратуру і мастацтва». Дрыжэў над кожным радком. Не дай бог, не ў лад. А ўсе ночы да аднае, да самага ранку дзяжурылі ў рэдакцыі. Усё чакалі, а ці не зазвоніць тэлефон зверху, ды не дасць дырэктыўных указанняў... Не звернеш іх ні для сябе, ні для творчасці. Засушылі сэрца, абяскрылілі думку... Вось зараз на адпачынку ў «Вясёлцы». Працуем утрох — Алесь Пальчэўскі, Сяргей Грахоўскі і я. Ціха ўсё, лагодна...*

*Гэта ён мне сказаў на запытанне: над чым працуе зараз.*

*Прыехаў у Кіславодск лячыцца. Абяцаў наведаць яшчэ раз».*

*І, насамрэч, 17-цігадовая праца на пасадзе галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка», ля вытокаў якога ён стаў і якую з уласцівым яму гумарам называе «адпачынкам», была найбольш плённым перыядам творчасці пісьменніка. Адна за адной з'яўляюцца на свет яго кнігі.*

*У 1972 годзе за «Беларускую калыханку», «Казкі» і «Чытанку-маляванку» яму была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Янкі Купалы. Пазней прыйшло і сусветнае прызнанне. Цімоха Васільевіча ўзнагародзілі Міжнародным ганаровым дыпломам імя Ханса Крысціяна Андэрсена з занясеннем прозвішча пісьменніка ў Ганаровы спіс выдатнага дацкага казачніка.*

*У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваюцца лісты і паштоўкі Васіля Віткі да Міколы Лобана. Думаю, у юбілейны год нашага славутага пісьменніка чытачам будзе цікава пазнаёміцца з імі.*

## Лісты М. Лобану ад Васіля Віткі

*30 красавіка 1943 г.*

*Масква.*

Мой родны, мой мілы браце!

Ты мяне парадаваў добрай весткай аб тым, што ты ёсць на свеце. А гэта — найлепшая вестка для нас, раскіданых па ўсёй планеце.

Спадзеючыся, што ты напішаш мне больш падрабязна пра сябе самога. А аб сабе вось што скажу. Знаходжуся ўжо другі год у Маскве. Нейкі час працаваў у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», якая выдаецца для змуштраванай немцамі нашай Бацькаўшчыны. Цяпер працую ў выдавецтве ЦК КПБ(б), якое нядаўна

сфарміравалася і пачало выдаваць белорускую літаратуру. У выдавецтве працуюць апроч мяне Крапіва, Глебка, Гурскі. У асноўным пісьменнікі ўсе знаходзяцца ў Маскве. Пасылаю табе газету, з якой ты даведаешся пра літаратурныя навіны. Тут і Кузьма Чорны, самы дарагі мне чалавек. Ён перанёс вельмі цяжкую хваробу, ледзь выратавалі — кровазліянне ў мозг. І толькі зараз — пасля доўгага часу — пачынае прывычна брацца за работу.

Сям'я мая — жонка і двое дзяцей — знаходзіцца ў Чалябінскай (?) вобл. Быў я ў іх. Жывуць, вядома, як усе. Сыну майму ўжо шосты год. І ведаеш, як мне цяпер цяжка без яго, калі дзіця ў самым цікавым узросце, калі яно прагна ўбірае ў сябе жыццё, калі яго вока не могуць <…> самыя нязначныя драбніцы.

Братачка мой, прабач, што я так пішу з пятага на дзесятае. Спадзяюся, што ў працяг далейшай нашай сувязі высветліцца ўсё, што нас абодвух цікавіць. А то, каб усё выкласці па парадку, <…> то і паперы не хопіць у нашым выдавецтве.

Не ведаю, калі ты даведаўся пра мяне і прыслаў запытанне ў «Комсомольскую правду», бо ты даты ў ім не паставіў, калі ты чытаў той мой артыкул. Няўжо ты праз год амаль толькі ўбачыў гэтую газету? Ну, але не ў гэтым справа. Дзякуй рэдакцыі, што яна дапамагла мне даведацца пра цябе.

Напішы, братка, падрабязна аб усім. Як твае літаратурныя справы? Можа, што напісаў, прысылай. Тут выдаецца альманах, выходзіць газета, і мы з прыемнасцю надрукуем і апавяданні, і аповесць, і Бог дасць — раман, то і яшчэ лепш.

Сардэчна цябе абнімаю і цалую. Далёка цябе закінуў лёс, Мікола, але трымайся, браце, бацькаўскіх гоняў. Будзем верыць у нашу сустрэчу ў мілай роднай Случчыне і можа, нават у тых крыжох на гасцінцы, сярод старажытных бяроз, сярод жытоў, як некалі мы з табой там ішлі і нават, помніцца, выпілі чацвяртушку і прышлі ў Слуцак вясёлыя і поўнымі надзей у будучыню. Ну, мілы браце, пішы.

Цімох.

Москва, Б. Черкасский, 6. 3 этаж, издательство «Сов. Беларусь». Крысько Т. В.

* * *

*22 сакавіка 1944 г.*

Мікола!

Мне за цябе вельмі крыўдна. Чаму вочы не паказваеш? Мы з табой дамовіліся, што ты падрыхтуеш апавяданне для часопіса «Беларусь». Калі я цябе тады прасіў аб гэтым, дык зараз звяртаюся да цябе афіцыйна, як адк. сакратар часопіса — як мага хутчэй давай апавяданне ў № 3, які зараз рыхтуем у друк. Чакаю цябе ў рэдакцыі не пазней, як праз два-тры дні — на абцасах! Адрас жа мой хатні таксама ведаеш. Адным словам, я на цябе сярдзіты і калі хочаш, каб я падабрэў — заходзь у рэдакцыю з апавяданнем.

Цімох.

* * *

Мой любы браце і дружа!

З Новым годам у тваю хату! Няхай абмінаюць яе ўсе нягоды і немачы і ідуць на сухія лясы! Няхай гудзе яна магутнымі галасамі весялосці і шчасця! Няхай яе сцены стануць шырэйшыя, а столь вышэйшаю, каб было дзе разгарнуцца ўсяму твайму роду!

Цімох.

27. 12. 1971.

* * *

*3 лістапада 1978.*

Мой дарагі эсэсавец,

твае цудоўныя эсэ, якія ты пішаш, вартыя ўсіх тых пакут, што ты трываеш на адзіноце ў гэтую познюю восеньскую золь, калі ўсе важныя птахі разляцеліся па цёплых выраях. Абы, мой братко, табе пісаласо і ўдалосо завяршыць замысленае.

Сардэчна цябе абдымаю і дзякую, што ўспомніў ты мяне якраз у свой дзень. Ад усяе душы жадаю табе іх, гэтых слаўных дзён, многа-многа, і каб усе яны складаліся ў многія добрыя, працавітыя і шчаслівыя гады.

Я толькі што вярнуўся з вельмі цікавай і прыемнай вандроўкі: быў у Польшчы на ўрачыстасцях, прысвечаных 100-годдзю Януша Корчака. Якраз стаяла цёплае, сонечнае надвор'е, спрыяючы і добраму настрою, і знаёмству з людзьмі, і вандроўкам па краіне. Пабачыў усе чатыры сталіцы Рэчы Паспалітай: Гнезна, Познань, Кракаў і Варшаву, бачыў і жахлівыя мясціны, якія можна і трэба паглядзець толькі раз — Трэблінку і Асвенцым. На ўрачыстасцях і ў навуковай канферэнцыі ўдзельнічалі дэлегацыя 20 краін, у тым ліку і наша, у якую ўваходзілі віцэ-прэзідэнт Акадэміі пед. навук СССР, вельмі цікавы і мілы чалавек Міхаіл Іванавіч Кандакоў, прафесар, спецыяліст па Корчаку Марыя Фёдараўна Шыбаева, і, як пісалі нашы папярэднікі, ваш пакорны слуга. Дваццаць дзён праляцелі неўзаметку, настолькі былі запоўненыя, загружаныя, што немагчыма было адхінуцца на якога паўдня па сваіх клопатах. «Ваш пакорны слуга» не змог нават патраціць усіх злотых, якія абмяняў на рублі. Цяпер, калі бог дасць яшчэ паехаць, буду пры гатовых капіталах. А пакуль што трымаю як сувенір. Уся наша праца ішла на высокім дзяржаўным узроўні, гасцей прымаў <…> Рады Міністраў Ярашэвіч, з прывітаннем звярнуўся Эдвард Герэк. Усе гэтыя дні я яшчэ пад уражаннем паездкі. А ў Кракававе мы былі ў дні, калі кракаўскі кардынал Кароль Вайтыла нечакана і неспадзявана стаў Янам Паўлам II.

Нашага друга Яна Першага (Брыля) я ўжо не застаў дома, бо ён, як і Ваша міласць, раскашуе ў Сочах на курорце, да свят мае вярнуцца. Так што тваіх прабачэнняў, усіх тваіх перажыванняў і пакут з-за нейкага выступлення ў аўдыторыі, якая штодня, я ўпэўнены, слухае адны і тыя ж прапісныя мудрасці, і сам не падзяляю і, спадзяюся, табе іх варта выкінуць з галавы. Што б ты там ні гаварыў, думаю, для любых тваіх слухачоў гэта можа быць цікавым, нават само гучанне жывога твайго слова.

Якія мінскія навіны? Можа, ты іх і ведаеш. Самая галоўная ў нашым асяроддзі: Генадзь Бураўкін — старшыня дзяржаўнага камітэту па тэлебачанні і радыё, рэдактарам у «Маладосць», у апошнія дні гавораць больш упэўнена, ідзе Васіль Зуёнак, як мне думаецца, самая найлепшая кандыдатура.

Быў справаздачна-перавыбарны сход партарганізацыі, новым сакратаром выбралі Яўгена Каршукова, які працаваў да гэтага зам. рэдактара часопіса «Вожык».

Сёння ў Мінску ясны сонечны дзень, наогул, надвор'е стаіць харошае, і так асабліва адчуваецца і самы перадвеснавы настрой, сталіца ўбіраецца ў свае ўрачыстыя фарбы.

Таму я і віншую цябе, свайго лепшага і вернага друга, усімі яснымі і шчырымі пачуццямі душы са шчаслівым святам, з новым плёнам твайго таленту і чакаю цябе ў добрым здароўі і настроі.

Пасылаю пісьмо авіяпоштай, хоць, мяркуючы па тваім, будзе ляцець яно аж цэлых трое сутак. Але думкамі і пачуццямі з табой, і яшчэ раз сардэчна абдымаю цябе, двойчы абдымаю, як Цімох і Васіль.

Паклон і найлепшыя святочныя пажаданні перадаюць Вольга Рыгораўна і Юля.

* * *

*10 верасня 1981.*

Дарагі мой браце!

Рады гэтай нагодзе разам з рэцэнзіяй на тваіх «Шэметаў», надрукаванай сёння ў «Звяздзе», паслаць табе самыя самыя сардэчныя пажаданні добра адпачыць, набрацца сіл і сонца, а гэтаксама і марское солі, каб твае ногі прутчэй і ўпраўней яшчэ доўгія леты вадзілі цябе па свеце і каб мы з табою, мой братко, яшчэ не раз пахадзілі па сваіх родных, мілых сцежках і дарогах.

Асаблівых навін нямашака. Надвор'е ў нас, хваліць бога, усе гэтыя дні стаіць цёплае, сонечнае. На вячэрнія пагулянкі ў Купалаўскі парк і на ўзбярэжжа ракі шумнацечнай хаджу адзін, бо ўсё таварыства на курортах: Бачыла ў Друскеніках, Русецкі, прашу прабачэння або са звіненнем Вас, у Піцундзе, а Брыль яшчэ раскашуе на Нёмане.

Прывітанне табе ад усіх маіх сямейнікаў.

Шчыра абдымаю цябе.

Цімох.

***Уступны артыкул і публікацыя Аляксандра Вашчанкі.***

***Аўтар выказвае падзяку БДАМЛМ за прапанаваныя матэрыялы.***



# Генадзь АЎСЯННІКАЎ: «СВЕТ ВЫРАТУЕ ДУХОЎНАЕ ХАРАСТВО»



Я даўно нацэльваўся на гутарку з Генадзем Аўсяннікавым. Паглядзеў у тэатры апошнія спектаклі з яго удзелам. Пагаварыў з некаторымі яго калегамі. Перачытаў шматлікія інтэрв'ю з ім. Словам, многае ўжо ведаў пра знакамітага артыста.

Ведаў, напрыклад, што Генадзь Сцяпанавіч служыць у Купалаўскім тэатры амаль шэсцьдзясят гадоў. Менавіта служыць, бо для яго тэатр — гэта храм, у якім душа чалавека сродкамі мастацтва ўзбагачаецца, саграваецца святлом высокага мастацтва. І ён, шараговы служыцель гэтага храма, у меру сваіх сіл і таленту стараецца актыўна падтрымліваць святое і жыццядайнае святло. На праслаўленай купалаўскай сцэне ім сыграна больш за восемдзесят роляў. І многія з іх (асабліва з беларускага рэпертуару) сталі эталоннымі, класічнымі. Ён настолькі самабытны нацыянальны акцёр, што рэжысёры часам не ведаюць, як выкарыстаць яго ў небеларускім матэрыяле.

Не менш роляў сыграў Аўсяннікаў і ў кіно. Можна назваць такія вядомыя фільмы, як «Людзі на балоце», «Доўгія вёрсты вайны», «Полымя», «Плач перапёлкі», «Свежына з салютам», «Талаш» і іншыя. Не ва ўсіх іх яму пашанцавала на галоўныя, цэнтральныя ролі, але нават у тых кінастужках, дзе даставаліся другарадныя, эпізадычныя персанажы, ствараў яркія, каларытныя вобразы, якія глядач заўважаў, запамінаў.

Чым больш я ўведваў пра Генадзя Аўсяннікава, тым усё больш здзіўляўся і захапляўся ім. З-за таго, што рэжысёры часцей за ўсё па звычцы эксплуатавалі яго прыродныя чалавечыя якасці (дасціпнасць, гумар), ва ўяўленні некаторых гледачоў склаўся своеасаблівы імідж артыста — гэткага вясёлага дзядзькі на падпітку. На самай справе талент Аўсяннікава шматгранны і надзвычай глыбокі, поліфанічны. Гэта артыст рэдкага трагікамічнага даравання. У адным з апошніх спектакляў «Вяселле» паводле Чэхава ён у пятнаццаціхвілінным эпізодзе так сыграў канфузлівага, наіўна-кранальнага генерала, што публіка (не толькі мінская, але і маскоўская, парыжская) была ўражана і ўсхвалявана да слёз.

«Бліскучы камедыйны і драматычны акцёр, — так ахарактарызавала Аўсяннікава вядомы тэатральны крытык Таццяна Арлова. І патлумачыла: — Ён неразлучны ў творчасці з тэмай маленькага чалавека, не змагара, а байца, не кіраўніка, а падначаленага. Ім камандуюць начальнікі, жонкі, дзеці, калегі, прыяцелі, а ён

чэсна і добрасумленна выконвае загады, не хныкае і не скардзіцца. На такіх свет трымаецца».

Генадзь Аўсяннікаў знешне мала падобны на артыста — звычайны сялянскі твар з гэткім дапытлівым прыжмурам і вясёлай хітрынкаю ў вачах. Ніякай рысоўкі, ніякага падкрэслівання сваёй значнасці. Не любіць гальштукаў, мадэльных касцюмаў. Просты, сардэчны чалавек, які ўсюды — свой.

А між тым ягонай вядомасці, ягонай папулярнасці хапіла б на дзесяцярых. Ён — народны артыст БССР і народны артыст СССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, а таксама прэміі «За духоўнае адраджэнне». Уладальнік прыза «Нацыянальны набытак» IV Міжнароднага фестывалю монаспектакляў і спецыяльнага прыза Беларускага цэнтра UNIMA на Міжнародным тэатральным фестывалі «Белая вежа». Пераможца фестывалю «Артыст канца XX стагоддзя» (Масква). Кавалер ордэнаў Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак пашаны», Францыска Скарыны.

Усё гэта, паўтаруся, я ўжо ведаў і да сустрэчы з Генадзем Аўсяннікавым. Заставалася толькі пазнаёміцца з ім асабіста, пагутарыць больш падрабязна, каб атрымаць адказы на некаторыя пытанні, «вылавіць» новыя дэталі, свежыя эмоцыі.

Мы лёгка дамовіліся пра сустрэчу, і ў прызначаны дзень і час я стукаўся ў дзверы кватэры Аўсяннікавых. Гаспадыні, праўда, дома не было, а гаспадар гасцінна запрасіў праходзіць у залу. Я звярнуў увагу, што з акна гэтага пакоя злева віднеўся будынак Нацыянальнага банка, а справа — Дзяржаўнага ўнівермага.

Перахапіўшы мой позірк, Генадзь Сцяпанавіч пажартаваў:

— Як бачыце, жыву што той мільянер.

— А вы і ёсць мільянер. Толькі не ў доларавым, а зусім у іншым, больш каштоўным вымярэнні. Вы маеце мільёны сваіх шчырых, адданых прыхільнікаў, якія любяць вас і шануюць. Пра што яшчэ раз засведчыў ваш нядаўні юбілей.

— Я люблю казаць: юбілей — гэта калі шмат кветак, але яшчэ жывы.

На такой вясёлай ноце і пачалася наша гаворка.

## Зігзагі планіды

**— Генадзь Сцяпанавіч, людзі творчых прафесій звычайна робяць свой жыццёвы выбар даволі рана, яшчэ ў падлеткавым узросце. Вас жа, наколькі ведаю, кідала, што называецца, з агню ды ў полымя. Не скончыўшы дзесяцігодкі, падаліся ў машынабудаўнічы тэхнікум, адтуль — у мараходку, з яе вярнуліся назад у школу. Што было таму прычынай — пошук самога сябе, захапленне рамантыкай?**

— Ды не, усё было значна прасцей. Нарадзіўся я ў Магілёве. Бацька мой памёр вельмі рана, калі мне было некалькі месяцаў. Маці неўзабаве выйшла замуж за другога і мяне, каб не блытаўся пад нагамі, сплавілі на раён, да цёткі Марфы, вясковай настаўніцы. Яна мяне, можна сказаць, і выгадавала, і выхавала.

Так што, як бачыце, роду я не знакамітага. Рос бязбацькавічам. Затое цётка рана прывучыла да кніжак. Да сорак шостага мы жылі ў Судзілах (гэта пад Клімавічамі) і там у аднаго настаўніка была бібліятэка, вялікая. Ён — інвалід з дзяцінства, у армію не ўзялі. А калі пачалася вайна, ён школьную бібліятэку перавёз да сябе. І правільна зрабіў, таму што як толькі немцы прыйшлі ў нашу вёску, першым чынам занялі школу. Дык вось у гэтай уратаванай бібліятэцы я і пасвіўся ўсе пасляваенныя гады.

**— Праходзілі першапачатковую навуку?**

— Не, першую навуку я атрымаў усё ж такі ў школе.

**— Калі пачалася вайна вам было шэсць гадоў. Што-небудзь помніцца з таго ліхалецця?**

— Ведаеце, дзяцінства ёсць дзяцінства. Мы, вясковыя падшыванцы, канешне ж, не ўспрымалі ўсёй трагедыі вайны. Тым не менш, было адчуванне пастаяннай трывогі. Асабліва пасля таго, як у суседняй вёсцы Хатовеж расстралялі яўрэяў. Мы, хлапчукі, сядзелі ў кустах і са страхам за ўсім назіралі. Немцы стаялі ўбаку, а стралялі паліцаі. Помню, яны былі яшчэ ў сваёй адзежы — форму не паспелі атрымаць, толькі на рукавах бялелі павязкі. У вёсцы казалі, што гэта бандэраўцы.

І другі эпізод урэзаўся ў памяць. Калі немцы адыходзілі, то ўзяліся паліць нашу вёску. Бегаюць ад хаты да хаты з вогненнымі факеламі, а мы ўсе — дарослыя, дзеці, сабакі, каты — стаім на ўскрайку і чакаем. І вось апошняя калона праходзіць міма, немцы глядзяць на нас, мы на іх…



*Генадзь Аўсяннікаў*
*у спектаклі «Раскіданае гняздо».*

Раптам адзін з салдат выходзіць са строю і кіруецца да нас. «Расстрэльваць будзе», — жахнуўся нехта з дарослых. А немец падышоў бліжэй, кінуў нам дзве буханкі хлеба і пабег даганяць калону.

Вяскоўцы спачатку баяліся браць гэты хлеб. «Можа, атручаны?» — было апасенне. Далі кавалак на пробу сабакам. Тыя з’елі і хоць бы што. Тады буханкі парэзалі і падзялілі паміж намі, дзецьмі. Мы ўжо даўно не ведалі смаку сапраўднага хлеба…

Але я крыху адышоў ад вашага пытання. Чаму я не стаў канчаць дзесяцігодку? Ведаеце, як бы добра ні было мне ў цёткі, чужая сям’я ёсць чужая. І таму пасля сямі класаў я вырашыў пайсці на свой хлеб. Падаўся ў Магілёўскі машынабудаўнічы тэнікум. Там давалі неблагую стыпендыю і інтэрнат. Але, правучыўшыся год, я зразумеў, што гэта не маё.

А тут якраз мой школьны сябра сабраўся паступаць у Рыжскае мараходнае вучылішча, падгаварыў і мяне (маўляў, нас чакаюць марскія вояжы, прыгожая форма — усе дзяўчаты будуць нашыя), і мы папёрлі туды разам. Але ў мараходцы яшчэ хутчэй я зразумеў, што гэта не маё таксама. Праз паўгода вярнуўся назад у Бялынічы і пайшоў у дзявяты клас — мне залічылі год вучобы ў тэхнікуме.

**— А калі ў вас абудзілася цікавасць да акцёрства?**

— Ды, напэўна, тады, як вярнуўся ў Бялынічы, і абудзілася. У нас у школе працаваў драмгурток, якім кіравала Мар’я Мікалаеўна Геда. Нешта яна ўва мне разгледзела і запісала ў гэты гурток. І мы з маім сябрам Шуркам Тыліным сталі актыўнымі яго ўдзельнікамі — ігралі ў спектаклях, у якасці канферансье вялі канцэрты. Не ведаю, якое там было акцёрства — звычайная самадзейнасць, але мне падабалася. І можа, упершыню я адчуў, што гэта — маё. Таму, атрымаўшы атэстат сталасці, вырашыў падацца ў Мінск, у тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Акадэмія мастацтваў). Мар’я Мікалаеўна мой намер падтрымала. Чаму б і не паспрабаваць? А раптам атрымаецца.

Паслаў дакументы і неўзабаве атрымаў выклік на іспыты. І тут мне ўпершыню ў жыцці пашанцавала. І нават не адзін раз, а двойчы. Па-першае, кансультацыі ў нас праводзіў выдатны акцёр, рэжысёр, тэатральны педагог Дзмітрый Арлоў. Дзякуючы яму я паступіў з першага заходу. І па-другое, калі быў залічаны ў інстытут, пашчасціла трапіць на курс яшчэ аднаго легендарнага педагога, народнага артыста БССР, прафесара Канстанціна Саннікава.

Але на гэтым зігзагі маёй планіды не скончыліся. Правучыўшыся амаль год, я нечакана атрымоўваю позву з Бялыніцкага райваенкамата. Ці то там не ведалі, што я паступіў у інстытут, ці па якой іншай прычыне, але позва такая прыйшла. І я, як законапаслухмяны грамадзянін, вырашыў ісці ў армію. Саннікава якраз на месцы не аказалася, быў на гастролях. І я, ні з кім не параіўшыся, забраў з інстытута дакументы і паехаў у Бялынічы. Зайшоў у ваенкамат — там у мяне быў знаёмы капітан. Ён і пытаецца: «Хочаш служыць?» — «Хачу». — «Тады пачакай да канца месяца, я цябе ўключу ў харошую каманду».

Ну, я абрадаваўся і сяджу спакойна дома, чакаю. Раптам прыходзіць пісьмо. На канверце адрас: «Бялынічы. Генадзю Аўсяннікаву альбо яго цётцы». Зусім як у Чэхава: на деревню, дедушке. Аднак пісьмо дайшло. Бялынічы хоць і раённы цэнтр, але мяне ўсе ведалі. Аказваецца, напісаў мне Коля Казінін, мой аднакурснік. Адзін час ён працаваў у Купалаўскім, пасля перайшоў у філармонію, выступаў як чытальнік.

Ну вось Коля і піша мне: вярнуўся Саннікаў і калі даведаўся, што ты забраў дакументы, узлаваўся. Што ж ён мяне не пачакаў? Напішы, каб не рабіў глупства і вяртаўся назад. Я зноў у ваенкамат, да гэтага капітана. «Мне трэба тэрмінова адскочыць у Мінск. Можна?» — «Ну, давай, толькі ж глядзі, не спазніся — такогата чысла адпраўка тваёй каманды».

Я ногі ў рукі — і да Саннікава. А ён мне і кажа: «Бяры даведку, што ты вучышся на другім курсе і вязі ў ваенкамат. Табе павінны даць адтэрміноўку».

Карацей кажучы, вярнуўся я назад у інстытут і стаў вучыцца далей. А каб не Саннікаў, пайшоў бы ў армію, загналі б мяне, куды Макар цялят не ганяў, і ўся мая мара стаць артыстам магла б на гэтым скончыцца.

**— А я думаю, што рана ці позна вы ўсё роўна выбіліся б на сваю сцяжыну. Таму што гэтая сцяжына вам была наканавана ад нараджэння.**

— Напэўна. Усе гэтыя мае кіданні ад майго шалапуцтва. Не было, як кажуць, сямейнага нагляду. Даў бы бацька адзін раз у вуха, і ўсё стала б на месца. Але бацька, як я ўжо казаў, рана памёр, а маці было не да мяне.

**— На малой радзіме, у Бялынічах, бываеце?**

— Рэдка. Раней, калі ездзілі на гастролі, наведваўся часцей. Ездзіў яшчэ, калі кінарэжысёр Дзмітрый Міхлееў здымаў пра мяне дакументальны фільм, да сямідзесяціпяцігоддзя. «Штрых-пункцір» называўся. Яго нядаўна паказвалі па тэлебачанні. Дык вось былі мы тады ў Бялынічах некалькі дзён.

**— Заходзілі ў школу?**

— Нашай школы ўжо няма. Пабудавалі новую. А мы вучыліся ў манастыры, перарobленым пад школу. Дык і манастыр той даўно ўзарвалі. Нічога не засталося. Пайшлі ў лепшы свет і многія мае заёмыя.

**— Можна сказаць, што малой радзімы ў вас па сутнасці і няма…**

— Мая малая радзіма — гэта мая вялікая Радзіма, Беларусь!

## Маленькіх роляў не бывае

**— Генадзь Сцяпанавіч, мне здаецца, вам яшчэ раз пашанцавала, калі ў 1957 годзе, пасля заканчэння тэатральна-мастацкага інстытута, вы трапілі ў лепшы тэатр краіны — Купалаўскі.**

— Можна сказаць і так. Але ў гэтым было трохі і маёй заслугі. У нас быў вельмі моцны курс, у Купалаўскі ўзялі адразу шэсць чалавек. Сярод іх Саннікаў рэкамендаваў і мяне. Хочацца думаць, што не толькі за прыгожыя вочы (смяецца).

**— І як вас сустрэлі ў тэатры? У той час там працавала цэлая плеяда выдатных артыстаў, сапраўдных карыфеяў сцэны — Платонаў, Глебаў, Уладамірскі, Ржэцкая, Рахленка, Малчанаў, Станюта, Стома…**

— У тым вось і ўся справа, што чым больш таленавіты чалавек, тым ён больш просты і сціплы. Атмасфера ў тэатры была самая добразычлівая. Карыфеі, як вы кажаце, чым маглі памагалі нам у нашым станаўленні, вельмі тактоўна, далікатна падказвалі, як лепш сыграць тую ці іншую сцэну, ахвотна дзяліліся сакрэтамі майстэрства. Не дзіва, што ўсе мы, навабранцы, вельмі хутка і арганічна ўліліся ў трупу тэатра, а некаторыя, як Тарасаў і Захарэвіч, сталі выконваць цэнтральныя ролі.

**— Прабачце за пэўную нетактоўнасць, але не магу не запытацца: а чаму ж вы так доўга заставаліся ў ценю? Амаль дзесяць гадоў выконвалі ролі другога плана, эпізадычныя.**

— Ведаеце, не бывае такога, каб усім адразу пасыпаліся галоўныя ролі. Як Тарасаву. Ён — прыроджаны герой-любоўнік, ярка выражаны сацыяльны герой. У ім сышлося ўсё: талент, знешнасць, голас. Нягледзячы на вядомую славянскую слабасць у апошнія гады, Віктар бліскуча спраўляўся з любой роляй. Памятаю, на тэлебачанні здымалі невялічкі эпізод. Выканаўца спрабаваў сыграць і так, і гэтак, а таго, што трэба было, не атрымлівалася. Паклікалі Тарасава і эпізод знялі з першага дубля. Пасля гэтага рэжысёр сказаў фразу, якая стала амаль што афарызмам: «Мне лепш адзін Тарасаў на падпітку, чым шэсць некаторых цвярозых».

Што тычыцца мяне, то я не пакрыўджаны тым, што не адразу артымаў галоўныя ролі. І не лічу, што гэтыя дзесяць гадоў патраціў дарма. Я не сядзеў склаўшы рукі і не чакаў шчаслівага выпадку. Іграў усё, што мне даручалі. І іграў з поўнай аддачай, з вялікім задавальненнем. Заўсёды кіраваўся прынцыпам: няма роляў вялікіх і малых, ёсць розныя адносіны да сваёй справы.

За шматгадовую акцёрскую практыку мне даводзілася іграць рознае: чайніка, які кіпіць, жабінага сына. Нават меў гонар выконваць крокі Леніна.

**— Як гэта?**

— На радыё ставіўся спектакль пра Кастрычніцкую рэвалюцыю. У адным з эпізодаў паяўляўся Ленін. Па тэксце значылася рэмарка: «Уладзімір Ільіч імкліва падыходзіць да трыбуны…» У акцёра ж, які выконваў гэтую ролю, чаравікі аказаліся на мяккай падэшве. Вось крокі Ільіча мне і давялося імітаваць.

**— Дарэчы, на радыё вы ўдзельнічалі ў многіх спектаклях…**

— Тады там была вельмі моцная літаратурна-драматычная рэдакцыя. Працавалі выдатныя рэжысёры — Валерый Анісенка, Соф'я Гурыч, Марына Троіцкая. Я больш запісваўся ў Гурыч. Спектаклі, пастаўленыя ў тыя гады, на шчасце, захаваліся ў радыйнай фанатэцы і сёння складаюць залаты запас нашай драматургіі.

А яшчэ я на радыё вёў некаторыя перадачы для дзяцей. Вельмі папулярнай была перадача «Вясёлы паштальён». Мне юныя слухачы прысылалі цэлыя мяхі пісьмаў. Я іх пасля ў эфіры зачытваў, з гумарам каменціраваў.

**— Вам цікава было працаваць з дзецьмі?**

— З дзецьмі і для дзяцей. На кінастудыі я шмат агучваў мультфільмаў. Скажам, такія як «Дзед і жуpавель», «Як ліса ваўка вадзіла», «Прыгоды Несцеркі»... Прычым, паверце, над гэтым працаваў з не меншым задавальненнем, чым над самымі сур'ёзнымі ролямі ў тэатры.

**— А паралельна з усім гэтым вы яшчэ актыўна здымаліся ў кіно. Кіраўніцтва тэатра не наракала, што вы распыляецеся?**

— Дык гэта ж не было на шкоду тэатральнаму рэпертуару. Я запісваўся на радыё і здымаўся ў кіно, як правіла, у свой вольны час. А калі трэба было адпрасіцца, то маё кіраўніцтва ставілася да гэтага з разуменнем. Акрамя таго, дадатковая праца не была на шкоду і мне. Яна дапамагала падтрымліваць на належным узроўні маю акцёрскую форму.

**— Вы сказалі, што не чакалі ўдачы, склаўшы рукі, а працавалі над тым, што даручалі, што трэба было тэатру. І тым не менш, удача прыйшла. Я маю на ўвазе драматургію Макаёнка.**

— З Макаёнкам мне, канешне, пашанцавала. Што праўда, то праўда. Яго героі арганічна леглі на мае асаблівасці, мае прыхільнасці. Беларускіх вяскоўцаў,

іх характары, натуры я добра ведаю і люблю. А Макаёнак, як ніхто іншы, мог ствараць яркія, каларытныя вобразы, па-сапраўднаму народныя тыпы. Іграць іх было адно задавальненне. Я ствараў на сцэне гэтых герояў, а яны стваралі мяне як акцёра.

**— Тэатральная крытыка дружна зазначае, што ваш акцёрскі талент з усёй паўнатой і глыбінёй раскрыўся менавіта ў спектаклях па п'есах Макаёнка. Дастаткова прыгадаць дзеда Цыбульку з «Таблеткі пад язык», Старога са «Святой прастаты», Антона Бусько з «Пагарэльцаў», Максіма з «Лявоніхі на арбіце». Але вяршынным дасягненнем у вашай творчасці можна, бадай, лічыць ролю Цярэнція Калабка з «Трыбунала». У гэтым спектаклі вы з бляскам праявілі сябе не толькі як майстар камедыйна-драматычных вобразаў, але і як акцёр трагікамічнага плана.**

— Не хваліце гэтак, а то яшчэ на старасці гадоў зазнаюся *(смяецца).* А калі сур'ёзна, то «Трыбунал» — сапраўды вялікая творчая ўдача Макаёнка. І значная ўдача тэатра. Вы ведаеце колькі разоў мы сыгралі гэты спектакль? Шэсцьсот пяцьдзясят!

**— Цікава, а не прыядаецца акцёру гэтулькі разоў іграць адно і тое ж? Не наступае, так бы мовіць, акцёрскае выгаранне, выканальніцкая абыякавасць?**

— Не наступае. Бо маеш справу з глыбокай, таленавітай драматургіяй, якая сілкуе творчае натхненне, дае прастор акцёрскай фантазіі. Кожны спектакль іграеш крыху па-іншаму, з новымі дэталямі, новымі фарбамі.

**— Генадзь Сцяпанавіч, а якія яшчэ ролі, сыграныя на Купалаўскай сцэне, вы лічыце для сябе важнымі, значнымі?**

— У першую чаргу, бадай, Аўдзей са спектакля «Страсці па Аўдзею» Уладзіміра Бутрамеева. Вось дзе сапраўдны драматызм! Жыве сабе селянін, займаецца сваімі штодзённымі побытавымі клопатамі, перажывае простыя жыццёвыя радасці і не здагадваецца, што зусім хутка яго чакае раскулачванне і высяленне… Выкананне гэтай ролі патрабавала немалых душэўных і фізічных сіл, але ж і давала глыбокае маральнае задавальненне, бо заўсёды адчуваў жывую еднасць залы і сцэны, бачыў, як глыбока кранае гледачоў Аўдзеева драма. А некаторыя нават заходзілі пасля спектакля да мяне ў грымёрку, дзякавалі і казалі, што такое было і з іхнімі бацькамі.

Люблю свайго Васіля Мульціка з дудараўскага «Вечара». Таксама балючая чалавечая драма. Толькі ўжо не сацыяльная, а псіхалагічная, душэўная. Колькі такіх Васілёў у нашых сучасных вёсках, якія засталіся дажываць свой век у неперспектыўных вёсках і, забытыя дзецьмі, востра перажываюць сваю адзіноту.

**— А якія ролі вам блізкія, па душы з рускай класікі?**

— О, добра што вы пра гэта запыталі! А то, магчыма, той-сёй падумае, што я пачуваю сябе арганічна толькі ў беларускім матэрыяле. Няпраўда! Для мяне ў персанажы істотным з'яўляецца не нацыянальнасць, а характар, думкі, ідэя, якая за ім стаіць.

У «Познім каханні» Астроўскага я іграў Дармідонта. Па п'есе — гэта персанаж камедыйнага плана. А я надаў яму больш сур'ёзнае гучанне. Ён атрымаўся ў мяне камедыйна-драматычным. І публіка прыняла такую трактоўку вельмі добра. З таго часу я амаль у кожнай сваёй ролі спрабую вышукаць, выцягнуць з матэрыялу штосьці такое, каб дадаць сваім героям крышачку драмы.

Канешне, нацыянальны каларыт у таго ці іншага персанажа павінен быць. І дасягаецца гэта за кошт мовы, асаблівасці гаворкі ды яшчэ псіхалогіі паводзін ці, як цяпер кажуць, ментальнасці. Але ў глыбіні сваёй, па сутнасці, усе мужыкі — аднолькавыя, ці то ў Івана Мележа, ці то ў Барыса Мажаева. Я ў свой час, калі жыў у вёсцы, гэтулькі розных дзядоў пабачыў, што мне пасля не складала вялікай цяжкасці ўвасабляць іх на сцэне — не залежна ад таго, беларуская гэта класіка ці руская.


*Сцэна са спектакля «Таблетку пад язык».*

**— А як вы наогул працуеце над роляй?**

— Працую даволі марудна і пакутліва. Пакуль не ўчытаюся ў тэкст, не зразумею ўсе яго бачныя і нябачныя глыбіні, не разгадаю таямніцы характару свайго героя — нічога не будзе. Пасля мне трэба дакладна ведаць, чаго хоча ад мяне рэжысёр, і калі гэтыя патрабаванні сугучныя з аўтарам п'есы і са мною, то тады ўжо праца пойдзе нармальна.

Скажам, ставілі мы «Даходнае месца» Астроўскага. Я там іграў Юсава. Дык вось перш чым прыступіць да рэпетыцый, я перачытаў шмат літаратуры на гэту тэму. Хадзіў у Дом мастацтваў, там у нас была спецыялізаваная бібліятэка. Мне цікава было дазнацца, як ставілі гэты спектакль у іншых тэатрах, што пра іх пісала крытыка, як выконвалі ролю Юсава знакамітыя артысты — Ігар Ільінскі ў Малым тэатры, Уладзімір Уладамірскі ў нашым. І толькі пасля гэтага стаў шукаць сваё, адметнае рашэнне — прыдумваць герою некаторыя жэсты, інтанацыі, рэплікі, якія б больш поўна раскрывалі ягоны характар.

**— А калі ў вас праца над роляй заканчваецца?**

— Ніколі. Пакуль ставіцца спектакль — працягваецца і гэтая праца. Кожную сваю прыдумку правяраю на публіцы. Калі рэакцыя станоўчая, тая, якую я чакаў, тады прыдумку пакідаю, развіваю яе, дадумваю нешта яшчэ ў гэтым напрамку. Калі ж рэакцыя нулявая — значыць, знаходка мая няўдалая і ад яе трэба адмаўляцца, шукаць нешта новае.

Пасля кожнага спектакля яшчэ доўга ідзе «разбор палётаў»: вось тут крыху недайграў, а ў гэтым эпізодзе, наадварот, перайграў, а ў заключным маналогу дарма даў волю эмоцыям — яны павінны выказвацца не знешне, а глыбока ўнутрана. І не спіш да паўночы, круцішся на пасцелі, як на гарачай патэльні, пакуль жонка не скажа: «Ды спі ты ўжо! Колькі можна іграць?»

**— Генадзь Сцяпанавіч, а якія ролі вам іграць цікавей — станоўчыя ці адмоўныя?**

— Ну, прынята гаварыць, што цікавей адмоўныя. Таму што такі герой шматгранны, ён развіваецца, падаецца ў дынаміцы. А станоўчы — якім выйшаў на сцэну, такім і пайшоў.

У мяне ж адносіны да сваіх герояў крыху інакшыя. Я прытрымліваюся правіла, якое любіў паўтараць наш педагог Саннікаў: у адмоўным персанажы шукай станоўчае, а ў станоўчым — адмоўнае. Тады ён атрымаецца больш праўдзівым, паўнакроўным, жывым.

**— За сваё доўгае акцёрскае жыццё вы сыгралі не адзін дзясятак выдатных роляў. Роляў, якія сталі своеасаблівай класікай, увайшлі ў скарбніцу тэатральнага мастацтва. А ці ўсё, што хацелася, пра што марылася, удалося рэалізаваць?**

— Не ўсё. У свой час, напрыклад, я вельмі хацеў сыграць Швейка. Надта ж вабіла мяне гэтая роля. Мне здаецца, што я мог бы сыграць яе цікава. Яна, што называецца, цалкам мая, як быццам для мяне напісаная. Мог бы, але ўжо не сыграю — не тыя гады…

Марыў і мару сыграць Фірса. На мой погляд, чэхаўскі «Вішнёвы сад» сёння як ніколі актуальны. Мы перажываем тыя ж праблемы прадпрымальніцтва, што і ў часы Чэхава. А вобраз Фірса — яркае ўвасабленне чалавечай трагедыі, якую нясе разам з сабою непрадуманая, паспешлівая ломка старога.

Наогул, вельмі люблю чэхаўскую драматургію. Нядаўна на сцэне Купалаўскага паставілі «Чайку». На жаль, мяне туды не запрасілі. Яшчэ хацеў бы наноў вярнуцца да Чабутыкіна з «Трох сясцёр». Выкананне гэтай ролі ў свой час прынесла мне шмат станоўчых эмоцый.

**— Скажыце колькі слоў пра сваіх калег-купалаўцаў, бліжэйшых вашых партнёраў па шматлікіх спектаклях. На вялікі жаль, многія з іх пайшлі ўжо з жыцця, але пакінулі яркі, адметны след у гісторыі тэатра.**

— Самым блізкім маім партнёрам была народная артыстка СССР Галіна Макарава. Мая, як я часам жартую, чатырохразовая жонка — у чатырох спектаклях мы былі сямейнай парай. Іграць з ёю было няпроста. Яна была надзвычай патрабавальная партнёрша. Нават падчас вясковых гастроляў не давала расслабіцца, вымушала выкладвацца па поўнай. Але я хачу расказаць пра яе не як пра актрысу, а як пра чалавека. Пра яе дабрыню, увагу да людзей, душэўную шчодрасць.

Аднойчы наш тэатр выступаў у адным з калгасаў. Была позняя восень. Надвор’е ветранае, халоднае. Мы выйшлі з аўтобуса і амаль адразу ўбачылі маленькага хлопчыка, які сядзеў каля помніка партызанам. Апрануты ў адну кашульку, ён дрыжэў ад холаду.

— А Божачка ж ты мой! — пляснула рукамі Галіна Кліменцьеўна і падбегла да хлопчыка. — А чаго ж ты тут мерзнеш? Дзе твае бацькі?

— Дома. Яны п’яныя…

Галіна Кліменцьеўна махнула нам рукою, каб ішлі ў клуб, а сама ўзяла хлопчыка за руку і павяла ў магазін. Там купіла яму цёплую вопратку, прадуктаў і адвяла дадому.

І другі выпадак. Мы былі на гастролях у Палтаве. Пасяліліся ў гасцініцы і пакуль быў час выйшлі на вуліцу крыху размяцца пасля дарогі. І тут Галіна Кліменцьеўна заўважыла, што гасцінічная клумба зарасла пустазеллем. Ні слова не кажучы, узялася яе палоць. Праз паўгадзіны клумба была ў поўным парадку. Дзяжурная, якая выйшла на ганак, дужа здзівілася:

— О, глядзіце, дык тут жа кветкі растуць!

Даводзілася мне бываць і дома, у гасцях у Галіны Кліменцьеўны. Больш шчодрай і гасціннай гаспадыні я не сустракаў. Яна не толькі смачна карміла, але і пастаянна старалася даць каму-небудзь з бескватэрных калег прытулак. «Навошта вам начаваць у тэатры? Плошчы хапае, жывіце ў мяне…»

Гэткія ж простыя, шчырыя і душэўна шчодрыя былі і народныя артысткі СССР Лідзія Ржэцкая і Стэфанія Станюта. Іх любілі і паважалі ў тэатры. За талент. За тое, што ніколі не выказвалі ніякіх амбіцый, не фанабэрыліся сваёй славай. Ім не трэба было падаваць «Чайку», як якой-небудзь папсовай зорцы. Трэба дык і аўтобусам пад’едуць, а то і пяшэчкам пройдуцца. Яны не прыцягвалі лішняй увагі да сваіх асоб, не стваралі нікому ніякіх праблем.

Інтэлігентам вышэйшай пробы лічыўся ў тэатры Уладзімір Уладамірскі-старэйшы. І не толькі лічыўся, ён такім і быў. Мажная постаць, арыстакратычная выпраўка, заўсёды модна, з густам апрануты. Калі ён ішоў па вуліцы, сустрэчныя міжволі ўступалі яму дарогу. Гэта быў артыст дарэвалюцыйнага гарту. Многія хацелі б быць падобнымі на яго, але такое не сыграеш — такое даецца ад прыроды.

З Уладамірскім у мяне знаёмства было, можна сказаць, шапачнае. А вось з Паўлам Малчанавым адносіны былі самыя блізкія. Гэта таксама адзін са старэйшых купалаўскіх артыстаў. Ён быў у тэатры на асаблівым уліку, таму што выконваў ролі Леніна. Постаць — эталонная. І пры ўсім пры тым просты, адкрыты, душэўны чалавек.

Павел Сцяпанавіч з усіх маладых чамусьці вылучаў мяне. Апекаваўся мною. Часта запрашаў на рэпетыцыі народнага тэатра, які працаваў пры Палацы трактарнага завода. Пасля заняткаў ён звычайна дэталёва разбіраў кожную сцэну, аналізаваў творчыя ўдачы і промахі самадзейных артыстаў. Цікавіўся маёй думкай, і калі мы ў нечым не сыходзіліся, падрабязна, цярпліва тлумачыў сваю пазіцыю. Такім чынам ён далікатна настаўляў мяне, перадаваў сакрэты высокага акцёрскага майстэрства, у самым добрым сэнсе навучаў.

## Жывое жыццё жывога чалавека

**— А што вы можаце сказаць пра сучасны тэатральны працэс у цэлым? Ён вас радуе ці засмучае?**

— Засмучае. Магу адразу сказаць. Цяпер відавочны ўхіл у бок так званага рэжысёрскага тэатра. Гэта калі ўсё і ўсе падпарадкаваны волі, дыктату рэжысёра. Маё ж глыбокае перакананне: тэатр павінен быць як грузінскія спевы — на шмат галасоў. І, канешне ж, абавязкова патрэбен саліст. Які ж гэта хор без саліста? Вось тады гэта будзе тэатр! А калі ўсе на сцэне гавораць на адной інтанацыі, псіхалагічна невыразна — тады атрымоўваецца манатоннасць, а значыць, няпраўда, фальш.

Усё жыццё тэатр быў мастацтвам вялікай псіхалагічнай праўды. Глядач прыходзіць да нас па эмоцыі, а не па тое, каб яго здзіўлялі цыркавымі трукамі. Павінна быць менавіта мастацтва, а калі яго няма — глядач адчувае расчараванне.

Задача тэатра, кажучы па-руску, ***показать живую жизнь живого человека.*** Дабіцца гэтага — цяжка, вельмі цяжка. Але без гэтага няма мастацтва. У Льва Талстога ёсць адно характэрнае выказванне: «Здесь такое искусство, что его и не видно». Гэта ён сказаў пра адну з карцін Рэпіна. А паэт Яўген Вінакураў пра тое ж напісаў па-свойму: «Подайте мне смысл, не нужны мне слова. Моё мастерство — избежать мастерства».

Парадокс заключаецца ў тым, што сапраўднага майстэрства не дасягнеш без майстэрства. Важна, каб яно не выпірала, не тырчэла сваімі вострымі вугламі. Вышэйшы пілатаж, калі твайго майстэрства не бачна. У Пушкіна ў вершы «Ода чернильнице» ёсць геніяльныя радкі: «Смысла я в тебе ищу, я тебя понять хочу…»

Разумееце: сэнсу! Сэнс ёсць праўда. Вось гэта маё паняцце тэатра. І нават мастацтва ў цэлым. У той жа «Литературной газете» пісалі пра «Чорны квадрат» Малевіча. І адзін з крытыкаў правільна зазначыў: ты як хочаш называй такое штукарства — супрэматызм ці яшчэ як — мастацтвам яно ўсё роўна не стане.

Калі я гляджу на гэты твор, то мне не трэба дваццаць старонак тлумачэнняў. Я хачу атрымаць сваё асабістае ўражанне. А тут я, прабачце, ні храна не бачу.

Так і ў тэатры. Рэжысёры сталі спаборнічаць адзін з адным — у каго больш арыгінальна, больш эпатажна. Некаторыя спектаклі ператварыліся ў суцэльныя фокусы ці, як казаў Райкін, у рэкбусы і краксворды. Не падумайце, што я нейкі рэтраград. Я, безумоўна, за тое, каб на сцэне былі навацыі, эксперыменты, ішоў пошук сучасных выяўленчых сродкаў. Але ўсё гэта павінна быць у разумных межах. Каб пошук не ператвараўся ў самамэту, не засланяў, не закрэсліваў сэнс, ідэю спектакля.

**— У гэтай сувязі хачу запытацца вось аб чым. Як вы ставіцеся да інтэрпрэтацыі класікі на сцэне некаторых тэатраў?**



*Сцэна са спектакля «Пан Тадэвуш».*

— Я б сказаў не інтэрпрэтацыі, а інтэртрэпацыі. Класіка бязбожна калечыцца, перакручваецца. Выкідваюцца цэлыя акты, а вялікія кавалкі тэксту дапісваюцца, устаўляюцца ў спектакль. І ўсё гэта пад сцягам наватарства, асучасвання. Гледачам навязваецца неверагоднае. Алёша Карамазаў аказваецца жанчынай. Рамэа і Джульета — гомасексуалістамі. Чэхаўскую Алену Андрэеўну гвалцяць на стале… Гэта модна, сучасна. Але ж класіка таму і называецца класікай, што яна без усялякага дапісвання і перайначвання заўсёды сучасная і актуальная. А калі ўжо так свярбяць рукі, то напішы новую п’есу і стаў як хочаш. Навошта ж прыпісваць класіку тое, чаго ў яго няма. Скажам, трэці акт «Чайкі» — што здарылася з Нінай Зарэчнай праз трыццаць гадоў.

**— Чаму ж тады ў гэтыя модныя тэатры публіка валам валіць? Часам не купіць білет.**

— Мне здаецца, тут большая заслуга менеджара, чым рэжысёра. Плюс хітрая, прадуманая рэклама. Да таго ж заўсёды знойдуцца гледачы, якім падабаецца эпатаж, эксцэнтрыка, эротыка на грані фола. На жаль, аргументам «публіка прымае» маніпулююць цяпер як хочуць. Хаця вядома, што нават поўная зала — яшчэ не паказчык высокай якасці спектакля.

Зрэшты, цяпер у тэатральнай тэрміналогіі замест спектакля ўсё часцей ужываецца слова «праект». І нават «прадукт». Ну да прадукта адносіны вядомыя — яго ўжываюць. Мы губляем тэатр як агульную радасць, як месца духоўнага адзінства. Кажучы словамі Гогаля, як кафедру, з якой можна сказаць свету шмат дабра.

Тэатр паступова, але няўхільна ператвараецца ў месца скандалаў і эпатажу, працягам так модных зараз казіно і начных клубаў. І, канешне, месцам заробкаў, перш за ўсё любой цаной. А грамадства расплачваецца сапсаваным густам многіх гледачоў, іх зніжанай планкай маральнасці. Мы пачалі прывыкаць, што ў модных спектаклях абавязкова павінны быць голыя жанчыны, імітацыя блізкасці, наркотыкі, мат.

На працягу папярэдніх дзесяцігоддзяў вялікія рэжысёры ад Станіслаўскага і Меерхольда да Эфраса і Таўстаногава шукалі складаныя шляхі ўзаемадзеяння з класікай, пакутавалі ўсведамленнем сваёй недасканаласці, спрабавалі наблізіцца, пранікнуць у сутнасць, глыбіню геніяльных твораў. А сёння адзін маскоўскі крытык з так званых прагрэсістаў публічна і катэгарычна заявіў: тэатр вольны распараджацца тэкстамі класікаў як яму ўздумаецца. Літаратура, маўляў, не павінна вызначаць рэжысёрскія хады…

На шчасце, такія негатыўныя працэсы пакуль што не ўласцівыя беларускім тэатрам. Пакуль што… Але гэтая пошасць актыўна паўзе да нас з суседніх краін. Тэндэнцыя трывожная. Аднак калі пачынаеш пра гэта гаварыць, то цябе абвінавачваюць у рэтраградстве, абзываюць саўком і лузерам. І слоў жа якіх панапрыдумвалі…

**— Вы сказалі: тэатр ператвараецца ў рэжысёрскі. Што гэта значыць?**

— Гэта значыць, што рэжысёр — цар, Бог і воінскі начальнік. Неабмежаваны дыктатар. Акцёр для яго — пешка. Ён павінен ва ўсім бяздумна падпарадкоўвацца волі рэжысёра. Такі шлях непазбежна вядзе да дыскваліфікацыі акцёра, дэградацыі тэатра.

Другая крайнасць — адсутнасць рэжысёрскай волі. Не ўмешвацца ў ігру артыста — таксама не выйсце. Мы ж глядзім са сваёй званіцы, а ў рэжысёра цэласны малюнак спектакля, прадумана дакладная яго канцэпцыя.

У маёй практыцы быў адзін рэжысёр, які на рэпетыцыях сцэн кахання, гаварыў акцёрам: «Тут я вам не памочнік». Але пры такім падыходзе можна збіцца на меладраму, упасці ў слязлівасць, нават у слюнцяйства. Зайсці ў тупік.

Рэжысура абавязкова павінна быць! Пошук выканаўцы ролі неабходна весці сумесна з рэжысёрам. Ён павінен зачапіцца за мяне і зразумець, чаго я хачу, тады і я зразумею, што пастаноўшчык прапануе мне. Рэжысёр павінен знайсці ў акцёры нешта такое, чаго ён нават не падазраваў, што можна так сыграць.

Быў такі выпадак. У мяне не ішла роля Бобчынскага — не знаходзіў патрэбнай інтанацыі. І вось Валерый Раеўскі, рэжысёр спектакля, мне кажа:

— А вы падумайце. Там у яго ёсць адна фраза: «А калі давядзецца быць у Пецярбургу, то і там скажыце, вось, маўляў, жыве ў такім-та горадзе Павел Іванавіч Бобчынскі. Так і скажыце…» Гэта ж такая глыбіня за гэтым адкрываецца. Сапраўдная чалавечая трагікамедыя.

Я падумаў і ўбачыў сваю ролю ў зусім іншым святле. Вось яна роля рэжысёра: падказаць акцёру, што ён можа сыграць яшчэ і гэтак.

**— Дарэчы, пра Валерыя Раеўскага, якога вы ўзгадалі. Наколькі я ведаю, усе лепшыя, найбольш значныя ролі вы сыгралі ў яго пастаноўках. Як вам з ім працавалася? Ці можаце вы сказаць, што гэта ваш рэжысёр?**

— Магу. Сапраўды, усё лепшае я сыграў ў спектаклях Раеўскага. Хаця напачатку былі некаторыя непаразуменні. Ён успрымаў мяне як акцёра даволі вузкага амплуа, даручаў ролі другога і ў асноўным камічнага плана. А я, у сваю чаргу, недаацэньваў яго, лічыў, што ён рэжысёр з дыктатарскімі замашкамі. Да таго ж не любіць і не разумее беларускую драматургію.

**— А калі ў вашых узаемаадносінах наступіў пералом?**

— Гэтаму дапамагла драматургія Макаёнка. Героі яго п’ес арганічна леглі на мае, як кажуць у тэатры, псіхафізічныя асаблівасці. І Раеўскі гэта адчуў, стаў давяраць мне практычна ў кожным спектаклі галоўныя ролі. Дарэчы, на макаёнкаўскай драматургіі адбылося не толькі маё акцёрскае ўзыходжанне, але і станаўленне Раеўскага як рэжысёра. Рэжысёра сур’ёзнага, глыбокага, з добрым адчуваннем народнай стыхіі, нацыянальнага каларыту.

Гэта быў мой рэжысёр яшчэ і таму, што ён умеў, як я ўжо адзначаў, бачыць патэнцыял акцёра, яго глыбінныя магчымасці. У яго была, кажучы словамі Саннікава, дакладная думка і канкрэтныя дзеянні. А калі дакладная думка, то цяжка сысці ўбок. Ён задаваў мне абсалютна канкрэтную задачу. І тады ў мяне ўзнікалі канкрэтныя дзеянні і правільныя эмоцыі. Як у Пушкіна (цытую па памяці): «В условиях жизни роли, в полной аналогии с ней мыслить, хотеть, стремиться, действовать, находясь на подмостках сцены, — значит верно играть роль».

І Раеўскі гэта выдатна разумеў, давяраючы акцёру, дапамагаючы яму як мага больш поўна раскрыцца. А калі ж рэжысёр думае, клапоціцца толькі пра сваё самавыяўленне, нават сваё самапраяўленне, то акцёр застаецца ў цені. Ён — марыянетка, ён нічога не робіць.

## Тэатр як прадчуванне

**— Вернемся, аднак, да прычын таго негатыўнага, што адбываецца сёння ў тэатры. Відаць, вінаваты ў гэтым не толькі рэжысёры, але ў пэўнай ступені і драматургі.**

— Безумоўна. Сучасная драматургія мне падаецца нейкай дзіўнай. Яна чамусьці абыходзіць вострыя, актуальныя праблемы сённяшняга дня. Усё больш цікавіцца мінулым. Але і тут няма глыбіні, сапраўднай псіхалогіі. За аснову бярэцца якая-небудзь легенда і вакол гэтага прыдумваецца, накручваецца шмат рознага. Ідуць развагі з пазіцый сучаснасці. Бясконцае шматслоўе. Мне гэта нецікава. Трэба каб падзеі, якія адбываюцца на сцэне, глыбока хвалявалі гледача, каб у яго ком стаяў у горле. А гэтага няма. З тэатра, як гаварыла Ранеўская, знікае «трепет».

**— Як вы ацэньваеце маладую змену, што прыйшла, прыходзіць у тэатр?**

— Звычайна кажуць: моладзь добрая, проста мы яе не разумеем. А мне здаецца, не ў разуменні справа. Трэба маладым даваць працу і карпатліва працаваць з імі. А то далей масоўкі не пускаюць. Таму і яркіх, самабытных асоб няма. Як няма і выдатна сыграных роляў.

Хаця і саміх маладых ёсць у чым папракнуць. Нейкія яны пасіўныя, абыякавыя. Некалі нам, студэнтам, наш педагог Саннікаў гаварыў: «Ідзіце на вакзал, на рынак, у піўную. Там вы ўбачыце столькі цікавага, неабходнага артысту, што такога ні ў якой аўдыторыі не прыдумаеш». І мы ішлі, прыглядваліся да розных народных тыпажоў, стараліся прыкмячаць іх інтанацыі, жэсты, міміку. А пасля пераносілі ўсе гэтыя дэталі ў спектакль.

У тэатры з першых крокаў імкнуліся вучыцца ў старэйшых, знакамітых майстроў сцэны. Не ленаваліся лішні раз пабыць на іх рэпетыцыях, не сароміліся папытацца іхняй падказкі, парады. Цяпер такога няма…

**— А можа, за гэтым стаіць нешта большае, чым абыякавасць — нізкі статус артыста ў грамадстве, малапрэстыжнасць прафесіі.**

— Можа. Цяпер сапраўды да артыста няма той павагі, той пашаны, што былі некалі. Расказваюць, што раней калі ішоў Васіль Іванавіч Качалаў, дык увесь праезд Мастацкага тэатра спыняўся. Альбо калі ішоў наш Уладзімір Іосіфавіч Уладамірскі (што я сам не раз бачыў), з кіем, з бародкай-эспаньёлкай, часам нават пры ордэнах (любіў іх насіць), дык з ім віталіся, як з губернатарам.

Цяпер хто на такое можа разлічваць? Да таго ж, наша прафесія надзвычай залежная ад рэжысёра, неўнармаваная. Я прыходжу ў тэатр на рэпетыцыю а 11 гадзіне раніцы, пасля забягаю дадому перакусіць, а ў палавіне шостай зноў іду ў тэатр і вяртаюся ў лепшым выпадку а дзясятай вечара. Ды і ў матэрыяльным плане акцёрская прафесія не самая грашовая.

І тым не менш, калі ты ўжо абраў тэатр сваім лёсам, то абавязаны служыць яму, тэатру, верай і праўдай. Абыякавасць, халтура не можа мець ніякага апраўдання.

**— Вялікую ролю ў павышэнні іміджу артыста, яго выхаванні і станаўленні як прафесіянала магла б іграць крытыка. Я ўжо не кажу пра яе ўплыў на сучасны тэатральны працэс.**

— Магла б. І ў свой час яна іграла. Дастаткова прыгадаць аналітычныя артыкулы Бялінскага, прысвечаныя тэатру. Асабліва той, дзе ён разбірае Качалава ў ролі Гамлета. Перачытваючы гэты артыкул, я і сёння знаходжу там шмат карыснага для сваёй работы.

А цяпер? Калі і з'явіцца якая рэцэнзія, то гэта будзе, як правіла, пераказ зместу спектакля ды пералічэнне: хто якую ролю выконваў. І ў заключэнне сакраментальнае: на жаль, пастаноўцы чагосьці трошкі не хапае… Чаго? Колькі? Здагадайся, маўляў, сам. Мне такая крытыка не патрэбна.

**— У тэатры, як і ў кожнай жывой справе, цягам часу адбываюцца пэўныя змены. І гэта натуральна. А ці заўважаеце вы, артысты, што ў нечым мяняецца і сама публіка?**

— Мяняецца. Калі я толькі прыйшоў у Купалаўскі, у тэатры ішоў спектакль «Канстанцін Заслонаў». І там была такая сцэна. У дэпо прыходзіць немец, прастуджаны, закручаны ў шалік. І калі ён чыхае, адзін з рабочых кажа яму: «Каб ты здох!» — «Вас, вас?» — перапытвае немец». — А другі рабочы тлумачыць: «Гэта ён кажа, які ты прыгожы, каб табе вочы на лоб павылазілі!» Гледачы пры гэтым ажно клаліся ад рогату. І ўзнагароджвалі артыстаў бурнымі воплескамі.

Пасля, недзе гадоў праз пятнаццаць, у тэатры зрабілі іншую рэдакцыю спектакля. Ён стаў больш дынамічным, сучасным. Сцэну з немцам, аднак, захавалі ў першапачатковым варыянце. І што? Рэакцыя публікі была ўжо даволі стрыманай. Яно і зразумела. Першы спектакль ставіўся на пачатку пяцідзясятых, пасля вайны прайшло няшмат часу, і ўсё яшчэ ўспрымалася востра, эмацыянальна. А на другой пастаноўцы публіка была ўжо іншай.

Ці такі, скажам, прыклад. У спектаклі «Вечар» у адным з эпізодаў гучыць мелодыя «Лявоніхі». І ўся зала пачынае пляскаць у ладкі. У драматычным тэатры?! І ніхто не патлумачыць гледачам, што гэтага рабіць не варта. Па-першае, гэта не канцэртная зала. А па-другое, воплескамі заглушаецца тэкст. Але сённяшняя публіка лічыць, што гэта нармальна.

І разам з тым, калі ў тым жа «Вечары» я прамаўляю заключны маналог, вельмі эмацыянальны маналог, то ў зале ўсталёўваецца глыбокая цішыня. І нават калі пачынае гаснуць святло, цішыня ўсё яшчэ стаіць. Гэта дорага каштуе. Значыць, спектакль адбыўся: артысты здолелі данесці да гледачоў тое, што хацеў сказаць аўтар. І што сённяшнія гледачы, нягледзячы на знешнія, павярхоўныя змены, у глыбіні сваёй засталіся чуйнымі да сапраўднага мастацтва.

**— У свой час, калі з’явілася тэлебачанне, многія прарочылі, што яно заб’е тэатр. На шчасце, прароцтва гэтае не збылося. І хаця тэлебачанне за мінулыя гады сапраўды стала неад’емнай і вельмі важнай часткай грамадскага жыцця, аднак і тэатр жыве і, калі не квітнеее, то і не марнее.**

— Тэатр жыве і будзе жыць. Таму што сядзець згорбіўшыся каля гэтай скрыні і глядзець абы-што — нецікава. Як нецікава чытаць «Вайну і мір» з планшэта. Мне трэба гартаць старонкі, удыхаць пах друкарскай фарбы, атрымоўваць асалоду ад малюнкаў, адным словам, адчуваць з кнігай жывую, непасрэдную сувязь.

Тое ж і з тэатрам. Ён прыцягвае жывымі зносінамі, суперажываннем гледача і артыста. Калі я заплачу на сцэне, то нехта ў пятым альбо ў дзясятым радзе абавязкова заплача таксама. У адрозненне ад кіно і тэлебачання на сцэне дзеянне адбываецца тут і зараз, глядач становіцца як бы непасрэдным яго ўдзельнікам. Гэта самы эмацыянальны від мастацтва. Я асабіста ўспрымаю тэатр як прадчуванне. Прадчуванне праўды, справядлівасці, будучыні.

## Яшчэ не вечар

**— Генадзь Сцяпанавіч, давайце крыху зменім тэму. Я вось аб чым хачу ў вас запытацца. Вы — народны артыст Савецкага Саюза. Ці не шкадуеце, што такой краіны ўжо няма?**

— З аднаго боку, шкадую. Там было вельмі многа добрага. У рэшце рэшт і народным артыстам СССР я стаў пры савецкай уладзе, хаця атрымаў гэтае званне адным з апошніх, лічы адначасова з развалам краіны. А з другога боку, чаго шкадаваць? Гісторыю наноў не перапішаш, таго, што было, не вернеш назад. Таму я настальгірую не гэтулькі па страчанай краіне, колькі па сваіх маладых гадах, па тым, што некалі меў і мог (усміхаецца).



*З Галінай Макаравай у спектаклі «Трыбунал».*

**— Ваш Аўдзей — чалавек ад зямлі. І тое, як вы паказвалі яго, раскрывалі трагедыю колішняга земляроба, уражвала сваёй праўдзівасцю, шчырасцю. Праўда, цяпер цяга да зямлі, здаецца, аслабла ў людзей. Ва ўсякім разе, у мяне складваецца такое ўражанне. А якое ўражанне наконт сучаснай вёскі ў вас?**

— Ведаеце, апошнім часам я рэдка бываю ў вёсцы. Гастроляў па калгасах цяпер амаль не надараецца. А са сваякоў на малой радзіме нікога не засталося. Да каго паедзеш у госці?

Апошні раз у вёсцы я быў пятнаццаць гадоў таму. Калі здымалі кінафільм «Свежына з салютам». Дык мяне што ўразіла? Нумарацыя дамоў заканчвалася на лічбе 50, а жыло ўсяго дванаццаць чалавек.

Не думаю, што сітуацыя цяпер значна палепшылася. Драматычны момант перажывае вёска. Тыя, з кім мне пра гэта даводзілася гаварыць, сцвярджаюць: галоўная праблема ў тым, што цяперашні селянін не адчувае сябе гаспадаром. Няма матэрыяльнай зацікаўленасці. На сваіх сотках ён шчыруе, а ў калгасе — пусці павалюся.

**— Скажыце, калі ласка, творчы чалавек можа быць па-за палітыкай?**

— Можа. Мяне, напрыклад, гэтая сфера доўгія гады мала цікавіла. Праўда, цяпер і я стаў палітызаваны — сачу за падзеямі ва Украіне. А каб спецыяльна гэтым займацца — барані божа!

**— А пайсці на плошчу, памітынгаваць?**

— Не, у гэтую таўпень ніколі не пайду. Я не зусім разумею, хто чаго хоча і хто каго «падзаводзіць» на такіх мерапрыемствах. Ад таго, пайду я на плошчу ці не пайду, фінансаванне культуры і, у прыватнасці, Купалаўскага тэатра не палепшыцца. У нас сёння з-за недахопу грошай пераносяцца многія прэм'еры. Вось каб мітынг быў на гэтую тэму, можа, і пайшоў бы на плошчу.

**— Сярод творчай інтэлігенцыі модна складаць розныя маніфесты, калектыўныя пісьмы. Як вы адносіцеся да такога роду палітычнай, грамадскай актыўнасці?**

— Адмоўна. Я аднойчы, не падумаўшы, падпісаў адно скандальнае пісьмо, дык мяне на доўгія гады адлучылі ад радыё. Было гэта ў перыяд перабудовы. Тады ж, як вы ведаеце, развялося дужа многа розных ахвотнікаў усё ламаць, перабудоўваць. Вось і на радыё ўзяліся старыя, папулярныя перадачы выкідваць з эфіру, а ўводзіць новыя — пустыя, папсовыя, бездухоўныя, маўляў, людзям надакучыла ідэалогія, яны хочуць лёгкасці і забаўляльнасці. Ну мы, група купалаўцаў, якія актыўна працавалі на радыё, і вырашылі выказаць сваю нязгоду.

**— Вас часта называюць сапраўдным беларусам. Ды і на сцэне вы сыгралі шмат яркіх, каларытных народных тыпаў. Дык які ён, беларускі нацыянальны характар?**

— О, хто ж гэта можа сказаць. Тут усё вельмі індывідуальна, рухома. Адно для мяне ясна: не такі ён просты, беларус, як яго малююць. Вазьміце майго Цярэшку Калабка. Здавалася б, звычайны вясковы пастух. А здолеў жа дзякуючы сваёй сялянскай вёрткасці і розуму перахітрыць усіх немцаў і паліцаяў.

Наогул, беларусы — вельмі розныя. Скарына, Машэраў, Макаёнак, Савіцкі… Як іх усіх падагнаць пад адзін штамп? Але калі ўсё ж вызначаць галоўныя нацыянальныя рысы, то я назваў бы перш за ўсё цярпенне, мудрасць, памяркоўнасць. І, бадай, яшчэ інтэлігентнасць.

**— Інтэлігентнасць? Нечакана. А што вы ўкладваеце ў гэтае паняцце?**

— Інтэлігент у маім разуменні — чалавек культурны, выхаваны, далікатны. Не ў сілу адукаванасці, а па сваёй прыродзе, сваёй генетыцы. Іншы вясковы дзядуля бывае куды больш інтэлігентны, чым нейкі аглаед з дыпломам.

У чым гэта выяўляецца? Ды ва ўсім: у паводзінах, у гаворцы. Нават у маўчанні. Вельмі добра сказаў пра гэта Васіль Быкаў. Па яго словах, інтэлігент — гэта чалавек, які не займае многа месца. Прыйшоў на сход, сеў і ціхенька слухае.

Для мяне асабіста інтэлігентны чалавек — гэта той, хто хаця б краем вуха чуў пра дзесяць запаведзей. Культурны чалавек выпраменьвае нейкае асаблівае святло, я называю яго духоўным харастсвам. Калі хочаце, дык свет выратуе менавіта духоўнае хараство.

**— Генадзь Сцяпанавіч, а як бы вы вызначылі галоўную рысу свайго характару?**

— Я па жыцці — весялун, жартаўнік. Праўда, з гадамі раблюся ўсё больш сур'ёзным, журботным. І калі раней я любіў пасля спектакля зайсці ў «мутнае вока» (было такое кафэ ў Доме мастацтваў), узяць чарку, пагаманіць з калегамі з іншых тэатраў, то цяпер аддаю перавагу ўтульнай хатняй адзіноце. Шумныя шматлюдныя тусоўкі не па мне. Я там адразу бачу няшчырасць, выпендрож. Мне там прыкра. Так што калі гаварыць пра мой характар, то пры ўсёй маёй знешняй весялосці я хутчэй воўк-адзіночка.

**— А сябры ў вас ёсць? З кім з творчых людзей вы сустракаецеся, любіце пагаманіць?**

— Самы блізкі мой сябар памёр. Віктар Тарасаў. Дарэчы, калі я паступаў у мараходку, туды ж паступаў і Віктар. Але мы адзін аднаго тады не зналі. Такі вось цікавы факт.

**— Напэўна, вы былі блізкія з Андрэем Макаёнкам?**

— Не скажу, каб адносіны былі блізкія, але вельмі цёплыя, шчырыя. Мы любілі адзін аднаму расказваць вясёлыя гісторыі, анекдоты. Андрэй Ягоравіч разумеў і цаніў гумар. Тут у нас з ім было поўнае адзінства.

А яшчэ казалі, што Макаёнак пісаў свае п'есы спецыяльна для мяне. Гэта няпраўда. Ён пісаў пра тое, што яго хвалявала, што яму балела. Яго драматургія — адбітак часу. Яго персанажы — людзі тых дзён. І ён выдатна раскрыў іх характары. Хаця, канешне, некаторыя макаёнкаўскія п'есы цяпер ужо ўспрымацца не будуць, яны ранейшую актуальнасць страцілі. Аднак сваю ролю сыгралі. Па іх можна вывучаць нашу гісторыю, псіхалогію савецкіх людзей — як мы жылі, чым мы жылі.

Іншая справа, што многія яго персанажы арганічна падыходзілі пад мой характар, пад мае асаблівасці — як быццам пісаліся для мяне. Андрэй Ягоравіч часам казаў: «Пішу для цябе маналог». І пасля на рэпетыцыі вельмі патрабавальна адносіўся да таго, як я агучваю гэты маналог. Напрыклад, у «Таблетцы пад язык» ёсць такі тэкст: «Гэтая зямля за тысячы гадоў прамокла ад людскога поту, набракла ад горкіх мужычых слёз… Ступі на яе, дык яна ж чвякае!» Мой першы варыянт Макаёнак забракаваў, сказаў, што неяк вельмі лёгка ўсё гэта ў мяне атрымоўваецца, а трэба прамаўляць гэты тэкст так, каб у людзей рэальна зачвякала у вушах. Яму тут не хапала маіх эмоцый, я шукаў іх і ў рэшце рэшт знайшоў.

**— З кім яшчэ з беларускіх пісьменнікаў вы былі знаёмыя?**

— З вялікай прыемнасцю сустракаўся заўсёды з Янкам Брылём. Гэта быў чалавек-энцыклапедыя. Колькі ён усяго ведаў! Бывала, пагаворыш з ім паўгадзінкі і абавязкова дазнаешся аб нечым новым, цікавым. І не толькі ў літаратуры, але і ў іншых сферах жыцця. На кожную падзею ў яго быў свой погляд. Погляд мудрага, вопытнага чалавека. Я многаму вучыўся і вучуся ў Брыля-пісьменніка. І найперш — мове. Багатай, народна спеўнай, вобразнай, сакавітай. Чытаць і перачытваць ягоныя кнігі — чыстая асалода. Дарэчы, Іван Антонавіч падарыў мне сваю кнігу «Ад сяўбы да жніва» з вельмі цёплым, кранальным надпісам.

**— А сёння ў вас многа сяброў?**

— Сяброў многа не бывае. Даруйце за банальнасць, але гэта сапраўды так. Калі ёсць хоць адзін чалавек, да якога ў любы час можна прыйсці і са сваімі бедамі, і са сваім радасцямі, то ты ўжо, лічы, не абдзелены Богам. Для мяне сёння такі чалавек — Іван Міско. Дзверы майстэрні гэтага выдатнага скульптара, знакамітага майстра заўсёды адчыненыя для сваіх сяброў. І я гэтым пры першай жа магчымасці карыстаюся, каб зайсці да Івана Якімавіча, перакінуцца словам-другім, адвесці, што называецца, душу.

**— Ворагі ёсць?**

— Бог мілаваў. А вось зайздроснікі, нядобразычліўцы ёсць. Але я вышэй за гэтыя пачуцці.

**— Звычайна ў тэатры бытуе шмат розных баек, легенд, розыгрышаў. Напэўна ж, і вы ў гэтым не раз удзельнічалі.**

— Было, было. Памятаю, знаходзіліся мы на гастролях у Пінску. І Гарбук разбіў акуляры. А паколькі я не ўдзельнічаў у рэпетыцыі, то ён папрасіў мяне схадзіць у аптэку і заказаць новыя акуляры. Плюс тры з палавінаю. Я пайшоў і заказаў: на левае вока плюс тры з палавінаю, а на правае — мінус тры з палавінаю. Прынёс яму, падаю. А ўся трупа ўжо ў курсе справы, стаяць чакаюць, што ж будзе. Генадзь уздзявае акуляры і тут жа спалохана здымае: «О-ёй, нешта не тое». Пахукаў, працёр — зноў не тое! А ўсе вакол ужо кладуцца ад рогату.

Ці яшчэ. У спектаклі «Рудабельская рэспубліка» я іграў польскага салдата, а Кармунін — мужыка. У адным з эпізодаў Кармунін просіць у мяне хлеба: «Есці так хочацца, аж пуза да хрыбта падцягнула». Я падаю яму скібку: «Дык проша». Кармунін са смакам жуе і кажа: «А хлеб у вас такі ж, як і ў нас — з аўцюкамі». У тэатры гэтая сцэна праходзіла нармальна. А на гастролях я вырашыў разыграць Кармуніна. Дамяшаў у скібку перцу, гарчыцы, солі і ў адпаведны момант падаю яму: проша. Кармунін адкусвае і пачынае ўжо сваю фразу: «А хлеб у вас…» І тут раптам твар яго перакошвае грымаса: «Цьфу! Сволач…» Гледачы так нічога і не зразумелі, падумалі, што так і трэба, а мы пасля спектакля доўга пацяшаліся над бедным Кармуніным. Трэба сказаць, што за розыгрышы ніхто ніколі не крыўдзіўся.

Што і казаць, раней было весялей. Цяпер і розыгрышаў стала меней. Усё — грошы, грошы, грошы…

**— Генадзь Сцяпанавіч, вы справілі даволі салідны юбілей. Як сябе адчуваеце?**

— Адчуваю някепска. Калі б было інакш, то не выходзіў бы на сцэну. Неяк суседка мне сказала: «Няўжо вам ужо 80? Я б ніколі не падумала. Ад сілы дала б 79».

**— На бенефісным спектаклі «Вечар», які давалі ў тэатры з нагоды вашага юбілею, Аляксей Дудараў сказаў: «Калі я ўбачыў, як абіраецца бульбіна, я ўспомніў усіх сваіх продкаў, якіх не ведаў і ведаць нават не мог. Я ўспомніў усю Беларусь, вось яна была перада мной у вобразе Мульціка. «Вечар» павінен жыць! Яшчэ не вечар». Думаецца, наш знакаміты драматург меў на ўвазе не толькі спектакль, але і выканаўцу галоўнай ролі Мульціка-Аўсяннікава.**

— Напэўна. А я і сам так думаю: яшчэ не вечар!

**— Чым падтрымліваеце сваё здароўе?**

— Раней займаўся спортам. Падымаў гіру. Хадзіў нават на трэніроўкі ў інстытут фізкультуры. Цяпер толькі рэгулярна раблю зарадку.

**— Прытрымліваецеся дыеты?**

— Каб спецыяльна, то не. Калі падымаецца халестэрын — збіваю яго ўжываннем марской капусты. Менш ем макаронаў. Ды яшчэ раніцаю п'ю перапёлчыны яйкі.

**— А як наконт шкодных звычак?**

— З задавальненнем магу выпіць шклянку-другую сухога чырвонага віна. Здараецца прымаць і больш моцныя напоі. Але без фанатызму. А вось курыць кінуў даўно, гадоў дваццаць таму. Як зараз помню, прыйшоў купляць свае любімыя цыгарэты «Космос». А яны тады прадаваліся па талонах. І на вагу. Адважылі мне недзе грамаў дзвесце. Прычым без фільтру. Узяў я гэты пакунак і думаю сам сабе: «Во, дажыліся!» І так мне стала прыкра, што я выкінуў гэтыя цыгарэты ў сметніцу і з таго часу больш не куру.

**— Вы адчуваеце сябе шчаслівым чалавекам?**

— Як вам сказаць… З аднаго боку, канешне, я чалавек шчаслівы — нічым і нікім не пакрыўджаны. Працую ў лепшым тэатры краіны, заняты ў лепшых спектаклях гэтага тэатра.. Што яшчэ трэба? А з другога боку, для поўнага шчасця заўсёды нечага не хапае.

**— Дык што ж гэта за такая няўлоўная птушка — шчасце?**

— А яно сапраўды няўлоўнае. Пастаяннага шчасця не можа быць. Гэта своеасаблівая эйфарыя, узлёт унутранага стану з нагоды нечага табой зробленага. Скажам, атрымалася роля. Але заўтра яна можа не атрымацца… Пастаяннае шчасце адчувае хіба толькі блазен, юродзівы.

**— Тады яшчэ адно філасофскае пытанне. У чым сутнасць чалавечага жыцця?**

— «Мыслить и страдать» — як сказаў Пушкін. Мысліць — значыць існаваць, жыць. А пакутаваць — гэта працаваць У любой працы ёсць элемент пакуты. Вось я працую над роляй: ноччу не сплю, іграю, пераігрываю, пакутліва шукаю патрэбную інтанацыю, неабходныя штрыхі, дэталі. Без гэтага поспеху не будзе. А без поспеху траціцца сэнс жыцця.

**— Прызнайцеся шчыра: на пенсію хочацца?**

— Хочацца. Але я не адчуваю, што ўжо даігрываю. Аднак рана ці позна гэтае адчуванне прыйдзе. І тады трэба быць чэсным і мужным і адмовіцца ад галоўных роляў. А пакуль рэжысёр мне давярае і я давер ягоны апраўдваю — буду іграць. Праўда, цяпер я заняты ў тэатры значна меней — шэсць-сем спектакляў за месяц. Часам каля дошкі размеркавання роляў маладыя акцёры ў мяне пытаюцца: «Дзядзька Гена, а чаму вас тут няма?» Я ім жартам адказваю: «Перад вечным спакоем трэба трохі і перадыхнуць. Бо там могуць сур'ёзна запытацца…»

**— І на заканчэнне яшчэ адно, амаль філасофскае пытанне. Што б вы хацелі пажадаць сабе самому?**

— Гэта не філасофскае, а самае звычайнае, жыццёвае пытанне. Адказваю: каб не задумвацца, дзе ўзяць грошы. Без грошай не працуе машына нашага жыцця. Без грошай немагчыма асабістая незалежнасць. Як кажа адзін з герояў горкаўскай п'есы «Ворагі», «все человеческое на земле медью отравлено. Вот так-то, милая барышня…»

І яшчэ хацеў бы сабе пажадаць, каб заўсёды праходзіць міма аптэкі.

**— Хай жа яно так і будзе! Дзякую, Генадзь Сцяпанавіч, за гутарку.**

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

Гэтая і падобныя працы маюць міждысцыплінарны характар: да тэорыі літаратуры далучаюцца этнапсіхалогія, лінгвістычная геаграфія, філасофія, культуралогія. Дзякуючы такому характару дзейнасці, увесь час знаходзім новыя нюансы культурных судакрананняў ці адрозненняў у светапоглядзе, мысленні ўкраінцаў і беларусаў. Немалую дапамогу ў нашай працы, несумненна, аказала і актыўнае ўзаемадзеянне з Інстытутам літартуры імя Т. Шаўчэнкі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны, якое вядзецца з 1998 г.

Усе мы ведаем, што ў свядомасці беларусаў склаўся пэўны стэрэатыпны вобраз украінца, як і ўкраінцы па-свойму ўяўляюць нас. Цікава б было даследаваць гэтыя ўяўленні, як і трактоўку, інтэрпрэтацыю нашымі народамі знакавых гістарычных падзей у краінах адно аднаго ў адпаведнасці са сваім досведам, інтэлектам.

У сённяшнія часы ва ўмовах інтэграцыі ў еўрапейскі і сусветны кантэкст вельмі важна захаваць еднасць Украіны і Беларусі ў сферы духоўнасці і мастацкіх набыткаў.

**Вячаслаў РАГОЙША, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ:**

— Праблемы беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей, прапаганды ўкраінскай літаратуры ў Беларусі дасягнулі значных вышынь, апярэдзіўшы адпаведныя даследаванні ва Украіне. Нашыя суседзі не могуць на сённяшні момант пахваліцца такімі ж грунтоўнымі вучэбнымі дапаможнікамі па сувязях з літаратурай Беларусі. У нас жа, толькі на філалагічным факультэце БДУ, намаганнямі Т. Кабржыцкай, М. Хмяльніцкага, П. Навойчыка, Э. Дзюкавай, В. Рагойшы, У. Рагойшы, пабачылі свет наступныя вучэбныя дапаможнікі: «Фальклор і літаратура: феномен беларуска-польска-ўкраінскага культурнага сумежжа», «Нарысы суседазнаўства. Украіна, Польшча ў прасторы і часе вачыма беларусаў», «Гісторыя ўкраінскай літаратуры. Украінска-беларуска-польскія літаратурныя дыялогі» (у 2 частках), «Украінская літаратура і ўкраінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі» (у 3 частках), «Украінская літаратура: хрэстаматыя» (выйшлі 3 часткі з 5), «Гісторыі славянскіх літаратур і праблемы іх параўнальнага вывучэння: тэорыя і практыка». Назіраем і развіццё практыкі перакладу. Апошнім часам, дзякуючы Выдавецкаму дому «Звязда» і прыватным выдавецтвам (напрыклад, Выдавецтву Зміцера Коласа), з'явіліся шматлікія цікавыя перакладныя выданні.

Я асабіста спрычыніўся да выдання, прымеркаванага да 150-годдзя з дня нараджэння Івана Франка. У кнігу ўвайшлі творы абсалютна align рознага жанру, некаторыя з іх да гэтага часу не перакладаліся на беларускую мову. Выданне выйшла пры падтрымцы Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь. Таксама, як і да 200-годдзя Тараса Шаўчэнкі мы з Таццянай Кабржыцкай уклалі збор яго твораў, фактычна «Кабзар» у яго класічным варыянце, г.зн. адбіраліся пераклады не па крытэрыі часу перастварэння (не аддавалі перавагу найбольш сучасным), а па крытэрыі якасці, каб паказаць той узровень, замацаваны канон, якога дасягнула беларуская перакладчыцкая школа. Так, выдатнымі з'яўляюцца яшчэ даваенныя пераклады Змітрака Бядулі, Аркадзя Куляшова і інш. класікаў нашай літаратуры. Бо ствараць новыя пераклады без уліку зробленага раней — справа сумнеўная і марная. Новы пераклад мае права на жыццё толькі ў тым выпадку, калі ён пераўзыходзіць існуючы.

**Андрэй ХАДАНОВІЧ, паэт, перакладчык, старшы выкладчык кафедры замежных літаратур філалагічнага факультэта БДУ, старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра:**

— У сённяшняй сітуацыі, калі ў нашых бліжэйшых суседзяў да гэтага часу працягваецца вайна і распальваюцца палітычныя канфлікты вакол іх, мы, канешне, павінны множыць нашу еднасць і гаварыць на мове любові, не спекулюючы на варожасці і антыўкраінскіх настроях.

Гэткай ідэяй кіраваліся арганізатары ініцыятывы, звязанай з Выдавецкім домам «Логвінаў» — гадавой акцыяй «Зразумець Украіну», якая рэалізуецца ў самых розных пляскасцях. Па серадах я з калегамі праводжу імпрэзы, якія называюцца «Серадовішчы», прысвечаныя класіцы і сучаснасці ўкраінскай літаратуры. На імпрэзах, якія адбыліся, гучала паэзія Васіля Стуса, Юрыя Андруховіча і інш. Таксама ладзяцца прагляды ўкраінскага кіно (прынамсі, глядзелі «Цені забытых продкаў» С. Параджанава), спеўныя сходы, каб дзяліцца пазітыўным, добрым, сяброўскім.

І што ўнікальна, беларуска-ўкраінскія кантакты могуць абсалютна эфектыўна праходзіць без мовы-пасярэдніка. Украінец, які думае і размаўляе на роднай яму мове, з лёгкасцю без перакладу разумее беларускую… З гэтага вынікае нават жудасная для перакладчыка думка аб непатрэбнасці ў камунікатыўным плане перастварэння з мовы на мову. Аднак мастацкі пераклад — гэта часта прызнанне ў любові да аўтара арыгінала ці спосаб звярнуць увагу суайчыннікаў на выбітны твор іншай літаратуры (як робіць зараз Аляксандр Ірванец, перакладаючы Уладзіміра Арлова). Аддаў сваю «творчую пазыку» і Уладзімір Арлоў, пераклаўшы раман Ірванца «Сцяна», на жаль, усё больш актуальны зараз. І варта заўважыць, што такія творчыя тандэмы былі ва ўсе часы. Не мог Барадулін не перакладаць Драча, як і Драч не мог не прэзентаваць украінскаму чытачу Барадуліна. Выразны прыклад уяўляе і дзейнасць Рамана Лубкіўскага, што перастварaў творы шматлікіх беларускіх класікаў.

Што ж датычыцца маіх улюбёных украінскіх аўтараў, то трэба згадаць цэлую плеяду цікавых творцаў, што прыйшлі ў 1970-я гг. Перш за ўсё, гэта Сяргей Жадан. Кажучы сучаснымі словамі, ён — франтмэн сучаснай украінскай літаратуры (як у прозе, так і ў паэзіі). А зараз яму цесна і ў межах вершаванай прозы, і яго паэтычныя перфомансы перараслі ў сумесныя выступы з музыкамі. Сёння Сяргей Жадан выступае рок-зоркай і гастралюе з музычным гуртом «Сабакі ў космасе». Але ён не перастае пры гэтым быць паэтам высокай пробы.

Сітуацыя вайны ўскладае дадатковую адказнасць на літаратараў перад тымі, для каго яны з'яўляюцца духоўнымі аўтарытэтамі. Так вось С. Жадан — гэта якраз тая асоба, што множыць мову паразумення, кантактаў. У яго паэзіі баліць усім, незалежна ад падзеленасці франтоў і барыкад… Вядома, што і мне рупіла хутчэй перакласці яго творы, каб падзяліцца гэтым з беларусамі.

Не будзем забывацца, што наша сяброўства з украінскай культурай даўняе. Кожнае пакаленне нашай інтэлігенцыі можа пахваліцца творчымі саюзамі з украінскімі калегамі. Узгадаем Лесю Украінку, Цётку. Ды і сучасныя беларускія творцы працягваюць гэтыя традыцыі. Брэсцкі паэт Сяргей Прылуцкі жыве ў Кіеве, кантактуе з вядучымі ўкраінскімі літаратарамі, але працягвае пісаць па-беларуску ў знак парушэння ўсіх магчымых межаў. Як і Мінск з'яўляецца спрыяльнай пляцоўкай для ўкраінскіх аўтараў, дзе іх чакаюць кожны год і ўспрымаюць як нешта абсалютна сваё і роднае.

**Ліда НАЛІЎКА, перакладчыца, літаратурны рэдактар часопіса «Мастацтва»:**

— Я займаюся перадусім сучаснай украінскай прозай. І хацелася б адзначыць унёсак беларускіх выдавецтваў у справу прапаганды ўкраінскай літаратуры. Вельмі хутка чакаецца выхад кнігі «Варашылаўград» Сяргея Жадана (ужо другая кніга С. Жадана па-беларуску) і праз колькі месяцаў — кнігі «Біяграфія выпадковага цуду» Тані Малярчук. Пісьменніцы, якая таксама разбурае межы між народамі і мовамі (першы раз, прыехаўшы ў Беларусь на літаратурны фестываль, яна знайшла пераклад свайго апавядання на беларускую мову і, запінаючыся, прачытала яго, выклікаўшы шквал эмоцый у прысутных). Цікаўны чытач заўсёды знойдзе яе творы ў часопісных і інтэрнэт-публікацыях, беларусам вельмі блізкі яе эмацыйны фон.

Імпульсам для перакладчыцкай дзейнасці для мяне стала, па-першае, увага да кола актуальных пытанняў, што закранаюць сучасныя ўкраінскія празаікі. Бачыцца, што гэтыя праблемы вельмі важныя і для нас… А па-другое, ва ўкраінскай літаратуры, на мой погляд, ёсць, так бы мовіць, «разумная вар'яцінка», чаго часам бракуе літаратуры беларускай. Гэты прыём дапамагае выжываць, дадае аптымізму ў вельмі складаныя часы. Можа, і нам ён дапаможа па-новаму паглядзець на сучаснасць? Спакойнае асэнсаванне і перажыванне праблем — вось чаму трэба вучыцца ў сучасных украінскіх празаікаў.

**Зміцер ЗАХАРЭВІЧ, паэт, перакладчык:**

— Я лічу, што нам у пару пераймаць у руплівых суседзяў і вопыт надзвычай актыўнага фестывальнага руху, які яднае сталыя літаратурныя сілы і прыцягвае маладыя таленты. У лістападзе я апошні раз быў з творчай вандроўкай у Кіеве на своеасаблівых Днях беларускай літаратуры, дзе наведваў прэзентацыі кніг. У мінулым жа красавіку быў запрошаны на Міжнародны моладзевы форум, арганізаваны пры падтрымцы Міністэрства спорту і моладзі, Міністэрства культуры, Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны. Мерапрыемствы праходзілі ў Кіеўскім нацыянальным універсітэце, Кіеўскім дзяржаўным інстытуце культуры. Колькасць удзельнікаў, маладых літаратараў — каля 120 чалавек. Толькі нядаўна ва Украіне скончыўся і літаратурны фестываль «Гранаслоў», які атрымаў вельмі вялікі розгалас і за межамі Украіны.

Маюць асаблівае значэнне творчыя кантакты, якія набываеш падчас падобных мерапрыемстваў. Менавіта такім чынам я пазнаёміўся з выдатнымі ўкраінскімі пісьменнікамі — Уладзімірам Даніленкам, Лесяй Мудрак (якая, дарэчы, з'яўляецца вельмі моцным «рухавіком» літаратурных праектаў Саюза пісьменнікаў), Дзвінкай Тарахтушкай, Юрыем Руфам і іншымі.



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ




*Мікола ЧЭМЕР.*

**РЭЙ.**

***Па матэрыялах публікацый «Настаўніцкай газеты».***

*Мінск: Рэдакцыя газеты «Настаўніцкая газета», 2015.*

Бадай, найперш трэба прадставіць аўтара гэтай кнігі. Мікола Чэмер — рэдактар аддзела культуры «Настаўніцкай газеты», але, паколькі выданне асветнікаў Беларусі ў кіёскі не паступае, з ягонай журналісцкай творчасцю знаёмы толькі тыя, хто гэтую газету выпісвае. М. Чэмер друкуецца ў ёй рэгулярна. Выступае ў самых розных жанрах: інтэрв'ю, эсэ, нарысы, партрэты. На сённяшні дзень у яго сабралася больш як тысяча публікацый. Але не толькі ў «Настаўніцкай газеце». У ёй працуе з 2000 года, а дагэтуль быў рэдактарам аддзела паэзіі, шэф-рэдактарам маладзёжнага часопіса «Першацвет». Яшчэ раней скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, а потым аспірантуру пры ім. Друкаваўся ў тым жа «Першацвеце», а таксама ў іншых беларускіх выданнях. Пераклаў з англійскай мовы некалькі навуковых і навукова-папулярных кніг. Аўтар кнігі паэзіі «Горад». Лаўрэат IX Нацыянальнага конкурсу друкаваных сродкаў масавай інфармацыі «Залатая ліцера» ў намінацыі «Лепшыя матэрыялы культурнай і гісторыка-краязнаўчай тэматыкі», а таксама прэміі Беларускага Саюза журналістаў «Залатое пяро».

Усе гэтыя звесткі, дарэчы, прыведзены на чацвёртай старонцы вокладкі кнігі. А чаму яна называецца менавіта так, а не інакш, сталыя чытачы «Настаўніцкай газеты» здагадваюцца. Іншыя ж даведаюцца пра гэта з уступу «Ад аўтара». Назву выдумляць не было неабходнасці: «Яна нарадзілася сама сабой у 2006 годзе, калі ў «Настаўніцкай газеце» [...] пачаў выходзіць культуралагічны дадатак «Рэй», са старонак якога з асаблівай выразнасцю і з «зайздросным пастаянствам» загаварылі людзі самых розных творчых прафесій — пісьменнікі, мастакі, харэографы, рэжысёры, музыканты [...] Гэтая кніга якраз і ёсць адмысловы рэй, гэта значыць, нейкі калектыўны культурны рух, грамада, бяседа».

Пры складанні кнігі М. Чэмер, безумоўна, не мог не задумацца, як лепш размясціць гэтыя матэрыялы, якога крытэрыя пры падачы іх прытрымлівацца. Алфавітнага? «Але ў такім разе гэта нагадвала б энцыклапедыю». Адпадаў і падыход, зыходзячы з рэгалій субяседніка, у чым прызнаецца так: «[…] мне [...] было аднолькава цікава

шукаць якіясьці новыя сэнсы ў гутарках як з народнымі мастакамі ці артыстамі, так і, напрыклад, са звычайнай школьнай прыбіральшчыцай, якая аддала гэтай сваёй працы паўстагоддзя». Не прымальны быў і жанравы прынцып: «[…] маўляў, спачатку ідуць пісьменнікі, потым — мастакі, яшчэ затым харэографы і г. д.» Па той прычыне, што, «[…] чым мастакі і харэографы горшыя за пісьменнікаў […]» Таму М. Чэмер, у рэшце рэшт, і спыніўся на «старым добрым» храналагічным прынцыпе. Ставячы пад кожным матэрыялам дату яго друкавання ў першакрыніцы. У выніку публікацыі ахапілі перыяд з 2003-га па 2015 год. Увайшлі ў кнігу тыя з іх, якія патрапляюць пад тое, што пазначана так: «Мяне найбольш цікавіла чалавечая душа ці, прынамсі, прырода чалавечай захопленасці той ці іншай справай. Што нярэдка адно і тое ж». Прытрымліваючыся аўтарскага меркавання, і перагорнем старонкі некаторых гутарак М. Чэмера, якія склалі першы раздзел кнігі — «Інтэрв'ю».

Але трэба зрабіць невялічкае ўдакладненне. На гэта ва «Уступе», дарэчы, звяртае ўвагу і сам аўтар. Як высвятляецца, у асобных выпадках ён перарабляў прадмовы да інтэрв'ю. Найперш тады, калі таго, з кім гутарыў, на жаль, сёння ўжо няма ў жывых. Ішоў і іншым шляхам: «прыбіраў некаторыя пытанні і адказы, проста не цікавыя ўжо дню сённяшняму, часам устаўляў у тэкст пэўныя ўдакладненні з пункту гледжання дня сённяшняга […]»

Гэта тычыцца і гутаркі з Янкам Сіпаковым. І ў гэтым выпадку, як і ў іншых, М. Чэмер знайшоў удалы падыход ў падачы матэрыялу. Указваецца галоўны занятак таго, хто дае інтэрв'ю, а пасля гэтага прыводзіцца галоўная думка, што прагучала ў сказаным. У гутарцы з Іванам Данілавічам гэта выглядае так: «Пісьменнік, паэт, эсэіст Янка Сіпакоў: "Ніякая інтэрнэт-павучына не заменіць сапраўдную кнігу..."»

Шмат пра што разважае знакаміты пісьменнік. Свядома пішу ў сённяшнім часе, бо Я. Сіпакоў для мяне, думаецца, як і для іншых прыхільнікаў ягонага яркага таленту, па-ранейшаму жывы. Хацелася б працытаваць менавіта тое, што пастаянна яго надта ж турбавала: «Мяне вельмі засмучае тое, як сёння прыніжана кніга, як яна абражана. У інтэрнэце можна прачытаць скарочаны варыянт любога шэдэўра — усяго некалькі старонак тэксту. Думаю, не толькі адзін я разумею, што ніякая інтэрнэт-павучына не заменіць сапраўдную кнігу. Над кнігаю трэба думаць, а інтэрнэтаўскую прадукцыю можна каўтаць не думаючы. Вось, да прыкладу, у мяне на рабочым стале ляжыць Канфуцый. «Гутаркі і разважанні». Па пяць перакладаў аднаго і таго ж афарызма! І кожны новы пераклад як новы тэкст. «Нічога не бывае многа і нічога не бывае мала. Заўсёды бывае столькі, колькі трэба». Дзякуй кнізе! Яна, не сумняваюся, вечная. Яе, веру, ніхто не знішчыць. І, думаецца, сённяшняе прыніжэнне кнігі часовае, і неўзабаве яна зноў зойме сваё пачэснае месца — будзе, як і раней, берагчы інтэлектуальную спадчыну, створаную чалавецтвам за тысячагоддзі».

Зашмат цытую, але не магу не прывесці і такую важную думку Я. Сіпакова, якая, не сумняваюся, блізкая кожнаму — як таму, хто па-сапраўднаму любіць кнігу, так і пісьменнікам, якія пішуць па прызванні: «Беларуская ж кніга, на маю думку, працуе сёння на будучыню. Каб новыя пакаленні, прачытаўшы, калі прыйдзе час, тое, што ўжо напісана, маглі сказаць: «Дык у нас жа, беларусаў, была такая літаратура!»

Пытанне, якое задам цяпер чытачу, магчыма, падасца некаторым дзіўным. Як быццам, рэцэнзіі пішуцца зусім не для таго, каб пытанні задаваць, а высвятляць, наколькі аўтар кнігі справіўся з пастаўленай перад сабой задачай. Тым не менш: «З чаго пачынаецца інтэрв'ю?» Канечне ж, з удала прадуманых пытанняў, якія потым задаюцца субяседніку. На жаль, гэтых удалых пытанняў у многіх журналістаў часта бракуе. Чаго не скажаш пра М. Чэмера. Ён абавязкова пытаецца пра тое, што можа сказаць пра субяседніка нешта значнае, падасць яго, калі не ў новым ракурсе, дык такім, што з'явіцца для ягонага разумення, спасціжэння

на дзіва важныя ўдакладненні. Тым больш, калі той, хто дае інтэрв'ю, гаворыць пра іншага чалавека — самага дарагога і блізкага сабе: «Сын Якуба Коласа доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч: "Бацька выношваў у сабе сваё адзіноцтва…"»

У кнізе, увогуле, няма прахадных матэрыялаў, але гэтае інтэр'ю, думаецца, найлепшае, бо дазваляе ўбачыць народнага пясняра Беларусі, якім, бадай, яго ведалі нямногія, а то і зусім не ведалі. Дзякуючы, канечне, яго сыну Міхасю Канстанцінавічу. Але, несумненна, дзякуючы і М. Чэмеру, які ўмела скіраваў гаворку ў такое рэчышча, што высвецілася тое, што прымушае лішні раз ўпэўніцца ў тым, наколькі кожны чалавек — гэта загадка. Асабліва, калі ён такая глыба, якім быў Якуб Колас. Прыадкрыццё не толькі гэтай «загадкі», а некалькіх «загадак», таму і адбылося, што М. Чэмер прагутарыў з М. Міцкевічам, пасля таго, як ён на XXII Рэспубліканскім літаратурным свяце «Каласавіны», якое праходзіць штогод у дзень нараджэння народнага песняра ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, выступіў з дакладам «Кроплі і слёзы Якуба Коласа».

Для выбару менавіта такой тэмы з'явілася добрая нагода. Тады, у 2006 годзе «былі спавіты два юбілеі — светлы і журботны. Роўна 100 гадоў назад, у 1906-м, Якуб Колас пачаў сваю творчую дзейнасць і роўна 50 гадоў назад, у 1956-м, народнага песняра не стала…» Сенсацыяй стала тое, што прагучалі так званыя «бальнічныя вершы», тыя, якія былі напісаны, калі Якуб Колас знаходзіўся ў бальніцы. Але ў інтэрв'ю гаворка не толькі пра іх. Размова вядзецца, прынамсі, і пра Коласаў верш «Кукуруза». Пра тое, як ён пісаўся і як некаторыя моманты ўдакладняліся. Дый пра тое, як на схіле свайго жыцця, пясняр адчуваў сябе адзінокім. У нейкай ступені перад чытачом паўстае «новы Колас».

Заінтрыгоўвае і назва інтэр'ю «Мастак Сяргей Волкаў: "У вольнага мастака ніколі не бывае вольнага часу…"» Для тых, хто не ведае, удакладню: у беларускім выяўленчым мастацтве ёсць тры Волкавы: Валянцін, Анатоль і Сяргей — дзед, бацька, унук. Усе таленты з вялікай літары. Валянцін Волкаў, у прыватнасці, аўтар шырока вядомага маштабнага мастацкага палатна «Мінск 3 ліпеня 1944 года». Хоць многія гэта, канечне, ведаюць. Таму і прызнаецца С. Волкаў у тым, як надакучылі яму пытанні, звязаныя з яго мастацкай дынастыяй: «За апошні час ужо двойчы адмаўляўся ад падобных праграм на тэлебачанні, а людзі крыўдзяцца, не разумеюць, што ноччу магу пераказаць усё, што памятаю пра бацьку і дзеда, ад пачатку і да канца».

Ды трэба ўсё ж умець разгаварыць субяседніка. М. Чэмер гэта ўмее. Таму ёсць у інтэрв'ю з С. Волкавым і згадкі пра яго бацьку, дзеда. Ёсць і тое, што дазваляе даведацца, як уваходзіў ён у вялікае мастацтва. Ды перад усім расказваецца, наколькі плённа працуе, ілюструючы кнігі для дзяцей. Не кожны мастак можа з ім паспаборнічаць у гэтым. На сцверджанне М. Чэмера: «Я, здаецца, дзесьці чытаў, што ў вашым творчым даробку — каля трох соцень праілюстраваных кніжак…», С. Волкаў заўважае: «Нават больш ужо! Хаця я ўжо даўно перастаў лічыць, калі пераваліла за 200—250… Ну што іх далей лічыць? Вунь, бачыце, гэта толькі за апошнія гады выйшла». Пасля гэтага паказаў «на цалкам запоўненую кніжкамі вялікую адкрытую тумбу».

Падставай для гаворкі з мастаком стала прэзентацыя кнігі маладой таленавітай пісьменніцы Вольгі Нікольскай «Мы — агенты «КолбаФир»…», што адбылася на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ў лютым 2012 года. Кніга гэтая, як і ўсе, ілюстраваныя С. Волкавым, аформлена цудоўна. Нічога не скажаш — прафесіянал высокага класа. Наконт гэтага цікавае такое яго меркаванне: «Сапраўды, калі трэба, прафесіянал зробіць усё што заўгодна. А ўсе гэтыя размовы, маўляў, ах-ах, вось я такі ўнікальны, я гэтага не бачу, а бачу вось так, пасвойму, як ніхто не бачыць, мяне нехта там у цемечка буськнуў і цяпер маёй

рукой водзіць… Ведаеце, я такіх размоў не прызнаю. Бо лічу, што ўсё гэта прафанацыя, разлічаная на людзей, якія наогул нічога не разумеюць у мастацтве».

Толькі тры інтэрв'ю, а іх у кнізе звыш пяцідзесяці. Дый субяседнікі М. Чэмера такія, якія так шмат цікавага могуць расказаць. І яны расказваюць. Самае важнае, дык тое, што размова адбываецца на роўных. Не проста задаюцца тыя ці іншыя пытанні. М. Чэмер менавіта вядзе гаворку — шчырую, зацікаўленую, грунтоўную. Якое інтэрв'ю ні возьмеш, шмат карыснага атрымліваеш для сябе. У якасці прыкладу назаву яшчэ некаторыя з іх: «Пісьменнік Анатоль Казлоў: "Адзінота — магчымасць для чалавека думаць…"», «Пісьменнік Уладзімір Саламаха: "Я не ведаю, як ЗАЎСЁДЫ быць добрым і мужным…"», «Пісьменік Мікалай Чаргінец: "Былых пісьменнікаў не бывае…"», «Народны мастак Беларусі скульптар Іван Міско: "Для мяне праца і ёсць адпачынак. Я пачынаю сумаваць, калі мае рукі не ў гліне…"», «Кампазітар, намеснік старшыні Саюза кампазітараў Рэспублікі Беларусь, народны артыст Беларусі Эдуард Зарыцкі: "Трэба слухаць музыку, блізкую твайму сэрцу. І лепш не слухаць ніякую, чым дрэнную…"» Дарэчы, у першы раздзел кнігі «Рэй» увайшлі гутаркі не толькі з вядомымі людзьмі культуры, але і з маладымі-перспектыўнымі, чые імёны, думаецца, стануць сапраўднымі адкрыццямі для чытачоў: мастачкай Алесяй Скарабагатай, баяністам-віртуозам Уладзіславам Плігаўкам, драматургам, артыстам, рэжысёрам Дзмітрыем Багаслаўскім, фэшн-дызайнерам Кацярынай Цікота і інш.

Гэтаксама шмат дае душы і другі раздзел кнігі — «Эсэ, нарысы, партрэты». Ён таксама сведчыць на карысць таго, што М. Чэмер — журналіст, які ўсё прамаўляе з першых вуснаў. Не трэба ў падобным сцверджанні шукаць нейкую нестыкоўку. Маўляў, а як жа можа пісаць той, хто ўзяўся за эсэ, нарыс ці партрэт? Ды як сказаць… Ёсць тыя, хто, няхай і за цікавую тэму бярэцца, ці цікавы чалавечы лёс раскрывае, не ідзе далей агульных, няхай і правільных разваг. Ёсць жа — іх не так і шмат, а да іх адносіцца і М. Чэмер, хто ўсё, пра што ён расказвае, прапускае праз уласнае сэрца. Піша так, нібы сам пражывае лёс таго ці іншага чалавека.

Кнігі, падобныя гэтай, пры ўсіх іншых сваіх якасцях, валодаюць адной асабліва важнай вартасцю. Яны дапамагаюць яшчэ больш палюбіць нашу родную Беларусь. Лішні раз сведчаць аб тым, наколькі багатая яна на таленты. Дый адачасова пераконваюць, што нават сярод, здавалася б, людзей простых ёсць нямала такіх, якія заслугоўваюць увагі. Дый павагі таксама. Бо што ні чалавек — гэта лёс. Часам няпросты, нярэдка пакручасты, але такі, які ў іншым чалавеку ніколі не паўторыцца. Ухвальна і тое, што «Рэй» напісаны таленавіта і сумленна, а гэта ўжо выяўляе пазіцыю аўтара кнігі — чалавека, журналіста, які піша так, каб не сорамна было за тое, пра што ён расказвае, і іншым, але не ў апошнюю чаргу і самому сабе.






*Анатолий СТЕЦКЕВИЧ-ЧЕБОГАНОВ.*
**Я — СЫН ВАШ. Летопись белорусской шляхты.**
**Из истории деревни Засмужье Любанского района. Художник Павел Мартинович. Тычины гербов «Тучинский» и «Тржаска». Рудзинские герба «Прус III».**
*Минск: Белорусская Православная Церковь, 2014.*

**Анатоль ЯРОМІЧ**

# ПАД ВЯЗАМ ВЕЧНАСЦІ

Для многіх гэтая кніга — працяг знаёмства з унікальным чалавекам і адначасова з далейшым вынікам ягонай падзвіжніцкай, адраджэнцкай, дый такой карыснай грамадству працы. Але, бадай, знойдуцца і тыя, хто гэта зробіць і ўпершыню. Таму коратка скажу, хто ж ён, Анатоль Статкевіч-Чабаганаў. Родам з вёскі Засмужжа Любанскага раёна. Сёлета адзначыць сваё 70-годдзе. Працаваў на шмат якіх адказных пасадах: на абаронным прадпрыемстве «Каскад», галоўным інжынерам навуковага вытворчага аб'яднання «Ніва», начальнікам Глаўка Дзяржаграпрама БССР, старшынёй праўлення Беларускай аграпрамысловай біржы. Цяпер з'яўляецца старшынёй назіральнага савета групы кампаній «Стецкевич».

Сярод тых, каго ўмоўна можна назваць «новымі беларусамі», ён істотна розніцца ад тых, хто сёння актыўна выявіў свае арганізатарскія і ў самым шырокім сэнсе слова прадпрымальніцкія задаткі. Тым розніцца ён, што маёнтак Засмужжа да рэвалюцыі 1917 года належаў ягонаму дзеду Міхаілу Сацкевічу-Статкевічу і ягоным родзічам. Гэта і падштурхнула Анатоля Васільевіча да даследчыцкіх пошукаў, звязаных з гісторыяй свайго роду. У далейшым яны пашырыліся, прывялі да жадання асэнсаваць увогуле гісторыю беларускай шляхты.

Не адзін дзясятак гадоў аддаў карпатлівай працы, вывучаючы даўнія матэрыялы па гісторыі шляхецкіх родаў у архівах не толькі Беларусі, а і Літвы, Польшчы, Украіны. Па крупінках збіраў неабходныя звесткі, каб, сістэматызаваўшы іх, у рэшце рэшт напісаць тое, што і склала змест яго кнігі «Я — сын Ваш. Летапіс беларускай шляхты. Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша». Карафа-Корбуты герба «Корчак», якая выйшла ў 2011 годзе. Яшчэ калі яна рыхтавалася да друку, аўтар яе паспяхова прадаўжаў сваю даследчыцка-пошукавую работу. Таму следам за першай кнігай з'явіліся наступныя. Гэтая ж, пра якую пойдзе гаворка, — пятая.

Найперш яна — свайго роду дакументальна-мастацкі летапіс роднай вёскі А. Статкевіча-Чабаганава. Праз уласны радавод, дый праз лёсы землякоў ён перагортвае старонкі гісторыі, прыўзнімае напластаванні яе, неабходнае для таго, каб заглыбіцца ў прадмет гаворкі. Дзякуючы гэтаму, перад вачыма чытача паўстае свайго роду галерэя засмужанцаў, раскрываюцца іхнія няпростыя лёсы. Сапраўды, далёка не ва ўсіх землякоў Анатоля Васільевіча, як і ў ягоных родзічаў, яны такія, якім можна пазайздросціць. Але відавочна іншае: як жыццё ні ламала многіх з гэтых людзей, яны так і не сталі на калені, не скарыліся.

Пра адных з іх — згадкі ў кнізе больш кароткія, пра другіх — разгорнутыя, з многімі падрабязнасцямі. Не толькі, што пад рукой у Статкевіча-Чабаганава аказалася шмат фактычнага матэрыялу. Дае аб сабе знаць ягоны пісьменніцкі талент, уменне дэталёва выпісваць асобныя падзеі, сітуацыі, а праз іх, зноў жа, паказваць як пралamленне чалавека ў часе, яго прагу выжывання на суровых і драматычных паўстанках жыцця. У неабходных выпадках, калі ёсць на тое мажлівасць, аўтар кнігі спасылаецца і на выказванні тых, пра каго расказвае. Звяртаецца і да сведчанняў пра іх іншых людзей. Калі ж ёсць занатаваныя ўспаміны, дык, тым больш, — гэта для яго сапраўдная ўдача.

Прынамсі, у 2000 годзе выйшла кніга Барыса Шапіры «Жизнь и люди». Барыс Міронавіч — з тых, хоць пішы пра яго аповесць. Але і ягоная аўтабіяграфічная споведзь — гэтае тое, што прамоўлена шчыра і аб'ектыўна. І пра самога сябе, і пра час, у якім яму давялося жыць і працаваць. Б. Шапіра дзесяць гадоў узначальваў на Любаншчыне калгас імя Суворава, да якога далучылі гаспадарку «Асвета», заснаваную ў вёсках Засмужжа і Обчын яшчэ ў снежні 1929 года. Перш як стаць старшынёй калгаса, Барыс Міронавіч працаваў настаўнікам гісторыі ў вёсцы Рэчань. Быў намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце ў Любанскім спецдоме, дырэктарам адной з сярэдніх школ. Усюды працаваў так, што не сорамна было людзям у вочы глядзець. Будучы «сувораўцам», таксама пацвердзіў, што ён — чалавек абавязку, а калі за нешта бярэцца, дык поспех не прымусіць сябе чакаць.

Аповед А. Статкевіча-Чабаганава пра яго роднае Засмужжа цікавы і паказам вясковага побыту. Нездарма кажуць, што дзіцячая памяць вельмі ўчэпістая. Шмат чаго са свайго маленства запомніў да драбніц. І тое, з якой радасцю засмужанцы спяшаліся на работу, і як апраналіся, і якія песні спявалі, і як яны на сваіх надзелах працавалі. Калі ж нештам сам не запомніў, дык спасылаецца на сведчанні старажылаў вёскі. Гэта, несумненна, таксама важна. Яно лішні раз пераконвае, наколькі аўтар уважлівы да факта, як дбае ён пра тое, каб ні ў чым не схібіць. Адданасць дакументальнай аснове — адна з вызначальных якасцей кнігі. Дакладнасць і толькі дакладнасць.

Невыпадкова ў кнізе вялікая ўвага ўдзяляецца мастаку Паўлу Марціновічу. Больш за тое, яму прысвечаны спецыяльны падраздзел. Гэты творца — яркі прадстаўнік так званага інсітнага, ці, як яшчэ кажуць, наіўнага мастацтва. У аднолькавай ступені гэта тычыцца ацэнак як мастацтвазнаўцаў, так і прыхільнікаў творчасці П. Марціновіча. Аднак, калі гаворка заходзіць пра інсітнае мастацтва, звычайна згадваюцца адны і тыя ж аўтары: Я. Драздовіч, М. Засінец, І. Супрунчук, І. Тарасюк і некаторыя іншыя. І ці не ў першую чаргу — А. Кіш. Тым самым, па розных прычынах, звужаецца кола тых, хто, пішучы свае творы і сапраўды шмат у чым наіўна, разам з тым дасягаў немалога поспеху.

Балазе, прабел гэты паступова ліквідуецца. Прынамсі, у 2008 годзе на навукова-метадычнай канферэнцыі «Аўтэнтычны фальклор: праблемы вывучэння, захавання, пераймання» ўпершыню было названа імя Паўла Марціновіча. Праз чатыры гады Установа «Рэдакцыя часопіса «Роднае слова» выпусціла кнігу-альбом «Маляваныя сны Паўла Марціновіча», укладальнік якой і стаў А. Статкевіч-Чабаганаў.

З маленства Анатоль Васільевіч бачыў у многіх хатах прыгожыя маляваныя дываны, выкананыя гэтым майстрам. Былі яны і ў ягонай бабулі. Да ўсяго, у пачатковай школе вучыўся з дачкой П. Марціновіча Евай, бываў у іхняй хаце. У канцы XIX ст. лёс звёў дзеда П. Марціновіча і прадзеда Анатоля Васільевіча. Калі дваранін Іван Сацкевіч-Статкевіч набываў маёнтак Засмужжа, пэўную суму грошай уносіў і Аўраам Марціновіч.

Прыводзяцца і іншыя цікавыя звесткі з жыцця П. Марціновіча, які жыў у 1911—1981 гадах. Не абыдзена, канешне, увагай і яго творчасць. Дзякуючы рэпрадукцыям на поўны голас загаварылі і самі творы П. Марціновіча: дываны, макаткі, карціны. Найперш — дываны, якія ў Засмужжы называлі «каўёрамі». У нечым сюжэты іх напоўнены тымі ж «дзівоснымі снамі», што характэрна і для творчасці А. Кіш. Гэта не тая рэальнасць, якую бачыў П. Марціновіч, а нейкі мройны свет, у якім ён знаходзіўся і сам. Інакш як растлумачыць тое, што чамусьці пастаянна маляваў белы палац, які стаяў на выспе; адлюстроўваў берагі невядомай рэчкі, а яшчэ вяршыні гор, якія асвятляла заходзячае сонца. Несумненна, у гэтым давала аб сабе знаць паэтычнасць душы майстра, што прагнула прыгажосці, гармоніі.

Гэткім жаданнем жылі і заказчыкі П. Марціновіча, а імі былі жанчыны і дзяўчаты з Засмужжа і навакольных населеных пунктаў. Маляванымі дыванамі яны ўпрыгожвалі сцены сваіх хат. Дарэчы, на адным са здымкаў, змешчаных у кнізе-альбоме, ля такога дывана, які вісеў у ягонай бабулі, стаіць і А. Статкевіч-Чабаганаў, на той час юны піянер.

Дакументальна-мастацкі летапіс Засмужжа — важны яшчэ і тым, што А. Статкевіч-Чабаганаў не проста расказвае пра адну з беларускіх вёсак, няхай і асабліва дарагую яму. Засмужжа належыць да тых населеных пунктаў, якія, на жаль, не вытрымалі выпрабавання часам. Яны трапілі ў разрад вёсак, якіх у савецкі час пачалі ўспрымаць «неперспектыўнымі», а таму да іх было і адпаведнае стаўленне. Да чаго гэта прывяло, добра відаць на лёсе не аднаго Засмужжа. Нічога ўжо не перайначыш. Калі сёння што-небудзь можна зрабіць, дык памяць пра іх (так, ужо варта крыстацца паняццем памяць) трэба матэрылізаваць, а, працэй кажучы, — занатаваць. Не толькі для сучаснікаў, а і для наступнікаў. Для наступнікаў — нават у большай ступені. Што і зрабіў Анатоль Васільевіч. Дый іншым прыклад паказаў, як і што рабіць у далейшым: «хотелось бы, чтобы она (гэтая кніга. — **А. Я.**) стала началом серии книг об исчезающих белорусских деревнях. Ведь в каждой из них свои обычаи, праздники, легенды… Это часть отечественной культуры. И пока еще живы те люди, которые многое помнят, нужно успеть их расспросить, чтобы запечатлеть сведения о прошлом для потомков». Істотна і такое сцвярджэнне: «…человек на то и человек, чтобы не дать уничтожить своё, родное. Сохранить, чтобы помнили. Верю, что и моя родная деревенька Засмужье не пропадет во времени, а навсегда останется в памяти благодарных потомков».

Пятай кнігай з серыі «Я — сын Ваш» А. Статкевіч-Чабаганаў працягвае і даследаванне гісторыі старадаўніх беларускіх родаў. Адзін з раздзелаў — «Тычыны гербаў «Тучынскі» і «Тржаска». У ім Анатоль Васільевіч заглыбляецца ў вытокі гэтага роду. Уласныя даследаванні дапаўняе сведчаннямі з кнігі Міхася Тычыны «Большие и Малые Тычины: легенды і реальность». Называе і вядомых прадстаўнікоў гэтага роду. А гэта і той жа М. Тычына, і Алесь Адамовіч.

Гэткім жа шляхам А. Статкевіч-Чабаганаў ідзе і ў раздзеле «Рудзінскія герба «Прус III». Але, у адрозненне ад папярэдняга, у ім куды больш вынікаў уласнай працы ў архівах. Не абышлося, праўда, і без спасылкі на краязнаўца А. Крукоўскага. Ды, зразумела, істотна не тое, наколькі ўласныя даследаванні спалучаюцца з росшукамі іншых даследчыкаў. На першым плане, канешне, сама выніковасць матэрыялу. У гэтым сэнсе ў першым і другім выпадках у шырокі ўжытак уводзіцца вельмі

шмат дагэтуль невядомага матэрыялу. Несумненна, што прыведзеныя звесткі акажуць карысць і іншым даследчыкам. Тым, каго гэтая тэма зацікавіць і ім захочацца прадоўжыць яе вывучэнне.

Безумоўна, у кнізе вялікую нагрузку нясе ілюстрацыйны матэрыял. Ёсць свайго роду фотагалерэя жыхароў вёскі Засмужжа. Чорна-белыя здымкі, «узрост» некаторых з іх не адзін дзясятак гадоў, выглядаюць кантрастна поруч з каляровымі рэпрадукцыямі твораў П. Марціновіча. Тым самым як бы падкрэсліваецца, што само жыццё часта зусім не тая прыгажосць, якой кожны з нас жыве ў марах. Але да гэтай прыгажосці ўсё ж неабходна імкнуцца. Няхай сабе і ў марах, як гэта рабіў П. Марціновіч.

Істотна і яшчэ вось што: сярод багатага ілюстрацыйнага матэрыялу вялікае месца займаюць фотаздымкі. Ёсць сярод іх і зробленыя бліжэй да нашых дзён, аднак і нямала такіх, якія таксама ўжо сталі гісторыяй. На многіх з іх аб'ектыў фотаапарата занатаваў вобразы блізкіх Анатолю Васільевічу людзей. Што адразу кідаецца ў вочы, дык тое, што воблікі гэтыя вельмі адухоўленыя. Перад табой нібы жывыя людзі. Канечне, нельга адмаўляць майстэрства тых, хто рабіў гэтыя здымкі ў той час, калі такая важная справа яшчэ не была пастаўлена на паток, як сёння.

Як сцвярджае А. Статкевіч-Чабаганаў, сімвалам Засмужжа на працягу многіх дзесяцігоддзяў быў стары, у некалькі абхватаў вяз, пасаджаны яшчэ ў XIX стагоддзі. На ім заўсёды гняздзіліся буслы. Але у час калектывізацыі гэтае дрэва аказалася на калгасным палетку, выклікала нязручнасць пры працы на ім. Аднак да пары да часу вясковае начальства ўсё ж трывала ягоную прысутнасць. Цярпенню прыйшоў канец у 1960-х гадах мінулага стагоддзя. Тады, як вядома, небывалы вясковы росквіт звязвалі з каралевай палёў. Але вяз перашкаджаў сеяць кукурузу квадратна-гнездавым спосабам. Гэта і прадвызначыла яго лёс. Зачапілі яго трыма магутнымі трактарамі С-100, іх яшчэ «сталінцамі» называлі. Ды нічога не атрымалася з гэтага і — як стаяў вяз, так і застаўся стаяць. Не выстаяў ён ужо ў 1990-я. Калі нейкі нягоднік развёў пад магутным дрэвам касцёр.

Няма вяза, няма сімвала Засмужжа. Хоць чаму няма? Прачытаў я чарговую кнігу А. Статкевіча-Чабаганава і падумаў: сімвал Засмужжа ўсё-такі ёсць. Анатоль Васільевіч дзякуючы сваёй рупнасці, падзвіжніцкай рабоце пасадзіў сваё дрэва. Здагадваецеся якое? Канешне, дрэва гэтае — яго кніга пра родную вёску і яе людзей. Калі ж прыгадаць і іншыя кнігі А. Статкевіча-Чабаганава з серыі «Я — сын Ваш», дык цэлы гай атрымліваецца. Гай-помнік і роду свайму, і беларускай шляхце, а калі глядзець шырэй, дык і ўсяму нашаму народу.



Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ІСПЫТ НА ТРЫВАЛАСЦЬ




*Сяргей РУБЛЕЎСКІ*

**МАМІН ШЭПТ ПАД АБРАЗАМІ**

*Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2016*

У адным з апошніх інтэрв'ю Венедзікт Ерафееў на пытанне, што служыць для яго мерай сапраўднай літаратуры адказаў у сваім духу, арыгінальна, правакацыйна. Значнасць літаратараў ён вызначыў для сябе па тым, колькі «кропель» пляснуў бы кожнаму. І вось што выйшла: «Астаф'еву — ані грама, Бялову — ані грамулі, Распуціну — і тое не адразу, ну, так-сяк, грамаў сто, Васілю Быкаву — поўную шклянку, нават з коптурам, Алесю Адамовічу — нават звыш коптура, ну і гэтак далей». Вядома, з такімі высновамі можна спрачацца і зусім не прымаць іх. Але адпрэчваць меркаванне аб даволі моцнай школе дакументальнай, жыццёва праўдзівай прозы ў сучаснай беларускай літаратуры было б бязглузда.

Годным прадстаўніком менавіта такой, выверанай лёсам, літаратуры паўстае цікавы паэт, празаік, публіцыст з Віцебшчыны Сяргей Рублеўскі. Жанр сваёй новай кнігі «Мамін шэпт пад абразамі» ён вызначае няйначай, як «кніга-паклон». І ясна чаму: сваім менавіта ўзнёслым, а не перабольшана-гіпербалічным, захапленнем святым вобразам маці, простай сялянскай жанчыны, ён у пэўнай ступені набліжаецца да Рыгора Барадуліна з яго «Евангеллем ад мамы». І нічога, што ў адным выпадку маем справу са зборнікам празаічным, а ў другім — з паэтычным: галоўнае — агульны эмацыйны пасыл, генетычна захаваная павага да чалавека, што даў жыццё і пусціў у шырокі свет.

Кампазіцыя кнігі даволі арыгінальная і абумоўленая хутчэй перыядамі чалавечага жыцця, чым літаратурнымі законамі. Выразна падзеленая на часткі, кніга адлюстроўвае галоўныя порычасіны: калі з бацькамі знітоўвае агульны быт, калі кантактуем праз лісты-званкі, прыезды ў госці і, нарэшце, калі застаюцца адны ўспаміны. Такім шляхам і вядуць тры раздзелы: «Яшчэ сашчэплены нашы рукі», «З лістоў ад мамы», «Матуліны каралі».

Першы раздзел раскрывае перад намі быт беларускай вёскі другой пало-

вы мінулага стагоддзя. З яе нястачамі, цяжкасцямі, але і ціхім шчасцем, радасцю. Бо як не радавацца вясковай малечы, калі прыехала сапраўднае «кіно», з вясёлым механікам, з яркай напісанай тушшу афішай! Ці калі так заманліва патыхаюць на святочным стале клёцкі з мясным начыннем — «душой»… Трэба ж і дробязямі задавальняцца, і вечарам кожнага працоўнага дня бачыць паэтычны ружовы захад сонца! Лірыка ў паўсядзённым — так можна коратка назваць характар творчага мыслення Сяргея Рублеўскага. Нарысы «Неба хаты», «Вочы хаты» сведчаць аб глыбокім міфа-паэтычным успрыманні паўсядзённага жытла, вясковай хаты. Праз драўляную столь добра пасылаць малітвы Богу, а яшчэ «хата дыхае праз верхнія дошкі — і ўсім вольна, сняцца прыемныя сны, усё адно як пад зорным небам». Разумеючы важкасць захавання народных слоў-залацінак, часцяком Сяргей Рублеўскі разважае над беларускімі архаізмамі, дыялектызмамі. Такія звыклыя вясковаму вуху «кука», «пранік», «шаршатка», «падзорнік», на жаль, становяцца незразумелымі і нязвыклымі. Відавочна, што захаванне бэзэквівалентнай лексікі як адзінага з галоўных нацыяўтваральных складнікаў становіцца надзвычай злабадзённай праблемай.

Нікога, пэўна, не пакінуць абыякавымі лісты маці пісьменніка, аздобленыя малюнкамі, што тая рабіла для любых унучак. Намагаючыся выказвацца «па-вучонаму, па-гарадскому», жанчына пісала лісты сыну па-руску, хоць «змалку была выкупаная ў жыццядайнай плыні спеўнаслоўнай ушацкай гаворкі, з напоўненай ёю, як збанок пад залевай, душою». Але тым мова лістоў і мілая, што ў ёй нязменна «праглядаюць» словы адвечныя і родныя, пэўным чынам выбіваючыся з крыху каструбаватых «умоўна рускіх» канструкцый.

Апошні раздзел кнігі, «Матуліны каралі», і сапраўды — як адмысловае ўпрыгажэнне, бусіны, нанізаныя на нітку часу. Цікавыя філасофскія мініяцюры — гэта роздум сына над каштоўнасцямі еднасці, спагады, любові. Роздум у сталым узросце, калі ўзважваеш свае ранейшыя словы і ўчынкі: «Рана ці позна, а пакрыўдзіш маці — словам або ўчынкам. І распалавініш сваё жыццё: на палову, калі ты быў годны яе святасці, і на другую, калі ты варты яе жалю і ўсёдаравальнасці».

Як найлепшае ў свеце шчасце адчуваем мы цеплыню сашчэпленых з мамаю рук і жадаем у любым узросце чуць смешнае і простае «а мамок ты мой». Кніга Сяргея Рублеўскага, шчырая і кранальная, вяртае ў дзяцінства, вучыць жыццёвай мудрасці і ашчадна зберагае каштоўныя ўспаміны.




*Анатоль Зэкаў*

**БЕЛАЕ СОНЦА БЯРОЗ**

*Мн.: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2016*

Анатоль Зэкаў — пісьменнік шматаблічны. Аўтар сур'ёзных кніг прозы і паэзіі, зборнікаў сатыры і гумару, кніжак для дзяцей. Аднак у любым жанры праяўляецца яго досціп, жывы розум, цікаўнасць да навакольнага свету і свету людзей. Як і лаканічнасць, і пэў-

ная афарыстычнасць стылю. Нядаўна перад чытачамі Анатоль Зэкаў паўстаў як аўтар «лясной кнігі», зборніка пейзажнай і грамадзянскай лірыкі, дзе прызнаецца ў любові роднаму краю і перасцерагае яго народ ад экалагічнай катастрофы. Як павязаны лёс пісьменніка з лесам? Вычарпальны адказ дае цікавая інфармацыя аб аўтары на вокладцы выдання: «На ўскраіне горада Буда-Кашалёва, за некалькі кіламетраў ад вёскі Патапаўка, у якой 20 студзеня 1955 года нарадзіўся Анатоль Зэкаў, знаходзіўся лясны тэхнікум. Магчыма, і будучы пісьменнік, як многія яго аднавяскоўцы, абраў бы прафесію лесавода (тым больш, што ў лясніцтве працавала бацькава сястра — цётка Прося, Ефрасіння Фёдараўна Купцова, якая часам брала з сабой пляменніка на лесапасадкі). Аднак у 1956 годзе тэхнікум перавялі ў горад Полацк. І ўсё ж у біяграфіі Анатоля Зэкава ёсць «лясная старонка»: з 1997 па 2002 год ён узначальваў рэдакцыю «Беларускай лясной газеты». Да таго ж Анатоль Зэкаў — аўтар тэксту гімна лесаводаў Беларусі.

Назва новага зборніка паэта — «Белае сонца бяроз». Як бачым, дасціпны аўтар адсылае чытача да назвы вядомага савецкага фільма, пераасэнсоўваючы яе згодна з беларускімі прыроднымі рэаліямі. Адкрывае кнігу памянуты ўжо гімн. Нядзіўна, што менавіта верш Анатоля Зэкава быў зацверджаны ў гэтай якасці аўтарытэтным журы. Ёсць у ім і абаяльная прастата, і арыгінальнасць, і метафарычнасць: «Не толькі росцім мы лясы — // расцем і самі з імі разам», «А нам без лесу ўжо не жыць, // бо ў нас урос ён каранямі». Неаднаразова ў вершах кнігі Анатоль Зэкаў звяртае ўвагу і на падабенства гучання слоў «лес» і «лёс», робячы выснову, што гэта не выпадковасць: «Пад пошум сосенаў і бяроз // мы тчэм жыцця свайго аснову, // і слова «лес» і слова «лёс» // сугучны ўсё ж невыпадкова», «Мой лес — ты мой адвечны лёс», «У слове «лес» — і ўдых, і выдых, // у слове «лес» — зямны наш лёс». Прыслухоўваецца паэт і да гучання назваў беларускіх вёсачак. Разважае над назвамі Мядзведзева, Гаўлі, Муравей, Галы… Сваёй роднай Патапаўцы прысвяціў ён кранальны дыпціх, у якім прызнаецца:

…душой адпачываючы,
ацэньваю свой лёс,
калі што ў ім і маючы,
то кут сярод бяроз.

Ёсць у кнізе і лірычныя мініяцюры, у якіх уздымаюцца сур’ёзныя пытанні: забруджванне рэк і лясоў, вынішчэнне прыродных комплексаў. Адчуванне прыроды як суцэльнага жывога арганізма, якому баліць з-за чалавечай неахайнасці — галоўны інфармацыйны пасыл кнігі Анатоля Зэкава. «…Застылі дрэвы на ўскрайку лесу, пазіраюць у бок суседняга поля, дзе палае пакінутае неўзараным з восені ржышча, а то і салома пасля ўбранага ўраджаю, — і аж сціскаюцца ад жаху», — малюе бязрадасную карціну аўтар у мініяцюры «Шугае полымем трава».

Важны раздзел кнігі прысвечаны і Чарнобыльскай катастрофе. Радзіма Анатоля Зэкава, Гомельшчына, прыняла вялікую дозу радыяцыйнай атруты. Не магло не адгукнуцца на гэта чуйнае сэрца паэта… Вершам «26 красавіка 1986 года», «Элегія спаленай вёскі», «Даруйце, землякі…», «Сыну», «Чорны воран», «У Бабчыне», «Там», «Буда-кашалёўскія дубы», паэме «Аварыя сумлення» быццам бы цесна ў межах часта для гэтага прыдатнай лірыкі грамадзянскай. Настолькі яны інтымныя і выпакутаваныя асабіста… Кранальна гучыць просьба прабачэння перад землякамі за тое, што не раздзяляе з імі зараз горкі хлеб:

Вы мне даруйце, землякі,
што я не зараз з вамі ў лесе
між дрэў,
зажураных такіх,
дзе кожны грыб праменіць цэзій.

Зборнік «Белае сонца бяроз» можна ахарактарызаваць рознымі словамі: захоплены, рамантычны, задумлівы, трагічны, кранальны. Знайдзіце ж сваё гучанне ў паэзіі Анатоля Зэкава, пабудзьце ў суладдзі з яго, бясспрэчна, прыгожым унутраным светам.




*Мікола ЛОБАН*

**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**

*Мн.: Беларуская навука, 2016*

У часопіса «Полымя» — даўняя добрая традыцыя праліваць святло на невядомыя старонкі жыцця выдатных пісьменнікаў і дзеячаў культуры. У публікацыях паўстаюць мемуары, дзённікі, ліставанне, незнаёмыя шырокаму чытачу творы. За апошнія гады пабачылі свет на часопісных старонках невядомыя лісты Максіма Танка і невядомыя вершы Эдзі Агняцвет, успаміны Таццяны Шамякінай пра Андрэя Макаёнка, «ваенныя» ўспаміны Льва Коласава, распавед Галіны Скрыган аб дзённіках бацькі, дзённікі Вісарыёна Гарбука, «Успаміны з вайсковага жыцця» Язэпа Драздовіча і шмат іншых каштоўных матэрыялаў.

Вялікую ролю ў падрыхтоўцы такіх знаходак адыгрывае і асабістая ініцыятыва, зацікаўленасць даследчыка. Менавіта такім апантаным майстрам сваёй справы з’яўляецца пісьменнік, краязнаўца, бард Аляксандр Вашчанка. Дзякуючы яго клопату былі падрыхтаваны выданні «Беларусь у абрадах і казках» П. Шпілеўскага, «Адам Богданович «Я всю жизнь стремился к свету». Не абмінуў у старанных росшуках Аляксандр Вашчанка і творчую спадчыну таленавітага празаіка Міколы Лобана. Расказваючы аб сваёй працы ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, даследчык адзначае: «Яны [запісы] расчытваліся даволі цяжка, асабліва ўласныя імёны і геаграфічныя назвы. У прадмове да вопісу, якую ў 1990 годзе склала загадчыца аддзела ЦДАМЛ В. Данекіна, напісана: «Адзін з дзённікаў расшыфраваў сам Мікалай Паўлавіч і перадрукаваў яго (1941), астатнія патрабуюць вялікай працы, таму што многія тэксты дрэнна чытаюцца, а месцамі ёсць пагроза іх знікнення (1941—1965)». Аднак гэтая акалічнасць, відаць, толькі дадавала азарту і радасці ад важнай працы. І вось, нарэшце, маем публікацыі ўспамінаў «Паэма майго маленства» і дзённікаў Міколы Лобана за 1944, 1946, 1948—1952, 1953—1965 гг. у «Полымі» (да гэтага невялікі фрагмент друкаваўся толькі ў 1983 г. у часопісе «Беларусь»). А зусім нядаўна плён працы Аляксандра Вашчанкі ўвасобіўся і ў аднатомніку выбраных твораў М. Лобана, які змяшчае раман «На парозе будучыні», успаміны, дзённікі, лісты.

Кажучы словамі Яна Скрыгана, у кожнага пісьменніка павінны быць свой «болевы парог», жыццёвы вопыт, неабходны для фарміравання каардынат мастацкага мыслення. На лёс Міколы Лобана выпала шмат нялёгкіх выпрабаванняў: падзеі калектывізацыі, рэвалюцыі, Першай сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў, баявыя раненні, страта любай жонкі і маленькіх дзяцей… Здзіўляешся, як гэты мужны чалавек здолеў выстаяць, працягваць навуковую і літаратурную дзейнасць, зноў пабудаваць сямейнае шчасце. Адказ можна знайсці ў дзённіках Мікалая Паўлавіча — сведчаннях яго веры ў высокія ідэалы, у пазітыўнае развіццё беларускага грамадства: «…я пакляўся ўсё сваё жыццё аддаць для беларускага народа, для яго культуры. Пачаў працаваць над выхаваннем свайго характару

і звычак, якія б дапамагалі дасягненню задуманай мары». І, як бачна з рэгулярных запісаў, праца вялася несупынная: на кожны дзень складаўся падрабязны план па чытанні, вывучэнні замежных моў, напісанні навуковых прац і г.д. Вялікае значэнне надавалася і фізічнай актыўнасці. «Здаровы і спартыўны лад жыцця, строгі рэжым дня, лячэнне ў санаторыях, рэгулярнае наведванне лазні былі прычынай таго, што пісьменнік у свой час перамог туберкулёз і пасля цяжкіх раненняў здолеў пражыць доўгае і насычанае жыццё», — піша Аляксандр Вашчанка. Яскрава выяўляецца дзейсная, апантаная натура Міколы Лобана і ў яго лістах. Цікава прасачыць, як стрыманы, лаканічны стыль напаўдзелавых лістоў змяняецца шчырай радасцю ад уласных творчых адкрыццяў і перамог сваіх калег. Напрыклад, у лісце да Генадзя Кісялёва ад 27 сакавіка 1968 г. ён эмацыйна захапляецца: «Толькі што прачытаў Вашу выдатную кнігу «Загадка беларускай «Энеіды». Я не сумняваюся, што Вы зрабілі правільны вывад пра аўтарства В. П. Равінскага. Доказы вельмі грунтоўныя і ўсебаковыя. Мне думалася нават, што Вы свой доказ пабудуеце ў выглядзе каардынатаў. Настолькі ў Вас багаты матэрыял і даследавана з матэматычнай дакладнасцю. Якую Вы каштоўную справу зрабілі для беларускай культуры!» Разважае Мікалай Паўлавіч у лістах і пра ўласную манеру пісьма, разуменне сапраўднага мастацтва. Прыводзіць цікавыя сведчанні аб сустрэчах са сваякамі тых людзей, прозвішчы якіх ён выкарыстоўваў у раманах, аб успрыняцці яго творчасці на малой радзіме, у вёсцы Чаплічы. А характарызуючы свае сімпатыі ў літаратуры, адзначае: «Я прыхільнік займальнасці, сюжэтнасці. Можа, гэта і не модна. Па-цяперашняму трэба пісаць так: герой едзе ў аўтобусе, едзе і едзе. А едучы капошыцца ў сваіх успамінах, прыгадвае нейкія вельмі важныя жыццёвыя сітуацыі. Прыехаў герой на месца, куды трэба, — і раман скончаны. Нам страшэнна патрэбны нектар, які прываблівай бы чытача. Ды і наогул я лічу, што мастацтва павінна быць цікавым».

Аздабляюць кнігу і абаяльныя фотаздымкі розных гадоў. Мікола Лобан падчас працы, сходаў, адпачынку, з сям’ёй… Запамінальны валявы профіль, мэтанакіраваны пагляд — такім застаецца ў памяці выдатны пісьменнік і мовазнаўца, чалавек каласальнай вытрымкі і энергіі. Абсалютна праўдзіва будзе сказана, што чытанне яго празаічнай і публіцыстычнай спадчыны — своеасаблівае выхаванне ўласнага характару, штуршок для праходжання жыццёвага іспыту на трываласць.



